

«Едзем мы, сябры, у далёкія краі»...—спяваюць беларускія дзяўчаты, якія парашылі перасяліцца ў раёны асваення цалінных зямель. Селі ў вагон і адразу пасябравалі: (злева направа) Зіна Марозава, Фаня Ціхановіч, Нэля Новікава і Соня Гурыновіч (на верхняй паліцы).
Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

6 (76)

Чэрвень.

1959.

Год выдання VII.

У НУМАРЫ:



Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

*На вокладцы: «Турысты ў паходзе». Мал. Г. Паплаўскага.*

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы $70 \times 108^1/_{16}$. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 9.200 экз. Цана 4 руб.
АТ 02819. Здадзена ў набор 1.V.59 г. Падпісана да друку 1.VI.59 г. Зак. 288.

Газетна-часопіснае выдавецтва, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

**Н. КРАСНОВА,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

# СВЯТА ЮНАЦТВА

Сёлета юнакі і дзяўчаты нашай Радзімы другі раз адзначаюць сваё свята — Дзень савецкай моладзі. Устанаўленне гэтага свята з'явілася яшчэ адным яркім сведчаннем клопатаў камуністычнай партыі і савецкага ўрада аб маладым пакаленні.

Мэта свята — далейшае згуртаванне моладзі вакол роднай партыі, мабілізацыя юнакоў і дзяўчат на актыўны ўдзел у вырашэнні задач камуністычнага будаўніцтва, выхаванне моладзі ў духу савецкага патрыятызма і дружбы народаў. Таму ўвага камсамольскіх арганізацый у перыяд падрыхтоўкі да свята і была звернута на правядзенне мерапрыемстваў, якія паказваюць кіруючую ролю КПСС у жыцці савецкага грамадства, на разгортванне шырокай ініцыятывы і самадзейнасці, умацаванне сувязі з моладдзю.

У гэтым годзе Дзень савецкай моладзі праходзіць ва ўмовах, калі камсамольцы, моладзь нашай рэспублікі разам з усім савецкім народам ажыццяўляюць рашэнні гістарычнага XXI з'езда КПСС. Камсамольцы яшчэ цясней згуртоўваюцца вакол роднай камуністычнай партыі, прыцягваюць моладзь да яшчэ больш актыўнага ўдзелу ў здзяйсненні велічных планаў сямігодкі.

Характэрнай асаблівасцю нашых дзён з'яўляецца тое, што камсамольскія арганізацыі вырашаюць зусім канкрэтныя, практычныя задачы будаўніцтва камуністычнага грамадства. Для кожнага камсамольца, для кожнага юнака і дзяўчыны Дзень савецкай моладзі з'яўляецца днём урачыстага рапарту аб поспехах у працы, вучобе і грамадска-карыснай дзейнасці.

Сёлета — у першы год велічнай сямігодкі — гэтыя камсамольскія рапарты асабліва радасныя і плённыя. Моладзь на славу папрацавала, рыхтуючыся да свайго свята. Усюды праведзены нядзельнікі, дэкадныя вахты, эстафеты працы. Камсамольцы і моладзь знайшлі новыя скарбы: за час нядаўняга месячніка сабрана каля двух з палавай тысячы тон металалому, сэканомлена шмат сыравіны, матэрыялаў, электраэнергіі, у вытворчасць укаранёны тысячы каштоўных прапаноў і вынаходніцтваў. У камсамольскую скарбонку моладзь рэспублікі ўнесла звыш 450 мільёнаў рублёў, атрыманых за кошт эканоміі.

Самаадданa працуюць камсамольцы, юнакі і дзяўчаты на збудаванні гігантаў сямігодкі — на камсамольскіх будоўлях у Старобіне, Полацку, Бярозе.

Масавы працоўны энтузіязм праяўляе і сельская моладзь. Звыш

20 тысяч камсамольска-маладзёжных звенняў актыўна ўключыліся ў паход за высокія ўраджаі кукурузы. Звяно Любы Бельскай з Брагіншчыны, Вольгі Шыла і Насці Вацкель з Іванаўскага раёна, якія атрымалі ў мінулым годзе рэкордныя ўраджаі кукурузы, сёлета дабіваюцца яшчэ большых перамог. Прыклады старанная працы паказваюць камсамольцы і моладзь на жывёлагадоўчых фермах. Абмяркоўваючы грандыёзныя планы сямігодкі, яны ўзялі павышаныя абавязацельствы, каб краіна ўжо ў бліжэйшыя гады здолела дагнаць Злучаныя Штаты Амерыкі па вытворчасці жывёлагадоўчых прадуктаў на душу насельніцтва.

Расце і шырыцца новы маладзёжны рух — спаборніцтва брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы. Узнікшы зусім нядаўна, у дні падрыхтоўкі да XXI з'езда партыі, гэты рух налічвае ўжо дзесяткі тысяч энтузіястаў.

Камсамольцы і моладзь прынялі гарачы ўдзел у добраўпарадкаванні і будаўніцтве клубаў, дамоў і палацаў культуры. Іх маладымі, дужымі рукамі за невялікі час збудавана 503 калгасныя клубы, пасаджана 416 новых паркаў і сквераў, каля двух мільёнаў дрэўцаў. З дапамогай камсамола створана каля паўтара тысяч новых калектываў мастацкай самадзейнасці.

Моладзь праявіла шмат выдумкі, творчай ініцыятывы. Пастаўскія камсамольцы, напрыклад, разам з медыкамі і работнікамі культурна-асветных устаноў ажыццявілі цікавыя мерапрыемствы па ўпрыгожванню свайго быту, свайго адпачынку. Яны дамагаюцца, каб вуліцы іх роднага горада і вёсак былі замошчаны, каб перад вокнамі цвілі кветкі, дэкаратыўныя дрэўцы, каб дамы ззялі чысцінёй і святлом.

З усіх канцоў рэспублікі ідуць весткі, што ініцыятыва пастаўскіх таварышаў ужо знайшла сваіх паслядоўнікаў. Бюро ЦК ЛКСМБ адобрыла іх пачын і рэкамендавала ўсім камсамольскім арганізацыям пераняць яго.

Цікава прайшлі гутаркі, сустрэчы, вечары і зборы, прысвечаныя слаўным рэвалюцыйным традыцыям рабочага класа, партыі і камсамола. Моладзь запрашала на гэтыя вечары ветэранаў рэвалюцыі, працы, старых бальшавікоў і першых камсамольцаў, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Яны нагадалі незабыўныя дні ў слаўнай гісторыі нашай Радзімы, расказалі аб подзвігах сваіх мужных таварышаў, якія аддалі жыццё за шчасце народа.

Памяці загінуўшых змагароў за Радзіму ў дзень свята прысвячаюцца факельныя шэсці. Камсамольцы пабываюць ля магілак і помнікаў, ускладуць вянкі і кветкі, падрыхтуюць падарункі бацькам, братам і сёстрам тых, каго з намі няма, хто па-геройску загінуў у змаганні за наша шчасце.

Заслугоўвае ўхвалы дзейнасць брэсцкіх і пінскіх камсамольцаў па прапагандзе рашэнняў XXI з'езда партыі. У Брэсце, напрыклад, вялікай папулярнасцю карыстаюцца вечары: «Ад з'езда да з'езда», «Жыць, працаваць і вучыцца па-камуністычнаму», «Горад Брэст у сямігодцы». У Пінску ўдала праведзен вечар на тэму «Падарожжа ў год 1965-ы». З моладдзю тут часта сустракаюцца партыйныя, савецкія і камсамольскія работнікі, члены брыгад і ўдарнікі камуністычнай працы.

Цяпер камсамольскія арганізацыі пачалі больш займацца эстэтычным выхаваннем моладзі. Па іх ініцыятыве ў Мінску, Гомелі, Віцебску і другіх гарадах створаны народныя ўніверсітэты культуры. Тут маладыя людзі навучаюцца слухаць і разумець музыку, жывапіс, прыгожа танцаваць, правільна спяваць, ім дапамагаюць выхаваць добры густ, прыстойныя звычкі. Перад моладдзю выступаюць сталыя літаратары, музыказнаўцы, кампазітары.

Усё часцей гулянні праводзяцца на свежым паветры. Добрай традыцыяй сталі ў нашай рэспубліцы святы вясны, ураджаю, свята песні на возеры Нарач, сустрэчы на маляўнічых палянках з моладдзю братніх рэспублік: у віцяблян — з РСФСР, у гамяльчан — з Украінай, у моладзі Гродзенскай і Маладзечанскай абласцей — з Літоўскай і Латвійскай ССР.



За час падрыхтоўкі да святкавання Дня савецкай моладзі ў камсамольскіх арганізацыях пачалі арганізоўваць больш кіналекторыяў, наладжваць тэматычныя вечары і лекцыі аб камуністычнай партыі, аб тым, што дала савецкая ўлада моладзі, аб бяспраўным становішчы юнакоў і дзяўчат у капіталістычных краінах. У многіх абласцях праведзены мота- і велапрабегі, фестывалі кінафільмаў аб жыцці маладых грамадзян нашай краіны. У шэрагу месц адбыліся выстаўкі працоўных дасягненняў, выстаўкі прац умельцаў, маладых мастакоў, ва ўсе раёны накіраваны агітбрыгады. Цікава прайшлі ў гарадах і раёнах рэспублікі Дзень сустрэчы пакаленняў, Дзень памяці герояў, Дзень спорту, Дзень дружбы, Свята працы, Свята дзяўчат. У гэтыя дні праводзіліся маладзёжныя вяселлі, уручэнне памятных сцягоў камсамольскіх арганізацый лепшым піянерскім дружынам, падарункаў дзіцячым дамам.

Незабыўнай, урачыста-радаснай будзе апошняя нядзеля чэрвеня, у якую адзначаецца свята нашага шчаслівага юнацтва. У гэты дзень на Дняпры, Нёмане і Сожы адбудзецца парад суднаў — прыгожае відовішча; на воднай прасторы памераюцца сіламі плыўцы, аматары воднага спорту, пройдуць спаборніцтвы лодачнікаў, масавыя заплывы...

Многія камсамольскія арганізацыі ва ўрачыстай абстаноўцы закладуць першы камень новага клуба, школы ці стадыёна, пасадзяць першае дрэўца маладога парку. Няхай гэта будзе пачаткам новай, цудоўнай традыцыі — кожны раз у Дзень моладзі закладваць першы камень новых камсамольскіх будоўляў. Няхай моладзь нашых гарадоў, раёнаў, пасёлкаў і вёсак спаборнічае за гэтае права.

... І вось ён надышоў, Дзень моладзі. Незвычайнае ажыўленне на сталічным вакзале. Славутыя артысты, музыканты, спевакі, паэты, нібы згаварыўшыся, рушылі ў дарогу. Куды яны спяшаюцца? У гарады і вёскі, дзе прайшло іх маленства і маладосць, у клубы, адкуль яны пачалі дарогу ў мастацтва. Яны спяшаюцца на свята да сваіх землякоў, на сустрэчы з моладдзю.

Чаму сёння так людна ў магазінах? Гэта камсамольцы парашылі зацвердзіць у сваім жыцці новую звычку — падносіць адзін другому на свята падарункі.

Ідзе баль «Серп і молат»... Не здзіўляйцеся такой назве. У аснову яго пакладзена ідэя непарушнага саюза рабочых і сялян, моцнай дружбы сельскай і рабочай моладзі. У пакоі, дзе праходзіць баль, велічна ўзвышаецца вядомая мухінская скульптура — рабочы і сялянка з узнятымі над галовамі сярпом і молатам. У адрозненне ад звычайных, традыцыйных баляў, дзе выбіраецца толькі адна гаспадыня, на гэтым балі гаспадарам двое — лепшая маладая калгасніца і перадавы малады рабочы, альбо наадварот. Тут шмат цікавага: і жартоўныя «прамыслова-сельскагаспадарчыя віктарыны» і маляўнічыя касцюмы — «ураджай», «колас», «цыбуліна», «кукуруза»... Усяго не пералічыш.

Святкуе шчаслівае юнацтва. Дзень савецкай моладзі — радаснае свята маладосці, агляд нашых квітнеючых сіл, новая, яркая дэманстрацыя любві і адданасці юнакоў і дзяўчат роднай камуністычнай партыі і савецкаму ўраду, вялікай справе камунізма.

# ТВАЁ ПАЎНАЛЕЦЦЕ

Якія цудоўныя людзі нашы юнакі і дзяўчаты, як натхнёна яны працуюць, як настойліва здзяйсняюць свае мары! Мы прапануем, дарагі чытач, зусім кароткія расказы аб тваіх бадай што аднагодках, звычайных савецкіх юнаках і дзяўчатах. Розныя гэта людзі — па сваёй знешнасці і, асабліва, па характарах. У кожнага з іх ёсць нешта сваё, непаўторнае ў звычках і паводзінах, ва ўсім іхнім абліччы. І разам з тым усе яны аб'яднаны нечым агульным.

Што ж іх гэтак яднае, робіць нават падобнымі? Відаць, не толькі маладосць. Так, усе яны зусім яшчэ маладыя, ніводзін з іх не можа пахваліцца доўгай біяграфіяй, багатым жыццёвым вопытам. Але яны выбралі сабе шлях, па якім пойдуць у жыццё, у іх ёсць пэўная ясная мэта, якой яны дамагаюцца, — пабудова камуністычнага грамадства. Такіх у нас сотні, тысячы, і пра кожнага з іх можна было б доўга і прыгожа расказваць, не ўтойваючы анічога — ні тых сумненняў, якія часам ахопліваюць іх перад рашучым крокам у жыццё, ні тых цяжкасцей, якія сустракаюцца на шляху ў кожнага з іх

## Прасторы клічуць

Калі б Галіна Зароўкіна вяла асабісты дзённік, у ім напэўна б з'явіўся такі запіс: «Мілая мая, добрая мама! Чаму яна хмурыць бровы, калі мы садзімся поруч з бацькам і пачынаем гаварыць пра тое, што я, атрымаўшы атэстат сталасці, павінна пайсці працаваць на завод? Яна, вядома, усім сэрцам хоча, каб я стала добрым чалавекам, але ж баіцца, што на заводзе я стану не такой, якой хацела б яна мяне бачыць. Дарэмна хвалюешся, мама!..»

Такога запісу Галя не рабіла, затое не адзін ужо раз былі сур'ёзныя размовы дома. Галін бацька Сямён Рыгоравіч, пенсіянер, былы рабочы, ухваліў намер дачкі.

— Правільна, Галя. Спачатку папрацуеш, агледзішся як след, а потым пойдзеш на інжынера вучыцца...

А маці гэта не зусім прыйшлося па душы. Шкадуе яна доччыны пяшчотныя рукі, якія, лічы, не трымалі яшчэ нічога, акрамя школьнай ручкі.

— Хіба нельга адразу пайсці ў інстытут?... — даводзіць Ганна Яфімаўна. — Хіба ты горшая за сваіх старэйшых сясцёр? Адна — інжынер, другая ў інстытуце, і ніводная ж не была на заводзе...

— Дарэмна засмучаешся, маці, — гаворыць звычайна ў такіх выпадках Сямён Рыгоравіч. — Не ўсё яшчэ ты сваім старэчым розумам пераварыла... Не той час, што быў раней, не такія і інжынеры цяпер патрэбны.

— Ды ўжо ж, вас абоіх не перагаворыш, — адказвае маці. — Рабіце, як трэба...





— Так, я сапраўды цвёрда вырашыла пайсці працаваць на завод,— заяўляе Галіна Зароўкіна, выпускніца 49-й школы г. Мінска.

Фота А. Лукашова.

А вось і сама Галя. Адшукалі мы яе ў дзесятым «В» класе 49-й Мінскай школы. Яна крыху сумелася, калі даведалася, што наведаліся да яе карэспандэнты, але хутка гэта прайшло, — падбадзёрылі сябры.

— Так, я сапраўды цвёрда вырашыла пайсці працаваць на завод, — расказвае дзяўчына, скіроўваючы кудысьці ўдалячынь быстры позірк сваіх блакітных вачэй. — Ды з нашага класа бадай што ўсе пойдуць працаваць...

Думаецца, не патрэбна якіх-небудзь надзвычай важкіх доказаў, каб давесці, што зусім правільна робіць Галя. Нават і тое, што яе рашэннем засмучана маці, не *бяда*! Кожная ж маці, выпраўляючы дачку ці сына ў вялікую дарогу, трывожыцца за іх лёс, зычыць ім шчасця...

Хоць Галя не з такіх, каго трэба і да дваццаці пяці гадоў вадзіць за руку, хоць атэстат сталасці, які яна вось-вось атрымае, гэта, вядома, яшчэ не сталасць яе, бо не заўсёды разам з атэстатам прыходзіць да чалавека і паўналецце. Яно прыдзе праз гады, разам з самастойнаю працаю. Але маці яе можа быць спакойнай: дачка — на правільным шляху.

## Неспакойнае сэрца

Гэта было леташняй вясной. Паводкаю заліло нізкія мясціны на палескіх палях. Ні машынаю, ні канём не праедзеш на той палетак, дзе трэба сеяць кукурузу звяну Любы Патрубейка. Ляжаць там яшчэ з самай зімы бурты торфу і гною, надышоў час кампосты рабіць, поле рыхтаваць, а тут — на табе! — пайшлі халодныя з мокрым снегам дажджы...

— І ўсё-такі мы пойдзем на поле! — сказала Люба сваім дзяўчатам. — Хутка прыгрэе сонейка, тады не паспеем.

— Холаду то мы не баімося, — адказалі нясмела дзяўчаты, — апранемся цяплей. Але як вось прабрацца на поле?..

— Нічога, дабярэмся! — рашуча адказала Люба. — Нацянькі не пройдзем, у абход рушым.

І вось чародка дзяўчат, трымаючыся адна за адну, збочыла з дарогі, што вядзе з калгаса «17 верасня» прама ў Давыд-Гарадок, і рушыла ў поле. Ішлі доўга. Не вытрымліваў лёд, правальваліся па пояс у ледзяную ваду, але ўсё ж дайшлі.

Праз які тыдзень звяно ўправілася зрабіць кампосты, а там і задымілася, хутка высыхаючы пад яркімі праменнямі сонца, зямля. Пасеялі дзяўчаты кукурузу — пяць гектараў — хоць і не ў той тэрмін, які вызначалі для сябе загадзя, але ж не спазніліся. Паспелі і лён, і бульбу пасеяць. Пазней таксама рупліва і старанна дагледалі тыя пасевы. І ўлетку хто толькі не прыходзіў на ўчасткі Любінага звяна, каб падзівіцца, як вышугала кукуруза, які густы ды



Звяно па вырошчванню кукурузы, якім кіруе дэпутат Вярхоўнага Савета БССР камсамолка Люба Патрубейка (першая злева).

Фота Л. Эйдзіна.

высокі лянок, як дружна расце бульба!..

Былі, вядома, і яшчэ цяжкія мінуты ў Любы і ў яе сябровак. Але яны і тады не адступалі, не кідаліся ў роспач. Усе глядзелі на звеннявую, а той быццам ніякага і гора няма. Заспявае і — за работу, услед за ёй дзяўчаты, стараюцца, каб не адстаць. Вось і дамаглося звяно таго, што аб ім і цяпер ідзе слава па ўсёй рэспубліцы. Па 1 503 цэнтнеры зялёнай масы кукурузы з кожнага гектара сабралі дзяўчаты, ды па 11,3 цэнтнера ільноваланка, ды па 130 цэнтнераў бульбы... Было чым пахваліцца дзяўчатам залатой восенню. Вынікі сваёй працы падводзілі ў калгасным садзе, дрэвы якога гнуліся пад цяжарам спелых антонавак.

Звеннявой — і слава, і гонар. Ды які яшчэ гонар! У дзень сёлетніх выбараў у Вярхоўны Савет БССР землякі аднадушна прагаласавалі за яе кандыдатуру. Стала Люба дэпутаткай, а ёй жа ўсяго дваццаць другі год пайшоў!..

Здаецца, што ўсё ўжо ёсць у камсамолкі для поўнага шчасця, але не, не супакойваецца яна. Завітайце ў калгас, на тыя палеткі, дзе сёлета Люба з дзяўчатамі кукурузу ды лён і бульбу пасеялі, і вы скажаце, што тут будуць яшчэ лепшыя, чым летась, ураджаі...

Вось якія цуды робяць маладыя рукі, калі ў душы чалавека — нязгасная прага да працы дзеля карысці людзей, калі яго сэрца хоча дамагчыся сёння большага, чым учора, а заўтра яшчэ большага, чым сёння...

### Ён паедзе на цаліну...

Дзе той Калінінскі раён, дзе той саўгас «Краснасельскі»? На Акмолійншчыне, у Казахстане? Так, іменна там. Як далёка да гэтых мясцін адсюль! Не адну тысячу кіламетраў адгрукочуць колы



вагонаў, пакуль праваднік скажа: «Прыехалі». А вось студэнт Сцяпан Тарасевіч чакае не дачакаецца таго дня, калі зможа сесці ў вагон. Яго, выпускніка Беларускага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, накіроўваюць на Брэстчыну, у той жа Антопальскі раён, адкуль ён і паступаў у інстытут. А ён, усміхаючыся, гаворыць членам камісіі:

— Не, таварышы, я паеду ў Казахстан. Пабываў летась на ўборцы ўраджаю і ўбачыў, як патрэбны там механізатары. Не магу не паехаць. У нас тут лягчэй абысціся, а там яны ой як патрэбны!

— Цвёрда вырашылі? — спытаў хтосьці з членаў камісіі. — Не будзеце назад прасіцца?

— Каб не пабываў там, дык можа б і сумняваўся яшчэ — ехаць ці не, — зусім сур'ёзна адказаў на гэта запытанне Сцяпан. — А цяпер упэўнен, што не памыляюся.

— Што ж, у добры час, — сказалі члены камісіі...

Хто ж такі Сцяпан Тарасевіч? Які-небудзь асаблівы чалавек? Не, самы звычайны юнак. Вырас ён на Антопальшчыне, там і вучыўся ў школе, улетку працаваў у калгасе, дапамагаў маці. Затым паступіў у інстытут, а цяпер завяршае ўжо дыпломную работу. Вось і ўвесь яго жыццёвы шлях.

Вядома, можна было б шмат напісаць і аб ім самім, аб яго характары і звычках, і аб тых умовах, у якіх ён выхаваўся. Але думаецца, усё гэта не патрэбна. Сцяпан — камсамолец, у яго грудзях б'ецца адно з тых няўрымслівых і неспакойных сэрцаў, пра якія спявае песні наша моладзь. Ён смела і рашуча робіць яшчэ адзін крок у сваё паўналецце, не шукаючы прахалоды, цяньку, у якім можна было б схавацца ад гарачыні жыцця. І не знойдзецца ніводнага сумленнага чалавека, які б не пажадаў яму ўсялякай удачы і шчаслівага шляху...

Так вось сталася са студэнтам, які аднойчы з'ездзіў на цаліну і ўбачыў, дзе найбольш патрэбны яго веды і сілы.



— Не, таварышы, я паеду ў Казахстан, — заявіў выпускнік інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі Сцяпан Тарасевіч.

Фота А. Лукашова.

### Каб харашэлі нашы сёлы

Начальнік Жлобінскага «Міжкалгасбуда» Антон Шпілеўскі сказаў неяк:

— Напісалі б вы, таварышы карэспандэнты, пра нашых сельскіх будаўнікоў... Яны ж таксама нечага варты. Дарма што мы будуем без вежавых кранаў, але ж і ў нас ёсць магутная тэхніка, і людзі такія, што не ўступяць знакамітым майстрам з гарадскіх трэстаў...

І вось сёлета, ранняй вясной, давялося наведацца на калгасныя будоўлі. Разам з начальнікам гэтай новай будаўнічай арганізацыі паехалі мы ў калгас «Светлы шлях». Тут і сустрэліся з маладым брыгадзірам цесляроў —

Сяргеем Ткачовым. Гэта таксама яшчэ зусім малады хлопец, які толькі чатыры гады таму назад скончыў дзесяцігодку. Але калі пачаў ён расказваць аб справах сваёй брыгады, то можна было думаць, што ў яго за плячыма — багаты вопыт, што даўно мінуў ужо той час, кал ён выбіраў дарогу ў жыццё. Гэтулькі выдатных пабудоў для калгасаў зрабілі цесляры з брыгады Сяргея! Юнак называў калгасы, у якіх на новабудоўлях давялося прыкласці свае рукі: «Светлы шлях», імя Сталіна, «Рассвет», імя Кірава... І ў кожным змайстравалі сельскія будаўнікі не адну простую хату, а кароўнікі, аўчарнікі, зернесховішчы, клубы...



Любіць сваю прафесію цесляра Сяргей Ткачоў з Жлобінскага «Міжкалгасбуда».
Фота А. Лукашова.

— Цяпер вось будуем калгасу «XX партз'езд» круглы аўчарнік на 500 галоў, — тлумачыў Сяргей, паказваючы ў бок рыштаванняў, на якіх завіхаліся цесляры.

Аказваецца, і тут, на параўнаўча невялікай будоўлі, кіпіць напружаная барацьба за сямігодку. Брыгада Сяргея Ткачова змагаецца за званне калектыву камуністычнай працы.

— Па прадукцыйнасці працы мы свае абавязацельства перакрываем, — разважаў брыгадзір. — Штодня брыгада выконвае амаль па дзве нормы. Крыху цяжэй будзе наладзіць вучобу хлопцаў. Мы ж на месцы не сядзім цэлы год. Як толькі закончым работу, дык і паехалі далей. Але думаем, што і тут знойдзем выхад.

Проста нельга было не захапляцца тым, як разважаў Сяргей, з якім гонарам ён гаварыў аб сваёй прафесіі.

— Надышоў ужо час, калі і ў вёсцы трэба будаваць не горш, чым у добрым горадзе... От, хутка выклічам які-небудзь трэст на спаборніцтва, пабачым тады, у каго будуць прыгажэйшыя дамы і ўсякія гаспадарчыя пабудовы. Заводы ў нас цагельныя цяпер ёсць свае, міжкалгасныя, ды і з шлакабетону будуем. Тэхнікі таксама з часам прыбавіцца. Цяпер ужо і на вёсцы цясляр ці муляр не проста неадукаваны саматужнік з сякераю ці з кельмаю ў руках, а сапраўдны майстар сваёй справы! Адукаваныя людзі ў нас працуюць, кемлівыя, пра любую навіну даведаюцца і адразу ў сябе хочуць скарыстаць.

Любіць сваю прафесію Сяргей Ткачоў, горача любіць. І таму, напэўна, так заўзята стараецца яго брыгада, каб з кожным днём прыгажэлі нашы сёлы.

### «Таварыш мой харошы»...

Рослы, плячысты юнак пераступіў парог канторы, паспешліва зняў шапку і, прывітаўшыся, у



нерашучасці спыніўся ля самага ўваходу.

— Праходзь, Леанід, сядай, — звярнуўся да яго начальнік цэха Сямён Іосіфавіч Белаглазаў.

— Ды я пастаю, — адказаў хлопец, пераступаючы з нагі на нагу.

— Вось гэта і ёсць наш Леанід Прохараў, знаёмцеся, — дадаў на хаду Сямён Іосіфавіч і сам кудысьці пайшоў.

Па ўсім было відаць, што Леанід хваляваўся. Ён нервова камечыў у сваіх вузлаватых руках кепку і разгублена азіраўся, быццам кагосьці не хапае поруч з ім. Потым ён усё-такі сеў. Разгаварыліся.

— Два гады ўсяго, як працую тут, — немнагаслоўна адказваў ён. — Скончыў у Мінску тэхнічнае вучылішча, і накіравалі сюды. Не адзін я тут працую, разам з Аляксандрам Лагацкім прыехаў...

Шчыра кажучы, крыху дзіўнымі здаліся яго апошнія словы.

— А хто такі Аляксандр Лагацкі?

Леанід спачатку недаўменна пацікнуў плячыма, быццам гаворачы тым самым: «Як гэта вы не ведаеце і пытаецеся — хто такі Аляксандр Лагацкі?» Потым усміхнуўся, зразумеў, у чым справа, і растлумачыў:

— Гэта сябар мой... Ну, як вам лепей сказаць? Таварыш мой харошы...

Вось, аказваецца, у чым справа... Падумалася: мабыць, таму і няёмка так адчувае сябе Леанід, што няма побач з ім лепшага сябра. Гэта было сапраўды так. Пра што б ні заходзіла размова, Леанід спачатку думаў, узважваў кожнае слова, каб патрапіць адказаць за дваіх.

— Рашылі мы з Аляксандрам вучыцца далей, — гаварыў ён, — рыхтуемся ў інстытут паступаць. Трэба ж вучыцца, закон такі ў нашай брыгадзе, далі слова працаваць і жыць па-камуністычнаму...

Ён расказаў і аб сваім брыгадзіры — Сямёне Гаравым, і аб майстры — Карлу Качароўскім, і аб іншых сябрах і старэйшых таварышах, з якімі поруч працуе.

Якія ўсе гэта добрыя людзі! — можна так падагуліць увесь расказ Леаніда. — Якім паўнакроўным жыццём сёння жыве невялікі калектыў Мазырскага завода меліярацыйных машын, з якім натхнённем змагаюцца тут за тое, каб хутчэй даць народнай гаспадарцы новую тэхніку для асушэння балот...

Словам, знайшоў сваё месца ў жыцці Леанід, бо шукаў яго не дзе-небудзь у ціхім месцейку ці на людным перакрыжаванні дарог, а ў працы. Няхай сабе і не сталічны горад, у якім жыве Леанід, няхай сабе і не гігант-завод, дзе ён пра-



Токары Мазырскага завода меліярацыйных машын Леанід Прохараў і Аляксандр Лагацкі.
Фота І. Ламановіча.

цуе, але ён любіць свой горад, свой завод, дзе таксама бурліць вялікае жыццё, дзе людзі імкнуцца ствараць, прыносіць як мага больш карысці грамадству...

Калі б пачаць цяпер расказваць біяграфію Леаніда, то не спатрэбілася б многа слоў. Яму толькі-толькі «пераваліла» за дваццаць гадоў. У Крычаве скончыў дзесяцігодку, затым мінскае тэхнічнае вучылішча № 9, цяпер працуе токарам. Дзе і калі ён у сваім жыцці пераступіў той рубеж, за якім пачынаецца сталасць, сказаць цяжка. Але ён ужо — гаспадар свайго лёсу. Сэрцам сваім камсамолец адчуў, што яго месца на пярэднім краі — у брыгадзе, якая змагаецца за званне калектыву камуністычнай працы. Ёсць мэта ў жыцці, ёсць сіла ў маладых руках, ёсць запал у юначым сэрцы — і Леанід упэўнен, што дамажацца свайго...

Мы прайшлі па механічным цэху, у якім працуе Леанід, ён паказаў свой новы такарны станок, неяк асабліва пяшчотна называючы яго «універсальны». На самым відным месцы ў цэху вісіць дошка паказчыкаў работы, на якой майстар штодня адзначае выпрацоўку кожнага рабочага сваёй змены. Супроць прозвішча Прохарава стаяла лічба 180 працэнтаў нормы!

— Сёння ў яго крыху менш, чым учора, — сказаў начальнік цэха Сямён Іосіфавіч, — звычайна тут выпісваецца лічба 200.

— А ў Аляксандра і сёння 200 працэнтаў, — не ўстрымаўся Леанід, паказваючы на дошку. — Перагнаў-такі сёння...

Выйшлі з цэха. А насустрач Аляксандр, сябар.

— Ты чаму гэта затрымліваешся? Вячэра прастыла.

— Нічога, Сашко, паспеем, і ў кіно не спознімся.

Хлопцы накіраваліся ў інтэрнат. Яны ішлі — абодва роўныя па росту, абодва ў аднолькавых спяцоўках, крочылі цвёрдаю ўпэўненаю паходкай. Сямён Іосіфавіч пагля-дзеў услед, сказаў:

— Сябры! От гэта дружба!

Леанід занадта спакойны і сціплы, Аляксандр, наадварот, гарачлівы, за словам у кішэню не палезе, а адзін без аднаго кроку не ступяць, разам працуюць і жывуць, разам, мусіць, і да дзяўчат ходзяць...

— Гэта ж вельмі добра, што вы такія шчырыя сябры!.. — хацелася ўсклікнуць наўздагон ім абодвум. — Калі побач плячо таварыша, то ты адчуваеш сябе ўдвая дужэйшым і крочыш па жыццёвай дарозе смела і ўпэўнена...

**Мікола МАРУШКЕВІЧ.**




**Васіль Жаўняровіч, Сяргей Міхейцаў, Паша Хорава і Яўген Бурэц перад выхадам цеплахода ў чарговы рэйс.**

## З МАРСКІМ ПРЫВІТАННЕМ!

Кожны дзень калі надыходзіць восьмая гадзіна раніцы, Яўген Бурэц пераключае свой радыёпрыёмнік на Мінск. І ў якіх бы водах ні знаходзіўся ў гэты момант цеплаход, радыёрубка напаўняецца гукамі гімна Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Ці то плюскочуць за бортам халодныя воды Атлантыкі, ці павольна праплываюць у ілюмінатары зялёныя вершаліны афрыканскіх пальмаў, а ў радыёрубцы адчуваецца подых роднай зямлі.

Ідзе перадача апошніх паведамленняў. Інфармацыя з Віцебскай вобласці. Сэрца ў Яўгена пачынае біцца мацней. Можа дыктар скажа што-небудзь і пра Дрысенскі раён? Там, у вёсцы Жоўніна, жыве маці марака-радыста — Аляксандра Іванаўна Пыж. Вось ужо чатыры гады плавае яе Жэня «па марах, па акіянах», несучы службу.

Цеплаход «Рэфрыжаратар № 9» абслугоўвае рыбалавецкія флатылії, якія здабываюць селядцы, сардзіны, марскога акуня... Калі Аляксандра Іванаўна Пыж прыходзіць у сельпо, яна абавязкова пытае ў прадаўца:

— Ці няма ісландскіх селядцоў?

І абавязкова іх купляе. Можа гэтая смачная, тлустая рыба здабыта ля берагоў Ісландыі менавіта «жэнінымі» цеплаходамі!

Разам з Яўгенам плавае Васіль Жаўняровіч. Яшчэ нядаўна, калі існаваў Ільянскі раён Маладзечанскай вобласці, Васіль працаваў інструктарам райкома камсамола. Цяпер ён — суднавы электрык. Часта збіраюцца яны разам і пачынаюць размаўляць на роднай мове. Аднойчы ў часе такой гутаркі, калі цеплаход мякка гойдалі зеленавата-шэрыя, ледзь успененыя хвалі Балтыкі, на плечы маракоў-беларусаў ляглі нейчыя асцярожныя рукі.

— Даруйце, калі ласка, што перашкодзіў... Але мне здалося, нібы вы размаўлялі па-беларуску.

Паміж Яўгенам і Васілём стаяў русавалосы хлопец, шырока ўсміхаўся і запытальна глядзеў на іх гарэзлівымі вачыма.

— Не здалося, гэта сапраўды так, — адказаў яму Жаўняровіч. — А ты хто? Можа зямляк?

— Ну! — усклікнуў ён. — З Гомельшчыны. Цераховўскага раёна. Як жа я раней з вамі не разгаварыўся?

Так аб'явіўся на судне яшчэ адзін беларус — матрос першага класа Сяргей Міхейцаў.

А перад адным з чарговых рэйсаў у склад каманды была залічана буфетчыца Паша Хорава. Радзіма яе — вёска Сцепановічы ў Мехаўскім раёне на Віцебшчыне.

Неяк, убачыўшы іх разам усіх чацвярых, тагачасны памочнік капітана пажартаваў:

— Зборная Беларусі!

— А як жа?! — першым адгукнуўся Жаўняровіч. — Паўнамоцныя прадстаўнікі дзяржавы, хоць і не марской, але і не зусім сухаземнай!

Так за нашымі землякамі і замацавалася гэтая жартаўлівая мянушка.

«Зборная Беларусі» звярнулася да рэдакцыі часопіса «Маладосць» з просьбай перадаць напярэдадні Дня моладзі роднай рэспублікі марское прывітанне. Мы з задавальненнем выконваем гэта агульнае пажаданне і змяшчаем фотаздымак «зборнай», зроблены перад выхадам цеплахода ў чарговы атлантычны рэйс.

Тэкст і фота **А. Дзітлава.**

**г. Калінінград.**



Мікола Кусянкоў нарадзіўся ў 1935 годзе ў Добрушскім раёне на Гомельшчыне ў сям'і настаўнікаў. У 1953 годзе ён скончыў Буда-Кашалёўскі лясны тэхнікум. Тры гады быў ляснічым у адным з лесгасаў Калінінградскай вобласці, а цяпер працуе ў Гомелі.

**Мікола КУСЯНКОЎ**

# НОВА-БЕЛІЦА



Над Сожам, што стужкаю срэбнаю сцелецца,
Ад сонца прыкурвае трубамі Беліца.
Куды ні паеду, куды ні загляну я,—
Заўжды каміны ўспамінаю цагляныя.
З бусоллю ў Палессі хадзіў без дарогі я,
Штодзень пераходзіў рачулкі глыбокія.
На бераг вылазіш, аблеплены раскаю,
Зубамі, нібы кастаньетамі, ляскаеш.
Ды знойдзецца голле сухое лазовае —
І прыдзе на бераг жыццё адмысловае.
Успыхне агеньчык — і сэрца напоўніцца
Яго цеплынёю, і Беліца ўспомніцца.
Бо гэта ж у Беліцы дрэва раздроблена —
І з дрэва запалка маленькая зроблена.
У Мінску я слухаў аднойчы сімфонію,
Якою былі слухачы задаволены.
Дазвольце ж спытаць вас, чыёй каніфоллю
Нацёрлі той смык, што цудоўна валодае
Любой віртуознай віхурнай мелодыяй?
Няхай жа выдатны скрыпач той падзеліцца
Авацыяй бурнай з рабочымі Беліцы.
Вось дом развітаўся з рухаваю кельмаю,
Зашклёны ўжо вокны — пара навасельная;
У жонак ад радасці вочы іскрыстыя,
Нібыта алмазы. Мужы іх плячыстыя
У дзверы шырокаю шафаю цэляцца...
Адкуль тая шафа прыехала?.. З Беліцы.
Няхай жа, да чаркі зусім неахвочыя,
На ўходзінах вып'юць за рукі рабочыя.
Дарэчы сказаць, хай да тлустага ласыя
Закусваюць беліцкімі кілбасамі.
Калі ж тая шафа ў паэта паселіцца, —
Хай песню складзе ён пра Новую Беліцу.

* * *



Як маякі-арыенціры,
Заводаў, фабрык каміны,
Дарогу да жыццёвай шыры
Хлапцу паказваюць яны.

Ідзе хлапчына,
Крок бадзёры —
Прыстукне, як пячатка, бот...
У школе хлопец быў учора,—
А сёння — добры дзень, завод!

А ўслед за ім стары рабочы —
Яму на пенсію пара —
І шэпчуць вусны, кажуць вочы:
Сынок, ні пуху, ні пяра!

## АДПАЧЫНАК



Дадому з'явішся — і вяла
Апусціш рэчмяшок на дол,
А на патэльні скача сала,
Відаць, спяшаецца на стол.

На вокнах кветкі, нібы ў садзе,
За шыбай ціхі шум бяроз...
А на калені дзеці сядуць,—
Шчаслівым зробішся да слёз.

Ты папракнуў бы, пэўна, браце,
Мяне, — мяшчанскі, моў, душок,
Калі б не быў са мной у хаце
Мой палінялы рэчмяшок;

Калі б душой геадэзіста
Не чуў я трубны кліч гарніста;
Калі б не быў заўжды гатовы
Ісці праз пыл шляхоў-дарог,
Калі б наш план сямігадовы
Не завітаў на мой парог.



Іван ПТАШНІКАЎ

# НЕ ПА ДАРОЗЕ

**Аповесць**

Мал. Ю. Пучынскага.

## I

Сёння ж закончылі касіць на лузе, хоць была і спякота. Дайшлі да крыніцы, абкасілі міжлоззе, пералезлі па гнілым бярвенні праз раку і дабілі густую балотную сінюху ў затоцы. Ляпалі мянташкамі па косах, абтрасаючы прыліплую траву, мылі іх у рацэ, выціралі насуха мяккай, прывялай за дзень дзяцелінай; а ля будак на беразе, дзе размяшчаліся на ноч касцы і грабельніцы, падкідалі на «ўра» Лаўкіна— старшыню, гушкалі, віншавалі і дамагаліся замачыць дакоскі.

Гоман і вэрхал запаўнялі луг і аддаваліся рэхам у далёкім, маўклівым пад вечар бары і плылі дзесь далей, услед за сонцам.

Поўны, таўставаты Лаўкін, у дарагім, даўно не прасаваным гарнітуры, разгублена лыпаў вачыма, махаў рукамі, абяцаў, але, адчуўшы пад нагамі зямлю, цвёрда сказаў, што замочкі ніякай не будзе, што ён не ведае, як было летась, ды і не хоча знаць. Паклікаўшы двух брыгадзіраў, ён загадаў збірацца дамоў, каб заўтра ж зранку касцы маглі выйсці на канюшыну.

Калі ж Лаўкіна пачалі ўпікаць і папракаць у скнарасці, ён паўтарыў яшчэ раз, што нічога не выйдзе, але запэўніў, што не супраць агульных калгасных дажынак і зробіць іх як належыць, але ў свой час; а цяпер касцы павінны, не адкладваючы, ехаць, а тут застануцца толькі грабельніцы.

Мужчынам нічога не заставалася, як паехаць дадому ды чакаць тых дажынак, якія хто ведае калі яшчэ будуць.

Больш за ўсіх спахмурнеў Андрэй. Ён пакінуў луг пазней за ўсіх, прыцемкамі, калі ўжо за лазняком, куды скацілася сонца, даўно пагасла малінавая палоска. Наўмысля выехаў апошні, а каб затрымацца, дык доўга нокаў і лаяўся ў затоках, быццам ніяк не мог злавіць каня.

На возе яны сядзелі ўдвух: Андрэй і Раман Сідарка, дваццацігадовы хлопец з вострым носам і ўскудлачанымі доўгімі валасамі, які справіўся нейкім чынам «дзябнуць» за ракой, відаць, паабяцаўшы, калі нават не падкінуўшы, сянца якому-небудзь гаспадару (дзе ты за ўсімі ўгледзіш!). Ён дзёўбаў носам, пагойдваўся, а пасля заснуў і хроп, не зважаючы, што на карэнні ў лесе трэсла і падкідвала.

Андрэй, прывязаўшы лейцы да аглабіцы, сашчапіў рукі на каленях ды даў волю каню і сваім думкам.

«Што ні год, то к лепшаму, гавораць... Дудкі, мусіць... Летась у мяне дагэтуль поўны хлеў мурагу быў і на балоце стажок красаваўся. А сёлета — ні травіны, ні сяніны ў хляве. Абяцаюць... Балоты і тыя ў калгас абкасілі. Працаднём цешаць... Ну, вядома, у каго іх шмат — распяражуцца ад сена, а тут са свайго шнура будзеш ляскаць зубамі і ты, і жывёліна...»

— Но-о-о!.. Каняціна! Я табе саб'юся з дарогі, не наперлася па лузе, брухло!.. — закрычаў ён на ўвесь лес, калі конь хацеў звярнуць са сцежкі на поле, дзе раслі аўсы.

Раман спалохана расплюшчыў вочы, падняў галаву, але, убачыўшы каня, які мерна пакратваў хвастом, здагадаўся, што яны яшчэ едуць, і зноў бухнуў галавой у сыпу, пахучую дзяцеліну.

«А на лузе, бывала... Жыць можна было, нават сотню-другую прыдбаць. Праўда, не ўсе маглі...» — зноў спакойна затахкалі калёсы і гэтак жа пацяклі Андрэевы думкі.

У такіх справах ён быў завадатай. Ніхто лепш за яго не ведаў усіх лугавін, якія можна было абкасіць без ведзі старшыні, і ўсіх брадкоў, якімі можна было пераправіць сянцо «туды». Сена ўсюды трэба, тут і там... А «адтуль» прыходзілі з першаком, з грашыма... Што і казаць... За луг ён і гарнітур суконны к зіме купіў, боты ялавыя заказаў, набыў нават аўчын на доўгі кажух. А з лугу летась ехалі як!.. Цыганамі... Ды дзе там цыганам было да іх!.. Ехалі вяселлем, п'яным гармідарам, шматгалосым кагалам. Было з-за чаго. Увесь кут на лузе па яго ж хаўрусу (ён угаманіў і ўлагодзіў былога старшыню; праўда, многа і таму перапала) быў пакінуты і прададзены на пні. Гарэлкі было!.. А закускі!.. Бабам і тым хапіла. А сёння?..

— Но! Травяное стварэнне!.. — зазлаваў ён раптам і ні з таго ні з сяго перацягнуў каня па крыжы вяроўкай, што ляжала пад нагамі ў передку.

Гэты раз Сідарка нават і вухам не павёў.

А сёння?.. А сёлета?.. Аднойчы ён быў памкнуўся намякнуць Лаўкіну пра добрую пераправу за першаком на другі бераг, але той толькі рассмяяўся, ды так, што аж мароз прабег па скуры.



«Ну і што... — падумаў тады Андрэй, — аднаму яшчэ лепш: болей перападзе».

Ён у тую ж ноч сунуўся з возам сена праз брод, але з лазнякоў выйшаў Лаўкін і, ні слова не кажучы, завярнуў каня назад да стогу. Што і гаварыць, затрэсліся тады паджылкі ў Андрэя.. «Турма», — падумаў ён. Але старшыня маўчаў, як сырая зямля. Відаць, не пакараць хацеў, а проста адвучыць чалавека ад цёмных спраў, у якія той увязаўся здаўна. Толькі ж не такі быў Андрэй, як думаў старшыня. Мінула навала, і ён зноў, як воўк, выйшаў на ўловы.

Другі раз яго лапнуў за крыло Лаўкін, калі Андрэй з адным сябрам з другога берага ўціскаў лейцамі вязку сена.

«Адкуль ён узяўся? Яго ж сёння на лузе не было? Ну, цяпер капец...» — думаў Андрэй.

Старшыня ж зноў слова не сказаў, а толькі заліўся знаёмым ужо Андрэю смехам, і той заrokся дакранацца да сена аж пакуль не кончылі касіць. Гэта быў ужо не смех... У ім, як прыдалося Андрэю, была пагроза. Ён улавіў яе... А каму не шкада сваёй скуры!..

«Толькі чаму ён мяне не засудзіў, гэты Лаўкін? Нейкі ён не такі гарлапан, як усе...» — думаў Андрэй і можа за гэта стаў нават крыху паважаць калгаснага старшыню, чаго пасля вайны з ім не здаралася.

Ноч хавала дарогу ў тумане. Стаяла ціша, якая бывае толькі ноччу ў другой палове лета, калі ўжо лёгка адчуваецца набліжэнне восені. Мо' таму неяк асабліва гучна ляскочуць і тарахцяць калёсы, насцярожваючы чалавечае вуха. Рэха далёка разлягаецца па лесе.

Андрэй перастаў думаць і ўслухоўваўся ў гэтыя гукі, якія трывожылі ноч.

«А рэха так трашчыць па лесе, нібы хто пугай хвошча па арэшніку...» — зазначыў ён.

Мінуўшы доўгую паласу густога туману, што вісеў цяпер ззаду над дарогай выбеленым палатном, калёсы вынырнулі на поле, якое звалі Жукаўшчынай. Гэта былі палеткі суседняга калгаса. Некалі яны належалі тутэйшаму пану Жукоўскаму.

На полі туману не было, і Андрэй убачыў блізка ад лесу жытнёвыя мэндлікі. Яны густымі радамі падступалі месцам аж да самай дарогі.

— Во! — узрадавана замармытаў ён сам сабе. — Ляціць час. Гэтак хутка жніво прыдыбала, не паспелі нават косы на бэльку павесіць...

І тут яму нібыта заняло. Новыя думкі змусілі яго забыцца пра ўсе нягоды і няўдачы на лузе.

Ён звярнуў каня з дарогі ў бярэзнік і, спыніўшыся, сядзеў яшчэ некаторы час на возе, углядаючыся ў бок чужой вёскі, адкуль заўсёды прыходзіў калгасны палявы вартаўнік Вайцех, яго, Андрэеў, швагер.

Ён доўга не адважваўся ступіць на чужое поле, але слова «швагер» вырашыла ўсё. Ды і гэта ж не свой калгас, ніхто і не падумае...

А бліжэйшы мэндлік буйнымі, натапыранымі каласамі цягнуў да сябе, хаця шапаценне на полі спелай саломы ад ветру палохала Андрэя. Сама цяжэй яму было адарвацца ад цёплага месца на возе: сырая канюшына прыемна саграваліа яму азадак і галёнкі. А пасля ён смела захадзіў каля мэндліка, труцы пальцамі каласы ў далоні, не баючыся нават, што пакідае ад ботаў сляды на загоне.

«Спелае жытцо... Воск... Аж у цемнаце відно. А высахла як, хрумшчыць. Вось бы вазок такога...»

Андрэй прысеў, але не змог абхапіць увесь мэндлік рукамі і, разбурыўшы яго, прынёс да воза толькі пяць снапоў. Другім рэйсам узяў на два снапы больш. Ён так сціскаў іх, несучы, што парасціраў каласы, і цяпер, калі махаў ля калёс свабоднымі ўжо рукамі, зерне пырскала з яго вопраткі на зямлю. Асцё набілася за каўнер, кусала шыю і грудзі. Яго нельга было абтрэсці з мокрага ад поту цела.

«Во д'ябал... — раптам вылаяўся ў думках Андрэй. — Не ўсё абмазгаваў. Пра хлопца ж чуць не забыўся... Храпе, недавярак... Ён мне з двух бакоў замінае. З аднаго — лішняе вока, значыць і горла лішняе заткнуць трэба, а з другога — месца на калёсах заняў... І чаго толькі чорт накасаў яго на маю галаву? Адстаў жа ад усіх, бабыль. Але ён з нашай скуры скроены, — супакоіў сябе Андрэй. — Змоўча. Толькі вось не пакладзеш снапы на яго».

— А ну, уставай, бухмач!.. — таўхануў ён раптам Рамана Сідарку пад бок. — Уставай, уставай... Не ўскруціш цябе ніяк, разаспаўся... Млявасць узяла, пацягваецца... А ну, давай, бо пахмялю пугаўём!..

Сідарка расплюшчыў вочы, прыўзняўся, узяўшыся за аглабіцы, і, варочаючы галавой, ссунуўся з калёс. Андрэй адвёў яго і пасадзіў пад бліжэйшую бярозу. Той апусціў галаву на калені і зноў засоп. Сон не пакідаў Сідарку ў гэту ноч, як і жахі Якубчыка.

Калёсы хутка апаражніліся ад дзяцельніцы, і два прыдарожныя мэндлікі снапоў ледзь утоўпіліся намітуські ў аглабіцы. Сядзенне цяпер было высокае, і Якубчык рашыў не браць «сыр'я» на калёсы, а толькі зацярушыць ім салому ад выпадковага вока.

Неўзабаве падвода павярнула назад, пад луг, затым скіравала на дарожку, хутчэй сцежку, якая яшчэ аж праз чатыры з гакам вярсты выводзіла ў вёску, але затое адразу на загуменне. Там можна схавацца і да сябе, а лепш за ўсё да сваёй даўняй прыяцелькі, кумы Шуркі.

Яшчэ раз растаўханы і аблаяны, Сідарка цяпер вымушаны быў, высока седзячы ззаду за Якубчыкам на возе, моцна трымацца за аглабіцы (дарога віляла па карэнні і калдобінах і яшчэ больш трэсла снапы). Але і тут сон ішоў за хлопцам аж у самую вёску, і Андрэй раз-пораз аглядаўся, каб, божа барані, не згубіць гэтага разяваку.

Назаўтра толькі пад вечар неміласэрнае сонца, чапляючыся за вершаліны ліп у канцы вёскі, пачало даваць людзям палёгку ад пакутлівай гарачыні.

Па вуліцы, дыхнуўшы халадком, прабег лёгкі ветрык. Яго ледзь можна было адчуць пасля такой дзённай спякоты. Але затое густа зашапацела лісце на галінах ліп, нібы хто раптоўна страсянуў іх. Было відаць, што там, уверсе, вецер больш смелы, чым тут — у завулках і ля прызбаў. Такія вятры звычайна ўзнімаюцца захадам сонца, перад ціхай і спакойнай ноччу.

У гэтую пару Андрэй з Раманам выйшлі ад Шуркі і, трымаючыся за плот, пацягнуліся дадому — кожны ў свой бок.



## II

Ноч не хіне вартавога да сну. Яна насцярожвае, прымушае варушыцца і быць напагатове.

Вайцех і не думаў спаць ноччу. Даўно ён звыкся з гэтым, і яго каротка стрыжаную прадаўгаватую галаву, пасівелую ўжо напалову, ніколі не гнула да калень, калі ён садзіўся адпачыць пад бярозу або на крушню камення; яго шэрыя вочы зырка бегалі ў цемені. Тым больш, што цяпер такі доўгі летні дзень! З вяроўку... І выспішся ўволю, і з касой пабрындаеш, і ў лес з кошыкам збегаеш.

І колькі б разоў Вайцех ні хадзіў начамі ў Жукаўшчыну, ён ніколі не памятаў аднастайных начэй, і яны яму ні разу не надакучалі. Ночы і сапраўды, відаць, аднастайныя толькі для тых, хто іх не бачыць за сном.

А для Вайцеха кожны знаёмы куст штоноч шумеў па-рознаму; і нават вячэрні шолах лісця пад ціхім ветрыкам не быў падобен да насцярожанага, таямнічага шэпту на золаку. Вечарам, калі густы пыл ад прагнанага дарогай статка туманам віснуў у паветры і ахутваў лес рудымі валокнамі, Вайцех улоўліваў у ім подых сырадою і, здаецца, адчуваў пах і недапітага малака, і недаедзенага хлеба з пастуховай торбы.

Ён любіў слухаць, як лес паглынае перагуд камбайна, галасы жней, тахканне па карэнні цяжка нагружаных снапамі калёс; як ён змаўкае на хвіліну, каб затым адгукнуцца з невядомай далечы доўгім, глухім рэхам; або суцішыцца і затоіць яго ў сабе назаўсёды, баючыся патраціць дарэмна гэтае багацце...

Ён, Вайцех, часта днём, асабліва па нядзелях, наведваў Жукаўшчыну на калгаснай «Пабедзе» разам са старшынёй і сім-тым з членаў праўлення.

Любаваліся збажынай, меркавалі пра будучыя ўраджаі, жартавалі.

«Мой дзед і прадзед век свой горб на гэтай Жукаўшчыне гнулі за сахой. А я пад старасць згінаю сваю спіну, залазячы ў «Пабеду», — усміхаўся Вайцех.

Пра гэта ён многа думаў. Ды і не толькі думаў. Любіў расказваць шмат каму. Аднойчы ён адпусціў такі «жарт» у прысутнасці сакратара абкома. І што б вы думалі?.. Заехаў да яго сакратар, вясёлы такі, кемлівы высачэзны мужчына, яго і цяпер памятае Вайцех, і яны прагаварылі пасля вячэры далёка за поўнач. І начаваў тады сакратар у яго. Усё распытваў, як жылі раней, што расло ў Жукаўшчыне, што радзіла, калі былі неўраджаі, і пра многае-многае іншае...

Вайцех не праседжваў усю ноч напралёт дзе-небудзь на ўскраі лесу або ў бярэзніку, што прыгожай сцяной раздзяляў Жукаўшчыну на два прасцягі. Звычайна з вечара ён хадзіў з аднаго боку бярэзніку, бліжэй пад вёску. Тут магла дзе-небудзь блытацца жывёліна, з'ядаючы аўсы і ячмяні. А калі рог Вялікай Мядзведзіцы пагоднай ноччу паказваў прама на поўнач, Вайцех пераходзіў на другі бок бярэзніку, дзе шумелі цяжкім, паспелым калоссем жыты.

Нават і ў цёмныя-цёмныя ночы, якія бываюць летам сярод лясоў, асабліва ў жніўні, Вайцех не губляў часу, калі трэба было пераходзіць на жыты. Ён гатоў быў залажыцца на што хочаш, і даказаць, што цём-

най ноччу ў самую поўнач на нейкі час робіцца светла. Праўда!.. Толькі трэба ўмець заўважыць і адрозніць тыя хвіліны ад звыклай цемнаты... Так, так, — будзе спрачацца Вайцех, — сапраўды тады святлее, бо паўночная зорка ў поўнач пачынае свяціць сама ярчэй. У гэту пару вецер зусім сціхае. Толькі асіна шапаціць несуцішна. Яна заўсёды неспакойная...

Такім часам усё спіць. Вайцех за гады вартаўніцтва не памятаў, каб гэтай парой хто-небудзь прыплёўся на поле з нядобрым намерам. Нават дзікі, і тыя ішлі пазней гэтае пары, калі пасля Вайцехавай паласы святла зноў Жукаўшчыну абнімала цемень.

А больш за ўсё вабіла яго да сябе поле месячнай ноччу... Жыты ў рост. Ідзе ён між іх, срэбных ад расы, нібы люстраным возерам, і яму здаецца, што нікога навокал няма, толькі яго галава пакалыхваецца над дзівоснай роўняддзю ды ўсміхаецца месяц, што плыве над ім. Далёка-далёка відаць навокал, здаецца, і вуха тады робіцца больш вострае. Ды пры месяцы Вайцех і не чакаў злыдня: з аднаго боку — таму павінна быць боязна, — ён жа ўвесь, як на далоні, а з другога — не верыў ён, што нават самы паганы чалавек на свеце адважыцца рабаваць у такую чароўную ноч... Яна павінна напомніць яму аб прыгажосцях жыцця, прымусіць злякнуцца, забыцца, чаго той сюды прыдыбаў, і ўберагчы ад граху.

Бывала, што пасля вайны сёй-той і ў такую пару зразаў каласы, але Вайцех ведаў, хто гэта, не даваў яму заходзіць далёка і дароўваў: многія ў вайну пагарэлі датла і ледзь перабіваліся з хлеба на квас.

Вайцех не забыўся, як аднойчы зграшыў і ён, залюбаваўшыся такой ноччу. Хутчэй не залюбаваўшыся, а цалкам паклаўшыся на сваю філасофію.

Было гэта летась... Ноч выдалася тады яснай. Так, прыкладна, пад раніцу да яго падступіўся сон. Каб, сказаць, сталі зліпацца павекі, дык не... Ні пазяхоты, ні салодкай стомы ў нагах... Неяк проста яго вырвала з гэтай месячнай ночы і перанесла на бераг рэчкі пад капу мурагу.

...Здаецца, стаіць нясцерпная парнасць, размякла цела. Чаму ж не паспаць, калі да вечара яшчэ далёка, а сена амаль згрэбена...

Вочы ён расплюшчыў не ад святла. Прывыклае да цішыні вуха ўлавіла частае тупанне мноства ног. Ён ляжаў на зямлі, і яму здавалася, што на яго рухаецца цэлае войска. Ускапіўшыся, ён сеў і аслупянеў адразу: недалёка, якраз насупраць яго, ля бярэзніку, дзесяткі два дзікоў калашмацілі мэндлікі пшаніцы як толькі маглі. Тут былі і шматгадовыя гарбатыя дзікі, якія паволі сноўдаліся па загонах, і паласаценькія парсючкі нядаўняга апаросу, ад сілы пералеткі, якія жвава снавалі каля старэйшых, адбягаючыся так далёка ад іх, што, здавалася, яны вось-вось наступяць на ногі або зусім здратуюць самога Вайцеха...

Рукі яго самі схапілі двухстволку, што была заціснута між ног. Ён спачатку здзівіўся, як гэта дзіч не чуе яго, але ўлавіў, што ранішні свежы вецер цягнуў ад статка і зносіў пах чалавека. Паволі да Вайцеха стала вяртацца прытомнасць, і стрэльба руляй павярнулася ў бок галоднай прыблуды. Ён нават на хвіліну супакоіўся, дзівячыся з гэтай мірнай папаскі, як раптам, незалежна ад яго самога, нейкі інстынкт, відаць, страх за жыццё, тузануў за руку, і пальцы спусцілі куркі. У момант і старых і маладых дзікоў змяло з поля. Стала ціха, толькі доўга яшчэ ў напрамку да пушчы шумеў лес і стагнала зямля пад нагамі ў перапалоханай жывёлы.



Калі ж Вайцех ачомаўся, на памяць яму ўсплыў адзін малюнак. Тады, перад стрэлам, на некалькі крокаў бліжэй да яго, чым да статка, тупаў амаль бычынымі нагамі вышэйшы за мэндлік (гэта добра ўрэзалася Вайцеху) вялізны дзік, сапраўдны вепр. Пра такога ён чуў некалі ў дзяцінстве ад свайго дзеда. Дзік стаяў і паволі паводзіў галавою, цяжка сапучы. Відаць было нават, як пара струменіць з ягоных ноздраў. Ён прыслухоўваўся да кожнага шолаху і подыху ветру. О-о-о!.. Гэта быў надзейны вартавы і самы небяспечны вораг...

Вайцех памятае яшчэ, як хацеў перад гэтым зглажыцца і стукнуць у статак. Вялікі, хоць у якога ды трапіш... Але, павярнуўшы галаву ўбок (ён заўсёды перад тым, як стрэліць, аглядваўся па баках), убачыў перад сабой гэтае сапраўднае ліха, якое нажыў на сваю галаву, заснуўшы. Дзік напружыўся, разявіў ікласты рот і гатоў быў вось-вось рынуцца ўперад, на яго, Вайцеха. Ён, напэўна, чуў ляск жалеза. Вось тут Вайцех і не памятае, як націснуў на куркі, захавалася ў галаве толькі тое, як рукі маланкава павярнулі стрэльбу ў бок ікластага вепра...

Пасля гэтага ён не мог ужо ніяк звесці вочы ноччу: зарокся.

Але ўчарашні дзень нечым новым парушыў спакой Вайцеха. Гэта было не тое адчуванне, якое падказвала напад дзікоў: у снапы наведаўся двуногі звяруга .. На Вайцеха найшло нейкае ўтрапенне, збіла яго з думак, абурыла, усхвалявала. Ён не спаў суткі, хадзіў узлессем, паднімаў і нюхаў атаву, збіраў растрэсеныя каласы, выследжваў зблытаны калёсны тор, змучыўся, а ўсё-ткі разгадаў, што след павёў не на луг, за рэчку, а ў суседні калгас. Адразу адзін-на-адзін расказаў свае меркаванні старшыні, але ад гэтага не паспакайнела.

«Хто дзе бачыў, каб воўк, унадзіўшыся ў гусей, лёгка пакінуў іх? Раз такі чалавек пакаштаваў збажыны, ён захоча і пад'есці, а то і напхаць сваё волле. Значыць, злодзей прыдзе, трэба каравуліць...»

Хіба будзеш спакойны ад такіх думак?

У гэтую ноч, ціхую і месячную, ніхто не прышоў.

Вайцех ведаў, што чалавек прапускаў суткі — другія, каб адвесці вочы.

«Прыслухоўваецца недзе, ці агледзелі... Але ў нас ніхто не расплявузгае: ведае, апроч мяне, толькі старшыня. Ды ён сам сказаў маўчаць і навастрыць вушы».

Яшчэ адзін дзень пагаснуў барвовым сонцам у густым далёкім тумане.

Вайцех прызвычаіўся да туманных начэй на Жукаўшчыне: яны былі цяплейшыя, чым ясныя ды ветраныя, і апрануў толькі паддзёўку, пакінуўшы ў сенцах на скрыні суконную бурку — спадарожніцу халодных начлегаў.

Нейкі інстынкт падказваў, што сёння будзе «госць», і хутчэй чалавек, чым звер. Дзіўна, але Вайцех так адчуваў... А розніца паміж зверам і чалавекам, які прыпляцецца на поле, — усё ж вялікая. І Вайцех намацаў у кішэні кардонавыя патроны, якія былі набіты соллю. Бліскучыя бронзавыя гільзы, поўныя цяжкага шроту і гранкуляк, ён пералічыў і пазапіхаў у патайную кішэню паддзёўкі — далей ад спакусы...

Была тая шэрая гадзіна, калі ноч на вачах змяняла вечар і трашчала галлём пад нагамі на ўзлессі ды шапацела старой, падсохлай травой на дарозе. Неба паступова зацягвалі рудаватыя хмары. Яны наві-

салі ўсё ніжэй і ніжэй над полем, і яно ад гэтага рабілася меншае, вузейшае, здавалася, і лес бліжэй падсунуўся нанач, нібы ён ніяк не хацеў прымірыцца з тым, што пад бокам у яго такі прасцяг неабсяжнага, чыстага ад дрэў і кустоў поля.

«Вечер тихой песнею
Над рекой плывёт...» —

павольна, ціха-ціха, сапраўды, як вечар, плыла з дому задушэўная мелодыя...

«Ночкі цёмныя, глухія»... —

збіваўся юначы бас, заглушаючы дзявочую журбу і сум па чымсьці далёкім, нязведаным...

— Э-ха-ха... — уздыхнуў Вайцех, павёўшы далоняй па доўгім, нягoленым твары. Ён памалу крочыў паўз лес да таго месца, дзе пару якіх дзён назад хтось згроб два мэндлікі. Ногі неяк самі вялі туды.

«Але ці ж дурань злодзей!.. Не будзе ён брадь у адным і тым жа месцы на такім полі. Лавіць яго цемнатой, што клапа ноччу на падлозе», — падумаў Вайцех. Ён пачынаў хвалявацца ад такіх думак. Патрэбна было выкінуць іх з галавы, бо хвалявацца ў такіх выпадках,— значыць, неасцярожна выдаць сябе.

Цямнела. Вастрэў і слых.

«Месяц павінен узысці толькі амаль пад дзень, няма чаго на яго спадзявацца...»

Зрабілася цёмна і ціха, як у мяшку. Паступова на небе нельга было разгледзець кудлатых, густых хмар. Гэта было ўжо не пахмурнае неба, а навес над галавою, чорны, як над токам, запыленым шматгадовай малацьбой. Вайцех адчуў, што пачынае і цяплець. Пры заходзе сонца вісеў туман і халадок абяцаў пагодлівую ноч.

Але да раніцы далёка, і Вайцех пачаў хадзіць у густой цемнаце ад лесу да дарогі, што сярод поля, на якую ён лучыў бы з завязанымі вачыма. З боку яе сівой спіною ўзвышалася вялізная крушня камення. Гэта была якраз сярэдзіна Жукаўшчыны. Адгэтуль і паварочваў Вайцех. Ногі цягнулі назад, пад лес; відаць, усё ж такі хваляванне не пакінула яго.

На пожні пад ботамі шастала іржышча, а калі ён абыходзіў нязжатыя палосы, мокрае жытнёвае калоссе расіла рукі. Увесь час трэба было прыпыняцца: шуміць іржэўнік і нічога не чутно, як ні ўмудрайся цішэй паставіць нагу ў разоры.

Ён вярнуўся да крушні і апусціўся на яе седлавіну, паклаўшы збоку калгасную «самапалку», якая да яго вартаўніцтва вісела ў канцылярыі. Зрэдку яе бралі конюхі з сабою на начлег — і то пасля таго, як ваўкі зарэзалі жарабя. Ну, і рахункавод калі-небудзь зносіў яе ў нядзелю «на дзікоў», але нідзе яна сябе на апраўдвала, за што і празвалі яе не без гумару калгаснай «самапалкай».

Так і вісела яна за шафай, запыленая, пакуль Вайцеха не выбралі вартаўніком. А ён упадабаў яе, старасвецкую, цяжкую і нязграбную, хоць і ведаў, што з яе можна пацэліць толькі ў божы свет. Што ж, мужчыну ўжо хутка пяцьдзесят; а ў мінулым кадравік, затым усю вайну — партызан. Можа таму ён і любіў стрэльбу і бярог, як і ўсякую баявую зброю. Ён аглядаў яе, чысціў, змазваў. З ёю ноччу зусім нястрашна. Пачуеш шолах — сціснеш яе моцна рукамі, — вось ты і неприступны.



Толькі думкі пра стрэльбу ў яго сёння з'яўляліся мімаходзь. За апошнія дні ён перабіраў у памяці ўсіх людзей са сваёй вёскі і нават з суседніх і, здаецца, здагадваўся...

Раптоўнае рохканне ля лесу прымусіла яго ўсхапіцца. Рукі неяк самі сцялі стрэльбу, як абцугі. Затым адтуль, дзе пачулася рохканне, нешта, шалёна тупаючы, неслася проста на яго, і чым бліжэй, то ног здавалася ўсё больш і больш.

«Дзікі... А ў ствале соль... Магіла...» На момант перад вачыма ўзнік дубок, што рос недалёка ад крушні, бліжэй пад вёску.

«Хутчэй да яго...» — варухнулася недзе ў свядомасці выратавальная думка, але ногі застылі, адзярвянелі, не адарвеш іх ніяк ад зямлі, хоць ты што...

«Вух!.. Вух!..» — пачулася спераду. Тупат на нейкую хвіліну сціх. Вайцех убачыў двух белых дзікоў за крокаў дзесяць ад крушні. З іх ноздраў, здавалася, дыхае цеплынёй, нібы з палка ў лазні з-пад веніка.

«Будзь што будзе...» — стрэльба міжволі падалася ўперад.

«Вух... Вух... Хых... Хых...» — данеслася яшчэ раз ад спуджанай некім жывёлы. Не паспеў Вайцех злажыцца, як дзікі змянілі кірунак і іх белыя спіны схаваліся ў жыце. Яны, учуўшы чалавека, звярнулі з дарогі і ўпоперак загонаў падаліся ў бліжэйшы беразняк. Доўга шумела ў тым баку, нібы нехта, шпаркі на хаду, цягнуў па жыце разматаную вяроўку. Затым наступіла ранейшая цішыня, як бы той, шпарканогі, хуценька зматаў сваю вяроўку і кінуў яе праз дарогу, што вяла на луг, у густыя кусты на ўзлессі: дзікі схаваліся там.

Тахкала сэрца, і ўздрыгвала ў руках стрэльба. Мурашкі казытнулі холадам цела недзе там, каля паясніцы, і разбегліся па спіне.

— Бр-р-р!.. — моцна страсянула яго толькі цяпер, калі небяспека мінула. Стукалі зубы, і бразгала аб метал рулі антапка.

— Цьфу! Мярзота... Дзіч... — моцна сплюнуў Вайцех і подбегам рушыў ад крушні, нібы гэта была не куча камення, а месца змяінага споўзішча, і ён стараўся хутчэй пакінуць яго.

Цішыня, што зноў запанавала на Жукаўшчыне, хутка супакойвала Вайцеха, аднак пастаяць або сесці пасядзець ён не мог, бо адчуваў сябе, як на пікеце, і падаўся пад лес. Чамусьці хацелася быць далей ад таго месца, дзе ён ледзь не сутыкнуўся з дзікамі.

«Шась... Шась...» — мерна вырывалася з-пад ног у Вайцеха, ураўнаважваючы яго. Яму здавалася, што побач ішоў другі вартаўнік. Гэтае абманлівае пачуццё рассейвала самоту, дадавала смеласці і нават бадзёрыла.

Крокаў пяцьдзесят заставалася да ўзлесся, як Вайцех паверыў у тое, што сапраўды з боку ў яго нехта ідзе. Стук і шастанне сталі такімі натуральнымі, што іх несуладдзе з рытмічным шалясценнем, якое раздавалася ад ягоных ног, выразна стала лавіць вуха.

«Глупства... Гэта я, мусіць, так паверыў у сваю выдумку...»

Але раптам сярод густога шастання пачуўся моцны, нейкі прыглушаны стукат.

«Ці не ад яго гэтае шастанне?»

Вайцех прыпыніўся.

Цішыня, як у вушку...

«Вось што значыць моцны спалох...» — усміхнуўся ён сам сабе і хацеў ужо зрушыць з месца, як тое ж шастанне, гэты раз не збоку, а ля самага лесу, падказала: нехта калоціць сноп.

Трэба было асцерагацца. Ён, паціху ступаючы, сышоў з загону і прысеў на кукішках за бліжэйшым мэндлікам. Мокры, у расе колас казытнуў шчаку і лёг на брыво. Вайцех услухаўся. Аж у вушах зазвінела. Нічагуткі. Затым паступова прыплыў далёкі, таемны, але смелы шэпт ялін у канцы жытнішча. Цішыня, аказвалася, была зманлівай.

Вайцех прагна лавіў галасы ночы. Скрыпела недзе дрэва, рытмічна, з енкам, нібы пад павевамі ветру ўядаўся ў ягоны сук ствол суседняга, больш цвёрдага дрэва і паволі адпілоўваў яго. З боку, на пожні, шаптала старая асіна. Злосна і коратка пракрычала ў бярэзніку сава. У жыце пішчала перапалоханая птушка, хутчэй маладое птушаня, як здалося Вайцеху. Трашчала салома — гэта ўставала на загоне прыгнутае нагамі іржышча.

І тут Вайцех аж страпянуўся, нібы хтосьці перацягнуў па ім дубцом. У цішыню ночы смела ўварваліся пошум і мяккія постукі палкі. Вайцех увесь падаўся ўперад і стаў падымацца. Хутка з-за свайго мэндліка ён убачыў, як недалёка ад лесу штосьці чорнае бесперапынку калашмаціла сноп. Вайцех выпрастаўся і здрыгануўся: там быў чалавек.

«Ён жа і напалохаў дзікоў, а цяпер і сам не горш за іх тармосіць. Але пачакай... Што гэта? Яшчэ нехта каля яго сноўдаецца. Маленькі... Хлапчаня... Угу...»

Усю асцярогу, набытую гадамі ў партызанскай разведцы, а пасля пры вартаўніцтве, паклаў Вайцех на тыя паўсотні крокаў, якія аддзялялі яго ад «паўтара зладзеяў». Хаця гэтага можна было і не рабіць: два сілуэты — адзін большы, другі зусім малы — смела ўвіхаліся каля мэндліка, забыўшыся на ўсё. Ды чаго ім было баяцца? Дзікоў спудзілі, і тыя падаліся прэч; вартаўніка, відаць, не спадзяваліся сустрэць, а мо' і чакалі з якім-небудзь намерам. Хто ведае...

Вайцех, прыгнуўшыся, падкраўся амаль да іх: яго прыкрывалі мэндлікі, густа пастаўленыя па загоне, а стук важкай палкі па снопе скрадваў крокі.

Перад яго вачыма спяшаліся двое. Праўда, дзіцянё менш стукала палкай па снопе — спіцай з каляса, як здалося Вайцеху, — а згортвала ў кучку на разасланай пасцілцы распырсканае зерне. Затое спрытна малаціў стары мужчына: і палкай, і локцямі, і пальцамі, і каленьмі. Ён нават ухітраўся час-ад-часу перасыпаць зерне з далоні на далонь, выдзьмухваючы мякіну і падносячы затым рукі да вачэй. У разоры каля іх (Вайцех заўважыў гэта крыху пазней) ляжаў мяшок — паўпудовая ношка.

Нейкі смех пачынаў разбіраць Вайцеха: рухі мужчыны былі такія нязграбныя, нібы гэта мядзведзь абіраў шалупіны зваранай бульбіны. Затое малы... О-о-о!.. Які ён быў спрытны! Ён спраўляўся і падносіць снапы, хоць яны былі і зацяжкія для яго, і адкідваць абабітыя ўбок, затым прыстаўляць іх да някранутых мэндлікаў, і нават ухітраўся жменямі або прыгаршчамі папаўняць ношку... Апошняе выходзіла ў яго найспрытней. Рабіў ён усё хутка і моўчкі: відаць, баяўся бацькі.

Вайцех паверыў, што перад ім спрактыкаваны злодзей з вывадкам, а не звычайны вясковы абібок. На душы чамусьці адразу стала крыўдна... Мусіць, за малое. Затым падскочыла шалёная злосць.



— Стой! Ні з месца, прокляць!..

Канец стрэльбы амаль даставаў да плячэй мужчыны. Абодва, як сядзелі, так і прыгнуліся да зямлі. Затым мужчына, не азіраючыся, у адно імгненне ўхапіў мех і, як воўк, скакануў з месца. Твару яго Вайцех не згледзеў.

— Та-а-а-та!.. — дзіка і піскліва разанула вуха і разнеслася ў магільнай цішы ночы.

«Тата» не адазваўся. Ён, мусіць, добра ведаў сынка. Сапраўды, той, як дзікая каза, выслізнуў амаль з-пад ног у Вайцеха і быў ужо наперадзе бацькі.

— Стой! Застрэлю! Стой!.. — загрымеў Вайцехаў прарэзлівы голас: стрэльба дрыжала і падскоквала.

— Стой!.. Поскудзі... Улажу!.. — з усіх ног рвануўся Вайцех. Але прышэльцы былі маладзейшыя, ды яшчэ спалох прыдаваў ім воўчыя ногі і спрыт.

Вайцеху спачатку здавалася, што ён дагоніць іх вось-вось... Але ўперадзе лес, і гэтыя двое ваўчаногія сваімі хапатлівымі рукамі хутка расхінуць кусты і знікнуць...

Вайцех прыпыніўся. Ствол стрэльбы пачаў хадзіць ад аднаго сілуэта да другога, спыняючыся то на большым, то на меншым. Нейкае пачуццё — чорт бы яго ўзяў! — сплюнуў Вайцех, — не давала сагнуць палец, што ляжаў на курку... Мусіць каб лес загарадзіў дарогу зладзеям, Вайцех ніколі б не рашыўся стрэліць.

Аднак, хутка яны, міраеды, што не даюць жыцця яму і калгасу, знікнуць з вачэй, застануцца жыць, адседзяцца і зноў прыдуць.

— Стой!.. Стой!.. Спыніся!..

Хлапчанё дабегла да кустоў і расплылося ў цемені, знікла. Дзесьці на канцы ствала ён улавіў чорную, сагнутую мужчынскую постаць. Аж два пальцы націснулі на куркі. Чырвоны язык полымя лізнуў цемень... Гулкі, перакацісты стрэл разлёгся па Жукаўшчыне. Працяглае рэха пакацілася па лесе і доўга, са стогнам, адклікалася то з-пад луга, то з-пад вёскі. Карацей і драбней адказалі імшары з бярэзнікам.

Яшчэ гусцейшая цемра схавала ўсё ад вачэй.

Толькі там, дзе зніклі прышэльцы, шумеў лес і трашчала сучча. Затым стала ціха: відаць, тыя прыселі аддыхацца або выйшлі на дарогу.

Ад стрэлу звінела ў вушшу.

«Соль... чорт задзяры... — успомніў Вайцех і, пашкадаваўшы, сплюнуў пад ногі. — Не гэта трэба на такіх...»

Раззлаваны, ён шпарка пайшоў назад. На месцы «малацьбы» прыпыніўся, пастаяў, падумаў. Затым падняў з зямлі пасцілку і за рагі панёс яе да бліжэйшага мэндліка. Пастаяўшы яшчэ крыху ля снапоў, ён сеў на край разасланай на ржышчы пасцілкі і скруціў цыгарку. Запаліў сярнічку, прыкурыў. Асвечаны на момант васьмінітовы ўзор на пасцілцы сцебануў яму па вачах: такія васьмерыкі вайной ткала яго жонка. Ён спаліў яшчэ адну сярнічку, другую... Апусціўся на калені, разраўняў рагі пасцілкі.

— Я так і адчуваў, што гэта Андрэй... Дакаціўся, швагерка... І сынка яшчэ прывёў. Выгадаваў...

## III

Андрэй сядзеў на дзяжы, ссутуліўшы свае шырачэзныя плечы і падтрымліваючы валасатымі рукамі ссунутыя з азадка штаны, ды бесперастанку вохкаў. Прыбегшы ноччу з Жукаўшчыны, ён адразу кінуўся ніцма на ложак, увесь час варушачыся і брыкаючы нагамі. Але дзе ты стрываеш ад колкага болю ніжэй паясніцы і ў клубах? І ён «мабілізаваў» жонку, якая, праклінаючы ўсё на свеце, усё ж такі злітавалася і адпусціла дзяжу для адмысловых лекаў. Не пабяжыш жа пазычаць ноччу пасудзіну да суседзяў, якім абавязкова трэба давесці, — што, для чаго і як... Хіба мог дазволіць гэта Андрэй, якому здавалася і цяпер, што за ім гнаўся вартаўнік аж да хаты ды зараз вось-вось адчыніць дзверы?.. Другая дзежка, што была ў хляве на вышках, рассохлася, а ў начоўках такую «працэдуру» вытрымаць было б няёмка: трэба, каб балючае месца не дакранулася да цвёрдага, бо тады боль совае аж у мазгі.

А соль трэба было вымачыць, бо выкалупаць яе з-пад скуры ніяк не ўдавалася, хаця Вова, якому драпнула толькі па далоні, пачаў як было загадана, тыкаць шпількай у невялічкія ранкі, з якіх сачылася жаўтаватая вадзіца, але нічога не змог зрабіць: бацька падымаў крык. Жонку Андрэй у той час не падпускаў да сябе і блізка, хоць яна і памкнулася была «даць рады».

Хлопцу таксама зрабілі перавязку падолкам ад старой крамнай кашулі, і малы цяпер ляжаў на ложку і глядзеў, не міргаючы, у столь і слухаў вохканне бацькі.

— Вох... Ая-ёй... Ох... — з плюхканнем даносілася да Вовы.

«Лучыў жа, зараза, якраз... Ой, пячэ... Пярун бы яго!.. І хлопец ледзь уратаваўся...»

Яму прыпомнілася, як хлопец, дабегшы ўжо аж на загуменне, усё яшчэ крычаў: «Та-а-та!.. Пячэ... Та-та...» «Чаго ты равеш?! Усіх ваўкоў пазводзіш. Тут жа вёска. Пачуюць... Заразы ты кавалак...» — сціснуўшы зубы ад болю, затыкаў ён тады сыну рот рукой.

«Дарэмна я на яго вызвяраўся... Яму ж далонь зрашаціла. А мне... Мэнка страшэнная... А заўтра ж і нарад вывесяць».

Андрэю тады здалося, што са стрэльбай да іх падкраўся не Вайцех, а сам старшыня. Ён так і драпануў. У страха вочы вялікія...

«Калі з Леснікоў гасла няма, значыць, гэта быў Вайцех. І маўчыць ён толькі таму, што распазнаў пасцілку...»

У гэтым Андрэй не памыляўся.

«Па-мойму, Вайцех не стане плявузгаць. А мо' ён яе і не апазнаў? Не, такі ўсё выкапае...»

— Вой... А-ай... — сціснуў ён зубы. — Калі яна вымакне, соль гэта? Каб таму Вайцеху праклятаму жыцця век не было.

Укручаны агеньчык цьмяна свяціў у другім пакоі аж да дня. Яго цяжка было заўважыць з вуліцы праз завешаныя вокны, таму раніцою на вёсцы было ціха, — як паведаміла жонка. Яна сёння спецыяльна пазней звычайнага пайшла чытаць нарад і даўжэй, чым у другія дні, затрымлівалася каля жанчын, якія, прагнаўшы ў поле скаціну, наперабой балабонілі пра вясковыя навіны.



Дзень прайшоў для Андрэя ў пакутах; ён праваляўся да вечара ў хляве на сене. Забалелі грудзі, цяжка было дыхаць, лежачы на жываце. Нават на бок не давала павярнуцца пухліна, якая ўзнікла за ноч на сцегняках.

«Нехта ж выдумаў, што можна соль з цела вымачыць... Мусіць, пакуль сама не растане і не выйдзе, нічога не паможа. Толькі сэрца не вытрывае датуль...»

Удзень яго ніхто не патрывожыў: відаць, і брыгадзіру было не да Андрэя, бо ён не прышоў даведацца, чаму той не выйшаў на работу. Хаця нічога страшнага: на вочы Андрэй яму не папаўся б, а ў хаце для чужога быў падрыхтаваны адказ — бацька ў доктара.

На ноч ён перайшоў у хату і ўкрыўся на ложку двума коўдрамі. Доўга соп, стагнаў і варочаўся. Заснуў толькі пад дзень.

Раніцой, прачнуўшыся і абмацаўшы рукамі балючае месца, ён заўважыў, што боль суцішыўся і пухліна пачала спадаць.

Адначасова з'явіўся і другі, можа яшчэ горшы боль: трывожна зашчымела сэрца.

«А што, калі Вайцех здурнеў і перадаў пасцілку старшыні?.. Яе недзе пазналі... Як выкруціцца? А можа яна і цяпер ляжыць там непрыкметна ля лесу ў разоры? Чаму я назаўтра не паслаў па яе хлопца? Але маглі і спецыяльна яе пакінуць, каб падкараўуліць і схапіць...» — Думкі паўзлі самыя трывожныя, але ясныя, як божы дзень, — кары гэты раз не мінуць. Адзін ратунак — надзея на швагра, калі той яшчэ не развязаў языка.

Трэба ляцець да яго як мага...

Вуліцай ісці ён баяўся і падыбаў на загуменне па сваім бульбоўніку, які быў яму па пахі. Адтуль ён падаўся ў лазу і выйшаў на лясную дарогу, што вяла праз Жукаўшчыну ў Леснікі, дзе жыў Вайцех.

За вострымі яловымі вершалінамі, здавалася, матлялася сонца, хаваючыся зрэдку за густыя сасновыя шапкі. Халадок, які стаяў у лесе, асвяжаў Андрэя, і ён забываўся пра боль, які напамінаў аб сабе, калі шморгаліся адна аб адну залубянелыя калошыны старых картовых штаноў.

Ішоў ён той самай дарогай, якой бег ноччу, і яму прыпомніліся ўсе ранейшыя падыходы да Жукаўшчыны...

«Відаць, каб не падвёў тады вечарам Сідарка, з ім бы можа б і лепш абмазгавалі... А што гэта пісклянё, — падумаў ён пра сына, — магло зрабіць? Што яно яшчэ цяміць...»

Думкі вярнулі яго да той няшчаснай начы.

Шурка не вельмі іх паіла. Усю справу, мусіць, сапсаваў Сідарка, папрасіўшы аднойчы авансам да літроўкі яшчэ і дваццаць пяць рублёў. Тады яна адразу закапрызіла, закруціла носам і заявіла, што ў тую ноч прывезлі не снапы, а нейкае аб'еддзе, з якога яна ледзь нацярушыла паўмяшка.

Ды нічога. Усё можна паправіць. Няма на свеце такой справы, якую б не ўладзілі Якубчык з Шуркай. Назаўтра ж ён дамовіўся падкінуць ёй чысцейшага зярняці, за што тая паабяцала «хлёсткую выпіўку» і адразу падсунула паўнюткую шклянку горкай. Трымала Шурка і «сапраўднае зелле», якое стаўляла толькі ў крайніх выпад-

ках, калі ёй здавалася, што справа вось-вось застыне і яе трэба зрушыць з месца. На Андрэя гэта дзейнічала больш, чым жончын чапяльнік, якім тая частавала яго, калі ён вяртаўся ад Шуркі «пад мухай».

Кажуць, абяцанага тры гады чакаюць. А Андрэй не мог вытрываць нават і трох дзён да паабяцанага Шуркай пачастунку.

Прыехаўшы з лугу, ён павінен быў па нараду касіць атаву ў канцы вёскі. Гэтымі днямі ён кідаўся ў хваробу і адлучаўся ад мужчын. Крыху пабрындае з касой каля платоў і — дадому.

«Трэба і сабе агледзець дзе-небудзь вазы на тры. Але ладна ўжо... паспею», — думаў ён.

Сёння Андрэй надзейна прыхаваў касу ад брыгадзіравых вачэй. Заўсёды той наперад пазнаваў, ці пойдзе Андрэй на работу па тым, наклёпана яго каса ці не. Ён браў касу з-пад падстрэшка, дзе яна заўсёды вісела, і спрабаваў клёп пазногцем, часта лаючы Андрэя апошнімі словамі.

Гэты раз каса была надзейна схавана ў хляве за скрыняй, на якой сядзелі куры, і Андрэй, падаўшыся на гароды, хутка схаваўся ў лазе, што падступала да самых калгасных гумнаў. За ёй пачынаўся малады і густы лес, які паступова, калі аддаляцца ад вёскі, быў парадзелы ад парубак.

Дарогі ён мінаў, ішоў узлессем, затым трапіў на даўнейшую пасеку, што за вайну зарасла арэшнікам і асінамі. Маладыя разгатыя рабіны, урадлівыя ў гэта лета, наўкруг абступалі яе. Здалёк здавалася, што яны звешваюць на дол вышытыя прыгожымі жоўта-чырвонымі ўзорамі ручнікі з адмыславатымі шлякамі ля самай зямлі, — дзе абвіслае галлё гублялася ў зялёным маліннiку і высокай мятліцы.

Паляна выводзіла аж на Жукаўшчыну, якраз да таго месца, дзе ён спыняўся тады ноччу, едучы з лугу.

Расціснуўшы пальцамі некалькі разбухлых ад дажджу малін, ён укінуў іх у рот, пакорпаўся ля куста, каб знайсці яшчэ якую ягаду, затым падаўся ў кірунку да поля.

«Час не марудзіць так, як я», — азіраўся ён па баках. Пад нагамі трашчала векавечнае гнілое ламачча і згінаўся малiннік. Андрэю здавалася, што лес повен падазроных людзей, якія ідуць за ім і шушукаюцца. Але гэта хутка прайшло.

Чаго яго цягнула гэтак у Жукаўшчыну, ён і сам добра не ўсведамляў. Нібы хто повад накінуў на шыю і гне яе, нахіляючы ўсяго ўперад...

Мусіць, хацелася дазнацца адно — ёсць блізка каля лесу снапы ці не?

«Такое густое там было жытцо... Каласы, як волава», — думаў ён.

У адным месцы да паляны блізка падыходзіла дарога. Заіржаў недалёка конь. Андрэй спыніўся. Затахкалі па карэнні колы, і неўзабаве паказаліся вазы з сенам. Ён не ведаў, што гэта былі за падводы.

«Мусіць, нарыхтоўку цягнуць леснікоўцы», — падумаў Андрэй, падаючыся на другі бок паляны.

Раптам у яго за плячыма ўзнік страшэнны гул, шалёны звон і посвіст непрыемна разануў вуха. Як стрэлы, высока пранесліся тры рэактыўныя самалёты, пакідаючы за сабой у чыстым небе белыя кучаравыя дарожкі — кожны па дзве.



«Ратунку няма ад гэтых чарцей. Выюць дзень і ноч. Можа дзе мітрэнга якая на свеце... — яму раптам захацелася павярнуць у вёску, але ён стрымаўся. — Калі ж іх цяпер у небе больш, чым падвод на дарозе. Снуюць. Кожны па сваё...» — пусціўся ён у развагі, і ногі неяк самі прыбавілі кроку.

Адсюль, з паляны, на Жукаўшчыну можна было прайсці нават днём, і ніхто не заўважыць, бо кожны куст родны бацька.

Высунуўшыся з хмызняку, ён убачыў, што поле ад лесу ўсё было ўсеяна мэндлікамі. Далей, пад вёску, пачынаючы ад дубка, што вытыркаўся сваім верхам з-за нязжатага жыта, у вочы кідаліся кучы саломы: там недзе разварочваўся камбайн. Тут, пад лесам, даволі часта траплялiся высокія валуны, хоць і зямля ў гэтым месцы была на дзіва ўрадлівая. Адкуль з'явіліся яны тут — невядома: магчыма нават ляднік прыпёр іх сюды, і яны ляжаць, як памятка сівых вякоў.

Толькі не гэта цікавіла цяпер Андрэя. Нібы растраўлены блізкай здабычай звер, Андрэй не мог доўга ўстаяць на месцы. Але днём на такую здабычу не кінешся, і ён павярнуў з Жукаўшчыны. Тым больш, што душу недзе глыбока тачыў нейкі чарвяк; ён уядаўся ў яе, нібы жук-разак у падпаранае пад карой, праляжалае на зямлі дрэва... Ныла сэрца. Тут быў і страх, і ваганне, і адсутнасць надзейнага памочніка, што Якубчык лічыў самым важным.

«Аднаму?.. Рызыкоўна. Хіба адзін у полі воін?.. — горка ўсміхнуўся ён. — Але каго ж запалучыць? — моршчыў ён лоб. — Каб жа гэта Жукаўшчына была на загуменні, і хлопец мой падбег бы, не зломак ужо, — падумаў ён пра сына, — а то ж далеч, чысты свет...»

Як ні круціў Андрэй, а вымушан быў спыніцца на Рамане Сідарку.

«Гэты ўжо раз быў, тады... Хоць мала з яго толку, але ж язык у яго, як у цяляці: не пляце абы чаго па вёсцы. І патрымацца за шкляное рыльца любіць...»

Прышоўшы дадому, Андрэй рынуўся на ложак, як стаяў: у пінжаку, у ботах, нават шапкі не зняў.

— Засну троху. А ты, Вова, — клікнуў ён сына, — прывядзі да мяне Сідарку, так пад вечар.

— Добра, збегаю, — прапісклявіў той у адказ, возячыся ў парозе з іржавым веласіпедным вобадам, падганяючы яго пад леташнюю тачку, якая была на цяжкім коле ад арфы.

— А дзе маці?

— Жне за вёскай...

— Глядзі не забудзься... — адвярнуўся Якубчык спіною на хату і хутка засоп у нос.

Праз гадзіны дзве яго і расштурхаў Сідарка, увесь заспаны і ўскудлачаны, відаць, пасля ўчарашняга ён яшчэ не да адной удавы забягаў за чаркай, абяцаючы скасіць ёй шнур сенакосу, выдзелены на працадні. Вочы яго зусім асалавелі і плюшчыліся. Расшпілены пінжак, укачаны ззаду ў пер'е, ссоўваўся з плеч. Галава не паварочвалася, язык яго зусім не слухаў, мусіць, перасохла ў роце.

— Што табе трэба? Ад твайго шчанюка адбою няма, к чорту матары!.. Прыстаў, зануда, і цягне з ложку... Я б яму паказаў, каб матка не ўмяшалася... — зыбнуўся Сідарка і нахіліўся над Андрэем.

Той адразу, пачуўшы голас Рамана, ускочыў, працёр вочы, сыкнуў на Вову, каб ён вымятаўся прэч і, узяўшы Сідарку за абвіслы лацкан пінжака, павёў да стала.



Сідарку нельга было ўламаць. Нічога не хацеў слухаць: кажы яму канкрэтна, чаго пазваў — і ўсё.

Тады на стол з'явілася бутэлька і галоўкі цыбулі з чэрствым хлебам. Андрэй асцярожна, здаля ўпамянуў пра Жукаўшчыну. Выпіўшы крыху, Сідарка ачухаўся ад сну. Ён даўно ўлавіў, куды хіліць Андрэй, але рабіў выгляд, што нічога не цяміць з туманных намёкаў соннага чалавека.

Нічога не зробіш...

На стол з шафы была пастаўлена другая паўнюткая бутэлька, аж па газетную затычку, і масла на талерцы.

Цяпер ужо Андрэй развязаў язык. Усё ўмельства ўгаворваць ён выклаў тут, за сталом. Сам ён не выпіў нічуць, так толькі, для віду прыгубляў шклянку. А Сідарка, слухаючы няхітры план начной малацьбы Якубчыка, чэрпаў лыжкай масла і, патакваючы, ківаў галавою.

— Калі махнём удвух — не забавімся доўга. Сюды-туды, сноп пад калені і канец... — шэптам даводзіў Андрэй.

— Каму канец? Сідарку не канец... Сідарка нікуды не кранецца... Не палезе, як дурны на вароты... Факт.

— Не вярзі абы чаго. Возьмем мяшкі і пудзікі па два прыцягнем. Будзем збірацца, пара. Хопіць, хопіць! — учарэпіўся Андрэй за бутэльку, а то ты і так цягнеш не ў той бок. Стукнула ў галаўню. Так нічога не выйдзе. Слухай, Раман, ты даўно хадзіў туды на поле?..

— А масла тваё неблагое... жоўценькае... — ужо наўгад ткнуў Сідарка відэльцам у талерку.

Толькі ад Андрэя не так лёгка было адвязацца. Ён, мусіць, скумекаў, што хлопец залішне прыкідваецца, бо не такі ён і п'яны ад якога там паўлітэрка.

— Ты ў мяне глядзі... А ну вылазь з-за стала! Чуў?

— Нічарта не чуў!.. — гукнуў у адказ Сідарка. — Ведаем усе твае думачкі... Хопіць! Сідарка не такі... Не-е... Не абдурыш, як на лузе...— Раман піхнуў локцем бутэльку, яна зазвінела аб посудак і пакацілася па стале.

Андрэй хуценька сабраў усё з абруса і перанёс у шафу, злосна ляпнуўшы дзверцамі.

— Раман, перастань прыдурвацца, зараза!

— Куды схаваў? — цягнуў той рукі з-за стала. — Ладна, нясі, хавай!.. Быў скупы, скупым і здохнеш... — прабубніў ён нарэшце і асунуўся на лаву, апусціўшы пераносіцу на край стала.

Як ні тоўхаў яго пад бокі Андрэй, апроч упартага «адыйдзі!», не мог дабіцца нічога. Затым ён перацягнуў яго з лавы ў запечак, спрабуючы раскатурхаць. Нічога не памагала. Нарэшце ён вывеў таго на двор. Раману ж нібы язык адняло. Ён толькі мармытаў пад нос нешта благое. Якубчык зразумеў, што спаіў хлопца на сваю галаву. Ён плюнуў і пайшоў у хату, пакінуўшы таго праветрыцца на прызбе.



Калі ж ён праз некалькі часу выйшаў на ганак, Сідаркі на двары не было. Злосная лаянка зляцела з вуснаў Андрэя. Ясна, той «п'янюга» захацеў яго ашукаць.

«Але ты ад мяне не выкруцішся, лісіная скура», — скрыгатнуў ён зубамі.

Да Сідаркі дамоў адразу ж быў зноў пасланы Вова. Памятаючы бацькавы словы: «дастаць паршыўца з-пад зямлі», ён забег нават у некалькі хат, куды часцей за ўсё заглядаў Сідарка, але той нібы скрозь зямлю праваліўся.

У злосці, парашыўшы зглумлены паўлітэрак садраць з хлопца ўтрая і прымусіць таго прыкусіць язык, Андрэй прыкідваў новы план: ён пойдзе з Вовам.

«Хай сабе прывалачом і меней, але затое надзейна. Ніхто не будзе знаць і дзяліць ні з кім не трэба. А адклад не ідзе ў лад — снапы могуць звезці...»

Вечар прысунуўся раптоўна. З цемнатою вёска засталася ззаду. На ўзлессі было ціха, нават нудна. Мітрэнжылі камары і разам з сасновымі калючымі лапкамі лезлі ў вочы. Недзе далёка-далёка, у глыбіні лесу прыглушана стукаў тапор позняга дрывасека. Нават рэха не было. Мусіць, нехта з суседняга сяла пасля звозкі снапоў папрасіў у брыгадзіра каня з'ездзіць па дровы. На маладых сасонках ціхенька папісквалі нейкія мізэрныя птушкі, пырхаючы з сучка на сучок, нібы ўцякаючы ад кагосьці. Каля балота рыкала карова і галёкала жанчына. Ззаду, там, дзе была дарога, забрынчэў веласіпедны званок і нехта загаманіў...

Нічога не прапускала Андрэева вуха.

Сын жа больш чым апраўдваў ягоныя надзеі. Ён бег наперадзе, расхінаючы лапкі, не баючыся ні звяр'я, ні карчэўя.

«Не дарма я браў яго начамі з сабою. Кемлівы хлопец расце...» — усміхаўся ён тады па дарозе.

Цяпер ён сунуўся гэтай самай дарогай у Леснікі з апушчанай галавой. Жукаўшчына заставалася збоку. Праз рэдкае ўзлессе было відаць жоўтае поле, шырокае-шырокае, не змераць за дзень... Канчалася яно недзе там, дзе віднеліся на фоне белага ад летніх воблакаў неба толькі вострыя вершаліны далёкага векавога лесу. Там недзе фыркаў ні то камбайн, ні то калгасны «газік».

Трапяталася сэрца, калі Андрэй пачынаў думаць пра сустрэчу з Вайцехам. Першы раз ён ішоў у Леснікі ў такім настроі. Зацяганы, абшарпаны, аброслы барадою. Яшчэ дома яго кідала ў дрыготку, мо' таму ён у дабавак да ўсяго накінуў на фрэнч стары-стары плашч. Трымаўся ён на плячах і не разлазіўся толькі таму, што быў вельмі моцны і ўслед жа цыраваўся, варта яму было дзе-небудзь распаўзціся. Здавалася, плашч менш пацярпеў за ўсе мокрыя і халодныя гады ў сваім жыцці, чым яго гаспадар за адны суткі.

Пасля таго, як яго сястра Юлька амаль збегла ў Леснікі за гэтага самага Сяліцкага Вайцеха, то Андрэй ішоў да яго заўсёды з нейкім

гонарам, нібыта ён быў не Юльчын брат, а бацька, які прымусіў выйсці сваю прыгожую і багатую дачку за гэтага галайстру — Сяліцкага. Хоць, як кажуць, у гасцях гасціць — не сваю волю тварыць, але Андрэй прывык, каб яго кожны раз сустракалі паўлітэркам і ласункамі. Ён, вядома, меў права быць госцем, і Вайцех яму многа год сапраўды быў рады.

Якубчык памятае, як Юлька перабралася да Сяліцкіх без ніякага вяселля і якраз перад тым, калі пайшлі ў калгасы. Не хацеў радніцца з Вайцехам Андрэй... Але дзе ты дзенешся!.. Вайцех тады стаў дэпутатам, і любоў нейкая з'явілася ў яго сястры-камсамолкі да гэтага лесуна. Паспрабуй стаць упоперак дарогі... А што гаварыць пра свае валокі, якія засталіся ад бацькі, і нейчыя шнуркі — калгас усіх зраўняў.

Пасля, здаецца, яны і нядрэнна жылі і згоду мелі. Забыліся пра мінулае, памагалі адзін аднаму сім-тым.

Толькі як сустрэне цяпер той суровы чалавек, які, як гаварылі пра яго на вёсках, і вока за ўсё жыццё нікому не запарушыў, і які пасля смерці жонкі стаў пазбягаць яго, Андрэя. Ведае, мусіць. Дайшло і да яго...

К паўдню, відаць, бралася добра распагодзіцца. Там, угары, за сасновымі вершалінамі віднелася блакітнае неба, пацягнутае рэдзенькай баваўнянай павалокай. Нават у цяні густога лесу адчувалася, што прыграе сонца.

Перад самымі Леснікамі, крыху звярнуўшы з дарогі і паклаўшы веласіпеды на зямлю, корпаліся ў зблытаным маленніку два юнакі. Адзін здаўся яму знаёмы.

«Павырасталі. Новы свет пайшоў. Хутка нікога не пазнаеш...»

Лес здрабнеў, і між сасновых стваловў выглянулі крытыя новай гонтай стрэхі хат.

Нешта ў сярэдзіне балюча занылa.

## IV

Апошнія дні Вайцех толькі і думаў пра швагра. Ён чакаў яго з часуна-час, збіраючыся аднесці пасцілку ў канцылярыю, але ўсё адкладваў на заўтра: старшыня быў у раёне. На месца пакражы Вайцех ужо звадзіў двух членаў праўлення і дэпутата. Склалі акт. Хтосьці настойваў выклікаць міліцыю, але Вайцех заявіў, што злодзей прыдзе сам, прасіў пачакаць дні са два і не ўзнімаць вэрхалу. Члены праўлення толькі паціснулі плячыма, здзіўлена паглядзеўшы адзін аднаму ў вочы, але згадзіліся з Вайцехам. Толькі дэпутат ніяк не ішоў на такі план, і, каб раслумачыць таму, Вайцеху прыйшлося весці доўгую гутарку.

Вайцех ведаў натуру Андрэя і быў упэўнены, што той прыдзе. Ніяк ён не вылазіў з галавы, стаяў перад вачыма: хітры, ваўкаваты. Вайцех яшчэ не ведаў, што на свеце няма ранейшага Андрэя, а ёсць толькі згорблены і паранены ім чалавек.

«Быць не можа... Няўжо я яго падстрэліў?.. З такой стрэльбы, ды яшчэ соль — далёка не папрэ...»

Сёння раніцой, прышоўшы з Жукаўшчыны, ён ледзь звёў вочы, як прысніў сон...

...Яны з Андрэем, аручы на быках пад лесам, знайшлі золата. Цэлы



гладыш. Бліскучае такое, чырвонае, нібы гэта быў збан з гарачым вуголлем. Але што такое... Андрэй згроб яго пад паху і хоча ўцячы.

— Аддай, аддай!.. Калгаснае!.. — закрычаў Вайцех.

Адкуль узяўся нож, і ён, Вайцех, — о, гора!.. — замахнуўся ім на Андрэя, але аднекуль з'явілася Юлька і, нема закрычаўшы, ухапілася яму за руку. Ён прачнуўся і адразу ўскочыў з ложка.

У ваччу доўга яшчэ стаяла маладая і гарэзлівая Юля, як і трыццаць год назад, калі яны ўпершыню спазналі адно аднаго...

...Хто мог сказаць, хто мог падумаць тады, што будзе ўперадзе!..

Яны былі шчаслівыя. Яны любілі адно аднаго... Яны любілі і дзяцей... Як горка часам адчуваць, што шчасце ўжо мінула, прайшло, знікла ў віры жыцця і яго не вернеш ніякімі варункамі. Не, яно само не прайшло, не пакінула яго. Яно страчана назаўсёды па волі людзей, якіх яшчэ носіць зямля... Эх, жыццё, жыццё... Але што наракаць на яго?.. Вінават ён, Вайцех. Сам не змог зберагчы сваё шчасце. Але хіба будзеш ведаць, на якой ты кладцы спатыкнешся? Гэтулькі ў жыцці няроўных дарог...

Няўжо ён тады спатыкнуўся? Няўжо ён даў які-небудзь знак для таго, каб воля Андрэя павяла за сабою Юльку?.. І куды? На верную смерць...

Цяжка ўспамінаць тыя часы, калі яго дома на папялішчы не сустрэў ніхто: ні жонка, ні дачка... А можа і не варта прыпамінаць мінулае? І звер жа не заўсёды бегае па адных і тых жа слядах... Але цяжка ўтрываць, калі адчуваеш штодня, як амаль учора яна, Юлька, лашчыла цябе і прымала з такой ахвотаю тваю пяшчоту...

Яна — жонка. Як многа Вайцех звязваў з гэтым словам... Для яго яна была ўсім: у маладосці — несціханай радасцю, непаседлівасцю, замілаваннем; а пасля — сямейным спакоем, мацярынскім шчабятаннем над калыскай, клопатамі, каб хаця раслі сыны. Жонка... Цаны ёй не было... Яе чорныя вочы амаль ніколі не кідалі ў яго бок папракальных або падазроных паглядаў. Ён быў варты гэтага.

Толькі няма чаго цяпер варушыць попел згарэлых да тла дзён. Нічога не вернецца. А слёзы не памогуць ніколі, як не памаглі яму тады. Мужчынскія слёзы — дурная раса. Ён і не плакаў тады многа. Ён зміры-ўся з тым, што ў яго няма больш самага дарагога. Але колькі разоў гэтае слова — жонка, да якога ён стаў цяпер чорствы, кроіла яму душу, і здавалася часам, што яе ранаў не можа залячыць ніякі бальзам...

Чорт і да пекла прывыкае, прывык і Вайцех да адзіноты. Хаця тады яшчэ ішла вайна, якая прымушала забывацца на ўсё, калі трэба было да болю ў руках сціскаць аўтамат...

Адзінокае жыццё сушыць сэрца. Але ён не лічыў сябе зусім адзінокім. У яго ёсць дачка, такая ж чарнавалосая і чарнабровая, толькі па характару можа менш жвавая, як маці. У бацьку крыху ўдалася. Ён будзе жыць для яе, будзе яе вучыць, будзе шанаваць, як толькі зможа. І сам ён дажыве веку пры ёй. Дзе ўжо яму маладзіцца. Старасвецкі дуб, які вынес на сабе незлічоныя буры, не можа расці ўгору і пышна зеленець. З кожнай вясной на ім усё менш і менш зялёных галін... Дык няхай будзе яму ўцехай маладое, гонкае дрэўца, што расце пад яго ша-

тамі, і няма чаго хіліцца праз дарогу да каржакаватай, усёй у грыбах і з абламаным голлем бярозы...

Дачка! Толькі дачка, адзіная, самая меншая з сям'і, можа загаіць яго раны душы, а астатняя радасць — не радасць. З трох сыноў у вайну ўцалеў толькі адзін. Ён недзе ў арміі. Афіцэр... Ён любіць бацьку, але не так, як дачка...

Чым больш Вайцех стараўся не думаць пра мінулае, яно неяк само лезла недзе адтуль, з яміны далёкіх, горкіх год. Яго варушыў, у ім капаўся адзін чалавек, з якім Вайцех у жыцці ніколі больш не хацеў сустракацца. Гэта — Андрэй, яго швагер. Гэта ён не хацеў тады, каб Юлька жыла з ім, ён графіў прыкончыць яе.. Хоць праз многа год, але ён, здаецца, стрымаў сваё слова. Ён сапраўды збяёдаў яе...

Нехта разумны сказаў: калі ў людзей у жыцці разыходзяцца дарогі, то разыходзіцца і дружба. А ці была ў іх наогул дружба? Калі і была, то даўно разышлася, а вось дарогі ніяк не маглі размінуцца.

«Не. Не я стаў яму папярок... Не! Божа барані!.. Ён мне ўсё жыццё атруціў... Ад сонца засланіў... І выходзіць, што я цяпер магу яму адпомсціць... — думаў Вайцех, не знаходзячы сабе месца ў хаце. — Можа ён так будзе думаць... Не помста ў маім сэрцы гаворыць... Цяжка мне пакрывіць душою з-за такога чалавека, які нікому на свеце вось на гэтулькі не зычыў дабра...» — Вайцех дакрануўся пальцам да кончыка завостранага алоўка, які ляжаў на акне. Ім нядаўна нешта пісала Аля — яго дачка. Ён апусціўся на лаву і глянуў у гародчык. Лісце з чаромхі ўжо густа пакрывала зямлю. Курчыўся і чарнеў ліст на бэзе. Пад кустом язміна капаліся куры. Яны былі задаволены ціхім, бесклапотным летнім днём, які нёс адметы восені. Але дзе ім зразумець гэта... Капаюцца і ўсё. Як ім добра, вольна і прасторна пад кустамі бэзу і чаромхі, у цяньку.

Толькі... што гэта?.. Вайцех упіўся вачыма ў зямлю. Патроны... Яны, аўтаматныя патроны... Куры перакочваюць іх дзюбамі, як сухія стручкі гароху... Вайцех аж задрыжаў ад радасці. А ён думаў, што яго аўтамат замоўк. Не... Яму трэба толькі паўхвіліны, каб набіць ражок, і тады немцы зноў адкоцяцца ў лагчыну. Разведчыкі застануцца жыць і прабяруцца ў брыгаду... Вочы яго расшыраюцца і становяцца нерухомыя, барада апускаецца на кулакі, лоб дакранаецца шыбіны.

Вайцеха паглынаюць успаміны...

Пушча цягнула ад сябе вячэрняй цішынёй. Хацелася адпачыць ад бяссонніцы і стомы, забыцца на ўсё, перачакаць ліха... Але было не да забыцця.

Здаецца, нехта водзіць палкай па частаколу, нехта скідвае з гары дошкі адну за адной...

Рэха ад стрэлаў далятае да іх адусюль: злева, справа, спераду, ззаду... Апошняя нямецкая блакада. Немцы кінулі з фронта рэгулярныя часці на партызанскія раёны. Брыгада Кутузава трымала шэсць дзён абарону па рацэ Віліі — ад Камена да Пагоста. Немцы нерваваліся, лезлі з ходу да рэчкі, пасыпалі ўзлессе мінамі. Бухалі іх гарматы і надакучлівыя «месеры» шнырылі над неглыбокімі партызанскімі акопамі. Немцы ў гарачцы і ў злосці гатовы былі на ўсё. Яны перлі перад сабою да рэчкі жывёлу, а самі, тулячыся за яе, краліся да берага... Або, сабраўшы каменскіх і пагосцкіх жыхароў,— жанчын, дзяцей, старых,— гналі іх у брод, а самі ціснуліся за імі ззаду.



Нарэшце, ашалелыя эсэсаўцы кінуліся ноччу да рэчкі і прарвалі абарону кутузаўцаў...

Партызаны адступалі ў кірунку Бягомля, на Палік. Жоглаўка і Лесьнікі адразу былі заняты немцамі. Кутузаўцы пераправіліся праз раку Дзвінасу і стрымлівалі націск немцаў з боку Жоглаўкі.

Да Паліка далёка. Палік — возера, балота, пушча. Туды бягуць усе бліжэйшыя раёны: Плешчаніцкі, Лагойскі, Бягомльскі... Партызаны з боем і без бою, ноччу і днём здаюць немцам вёскі ў пажары. Але покуль той Палік... Урэшце трэба будзе ісці на прарыў. Уперадзе баі, голад, твань, «месеры» з бомбамі, эсэсаўцы з аўчаркамі, што выцягваюць чалавека з-пад любога карча...

Ісці на прарыў трэба цяпер, тут, каля Дзвінасы...

Так рашае камандаванне партызанскіх брыгад «Народнага мсціўца» і «Кутузава».

Штаб брыгады Кутузава размясціўся ў вёсцы Вінера, якая туліцца за Дзвінасой. Камісар брыгады Мясуноў, шыракатвары, нервовы мужчына з чырвонымі ад бяссонніцы вачыма, які замяняе раненага камбрыга, выклікае з перадавой пазіцыі брыгадных разведчыкаў... Вайцех забягае ў крайнюю — штабную — хату апошні... Ім, чатыром разведчыкам, трэба пранікнуць у тыл ворага у раёне Леснікоў — Жоглаўкі, разведаць размяшчэнне немцаў, іх магчымыя слабыя месцы, каб, прарваўшы абарону на Дзвінасе, можна было адразу адарвацца ад праціўніка.

Іх чацвёрка: камандзір брыгаднай разведкі Сашын, Вайцех, яго аднавяскоўвец Іван Кацярынчык і невысокі маладзенькі Міцька Гарэлік. Яны пакінулі Вінеру на заходзе сонца.

Ноч іх атульвае за Дзвінасой, у дрымотнай пушчы, што вядзе ў Ямское, дзе пачынаюцца пакінутыя зямлянкі іх брыгады.

На гэты бок Дзвінасы да Леснікоў цягнецца нізінная пясчаная каса — вясновыя намывы і наносы. На ёй нічога не расце. Каса вядзе да маладога сасняку, дзе цяпер паблісквалі ў цемені кастры. Каля іх мітусіліся людскія сілуэты.

Вайцех зразумеў, што наблізіліся да першай пазіцыі немцаў. Яе не абыйдзеш: яна цягнецца кіламетраў на сем у адзін і ў другі бок аж да непраходных балот, якія нават і ноччу абстрэльваліся з мінамётаў.

Ідуць ланцужком, сагнуўшыся: Вайцех, Кацярынчык, Міцька і Сашын. Прыпыняюцца, прыслухоўваюцца. Галоўнае, не выдаць сябе раней, чым паспеюць дайсці да акопаў.

...Немцы перасталі страляць: вячэралі. Выдалася хвіліна цішыні. У яе назойліва ўрывалася незнаёмае шваргатанне, і недзе ўперадзе ракаталі маторы. Затым зноў усё патанула ў траскатні і клёкаце. Вайцех адчуў, што падчас страляніны смялей ісці: па крайняй меры, ведаеш, дзе ражон.

Канчалася каса. Кулямёты, відаць, вартавыя, загаварылі ззаду. Стралялі ўжо не ў іх бок. Сасняк уперадзе зліваўся з цеменню; ярчэй заблішчэлі кастры і заляпалі нейкія бляшанкі. Агеньчыкі цяпер палалі па ўсяму сасняку ўздоўж касы, і недзе там, у кутку, ля балота яны мітусіліся папяроскамі.

Сашын падаў знак «прарыў!». Прыўзняўшыся, Вайцех заўважыў перад сабой жоўты пясок бруствера. Завагаўшыся, прыпыніўся без усякага сігналу, і ланцужок, якім яны ішлі, парушыўся. Вайцеха ўжо мінаді разведчыкі. Сашын ціхенька свіснуў, што значыла «бягом»: па-

чыналіся акопы. Вайцех заўважыў, што хлопцы нырнулі ў цемнату. Ён рынуўся да бруствера і скокнуў уперад.

Цяпер па ўсім сасонніку шумела страляніна.

Вайцех шмыгнуў у гушчар ля нейкага бліндажа, відаць, штабнога. Каля яго не было салдат, толькі адзін вялізны немец стаяў у дзвярах навыцяжку і не звяртаў увагі ні на страляніну, ні на чалавека, што пёрся амаль на яго.

Тут было цэлае скопішча эсэсаўцаў. Сасняк ля самай дарогі, за якім пачыналася багна, даў ім тут прытулак. Яны ляжалі ў акопах параспрананыя або проста на зямлі ля агнёў...

Стралялі ўжо ў Вайцеха, але кулі свісталі недзе ўверсе.

Ад агню яму раптам насустрач кінуўся нехта сагнуты з пісталетам у руцэ. Вайцех, націснуўшы на курок, ткнуў ствалом аўтамата яму ў грудзі, адкінуўшы таго потырч на зямлю.

Лес стагнаў ад стрэлаў і крыку.

Трэба было ратавацца...

Такая цішыня... Здаецца, далёка чуваць, як лопне пад нагою порхавачка...

Насцярожанасць змяняецца сумам. Ён выплывае аднекуль з невядомага яшчэ кутка душы, як з цемры лесу, і, нарастаючы, прымушае задумацца і зажурыцца.

Вайцех павярнуў бы адгэтуль за Дзвінасу: заданне ж, лічы, выканана. Ясна. Прарыў трэба рабіць у кірунку лагераў. Але ж ногі чамусьці не слухаюцца, цягнуць туды, у Жоглаўку, дзе ён некалі ўпершыню сустрэў сваю Юльку... Ага. Цяпер Вайцех ведае, што не дае яму павярнуць назад. Не толькі трывога па разведчыках... Іх у Жоглаўцы няма, ён гэта знае... Але хвіля сюды, хвіля туды. За ноч ён паспее прабрацца за Дзвінасу, ён будзе бегчы, пакуль хопіць сілы... Ён вернецца, далажыць аб усім Мясунову, але каб толькі пабачыць яе і дачку...

У цемры лесу неспакойна варушыцца чалавек, і трывожна б'ецца яго сэрца.

Пра свой дом Вайцех не думаў. Згарэла і хата, і варывенька; паабгарэлі таполі і стаяць чорныя, пажоўклыя. Ён пранік хмызняком на загуменне і заглянуў да сябе ў хлеў, што застаўся цудам. Пахла гарам і дымам, печанай бульбай і прэласцю, якая ішла ад размяклай гліны на пажарышчы. У хляве на памосце валялася сена, сапрэлае, пацёртае. Вайцех капнуў нагой і ўбачыў тры мятровыя кійкі-стэкі. Ён падняў адзін з іх і тут жа з агідаю, адкінуў. Зрабілася мутарна: стэк быў запэцканы ў кроў...

«Не сабак жа яны імі паласавалі, ірады... Мала іх біў, мала...» — закусіў вусны Вайцех і падаўся з папялішча.

Надвячэрняя цішыня нязносным сумам агартала яго душу. Няхай бы лепш шумеў злосны вецер, няхай бы ляпалі ў хляве дзверы ад шалёных парываў і размятаўся па пажарышчы попел, рассейваўся, каб яго больш ніколі не бачыць... Няхай бы шумелі абгарэлай лістотай пакалечаныя таполі, і ў іх жалобным шуме хай бы чуўся адвечны праклён тым, хто сёння спапяліў і жыццё і душу чалавека... Лягчэй было б тады на сэрцы Вайцеху. А так... Ён па-мужчынску змахнуў пальцамі слязіну з вачэй і расхінуў аўтаматам хмызняк на ўзлессі...

... Трывожная ноч... Недзе далёка ў глыбіні лесу азваўся раптам груган... «Куррл...» Чаго гэта ён не ў сваю пару? Нашто спатрэбілася і яму трывожыць цішыню ночы і душу чалавека?



Аднекуль з лапак зляцела вялізная начніца; трывожна зацыгікаўшы, кінулася Вайцеху пад ногі і шалёна замахала крыламі.

Ельнік канчаўся. Пачыналася палянка, якая ўдалечыні адсвечвала белым пяском; там, мусіць, была дарога. Выходзіць на яе было рызыкоўна, і Вайцех трымаўся ўзлесся, дзе яго ў любы час мог прыхінуць ельнік. Нарэшце, кончыўся і хмызняк. Ён абрываўся раптоўна, за ім расплываўся ў рэдзенькім тумане лог, дзе і пачыналася Жоглаўка.

На сцежку з каменем Вайцех адразу не трапіў; прыйшлося яшчэ падацца крыху алешнікам пад рэчку, каб трапіць на яе. Але дарэмна Вайцех стараўся хутчэй праверыць камень: аўтаматнага ражка на ім не было.

Ён спыніўся.

«Значыць, разведчыкі яшчэ тут не прайшлі. А мо' яны збочылі і ўжо мінаюць Дзвінасу?— Яго раптам моцна-моцна пацягнула назад...— Але ж дамаўляліся... Можа іх яшчэ трэба пачакаць, каб потым рушыць разам? Смялей жа гуртам, ды і абмяняцца сім-тым трэба. А можа з імі што здарылася? Маглі наткнуцца...»

Думку аб тым, што разведчыкі маглі загінуць, ён стараўся ўтапіць у глыбіні разважанняў, не даючы ёй выплываць наверх.

«Што рабіць?» — у каторы ўжо раз узнікала ў яго гэтае вечнае пытанне.

Вайцех прыслухаўся. Вёска маўчала, як у сне. Ясна. Там нікога няма, бо адвячоркам праз яе яшчэ хадзілі нямецкія машыны. Хто гэта будзе сядзець у ёй на згуб галавы. І тут Вайцех падумаў пра Андрэя. Ён жа сувязны.

Вайцех пакінуў на камені аўтаматны ражок, як і дамоўлена, і, прыслухоўваючыся, стаў пасоўвацца ўзмежкам да першых будынін, што чорнымі прывідамі выступалі з цемнаты. Ля плоту ён зачапіўся крылом пінжака за канец віткі. Яна затрашчала так моцна, што Вайцеху здалося: недзе чуваць аж у другім канцы вёскі. Ён упаў, чакаючы кулямётнай чаргі. Але ніхто не парушыў спакою ночы. Вайцех прыўзняўся. Ціха ў вёсцы, што ў глухую восень у лесе. Ён пералез праз плот і пайшоў па загароддзю. Раптам прыпыніўся, праціраючы вочы: уперадзе бліснуў агеньчык, бліснуў цьмяна, не разабраць — папяроса гэта ці промень ад ліхтара. Вайцех агледзеўся — ён быў на гародзе Якубчыкаў. Вось іх высокі паркан, вунь цямнеецца садок. Зноў бліснуў агеньчык, але гэты раз ужо не згас. Вайцех пракраўся між паркану і хлява на двор. Агеньчык гарэў недзе ў хаце, і святло ад яго ледзь-ледзь пранікала на двор праз завешанае нечым тоўстым акно.

«Значыць, у хаце людзі...» — Вайцех паклаў палец на курок аўтамата.

Доўга прыйшлося шукаць клямкі. Нарэшце, зарыпелі набраклыя дзверы, і хтосьці, заварушыўшыся, усхапіўся з ложка і сеў. Яго цяжка было разгледзець у цьмяным святле газоўкі, што паблісквала ў глыбіні хаты. Ці здалося Вайцеху, ці той застагнаў:

— Хто тут?.. — залішняя хрыпата ў голасе выдала Андрэя.

— Свае... Вайцех... — Вайцех здзівіўся, як гэта яго не мог пазнаць з-за парогу Андрэй.

— Ы-ы-х... — цяпер ужо моцна застагнаў на ложку Андрэй і, адваліўшыся да сцяны, ухапіўся за галаву.

Вайцех кінуўся да яго. Той плакаў, заплюшчыўшы вочы і ашчэрыўшы сціснутыя зубы. Плакаў без слёз, наўзрыд...

Вайцех схапіў яго за плечы і стаў трэсці, затым кінуўся ў парог, шукаючы вядро з вадою. Толькі цяпер ён заўважыў, што ў хаце амаль нічога не было: ні ў першым, ні ў другім пакоі, дзе гарэў агонь. Ні стала, ні лаў, ні пасуды. У запечку было поўна саломы, якую, відаць, вытраслі з сенніка. Усё было перавернута ўверх дном. Развёўшы рукамі, Вайцех вярнуўся да ложка, не ведаючы, чым вярнуць да прытомнасці Андрэя. Але той ужо сядзеў, звесіўшы долу доўгія ногі. Сядзеў, неяк занадта выпрастаўшыся, і адкідваў назад галаву. Барада яго трэслася, і, здавалася, што яго ўсяго схапіў стаўбняк. Вось Андрэй перавёў чырвоныя вочы з Вайцехавага твару некуды ў глыб хаты, і зноў яго затрасло, курчачы ў сутарзе рукі.

— Што з табою, Андруша?

Андрэй раптам саскочыў з ложка і, не ўстаяўшы, усім сваім цяжкім целам прыпаў да Вайцеха. Вайцех адчуў, як яму ўпёрся ў жывот дыск аўтамата. Ён пахіснуўся, спалохаўся хворага чалавека. Твар таго гарэў, як у агні.



— Я жывы застаўся. Са мной нічога... Але з ёю... — ён зноў зарыдаў, і Вайцеху прышлося выцягваць з яго амаль кожнае слова. — Не ўратаваў яе, не ўбярог... Гора мне... гора... Рэж мяне, бі... Мне будзе лягчэй... Не маўчы толькі...

— Дзе? Што?.. — Вайцех замітусіўся па хаце, вызваліўшыся ад Андрэя. А той, стогнучы, кінуўся да сцяны, дзе раней заўсёды стаяў куфар, і ўпаў на нешта цвёрдае, загорнутае ў пасцілку.

«Няйначай кантузія сказваецца на чалавеку...» — Вайцех яшчэ як след не мог разабрацца, што зрываецца ў Андрэя з языка, але адчуў, як яго самога страсянула, нешта застукала ў скронях. Ён падняў Андрэя і сам, нагнуўшыся, адхінуў рог пасцілкі... Цьмянае святло газоўкі асвяціла белы твар Юлькі. Знаёмы, дарагі твар... Вайцеха хістанула, выпрастаўшыся, ён прыпёрся да сцяны. Яму здалося, што ён моцна закрычаў, але сам гэтага не пачуў. Нешта гарачае здавіла горла і пачало душыць... Хату завалакло туманам, святло газоўкі здавалася вялізным полымем, што шугала недзе далёка-далёка ў цемені. Забалела галава востра-востра,



прыступамі... Нехта недзе гаварыў Андрэевым голасам у гэтым змроку і дыме, дзе цяжка было дыхаць...

— Мінаю... мінаю падарвалася... — нібы вострыя дзіды калолі словы Вайцеху ў сэрца. — Я пераступіў... А ёй собіла наткнуцца.. — пасля нехта заплакаў голасна, дзіка; затым маўчаў, а тады зноў выводзіў спакойна, надрыўна: — А я яе нёс... А я прытуляў... — гэта ўжо было не гора і не слёзы чалавека, а бог ведае што...

Сэрца ў Вайцеха закамянела. Ён адчуў, як халадзее ўвесь, астываючы, нібы пасля агню, з якога яго выратавалі.

Ён апусціўся на калені і, пагладзіўшы далонямі Юльчыны рассыпаныя мокрыя валасы, падняў на руках ад зямлі яе галаву і прыпаў да халодных вуснаў. Затым стаў цалаваць у цвёрды астылы лоб і пабялелыя шчокі... Пачаў раскрываць яе ўсю, адхінаючы пасцілку і не бачачы свету. Глянуў туды, дзе павінны былі быць яе ногі, ён убачыў толькі ўмазаную ў нешта чорнае падлогу.

«Запяклася кроў... — недзе мільгануў абрывак думкі. — Можа б і жыла, каб адразу перавязалі. Жыла б, напэўна жыла б...» — тут ужо ён не мог быць уладаром над сваімі слязьмі. Яны цяклі па шчоках, па барадзе, капалі на рукі. Калі падняўся, яму здалося, што зямля правальваецца пад ім.

Няпраўда, што слёзы аблягчаюць гора... Яны цяклі і раз'ядалі душу Вайцеха.

Адна думка толькі цяпер можа і аблягчала гора Вайцеха; не, яна проста прымушала нешта рабіць, прымушала варушыцца, і гэта хоць крышку магло адцягнуць яго ад балючай сапраўднасці: памёршага заўсёды хаваюць...

Ды і як жа пакінуць яе тут... Пакінуць на аднаго кантужанага брата, за якім таксама патрэбен догляд. Не. Вайцех гэтага не зробіць. Ён правядзе яе ў апошні шлях сам, сам закрые яе вочы. Ён не пакіне, не аддасць яе нікому на свеце... Яна — яго, яго назаўсёды... Ён пахавае яе на могілках, пахавае сёння ноччу і затым будзе прабірацца да сваіх...

Вайцех знімае аўтамат, кладзе яго на ўслончыку ля печы і пачынае хадзіць па хаце:

«За што зачапіць рукі?..»

Андрэй панура сядзіць на ложку, не паварухнецца. Ён здранцвеў.

— Дзе вам собіла?.. — словы Вайцеха прымусілі таго ўздрыгануць.

— На дарозе.

— А дзе Аля?

— У лесе, з бабамі... Яна не ведае...

— І не гавары ёй... Сякеру і пілу знайдзі. І цвікоў.

Праходзіць час, і цьмяна асветленую хату напаўняе глухі звон пілы аб смаляныя ўсохлыя дошкі, што да гэтага дня былі яшчэ столлю...

Пакладзеныя ў дамавіну пасцілкі былі паверх накрыты белым абрусам, які прынёс Андрэй недзе з хлява. Дамавіну паставілі на ўслоне пасярод хаты.

Твар Юлькі яшчэ больш пабялеў, калі яго з бакоў атуліў белы абрус. Чорныя доўгія яе валасы Вайцех расчасаў, паволі заплёў косы і паклаў іх ёй на грудзі.

Як можа стрываць сэрца чалавека, калі ў яго аднімаюць самае дарагое!.. Яно не вытрымлівае, яно абліваецца крывёю, яно баліць, ные...

Вайцех, зарыдаўшы, прыпаў да яе грудзей...

«Устань жа, устань... Хоць апошні раз адплюшчы вочы, зірні... Я тут... Я не пакіну цябе... Я з табой, горачка маё, гора...»—яму здаецца, што ён плача, прымаўляючы, крычыць, а ён толькі думае. Думае ціха, уздыхаючы.

Да яго пляча дакранаецца Андрэй:

— Я збегаю да Сідаркавага хлопца... Па каня...

— Як жа ты пабяжыш нядужы?..

— Нічога. Вось убачыш... За платы буду трымацца, а дабягу. Ён жа з канём начуе дома. Тут недалёка. А што б я адзін зрабіў? Пакуль прышоў з ёй — знямогся, ды і ў плячы смыліць, ные... Чакаў, пакуль хоць баба якая з лесу прыдзе; прасіў жа праз Сідарку, каб жонка падышла, калі не збаіцца... А можа заўтра пахаваем яе з бабамі самі? Ідзі, калі трэба, у брыгаду.

— Ты многа гаворыш, Андрэй. Бяжы да Сідаркі...

Вайцех зменшыў агонь у газоўцы і застаўся ў хаце адзін; адзін на зэдліку ля сваёй Юлькі, якая пакідае цяпер яго назаўсёды. Жудасная цішыня запанавала ў хаце. Вайцеху здаецца, што Андрэй павінен вось ужо вярнуцца назад, што ён доўга затрымаўся, хаця яшчэ стаіць у вушах стук дзвярэй, калі Андрэй выходзіў з хаты.

Вайцех услухоўваецца ў цішыню. Але цішыні даўно няма, яна ажыла. У хаце моцна гамоняць, аж звініць у галаве. Поўна вясковых дзяўчат, ад застолля да самага парога. Яны весяляцца, ідуць карагодам. Яны знікаюць і зноў паўстаюць, прыгожыя, зграбныя. І сярод іх— Юлька... Уся ў белым, да пят. Толькі звіслі на грудзі яе чорныя косы. Яна вядзе карагод, яна некуды зманьвае за сабой дзяўчат, затым паяўляецца ў дзвярах. За ёю зноў дзяўчаты з вянкамі... Яны зыходзяць са столі, прыплываюць з вокан, акружаючы Юльку. Што гэта?... Яны пяюць. Пяюць працяжныя жніўныя песні. Але чаму так жалобна, так сумна?.. Чаму яна, Юлька, не скажа ім пець што-небудзь іншае?..

Вайцех зноў зарыдаў, прыпаўшы да яе грудзей.

Расчыніліся дзверы, і ў хату з аўтаматамі ў руках увайшлі Кацярынчык з Сашыным. Убачыўшы схіленага над дамавінай чалавека, яны трывожна пераглянуліся між сабой і, зняўшы шапкі, ціха наблізіліся да Вайцеха.

...Стукае далёкі кулямёт, стукаюць па калдобінах грэблі калёсы, стукае Вайцехава сэрца.

Ідзе Вайцех і не чуе ён ні тарахцення колаў, ні таго, што ў кустах заліваюцца салаўі.

Ідзе Вайцех збоку калёс і трымаецца за дамавіну. Асцярожна пасоўваецца рука па яе шурпатай, негабляванай паверхні. Конь ледзь калдыбае па няроўнай дарозе. Ён таксама замучаны.

Адзін Вайцех ля калёс, адзін са сваёй Юлькай... Кацярынчык з Сашыным, узяўшы лапаты, падаліся наперад, на могілкі. Убачыўшы прыбітага горам Вайцеха, ім нічога не заставалася, як памагчы яму пахаваць жонку, якая і іх — партызан — заўсёды сустракала, як маці і сястра.

Уперадзе, недзе на шашы, успыхнулі агні фар і, нібы спалохаўшыся цемнаты, адразу згаслі.

Толькі цяпер Вайцех успомніў, што навокал ноч, кароткая летняя ноч, і што трэба спяшыць вярнуцца назад, што хлопцы таксама рызыкуюць і што з імі няма больш Гарэліка.



Вайцех з мальбою глядзеў на каня, калі той рухавей затупаў, падымаючыся на горку. Ляскаталі калёсы, парушаючы спакой ночы і зноў хаваючы ад вушэй Вайцеха рэдкія стрэлы.

Неўзабаве рызматай чорнай пасцілкай на фоне неба паказаліся вялікія старадаўнія вясковыя могілкі.

Разведчыкі моўчкі знялі труну з калёс і гэтак жа моўчкі апусцілі яе ў чорную ад цемнаты яміну.

Гарачыя слёзы змешваюцца з халодным белым пяском. Іх ніхто не можа ўбачыць у начным змроку. Іх толькі можа адчуць жалеза лапаты, якая назаўсёды закрывае ад вачэй Вайцеха любімага чалавека.

...Вайцех апошні пакідае могілкі...

Ужо на золаку, перасекшы шашу, разведчыкі падаліся ў бярэзнік, што вёў у пушчу, дзе спакойна бруіла неглыбокая Дзвінаса.

Яны ішлі насустрач зары, што пераліvалася на сходзе.

Вось ужо, здаецца, апошні небяспечны пераход. Яны мінуць лагчыну, і тады іх праглыне векавая пушча. Але лагчыну перасякае дарога, што вядзе на шашу. Яна цяпер спакойная, толькі запыленая трава каля яе гаворыць пра многае...

Разведчыкі прыслухаліся...

— Не падымацца на ўвесь рост... — папярэдзіў Сашын.

Толькі ён высунуўся на дарогу, як недзе збоку гыркнуў аўтамат, праціўна, з нейкім лязгам...

І тады заварушылася, закудахтала ўся лагчына. Відаць, немцы, рухаючыся ў кірунку Дзвінасы, размясціліся тут нанач.

Іх згледзелі. Самае страшнае — іх зноў хацелі акружыць, адсекчы дарогу туды, да Дзвінасы.

— Хлопцы... Прарывайцеся адны. Берагам... Я прыму агонь...

Вайцехаў голас вывеў Сашына з разгубленасці: той не ведаў у гэтым баку дарог. Рашэнне Вайцеха было самае разумнае.

Вайцех, аддаляючыся назад, туды, адкуль яны ішлі, пачаў страляць кароценькімі чэргамі па пяць-сем патронаў. Яны выдзяляліся з працяглага лапатання буйнакаліберных нямецкіх кулямётаў.

Сашын і Кацярынчык папаўзлі на дарогу.

«Во, чорт! Зноў напароліся... Заразы гэтай тут да гібелі...»

Раптам Вайцех адчуў, што аўтамат у руках больш не ўздрыгвае. Ён адвёў затвор назад. Цяпер ужо бачыў эсэсаўцаў. Светлым раннем іх мундзіры здаваліся аж сінія... Эсэсаўцы, прыгнуўшыся, беглі бярэзнікам у яго бок.

«Колькі іх... — Вайцех са злосцю націснуў на курок, але пачуўся толькі лязг, ад якога аж уздрыгнуў. — Кончыліся патроны... Нічога... Трэба толькі паўхвіліны, каб насадзіць ражок, і тады немцы зноў адкоцяцца ў лагчыну... — ён лапнуў па кішэнях пінжака. Яны былі пустыя. Запасам, што быў з сабой, ён у хаце напоўніў дыск і бярог яго на прарыў за Дзвінасу. — А тут... Нічога... Добра, што хлопцы праскочылі. А я яшчэ...»

Эсэсаўцы зусім блізка, амаль як праз вуліцу. Вайцех намацаў у капшуку ля пояса дзве «эфкі»...

Развіднівала. Страляніну ў бярэзніку ля шашы перакрылі два выбухі, і яна стала заціхаць. Пачынаўся дзень, зноў запыліла дарога ў лагчыне.

Нехта ссутулены наблізіўся да Вайцеха і асцярожна, баючыся, пакратаў за плячо, выввеўшы яго з цяжкага здранцвення. Вайцех не адчуў, як яго пакраталі за плячо; ён здзівіўся толькі, угледзеўшы, што заскакаў у ваччу той далёкі, суровы лес.

У гародчыку з галінкі бэзу пырхнуў верабей, і яна закалыхалася, скрабучыся па шыбіне. Вайцеху здалося, што гойдаецца акно.

Цяпер яго аклікнулі, але ён ніяк не мог адарвацца ад шыбіны. Затым адвярнуўся. Ля самага стала хісталася высачэзная постаць Андрэя ў старым плашчы, з болем і потам на твары.

— Здароў... — ледзь вымавіў Андрэй.

— Здрасце.. .— Вайцех падняўся з лавы і адышоўся да ложка, абапёршыся на біла. — Ну, садзіся, ці што... Ну? Сядзь, не тырчы. І выкладвай усё, чаго прышоў...

Андрэй не садзіўся і, відаць, не ведаў, што сказаць. Запанавала няёмкае маўчанне. Андрэй не вытрымліваў позірку Вайцеха і, адводзячы вочы, устаўляўся недзе ў парог, у качарэжнік.

— Дык гэта ты?.. Я так і знаў...

— Я... — уздыхнуў Андрэй. — Я б не пабег тады з поля, але мне здалося, што гэта ваш старшыня. Вайцех... — на твары ў Андрэя была просьба. — Я прышоў пагаварыць. Ніхто не павінен ведаць, сам знаеш...

Вайцех маўчаў, не глядзеў нават на швагра.

— Вайцеша... Няўжо ў цябе няма душы? Мы ж свае...

— Не напамінай мне. Ты мне не свой... Мала, што ты мне быў свой... — гэтыя словы, як нажом, разанулі Андрэя.

— Вайцех... Я ж цябе добра ведаю і ты мяне ведаеш. Я цяпер у тваіх руках...

— Мала, што я цябе знаю... Я цябе не знаю! Я цябе не хачу знаць!

Андрэй зразумеў, куды хіліцца човен, зразумеў, што Вайцех не даецца гаварыць, і пайшоў напрамую:

— Аддай, Вайцех, пасцілку, і мы забудземся на тую ноч... Паслухай...

Чым больш нерваваўся Андрэй, тым больш спакойны, далёкі і непрыступны рабіўся для яго Вайцех. Вось ён падышоў да Андрэя, які асцярожна апусціўся ўсё ж на край лавы, і ўзяўся за крысо плашча:

— Што ты так сагнуўся? Заўтра аддам пасцілку. Аддам разам з астаткамі жыта — участковаму або вашаму Лаўкіну. А ты можа пойдзеш за пагодай...

— Ага! Аддавай, аддавай...— раптам загарачыўся Андрэй.— Гэтыя пасцілкі твая жонка ткала, калі памятаеш... Але дзе там, выракся ўсякай радні... Ды хто дакажа, што ты яе мне даў, пасцілку тую... — хітрасць з'явілася на твары ў Андрэя і прыплюшчыла яго рудаватыя вочы.

— Маўчы лепш... Якубчык!.. Чуеш?! — аж закрычаў Вайцех і, не стрымаўшыся, затросся. — І не ўспамінай мне пра жонку... Гэта ты загнаў яе на той свет і цяпер п'яны пускаеш слёзы, успамінаючы Кутузаўскія зямлянкі... Ты падвучыў яе пайсці туды, ты атруціў яе сваёю скнарасцю...

Андрэй неасцярожна паварухнуўся і аж падскочыў, адчуўшы, як сотні іголак вытыркнуліся з лавы. Ніжнія порткі прыліпалі да цела. Ён больш не мог сядзець. Стаяў аглушаны і прыбіты. Памяць на якую долю вырвала з мінулага падзеі, — яркія, як маланка ўначы, свежыя, нібы ўчарашнія...



...Цемень... Гарбатыя сілуэты зямлянак, нібы гурбы моху, вырастаюць перад вачыма. Іх цяжка распазнаць ноччу непрызвычаенаму воку. Толькі ён спраўна паварочваецца між сосен, мінаючы зямлянку за зямлянкай.

Юлька стамілася і прасіла вярнуцца дамоў. Ён жа толькі зморана соп і мчаўся з усіх ног недзе ў глыб Ямскога. Здавалася б, што яму больш спатрэбілася?.. Яны вынеслі блізка да дарогі на бор два сталы, шафачку, два доўгія мужчынскія кажухі, валёнкі... Гэта ўсё зрабіў Андрэй сам, Юльку ён прымусіў займацца дробяззю — пасудай і рознымі трантамі, што пападаліся пад руку. Але Якубчыка непакоіла штабная зямлянка. Там былі крэслы са старымі наразнымі выкрунтасамі на спінках і пацягнутыя аксамітам. Там была і вялізная шафа для вопраткі з люстрам на ўсе дзверы. У ёй хаваліся партызанскія дакументы. Гэта Якубчык добра ведаў. Ён бачыў яе два разы, калі яму прыходзілася быць у Мясунова. Гэту шафу трэба выпатрашыць ад паперы і вынесці, пакуль не пачало днець... Адзін гэтага не зробіш... Толькі Юлька, каб яе... моршчыцца... Што ж, баба-бабай...

— Во, дурніца... Сама ж бачыш, што не дарма прышлі... Думаеш, я цябе зводзіў? — супакойваў Андрэй.

Яна маўчала...

Дзверы ў штабную зямлянку адчыніліся цяжка, заскрыпеўшы сярдзіта і пагрозліва. Андрэй здзівіўся, што яна была нават не замкнёна. Партызаны, відаць, даўно пакінулі яе, бо з сярэдзіны патыхала сырасцю і нейкім смуродам. У цьмяным агні ад запалкі Андрэй заўважыў, што ўсё стаяла на месцы, як і тады зімою, калі ён апошні раз быў тут. І шафа ў кутку з чыстым, як новым, люстэркам, і стол блізка ад кафлянай печкі, і тыя крэслы, якія цягнулі цяпер да сябе стомленае цела. Андрэй адчуў, як заныла і затрэсліся ў каленях ногі. Зморяны, ён нехаця падыбаў у глыб зямлянкі. Запалка пякла пальцы...

Андрэй толькі паспеў злавіць у люстры сваю галаву з пачарнелым, маршчыністым тварам, пакамечанай шапкай з абвіслым брылем, як глухі выбух грымнуў у яго за плячыма. Закруцілася падлога, і ён паляцеў галавою недзе ў цёмную гарачую яміну. Яму здалося, што хтось злосны з мядзведжай сілаю моцна стукнуў дзвярыма, каб ужо ніхто не мог выпусціць іх на свет з гэтай сырой зямлянкі.

Ён не памятаў, праз колькі часу апрытомнеў. Прыўзняўшыся на локці, адчуў, што смыліць уся спіна, балюча і горача. Разварушыўшы левую руку, якая была зусім заныла, ён, крэкчучы, падняўся з зямлі, дрыжачымі пальцамі неяк запаліў сярнічку і жахнуўся... У парозе нерухома ляжала, адкінуўшы галаву і крыху раскрыўшы перакрыўлены рот, яго сястра, Юлька... Падлога зноў пахіснулася пад ім, але ён утрымаўся за сцяну. Яго трасло не адпускаючы. Вочы пазіралі то на збялелы Юльчын твар, то на яе ногі. Ногі... Ног не было... На іх месцы блішчэла лужына крыві, якая пачала расцякацца і застываць на падлозе... Белыя абрубкі касцей, якія ён зглядзеў, нібы праткнулі

навылет яго сэрца. Ён упаў у пацёмку на труп і зарыдаў, рвучы на сабе валасы..,

Упершыню за ўсё жыццё ён плакаў па сястры, адчуваючы, што страціў назаўсёды нешта дарагое і сваё...

...Андрэй адхінуўся ад сцяны, да якой быў аж прыкарэў, адплюшчыў поўныя жалю і пакуты вочы...

А словы Вайцеха сціналі сэрца, гучалі хутчэй мо' прысудам...

— Я думаў, што табе ўрок гэта будзе... Можа, па-чалавечаму пачнеш жыць. А ты... Дарэмна я яшчэ тады дараваў табе...





— Слухай, Вайцех... Богам прашу... Не ўспамінай пра мінулае. Даруй. Пасцілку аддай. Ты мяне садзіш адзін. Адзін ты!.. Зразумей. Ну, што табе стане ад гэтага?.. — Андрэй растапырыў рукі і чакаў.

— Я цябе не саджу. Па мне ты мог быць вольны, як цыганскае дзіця... — Вайцех павёў вачыма па сагнутай постаці Андрэя з галавы да ног, нібы такім ён бачыў яго першы раз.

— Аддай пасцілку... — зноў рот у Андрэя скрывіўся ў адчаі. — Ты думаеш, чаго я палез пад твой шрот? У маёй кішэні вош на рамені...

— Не прыбядняйся. Жывуць людзі... І жывуць, як трэба ў вашым калгасе. А пасцілка... Яна мая... мая! Чуеш?! — Вайцех сеў на лаву на сваё ранейшае месца і стаў закурваць. Ён утаропіўся ў Андрэевы парваныя чаравікі і думаў: «Як гэта яго ногі тоўпяцца ў такім абутку...»

— А-а-а... Цяпер усё тваё! Смела гаворыш! А забыўся, як я табе і хатулямі і цэлымі мяхамі пасля вайны памагаў. Садзіў, як у прорву якую... Цябе б нагамі ўперад даўно б вынеслі, каб не я з маёй дабратой... — падаўся ён да Вайцеха, нервова адкінуўшы на бок палу свайго старога выпэцканага і зацыраванага плашча.

«Хто лепш за яго ведае, дзе мне баліць...» — падумаў Вайцех і абарваў Андрэя:

— Ты зноў пра сваё! Злодзея кавалак... Не быў бы я ў той час прыкуты ранамі да ложка... — ён не дагаварыў. — Чуў я і тады, чым ты прамышляеш, але веры не даваў. А ведаў бы я, што гэта крадзенае, што гэта слёзы пагарэльцаў, чые ямы ты ачысціў... лепш згадзіўся б падохнуць... — Вайцех кашлянуў і, адвярнуўшыся, пачаў глядзець у акно, за якім вераб'і не маглі падзяліць нейкі колас на зямлі. Гэты чалавек выклікаў у яго не жаль, а агіду.

— Усе мы аднолькава церпім беды на гэтым свеце. Ці варта з-за нейкага снапа рабіцца звярамі?..

— Што? Хочаш і з гары зваліцца і азадка не разбіць?..

— Ага! Цяпер ты азадкам да мяне! Вось чым плаціш... У турму загнаць збіраешся... Не загіну! Вярнуся адтуль і адпомшчу. Будзе час, швагерка... — у злосці ашчэрыўся Андрэй. Яго маршчыністы твар нейк перакасіўся, шырокі нос расцягнуўся і зрабіўся яшчэ шырэйшы. Рудаватыя вочы не бегалі, а хутчэй круціліся. Даўно няголеная верхняя губа дрыжала. — Садзі... Але і твая жызня падточана... Цьфу! Парадніўся яшчэ з кім... З чалавекам, які ўсе гады пільнаваў, каб мяне ўтапіць, са свету сцерці...

— Брэшаш!.. — ускіпеў Вайцех і выпраставўся ля акна. — Ты ў мяне адняў не гэта, а яшчэ помсціць збіраешся... Але што гаварыць... Для мяне яна... — Вайцех асекся.— ...для мяне яна была даражэй, чым для цябе... — ён адчуў, як ненавідзіць гэтага чалавека. Яго шэрыя вочы ўпіліся ў Андрэя, прымусіўшы таго адступіцца да парога. — Сабака!.. Зладзюга!.. Ратунку шукаеш... Не будзе на Сяліцкіх плямы з-за цябе, гультая кавалак... Мне з табой не па дарозе!.. Выбірайся!..

Ляпнулі дзверы. Вайцех зноў прыпаў да акна, абапёршы галаву на шырокія, нязграбныя рукі, і бачыў, як узняліся з зямлі сварлівыя вераб'і і разляцеліся ў розныя бакі ад стуку варот. Трохгадовы суседаў хлопчык у белай бесказырцы скрыпеў старым дзіцячым веласіпедам па пясчаным двары.

Вайцех згледзеў, як паспяшалася з гароду яго дачка з поўным кошыкам бацвіння.

На нейкую хвіліну яго позірк затрымаўся на доўгай галіне ружы, якая вылезла між паркання з цеснага гародчыка на двор і, згінаючыся пад ветрам, даставала зялёным яшчэ лісцем аж да жоўтага пяску пад прызбай.

На душы стала балюча, сумна. Ён бачыў яшчэ, як параўняўшыся з плотам, што быў ад вуліцы, дачка падняла галаву, і як Андрэй, плюнуўшы і нешта сказаўшы ёй, ткнуў пальцам у акно, затым махнуў рукою і падаўся ад яе прэч.

«Ці не з ёй паспеў пагаварыць, і яна будзе прасіць? Цяжка ёй будзе адказаць... Розуму ў яе не адняць, але розум яшчэ дзіцячы...»— падняўся Вайцех насустрач дачцы.

Вецер гнаў лісце са смеццем ззаду за Андрэем, а яму здавалася, што за ім нехта ідзе.

Параўняўшыся з платамі, што выводзілі вуліцу з вёскі, ён размінуўся з Раманам Сідаркам. Той у белай рубашцы мчаўся сцежачкай на веласіпедзе і нават не павярнуў да Андрэя галавы.

«Да Алі... да Вайцехавай папёрся... Заляцаецца, брыдота... І ён пасведчыць на мяне...»

І мо' толькі гэты раз Якубчык не мог ведаць, што ён мае рабіць...



Сцяпан ЛІХАДЗІЕЎСКІ

# ГЕНІЙ



На небасхіле зорка неяк раз
Раптоўна загарэлася пад вечар.
Адным — расці, другім — згараць пара,
Да новай формы пераходзіць вечна.

І нованароджаная ўсё расла,
У светлай красавала прыгажосці.
Вітанне месяц цёплае паслаў
Прывабнай гэтай незнаёмцы-госці.

І астраномы нашае Зямлі —
Не ашукаў іх шматгадовы вопыт —
На зорку погляд свой перавялі,
Накіравалі рупна тэлескопы.

Уся істота іх — адзіны зрок,
Стараліся, каб як не прагледзець ім,
У хваляванні стрымлівалі крок
І зачараваны былі, як дзеці.

Сачылі так, як мудрацы калісь
З пляцовак вавілонскіх зіккуратаў.
І ёй імя прыгожае далі
На радасць тым, хто пачуццём багаты.

У чырвані чароўнага святла
Мелодыю пачулі маладую...
Свяціла зорка, грэла і вяла
Ды нас на светлыя натхняла думы.

Вялікасці пагібель не кране:
Згарэла зорка — і па смерці нават
Да нас ідуць здалёку, як раней,
Праменні шчасця, хараства і славы .

## ГЕРАІНЯ САВЕЦКАГА САЮЗА



Не казачная,
не з паэмы...
Сяброўка слаўных дружны лад...
Вось тут,
дзе ты,
дзе я,
дзе ўсе мы,
Яна вучылася,
жыла.
Прадмет гісторыі ёй дораг, —
Тамы гартай,
канспект пішы...
І смех задорны ў калідорах
Лунаў ад самае душы.
Вайна
усё змяніла крута:
Пайшла на фронт —
чаго чакаць? —
Ташкенцкага педінстытута
Студэнтка,
родная дачка.
Пад сонечным крывавым дыскам
Народы
роднае зямлі
У гераічнае радысткі
Іспыт апошні прынялі.
Яе скасіла
злая сіла,
У школе ёй не выкладаць...
Яна гісторыю
тварыла
І ёй жыццё змагла аддаць.
А ў інстытут —
за зменай змена,
Як хвалі мора...
І між тым
Стаіць Стэмпкоўская Алена
З усмешкаю
ў страі жывым!



Іван НАУМЕНКА

# ДОМ НАД МОРАМ

### Апавяданне

Мал. Б. Льдокава.

Па ўзбярэжжы цягнуліся дачы. Белы дом, на шостым паверсе якога мы аблюбавалі пакой пад назіральны пункт, высіўся на самым беразе вузкага, нібы высунуты язык, заліва, якім мора ўядалася ў пясчаную нямецкую зямлю.

Тэрмас з супам прынёс нам пад вечар старшына Нізкалобаў.

Сіняя фуфайка і брыджы старшыны былі ў пяску: адкрыты пляж абстрэльвалі, і метраў дзвесце прыходзілася паўзці на жываце.

У гэтым курортным доме над морам мы жылі ў вялікай раскошы, нябачанай за ўсю вайну. Не такая ўжо цяжкая справа наглядаць за працаўнікам пад аховай тоўстых сцен і перадаваць звесткі па тэлефоне.

— Ахтунг! Танкі! — скамандаваў памкамузвода Смірноў, калі каржакаватая постаць Нізкалобава паказалася ў праёме дзвярэй.— Мерзлякоў застаецца ля стэрэатрубы, астатнія ў гасціную!

Мерзлякоў, які толькі што пачаў дзяжурыць, быў незадаволены.

— Мне няма? — спытаў ён на ўсякі выпадак у старшыны, прымошчваючыся на мяккім, пружыністым крэсле ля акна.

— Ад вашай прэкрасный Елена вы атрымалі ўчора,— напомніў старшына.— На кожны дзень дзевушка нехапае пачуццяў.

Нізкалобаў, чуваш, хмуры і змрочны з выгляду, любіў гаварыць павучальна.

Мы перайшлі ў «гасціную», пакой, які сваімі вокнамі выходзіў толькі на мора. Бяспека тут была найпаўнейшая, выключаючы прамое пападанне снарада ці бомбы. Зацягнулі вокны самаробнымі жалюзі з чорнай траскучай паперы і запалілі дзесяць свечак.

— Ілюмінацыя з прычыны прыбыцця ў наш горад імператара Хірахіта,— сказаў Смірноў.

Смірноў жартаваў, мог жартаваць і старшына. Мы ж, пяцёра, стаялі з сур'ёзнымі тварамі і глядзелі на брызентавую сумку Нізкалобава. У гасціную мы прышлі не дзеля супу, што плёскаўся ў дваццацілітровым тэрмасе.

Нізкалобаў ведаў, што нам трэба, але марудзіў. Ён сеў на мяккі пуф, выцер насоўкай чырвоны, спацелы твар і закурыў.

— Не цягні жылы, старшына,— сказаў Філімонаў.— Давай буду танцаваць.

— Табе няма. Твой Дашка яшчэ піша...

Астатнія не адважыліся выпрабоўваць лёс.

Памкамузвода Смірноў лёг на двухспальны дубовы ложак і барабаніў абцасамі па падлозе. Ён атрымліваў лісты толькі ад маці і сястры і быў спакойны.

Старшына сядзеў і курыў. Мы стаялі і чакалі. Нашаму цярпенню прыходзіў канец.

— Сёння кавалеры ордэна «Славы» нешчаслівыя, — нарэшце прамовіў Нізкалобаў.— Мае шчасце толькі адзін кавалер. Затое я вас частую за заўтрашні Першы май...

Нізкалобаў выцягнуў з-пад палы дзве фляжкі ў мяккіх, варсістых футлярах.

— З вадой, ці так? — спытаў ён.— Нежанаты, сто градусаў...

Ён мог аб гэтым і не пытаць. Кавалеры ордэна «Славы» разбаўлены спірт не пілі.

— Каму шчасце? — дапытваўся Філімонаў.— Яму піць не дамо. Хопіць ліста.

— Піць усім, па чарзе. Свята...

Смірноў падняўся і схадзіў да Мерзлякова. Над залівам вісела ноч. Вясновае неба засеялі зоркі. Туману не было, люстраная гладзь заток здавалася чорнай. Процілеглы бераг маўчаў.

— Філімонаву і Серадзе не піць,—вярнуўшыся, загадаў Смірноў.— Зменіце Мерзлякова апоўначы. Чарга дзяжурыць Булавенку, але ён будзе іграць. Заступіць раніцай.

— Булавенку і ліст, — паведаміў Нізкалобаў. — Два лісты. Ён шчаслівы.

— «И в Омске есть, и в Томске есть моя любимая...» — заспяваў Смірноў.

— Танцуй, Булавенка! — загадаў Нізкалобаў.

Усе пачалі біць у далоні, зацягнуўшы гугнявымі галасамі вясёлы



матыў. Лёня Булавенка, высокі, белабрысы, шоргаючы кірзавымі ботамі па падлозе, пайшоў па крузе.

— Упрысядкі!

Няўклюдна выкідаючы ногі, Лёня зрабіў яшчэ адзін круг.

— Танец лебедзяў першага класа, — зазначыў Нізкалобаў, аддаючы Булавенку яго два лісты.

Свечкі разлівалі мяккае, спакойнае святло. На сцяне віселі два пейзажы: вадзяны млын пад развесістай вярбой і статак кароў і авечак на лузе. На гэтым жа лузе паненкі ў белых сукенках, што раздуваліся к нізу, як парасоны, збіралі кветкі, а кучаравенькі пастушок, падобны на анёла, дзьмуў у дудачку. Ля процілеглай сцяны стаяла піяніна. Мусіць таму і пакой абралі пад гасціную. На піяніна іграў Булавенка, выхаванец дзіцячага дома.

Святочны выгляд гасцінай псавалі абшарпаныя плашч-палаткі і зялёныя з чорнымі крапінамі маскхалаты, кінутыя на спінкі крэслаў. Аўтаматы сціпла прытуліліся ў кутку. Танканогі кафейны столік, на якім стаяла шэсць задымленых кацялкоў, дзець было некуды, ён стаяў у самым цэнтры гасцінай.

— Піць! — загадаў Нізкалобаў. — Берлін заўтра наш. Вайны канец!..

Гэта было падобна на казку. Першамай, канец вайны. Шкада, што мы не былі цяпер у Берліне.

Лёня Булавенка не вячэраў, ён чытаў лісты. Мы ведалі, хто іх напісаў. Адзін — Каця з Дарагабужа, там полк стаяў на папаўненні, другі полька Эва-Іяланта з літоўскага гарадка Кальварыя, ля самай прускай граніцы. Гарадок мы занялі паўгода назад, восенню.

Філімонаў і Серада, павячэраўшы, пайшлі змяняць Мерзлякова, хоць маглі адпачываць яшчэ цэлую гадзіну. Але яны не хацелі сядзець проста так. Калі прышоў Мерзлякоў, адлілі яму яго норму, аставіўшы некранутым тое, што належала дзяжурным. Праз паўгадзіны ўсё перамянілася...

Старшына Нізкалобаў заплакаў. Ён плакаў заўсёды, калі выпіваў. На мяккіх нямецкіх крэслах сядзела пяцёра кавалераў «Славы», старажылаў узвода пешай разведкі, што памяталі адзін другога яшчэ са Ржэва. У разбітым Ржэве фарміраваўся полк.

— Мамедава няма! — плачучы, крычаў старшына. — Спіць у зямлі наш друг Мамедаў!..

Мамедаў быў трэцім па ліку камандзірам узвода. Яго смяротна паранілі два тыдні назад...

— Перастань, старшына, — да Нізкалобава падышоў Смірноў і паклаў яму рукі на плечы. — Ніхто нікога не забыў...

Гарэлі свечкі ў высокіх медных кандэлябрах. Недзе блізка адзін за другім разарваліся тры снарады. Прастракатала кулямётная чарга. Смірноў кінуўся да дзяжурных.

— Усё ціха, — сказаў ён, вярнуўшыся. — Баяцца гансікі. Іграй, Булавенка!..

Булавенка ўжо сядзеў за піяніна. Ён нам іграў усе ночы з таго часу, як мы пасяліліся ў белым, курортным доме над морам.

Тонкія пальцы Булавенкі бегалі па клавішах, нараджаючы мяккія акорды. Для той музыкі, якой жадалі ўсе, не хапала прывычнай абстаноўкі. Нізкалобаў гэтага не разумеў: ён не жыў апошнія шэсць дзён у белым доме над морам.

— Патушыць свечкі! — загадаў Смірноў.

Маскіроўку знялі, і тады ўсё стала на месца. Вокны гасцінай глядзелі на мора. Адтуль не стралялі. Узыходзіў месяц, і яго святло вырывала з бязмежнай марской роўнядзі шырокую сінюю паласу. На ёй гойдаліся серабрыстыя кругі. Здавалася, што пад самымі вокнамі некуды цячэ спакойная, цёплая рака. Яе хвалі з лёгкім аднастайным шумам набягалі на пясчаны бераг. Такім морам мы любаваліся ўсе апошнія ночы...

Булавенка зайграў вальс. Мы прысунулі свае крэслы да акна і глядзелі на мора. Мы ведалі адзін пра другога ўсё, нават тое, аб чым кожны ў гэтую хвіліну думае. Усе мы думалі пра дзяўчат, якія прысылалі нам на фронт трохкутнічкі. Мы ведалі, што ў іх пісалася кожнаму. За два гады наступлення мы ўсе адспавядаліся адзін перад другім душой і ў нас не было тайнаў. Траім дзяўчаты пісалі пра каханне і траім пра дружбу. Жанатых сярод нас не было. Трое кавалераў «Славы» яшчэ ні разу не цалавалі дзяўчат. Проста не паспелі. Старэйшаму было дваццаць два, малодшаму — дваццаць.

Булавенка іграў, узмахваючы рукамі, як крыламі, а мы маўчалі. У нас было лёгка і ціха на душы. Красавік нёс вясну. Зямля была чужая, але вясна па ёй ішла, як і там, на родных прасторах.

— «Аганёк»... — закамандаваў Смірноў.

Тыя, каго дзяўчаты праводзілі на вайну, маглі ўспомніць ганак, веснічкі, аганёк у знаёмым акне.

Самога Смірнова на вайну дзяўчына не праводзіла. З Кларай ён пазнаёміўся, калі ляжаў у шпіталю ў Пензе. У медсястры былі вялікія,





нібы здзіўленыя, вочы. Гэта мы ведалі з фотакарткі. Клара здрадзіла яму вясной сорак чацвёртага, пасля таго, як Смірноў, мінуўшы перасыльныя пункты і запасны полк, вярнуўся ва ўзвод, адкуль выбыў ранены.

Спачатку Клара перастала пісаць. Потым можа на дзесятым неадказаным лісце прышла звычайная паштоўка, напісаная цвёрдым мужчынскім почыркам. У ёй невядомы Кларын муж, якога мы адразу залічылі ў інтэнданты, раіў кінуць жарты і не турбаваць яго жонкі. Пасля Клары Смірноў спяваў «Аганёк» па-другому. У яго песні дзяўчына, махнуўшы на развітанне хлапцу, што пайшоў ваяваць, у той жа вечар сядзела на ганку з другім. З часу здрады Клары тэма дзявочай нявернасці заняла пэўнае месца ў нашых размовах...

— «Цёмную ноч»... — папрасіў Нізкалобаў.

Паплыла мяккая, крыху журботная мелодыя. За акном была не асенняя, а светлая, вясновая ноч. Не свісталі кулі, і ў парваных правадах не шумеў вецер. Працяжна, нібы зачараванае, уздыхала мора. Яно навявала светлы сум. Мы ўспаміналі дзяўчат. Ці чакалі яны нас гэтыя доўгія мяцежныя гады? Вядома, чакалі. Можа яны, як і мы, таксама сядзелі ў гэты час ля вокан і марылі аб стрэчы...

У суцэльную лёгкадумнасць дзяўчат, нягледзячы на здраду Клары, мы не верылі. Такога не магло быць. Дзяўчаты мусілі нас чакаць. За ўсё, што мы пабачылі на вайне, мы мелі поўнае права на іх вернасць...

Плылі ў вясновую сінь за акно мяккія акорды, уздыхала мора, і, можа заслухаўшыся гэтай музыкай вясны і надзей, не падавалі свайго голасу гарматы...

Булавенка па сваёй ахвоце зайграў пра Лізавету, што не спіць да самай раніцы, чакаючы весткі ад друга. Ён хацеў нас развесяліць. Піяніна проста грымела... Пра якую толькі Лізавету думаў сам Булавенка? Яму пісалі дзве дзяўчыны. З імі абедзвюма Лёня быў знаёмы па аднаму дню. Полька Эва-Іяланта не вельмі добра валодала рускай мовай, і ў сваіх лістах яна называла Булавенку «Лоняй».

Старшына Нізкалобаў заснуў у мяккім крэсле пад музыку Булавенкі. Гэта мы выявілі толькі тады, калі канцэрт кончыўся і калі, задрапіраваўшы вокны маскіровачнымі жалюзі, зноў запалілі ў гасцінай свечкі. На якой толькі песні старшына заснуў? Урэшце, гэта не мела значэння. Пра дзяўчат ён не думаў, бо меў жонку, дзяцей, дом. Старшына, мабыць, лепш за нас разумеў, што ноч дадзена на тое, каб спаць.

З раніцы, адбыўшы сваю чаргу на назіральным пункце, Булавенка спаць не лёг. Ён быў узбуджаны і вясёлы. У той час, калі ўсе спалі, ён пісаў лісты.

Дзень быў па-сапраўднаму майскі. Свяціла сонца, і тысячай усмешак яму адказвала мора. Яго бяскрайняя шырыня ўдалечыні злівалася з небам. Над люстранай гладдзю вады насіліся чайкі. Рэдка пастрэльвала наша артылерыя, і яшчэ радзей адгукаліся немцы. Сыпануў цёплы майскі лівень і перастаў гэтак жа нечакана, як і пачаўся. Пад вокнамі дачы ярка зазелянелі газоны.

У поўдзень трэба было аднесці афіцэру разведкі карту, на якую мы штодня наносілі новыя агнявыя пункты праціўніка. Ісці ў штаб папрасіўся Булавенка. Праз некалькі хвілін яго забіла асколкам снарада пад самымі вокнамі белага дома, на пясчаным пляжы.

Хавалі сябра на другі дзень. У сасонніку, што вырас на сыпучых

марскіх дзюнах, мы аздобілі магілу Булавенкі лепш, чым тых, хто загінуў раней. Спяшацца не трэба было, вайна канчалася...

Булавенкавы «Славы» другой і трэцяй ступені спачатку не ведалі, куды паслаць: бацькоў у Лёні не было. Зампаліт загадаў выслаць узнагароды на дзіцячы дом.

У брызентавай сумцы Булавенкі мы знайшлі ўсе лісты, якія пісалі яму Каця з Дарагабужа і Эва-Іяланта з літоўскага гарадка Кальварыі. Там ляжалі і два неадасланыя булавенкавы трохкутнічкі. Іх мы дзяўчатам не паслалі. У іх Лёня пісаў толькі пра тое, што вайна канчаецца. У адным лісце ён абяцаў заехаць у Кальварыю, у другім — у Дарагабуж.

Пасля смерці Булавенкі мы заўважылі тое, чаго не заўважалі раней. На фотакартках Эва-Іяланта і Каця былі вельмі падобныя адна на другую. Можна было падумаць, што яны сёстры. Мы напісалі кожнай, што Булавенка яе любіў.



Аляксей **ПЫСІН**

# ВУЗЕЛ



Не ведаю, якім вузлом
Навекі я прывязан
Да стромкіх сосен за сялом,
Да яблынь, груш і вязаў;

Да кладак гладкіх, валуноў,
Да траў, жытоў на ўзлесках,
Да партызанскіх курганоў
І помнікаў гвардзейскіх.

Адно я знаю: гэткі меч
На свеце не скуецца,
Каб мог ён вузел той рассеч,
Не закрануўшы сэрца.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

## ІМЧЫЦЬ МАШЫНА ХУТКАЙ ДАПАМОГІ



Імчыць машына хуткай дапамогі.
Ратунак, пэўна, некаму нясе.
Яе сірэна — як сігнал трывогі,
І адкрываюць ёй дарогі ўсе.

І паставыя ў будках, кожны стрэчны,
Не зводзячы з яе вачэй,
Удачы будуць ёй жадаць сардэчна,
У думках падганяць: хутчэй, хутчэй!

Скароцяць пажаданнямі дарогу,
Машыне, знаю, не спазніцца той...
... Вось так бы нам заўсёды біць трывогу,
Як толькі стрэўся чалавек з бядой.

## МАЦІ ЧАКАЕ СЫНА



Стракоча сарока, стракоча.
Аб чым расказаць яна хоча,
Другім, можа быць, і няўцям.
А маці? О, ведае маці,
Аб чым гэта птушка на хаце
Шчабеча — быць скора гасцям.
Другі дзень стракоча сарока.
Пабегла дарога далёка,
Далёка, за небакрай...



І маці падоўгу з парогу
Маўкліва глядзіць на дарогу:
«Хутчэй жа, сынок, прыязджай».
А нейдзе на тую ж дарогу
З глыбокай такою ж трывогай
Дзявочыя вочы глядзяць.
І ў іх — то надзеі іскрынка,
То горкага суму слязінка —
Не можа яна не чакаць.
Дзень трэці стракоча сарока.
Пабегла дарога далёка,
Хтось едзе дарогаю той.
Прыкмеціла маці сына,
Угледзела хлопца дзяўчына.
Куды ж раней пойдзеш, хлапчына, —
Да маці ці любай сваёй?



Мал. Л. Дубара.

Рыгор НЛБАТАЎ

# ОБАЛЬСКАЯ АПОВЕСЦЬ

## Танкі пад сенам

### 1

— Вось і здагадайся, што можа здарыцца заўтра, — журботна прамовіла Фруза, калі Яўген паведаміў ёй, што ў тым месцы пад дубком, дзе яны пакідалі для партызанскага атрада звесткі і знаходзілі заданні, пуста. — Мінуў дамоўлены тэрмін, значыць, сувязь страчана.

— Можа, ты дрэнна шукаў? — усё распытвала Фруза. — Ці няма запіскі ў дупле той абгарэлай сасны?

— Пуста!

— Што ж гэта азначае? — устрывожылася Фруза. — Ад каго мы цяпер будзем атрымліваць заданні?

Зянькова даўно пераканалася, што нельга змагацца ў падполлі без кіраўніцтва, без дапамогі і парады старэйшых таварышаў.

Насталі бадай самыя цяжкія месяцы ў жыцці падпольшчыкаў: яны былі адарваны ад партызанскага атрада. Але ніхто з іх не разгубіўся... Праўда, дыверсій пакуль не рабілі: не было мін і толу. Затое шырока разгарнулі прапаганду сярод насельніцтва — радыёпрыёмнік у Езавітава працаваў спраўна.

Марыя Лузгіна пісала антыфашысцкія лістоўкі, хлопцы перапісвалі і расклейвалі іх не толькі на слупах і парканах, але нават на сценах і дзвярах камендатуры.

Калі падпольшчыкі даведаліся пра разгром фашысцкіх войск пад Сталінградам, яны ў адзін дзень разнеслі радасную навіну па ўсіх навакольных вёсках.

---

Заканчэнне. Пачатак гл. № 5.

2

Капітан Краузе, высокі сутулы немец, з вялікай галавой і вузкім маршчыністым ілбом, у задуменні спыніўся каля пісьмовага стала і закурыў.

У раёне дзейнасці гаранскага акруговага аддзялення гестапа, якім ён кіраваў зноў з'явіліся лістоўкі.

«З такімі памочнікамі, як Экерт, згубіш, бадай, галаву», — падумаў Краузе і, усеўшыся ў мяккае скураное крэсла, працягнуў руку да званка.

Дзверы ціха адчыніліся, і на парозе паявіўся тоўсты рыжаваты фельдфебель.

— Шэнке, паклічце Экерта!

— Слухаю, гер гаўптман! — фельдфебель зухавата стукнуў абцасамі.

Хутка дзверы зноў расчыніліся, і ў кабінет увайшоў Яніс Экерт, акуратна падстрыжаны бландзін год дваццаці пяці, з тонкай шыяй і апухлым тварам.

Сын млынара з Ауцэ, каля Елгавы, Экерт служыў пры фашысцкім рэжыме Ульманіса ў дзвінскай паліцыі. Пасля таго як у Латвіі стала савецкая ўлада, Яніс уцёк у Беларусь і працаваў у Полацку пад чужым прозвішчам механікам на млыне. Калі немцы акупіравалі Полацк, Экерт прапанаваў гестапаўцам свае паслугі і быў прызначаны ў Обаль начальнікам паліцыі.

Глянуўшы на Краузе, Экерт адразу здагадаўся, што той не ў настроі.

Капітан, не вітаючыся, паказаў на крэсла, што стаяла насупраць. Экерт сеў. Яны дапытліва глядзелі адзін на аднаго, быццам сустрэліся ўпершыню. Нарэшце Краузе сказаў:

— Я выклікаў вас, каб сказаць як салдат салдату: паліцыя працуе дрэнна.. Адкажыце мне, хто вінаваты ў смерці зондарфюрара?

Экерт і брывом не павёў.

— Партызаны.

Адказ начальніка паліцыі вывеў Краузе з раўнавагі. Стукнуўшы кулаком па стале, ён закрычаў:

— Мне абрыдла ўжо слухаць гэта!.. Вы разумееце, Экерт?

— Так точна, гер гаўптман, разумею.

Краузе адкінуў недакураную сігарэту і тут жа выняў з партсігара новую.

— У Шашанскім лесе няма партызан... Хто ж цяпер расклейвае лістоўкі? Хто робіць дыверсіі? Хто, я вас пытаюся? — Твар капітана пачырванеў. — Вы начальнік паліцыі... Вы павінны гэта ведаць!

— Але, гер гаўптман... Я ўжо дакладваў, што арыштаваныя маўчаць. Я сам іх дапытваў.

Краузе перапыніў яго:

— Я не хачу таіцца, мне загадана зволіць вас... — Ён крыху памаўчаў, назіраючы за Экертам. — Але я адстаяў вас.

Пры гэтых словах Экерт падняўся і з удзячнасцю схіліў галаву.

— Сядайце, сядайце, — дазволіў Краузе і, вышаўшы з-за стала, наблізіўся да Экерта.



— Слухайце... Няўжо ў вас няма чалавека, здольнага ўвайсці ў давер да жыхароў?

Начальнік паліцыі доўга паціраў лоб, прыпамінаючы сваіх агентаў. Капітан выкурыў ужо адну за другой дзве сігарэты, а Экерт усё думаў. Раптам твар яго пасвятлеў.

— Ёсць такі чалавек, гер гаўптман. Ёсць! Успомніў.

— Паабяцайце яму высокую пасаду і ўзнагароду, Экерт...

3

За зіму Зіна вельмі пахудзела. Цяжкі пераход атрада ў Каз'янскія лясы і зварот увесну на ранейшыя мясціны ў Шашаны аднялі многа сіл. Але дзяўчына па-ранейшаму была бадзёрая. Цэлымі днямі разам з усімі яна парадкавала ў зямлянках, працавала на будоўлі домікаў для шпіталю.

Дзяўчына сумавала па дому. Скора ўжо два гады, як яна не бачылася з бацькамі. Ведаючы з газет пра становішча ў акружаным Ленінградзе, яна непакоілася.

Аднойчы Зіна парашыла напісаць бацькам пісьмо. Ёй сказалі, што з Вялікай зямлі чакаюць самалёт. Яна напісала кароценькае пісьмо, склала яго трохкутнічкам, напісала адрас і толькі паспела аднесці ў штаб, як па яе прыбег Лёня.

— Хутчэй... Маркіянаў выклікае.

— А чаго, не ведаеш?

— У разведку пойдзем.

— Куды?

— Не ведаю.

Барыс Маркіянаў нядоўга трымаў іх у зямлянцы.

— Толькі што атрымана важная шыфроўка, — сказаў ён. — Цэнтральнаму штабу партызанскага руху стала вядома, што з Усходняй Прусіі будзе перакінута праз Полацк на Віцебск — Арол — Курск танкавая дывізія «Мёртвая галава» — з «тыграмі» і «пантэрамі»... — Маркіянаў глянуў на карту Сіроцінскага раёна і дадаў: — Пойдзеце ва Ушалы. Перадасцё Тані, каб узмоцнена назіралі за ўсімі эшалонамі, якія праходзяць праз Обаль. Як толькі выявяць танкі, паведаміце неадкладна нам. Вось і ўсё.

Зіна паднялася.

— Дазволіце выконваць?

— Выконвайце. Толькі будзьце асцярожныя. У лесе, пад Ушаламі, засады.

... Ноч была ціхая. Зіна і Лёня ішлі знаёмай сцежкай, што вяла адляснога возера.

Выбраліся на дарогу. Зіна напявала:

«Ни жена, ни сестра нас не ждут у окна,
Мать родная стола не накроет.
Наши хаты сожгли, наши семьи ушли,
Только ветер в развалинах воет.
И летит над страной этот ветер родной,
Всюду видит он слёзы и раны.

И зовет громко нас отомстить палачам
За позор и за кровь, партизаны.»

Гэту песню склала Марыя Лузгіна.

Лёня, які ішоў наперадзе, раптам зашыкаў.

— Што такое? — Зіна спынілася.

З левага боку дарогі ўспыхнуў жоўты агеньчык і адразу ж знік. Разведчыкі стаіліся. Вядома, нехта сігналіць ручным ліхтарыкам. Навокал было ціха.

— Да нас ідуць, — прашаптаў раптам Лёня, заўважыўшы зноў жоўты агеньчык.

Разведчыкі шмыгнулі ў кусты і заляглі.

— Падрыхтуй гранату, — шапнула Зіна.

Зусім побач прагучала нямецкая мова. Чыркнула запалка і асвятліла фігуры салдат. Было іх чацвёра. Яны прыкурвалі. Разведчыкі здагадаліся, што салдаты, мабыць, з засады. Значыць, Ушалы недалёка.

Калі заціхлі крокі салдат, разведчыкі рушылі далей. Ішлі асцярожна, не выходзячы на дарогу. Перад вёскай Ушалы Зіна прапанавала адпачыць.

— Зусім змарылася, — прызналася яна.

Прыхінуўшыся да пляча стрыечнага брата, Зіна думала пра тое, які ён ёй дарагі, асабліва пасля смерці цёткі Ірыны. Гэта вялікае няшчасце — смерць маці — Лёня перанёс мужна. Ён ніколі не гаварыў пра гэта нават ёй, самаму блізкаму чалавеку. Штодзённая небяспека яшчэ больш парадніла іх.

Світала. Дыхнуў цёплы вясновы ветрык. Разведчыкі выйшлі на паляну. Недалёка відаць быў хлеў, дзе год назад прымалі партызанскую прысягу.

Яны падышлі да трох бяроз і адтуль павярнулі на сцяжынку, што вяла да Саўкавай хаты.

... Праз гадзіну ад Саўкі выйшла Фруза Зянькова і накіравалася ў Обаль да Мікалая Аляксеева.

4

З шасці гадзін раніцы на гары дома Аляксеевых дзяжурылі па чарзе сам Аляксееў і Яўген Езавітаў.

— Семафор адкрыты... Уставай, Мікалай...—раптам штурхнуў Яўген пад бок Аляксеева.

Пачуўся гудок. З-за лесу выскачыў у белым дыме паравоз.

— Эх, шпурнуць бы гранату!..—уздыхнуў Яўген.

Састаў імчаў на вялікай хуткасці. Яго платформы былі загружаны кідкамі прасаванага сена.

Да вечара назіральнікі налічылі шэсць эшалонаў з платформамі, нагружанымі сенам.

— Навошта ім столькі сена?—здзівіўся Мікалай.

— А я адкуль ведаю. Можа ў іх коней прыбавілася.

Даведаўшыся пра платформы з сенам, Фруза перадала, каб хлопцы назіралі і ноччу.



Яўген не мог трываць без сну. Пасля трох гадзін ночы ён пачаў драмаць.

— Не, браток, носам акунёў не ловяць,—спачувальна сказаў Аляксееў.—Ідзі кладзіся, а я падзяжуру. Трэба будзе, разбуджу.

Яўген лёг у кутку на саломе і адразу ж заснуў.

Аляксееў углядаўся праз аконца ў начную цемру. Эшалоны пакуль не паяўляліся.

Зліпаліся вочы, хацелася спаць.

Раптам далёкі гудок. З боку Полацка набліжаўся цягнік. Вогненным роем ляцелі іскры з паравоза.

Выскачыўшы з лесу, цягнік пачаў сцішаць ход. Колы стукалі на стыках, быццам адлічвалі час. «Ну, вось, — кіўнуў галавой Аляксееў,— зноў сена...»

Ён правёў позіркам састаў амаль да хваста. На перадапошняй платформе, мусіць ад іскры з паравоза, загарэлася сена. Салдаты, спалохаўшыся, пачалі скідаць цюкі, і тады агонь асвятліў вялізны танк.

Мікалай аж закрычаў:

— Жэнька, уставай! Пабяжым ва Ушалы!

Зіна і Лёня, якія начавалі ў Фрузы, даставілі раніцай у партызанскі атрад звесткі: «На платформах танкі, замаскаваныя сенам. Сёння прайшло на Віцебск восем эшалонаў».

5

З раніцы ў паветры ракаталі маторы. Жыхары Обалі і навакольных вёсак былі разбуджаны нязвыклым гулам. На невялікай вышыні ляцелі савецкія штурмавікі.

Людзі выбягалі на двор і ўглядаліся ў неба. Ніхто не ведаў, куды імчалі штурмавікі.

Праз некаторы час да Обалі дакаціліся магутныя выбухі.

Савецкая авіяцыя гэтай раніцай разбамбіла на чыгунцы ад Полацка да Віцебска пятнаццаць эшалонаў з танкамі дывізіі «Мёртвая галава», якія накіроўваліся да Арла і Курска.

Некалькі тыдняў у вёсках, што былі недалёка ад чыгункі, толькі і чулася:

— Бачылі?
— Чулі?..
— Вось гэта малайцы!..

**Выбух на станцыі**

1

Сакратарскі стол Ніны Азолінай стаяў у прыёмным пакоі каменданта. Ніхто не мог прайсці міма яе незаўважаны.

Аднойчы раніцай яна пачула, як у кабінеце каменданта нехта моцна гаварыў, аж крычаў:

— Ты мне ўсё раскажаш, нягоднік!

Яму падтакваў пісклявы голас:

— Будзеш гаварыць? Будзеш? Ці я цябе...

Пачуліся глухія ўдары, адчыніліся дзверы, і ў прыёмны пакой выскачыў хлопец. Твар яго быў акрываўлены, пад вачыма цямнелі сінякі. Хлопец не мог утрымацца на нагах і распластаўся на падлозе ля самай перагародкі, дзе стаяў вартавы.

Ніне стала шкада хлопца. Яна ўжо хацела кінуцца да яго са шклянкай вады, але ён у гэты момант устаў і хісткай паходкай накіраваўся да выхаду.

Ніна пазнала яго. Гэта быў Міхаіл Грачухін.

«Як ён сюды трапіў?..» — здзівілася Ніна.

Вяртаючыся са службы, каля павароту дарогі на Зуі, Ніна пачула ззаду шпаркія крокі. Нехта даганяў яе. Дзяўчына павярнулася і ўбачыла Грачухіна.

Ён першы працягнуў руку.

— Пазнаеш, Ніна?

— Вядома, пазнаю, але... чаму ты ў Обалі. Я ж помню, ты пайшоў у армію. — Азоліна паглядзела з цікавасцю на яго зарослы твар.

— Так, ты не памылілася. Я сапраўды быў у арміі. Ледзь не загінуў... Як акружылі, ведаеш, пад Чорным Борам, ледзьве выратаваўся. Уласаў здрадзіў... — Грачухін скоса паглядваў па баках. — Толькі гэта між намі.

— А чаго ты баішся?

— Маўчы. Я нікому цяпер не веру. І табе не раю. Ох, і ёсць жа падлюгі!.. Ты чула, як яны мяне лупцавалі. А за што?..

— Табе лепш ведаць, — асцярожна адказала Азоліна.

— Эх, Нінка! Нельга цяпер быць такой абыякавай. Калі б ты ведала, як яны мне абрыдлі, гэтыя паскудныя морды. Не магу, ведаеш, спакойна глядзець. Я табе веру і не баюся прызнацца...

Азоліна слухала Грачухіна і думала: «Што яму трэба ад мяне?» З таго часу, як пачала працаваць у камендатуры і пасябравала з перакладчыцай немкай Бранфельдт, амаль усе знаёмыя ад яе адвярнуліся. Яна добра гэта ведала, бо часта чула пагардлівыя словы:

— У, гадзюка! Прадалася...

Здавалася, Ніне было ўсё роўна, што пра яе думаюць у Обалі. Ва ўсякім выпадку, яна не старалася ні перад кім апраўдвацца.

Замест ранейшых доўгіх кос, яна насіла гладкую прычоску на прабор, хадзіла ў яркай квяцістай сукенцы і модных туфлях на венскім абцасіку. Здавалася, толькі адзін чалавек быў ёй знаёмы і блізкі. Гэта яе ранейшая настаўніца нямецкай мовы з тутэйшых мясцін Тэрэза Отаўна Бранфельдт. Абедзве яны жылі ў Зуях, разам хадзілі на службу, разам вярталіся дадому.

— Адна другой варты,—злосна шапталіся суседзі.

Паводзіны Грачухіна здаліся Азолінай ненатуральнымі. Гэта насцярожыла яе.

— Слухай, Міхаіл, — сказала яна строга. — Я добра знаёма з лейтэнантам Мюлерам. Варта мне паўтарыць яму твае словы, і ты будзеш вісець на шыбеніцы...

Яна паскорыла крокі.



2

У зямлянку начальніка штаба атрада імя Варашылава пастукаў Мікалай Зянькоў.

— Уваходзь, — пачуў ён стомлены голас Пузікава.

Мікалай рашуча адчыніў дзверы. Яго чырвоны, потны твар, расшпілены каўнер кашулі адразу падказалі Пузікаву, што хлопец прыбег не так сабе.

— Што здарылася?

— Ад Фрузы, — падаў Зянькоў лісток Пузікаву.

— Не Фрузы, а Тані. Колькі разоў табе напамінаць?.. — паправіў Пузікаў.

— Вінаваты... Прывычка. Сястра ж...

Начальнік штаба, прачытаўшы данясенне Фрузы Зяньковай, загадаў Мікалаю неадкладна выклікаць камісара.

— Скажы Маркіянаву, што мне трэба з ім параіцца.

Пётр Дзмітравіч яшчэ не дакурыў папяросу, як у зямлянку ўвайшоў Маркіянаў.

— Як табе, Пятро, гэта падабаецца? — яшчэ з парога запытаўся ён.

— Рыхтуюць контрудар, — спакойна сказаў Пузікаў.

— Ты ўпэўнены?

— Вядома.

У данясенні, якое прыслала Фруза, паведамлялася:

«З Полацка ў бок фронта часта праходзяць воінскія эшалоны. У Обалі ўсе паравозы запраўляюцца вадой. Чакаю ўказанняў».

Камандаванне атрада неадкладна інфармавала аб гэтым цэнтральны штаб партызанскага руху. У адказ прыйшла радыёграма: «Любымі сродкамі прыпыніць рух на ўчастку Полацк — Віцебск. Варашылаў».

Летам сорак трэцяга года Савецкая Армія рыхтавалася нанесці ўдар гітлераўскай групіроўцы «Цэнтр», што абараняла подступы да Беларусі. Смаленск, Ярцава, Духаўшчына, Дзёменск, Веліж, Віцебск былі ператвораны ворагам у магутныя вузлы супраціўлення.

У чаканні новага ўдару Савецкай Арміі гітлераўскае камандаванне ўзмацніла перасоўванне на ўсход людскіх рэзерваў і баявой тэхнікі.

Пузікаў прачытаў яшчэ раз данясенне Фрузы. Яго вочы затрымаліся на апошнім радку: «У Обалі ўсе паравозы запраўляюцца вадой».

На першы погляд у гэтым не было нічога асаблівага — для таго і стаіць у Обалі вадакачка. Але начальніку штаба здалося дзіўным, што запраўляюцца ўсе паравозы. Чаму ўсе? Хіба частка іх не магла б браць ваду на іншых станцыях, скажам, у Дзвінску, Рэжыцы? Аднак не бяруць. Значыць, на станцыях ад Дзвінска да Віцебска вадакачкі бяздзейнічаюць.

З гэтым пагадзіўся і Маркіянаў.

— Калі, Пётр Дзмітравіч, гэта праўда, дык чаму б і нам не ўзарваць обальскую вадакачку? Рух спыніўся б надоўга...

У Пузікава ўзнікла шмат планаў. Спачатку яму здавалася, што вадакачку можна ўзарваць сіламі партызан. Трэба толькі накіраваць дзве-тры роты аўтаматчыкаў, нечакана напасці на ахову і... Але, параіўшыся з Маркіянавым, ён адмовіўся ад гэтага плана. Такі напад

падняў бы на ногі ўвесь гарнізон, а гэта — дзве тысячы салдат. Могуць выклікаць вялікія ахвяры.

Адпаў і другі варыянт: дзейнічаць невялікай ударнай групай разведчыкаў. Вадакачка была абгароджана двума радамі дроту, па якім пушчаны электрычны ток. Падыходы да дротавай агарожы аж з трох бакоў прастрэльваліся кулямётамі.

Пузікаў гадзінамі праседжваў над картай мясцовасці, вывучаючы обальскі квадрат. Ён склаў сваю карту павялічанага маштабу, нанёс на яе ўсю сістэму абароны вадакачкі: агнявыя пункты, падыходы, замініраваныя ўчасткі.

Прайшоў дзень. Усе паравозы па-ранейшаму спыняліся на станцыі Обаль.

Вечарам з вёскі, дзе размяшчаўся штаб брыгады, вярнуўся Маркіянаў. Ён застаў Пузікава нейкім расчараваным.

— Нічога, Барыс, не прыдумаў...

— Не бядуй, Пятро. Усё будзе добра, — падбадзёрыў яго камісар.

— Ёсць навіны?

— Ага. Толькі што размаўляў з Наташай Герман. Яна вярнулася ад Фрузы. Расказвае, што обальскія хлопцы самі прасачылі, як падвозіцца да вадакачкі вугаль і дзе ён захоўваецца.

— Вось гэта добра...

— Я буду сёння ноччу ва Ушалах. Збярэм камітэт. Разам абмяркуем, як і што...

Вечарам у зямлянку начальніка штаба былі выкліканы вопытныя падрыўнікі.

Падрыхтавалі міну. Асталі воску. Разагрэлі яго і абклеілі з усіх бакоў міну. Пасля гэтага яе абкачалі ў вугальных друзачках і пыле, і яна стала падобна на невялікі кавалак звычайнага вугалю.

— Нават спрактыкаванае вока не адрозніць, — сказаў задаволены Пузікаў.

### 3

Другія суткі Фруза дзяжурыла на назіральным пункце ў Мікалая Аляксеева. Вечарам яна вярнулася ад маяка дадому, так і не дачакаўшыся сувязнога. Не запальваючы лямпы, прысела ля акна.

Няпоўны месяц усплыў над дахамі, залiваючы пакой бледна-блакітным святлом. Фруза задуменна глядзела на невыразныя абрысы лесу і сілуэты хат. На душы ў яе было сумна. Ёй здавалася, што обальскія падпольшчыкі чагосьці яшчэ не зрабілі, калі адзін за адным праз станцыю праходзяць на фронт эшалоны ворага.

Яна ўжо стала распранацца, як пастукалі ў акно. Так стукаць мог толькі сувязны ці хто-небудзь са сваіх. Яна не здзівілася, што сувязны прышоў проста да яе, хаця Маркіянаў строга загадваў сустракацца ў дамоўленым месцы, ля маяка.

«Значыць, нешта неадкладнае...» — падумала Зянькова і пайшла адчыняць дзверы.

На двары яна адразу пазнала Маркіянава, Зіну Партнову і Наташу Герман.



Фруза павяла іх у хлеў: ёй не хацелася будзіць бацькоў. Наташа перадала ёй пачак лістовак, надрукаваных у партызанскай друкарні.

— Ты можаш, Фруза, сабраць раніцай камітэт? — спытаў яе Маркіянаў.

— Магу. А дзе?

— Можна каля маяка, але лепш у хляве, дзе прымалі прысягу. Месца глухое, блізка лес. Абм ркуем адно пытанне...

Пакінуўшы гасцей да раніцы на сене, Фруза забегла ў дом і разбудзіла Марфу Аляксандраўну.

— Я пабягу ў Зуі, а ты, мама, пакліч да нас Аркашу Барбашова.

Валодзя, Яўген і Ілья Езавітавы, якія мелі пропускі, каб хадзіць у любы час сутак, хутка звязаліся з астатнімі членамі камітэта. А восьмай гадзіне раніцы сабраліся ўсе.

Маркіянаў азнаёміў іх з планам дыверсіі. Задачай юных мсціўцаў было — узарваць вадакачку. Адначасова партызаны разбіраюць чыгунку ў Гаранах, Язвіне і Лоўшы. Такім чынам, увесь участак чыгункі Полацк—Віцебск выйдзе са строю.

— Здорава! — не ўтрымаўся Яўген Езавітаў. — Прашу ўзрыў даручыць мне...

Маркіянаў паморшчыўся. Наташа Герман вінавата апусціла галаву. А Яўген, захапіўшыся, развіваў свой план.

— Я, Валодзя і Ілья нападаем ноччу на вартавых. Здымаем без адзінага стрэлу. Потым закідваем гранатамі ўсе агнявыя пункты, узрываем лакамабіль і вадакачку.

План, прапанаваны Яўгенам, быў смелы. Маркіянаў заўважыў у вачах некаторых хлопцаў нават зайздрасць. Ён мог выказаць цяпер сваю думку, але хацеў паслухаць, што яшчэ скажуць другія.

— Я, Жэня, не ведала, што ты гэтакі мастак, — парушыла цішыню Зянькова. — Не веру я ў поспех твайго налёту. — Усе павярнуліся ў бок Фрузы. — Ты думаеш, што вораг — пешка...

— Дайце я скажу, — перапыніла яе Ніна Азоліна. — Ноччу фашысты выстаўляюць каля вадакачкі засады. Акрамя таго, у машынным аддзяленні, гэта я ведаю дакладна, дзяжураць аўтаматчыкі. Паспрабуй, Жэня, схадзі да іх у госці!

Наташа Герман гаварыла спакойна:

— Жэня памыляецца. Навошта рызыкаваць, калі можна ўсё зрабіць абдумана.

— Дайце мне яшчэ сказаць! — Азоліна па-школьнаму падняла руку. — Вадакачку ўзрываць не абавязкова... — Заўважыўшы на тварах прысутных здзіўленне, яна замоўкла.

— Нічога, не разумею, — паціснуў плячыма Яўген.

— Я, здаецца, не так выказалася, — збянтэжылася Ніна. — Я хацела сказаць, што лакамабіль вадакачкі можна ўзарваць, але для гэтага не трэба і заходзіць у машыннае аддзяленне.

— Як жа гэта? — здзівіўся Ілья. — Растлумач.

— Вельмі проста: трэба падкінуць міну ў вугаль, калі яго выгружаюць на станцыі. Разам з вугалем міна трапіць у топку.

— Ты, мусіць, не ўяўляеш, Азоліна, што такое ўзрывальнік? — падняўся Маркіянаў. — Канец яго прыкрыты толькі паўсантыметровай коркай. Адзін удар цвёрдым прадметам, скажам, пры разгрузцы платформы — і міна ўзарвецца.

Яўген пры гэтым іранічна ўсміхнуўся:
— Эх ты, дыверсантка!
— Прабачце, аб гэтым я не падумала, — прызналася Ніна і тут жа спытала: — А што, калі падкінуць міну ў вугаль, рассыпаны каля самай вадакачкі?
— А як туды прабрацца? — Фёдар Слышанкоў адразу ж загарэўся гэтай ідэяй.
— Я сама туды пайду. Мне гэта зрабіць лягчэй, чым табе ці любому з нас. Я вяду ўлік запасу вугалю.
— Адна пойдзеш? — спытала Герман.
— Можа і адна... Пакуль не ведаю.
Маркіянаву спадабалася ідэя Азолінай. Ён прапанаваў на гэтым закончыць абмеркаванне пытання.
— Сягоння ж далажым камандаванню вашы меркаванні. Рашэнне паведамім праз сувязнога.
Ноччу ў зямлянку Пузікава прышоў сакратар падпольнага райкома партыі Сіпко. Склікалі камандзіраў. Трэба было падрабязна разгледзець план дыверсіі.
— Тут варта падумаць не толькі пра тое, як прайсці на тэрыторыю вадакачкі, але і загадзя прыкінуць, як адтуль выйсці, — гаварыў Сіпко. — Трэба і вадакачку ўзарваць і захаваць жыццё Азолінай.
— Не трывожцеся, Антон Уладзіміравіч. Усё прадугледжана. Яна пойдзе не адна. — Пузікаў далажыў Сіпко аб тых зменах, якія прышлося ўнесці ў раней распрацаваны план пасля сустрэчы Маркіянава з падпольшчыкамі.
Назаўтра ў дамоўленым месцы Барыс Маркіянаў перадаў Фрузе міну.
— Толькі ўручы асабіста, не перадавай ні праз каго...
— Будзе зроблена, — запэўніла Зянькова.

4

У памяшканні обальскай камендатуры народу было мала. Два-тры чалавекі чакалі каля сакратарскага стала прыёму. За суседнім сталом сядзеў памочнік каменданта па гаспадарцы лейтэнант Мюлер і разглядаў у часопісе ілюстрацыі.
Ад каменданта выйшла Тэрэза Отаўна.
— Лейтэнант, вас запрашае гер камендант.
Мюлер усхапіўся, паправіў кіцель і прайшоў у кабінет начальніка.
Стол Ніны Азолінай стаяў каля самага ўваходу ў пакой каменданта. Але як ні прыслухоўвалася яна да размовы за дзвярыма, пачуць штонебудзь не ўдалося.
Раптам адтуль паспешліва выбег заклапочаны Мюлер.
— Прыёму сёння няма. Можаце ісці, — аб'явіў ён наведвальнікам. І тут жа звярнуўся да Азолінай: — У вас сшытак уліку вугалю?
— Калі ласка.
— Каменданта цікавяць нашы запасы.
— Цяжка сказаць, гер лейтэнант. Апошнюю выгрузку мы яшчэ не замяралі.
Узяўшы ў Азолінай сшытак, Мюлер зноў пайшоў да каменданта. Іх размова працягвалася даволі доўга.



Ніне хацелася ў гэты час увайсці ў кабінет начальніка, але яна ніяк не магла знайсці прычыны. У той жа час яна адчувала, што каменданта не выпадкова цікавяць запасы вугалю.
Вугаль, які прыбываў на станцыю, выгружаўся на тэрыторыі вадакачкі. Туды Азоліна звычайна хадзіла разам з лейтэнантам Мюлерам. І кожны раз ёй афармляўся адпаведны пропуск. Але гэта здаралася толькі тады, калі трэба было абмяраць вугальныя бурты.
Неўзабаве з кабінета пачаў даносіцца гучны хрыплаваты голас каменданта. Як зразумела Азоліна, ён размаўляў па тэлефоне з Віцебскам. І зноў пра вугаль. «Відаць, вышэйшае начальства турбуецца, — падумала Ніна. — У чым справа?»
Канчаўся рабочы дзень. Тэрэза Отаўна ўжо сабралася ісці дамоў. Ніна таксама стала збіраць паперы. Але ў гэты час з кабінета выглянуў Мюлер:
— Вам, фрэйлен, прыдзецца затрымацца. Будзем замяраць вугаль.
Ніна спачатку ўзрадавалася. Гэта добра, што ёй такім шляхам удасца прабрацца на тэрыторыю вадакачкі. Але дрэнна, што ў яе цяпер няма пры сабе міны.
Пакуль Азоліна раздумвала пра гэта, Мюлер атрымаў новае заданне: з'ездзіць на машыне ў Глушаніна па бензін.
— Ідзіце, фрэйлен, дадому, — сказаў ён, вярнуўшыся ад каменданта. — Вугалем зоймемся заўтра з раніцы.
Вечарам Ніна расказала Фрузе і пра падслуханую размову па тэлефоне і пра заданні каменданта. Зянькова перадала ёй міну.
— Ні пуху табе, ні пяра. Толькі будзь асцярожнай... — раіла Фруза.

5

Жмурачыся ад сонца, вартавы аддаў чэсць афіцэру, з якім была дзяўчына. Яна прытрымлівала рукой даволі вялікую модную дамскую сумачку, якая вісела ў яе на левым плячы.
Не чакаючы запытання, дзяўчына падала вартавому пропуск.
Вугаль тут ляжаў у вялікіх, доўгіх буртах. Перш за ўсё Азоліна і Мюлер абмяралі вугаль апошняй выгрузкі. Лейтэнант чатырохмятровай рэйкай з дзяленнямі вымяраў шырыню і вышыню, а Ніна запісвала лічбы і рабіла падлікі.
Заставалася абмерыць апошнія два бурты, што знаходзіліся ля вадакачкі. Адзін з іх быў пачаты. Каля яго валяўся рассыпаны вугаль і тут жа ляжаў шуфель. Ніна ўзяла шуфель і стала падраўноўваць бурт. І пакуль лейтэнант абмяраў першы, некрануты бурт, Азоліна, не спяшаючыся, спакойна выняла з сумачкі міну і падклала яе ў вугаль.
Раптам яна пачула грубы вокрык вартавога:
— Вэк! Вэк! Тут нельга.
«Няўжо заўважыў?» — у дзяўчыны пацямнела ў вачах.
Яна ўсё ж падняла галаву, глянула на вартавога і толькі цяпер заўважыла, што на супрацьлеглым беразе ракі распраналіся хлапчукі, збіраючыся, мабыць, купацца.
«Значыць, ён крычаў на іх».
Яна энергічна, з яшчэ большай стараннасцю стала падграбаць рэшткі вугалю.

Падышоў лейтэнант Мюлер.

— Як тут цудоўна! Ці няпраўда, гер лейтэнант? — паказала дзяўчына на раку.

— О-о, фрэйлен!.. У нас у Франкфурце таксама ёсць вялікая рака...

Ніна была ў вясёлым настроі, яна нават дазволіла лейтэнанту ўзяць сябе пад руку, каб хутчэй пайсці з тэрыторыі вадакачкі.

Прайшло трое сутак і толькі на чацвёртыя вадакачка была ўзарвана. Пасля ўзрыву на станцыі затрымалася адзінаццаць эшалонаў. Рух на ўчастку Полацк — Віцебск спыніўся больш чым на тыдзень.

## Веласіпедысты

### 1

Летам рабочыя ільнозавода ў Обалі звычайна ў полудзень збіраліся на беразе ракі. Як і заўсёды, сёння да ракі выйшлі амаль усе, бо і ў памяшканні і пад павеццю было горача.

Адны ляжалі ў кустах, другія загаралі, трэція купаліся.

Зіна Лузгіна сядзела пад дрэвам і вышывала.

У кустах раптам зашапацела. Лузгіна ад нечаканасці ўздрыгнула.

— Гэта ты, Міша? — спытала яна, убачыўшы Грачухіна.

— Добры дзень! — прамовіў Грачухін і сеў побач. Зірнуўшы на пачатую канву хусцінкі, ён сказаў: — Эх, Зіна! Гляджу я на твае вышыўкі і думаю: навошта толькі чалавек жыве? Помню, як ты гаварыла на сходах аб радзіме, аб свабодзе, а цяпер... Хусцінкамі забаўляешся...

— Ты гэта пра што? — насцярожылася Зіна.

— Дзіцё і тое зразумее. — Ён падсунуўся бліжэй да яе. — Сястра мне казала, што гэтымі днямі партызаны напалі на Улу. Раскалашмацілі ўвесь гарнізон!.. А ў Обалі хлопцы ў шчыліны пахаваліся. Дзяўчаты ўзяліся за вышыўкі...

Зіна памятала Міхаіла Грачухіна са школы. Хлопец як хлопец. Нічым асаблівым не вылучаўся. На сходах сядзеў заўсёды дзе-небудзь ззаду і пазяхаў. Зіна памятае яшчэ і той камсамольскі сход, на якім прымалі Грачухіна ў камсамол. Рэкамендаваў Міхаіла, здаецца, і Валодзя Езавітаў.

Грачухін тады не расказаў, што бацька яго служыў гарадавым і ў дзевяцьсот пятым годзе ўдзельнічаў у расстрэле рабочай дэманстрацыі ў Віцебску. Гэта стала вядома з дакумента, які зачытаў на сходзе сакратар школьнай камсамольскай арганізацыі Барыс Маркіянаў. Міхаіла, вядома, не прынялі...

Зіна глядзела цяпер на яго і думала: «Чаго гэта ён раптам стаў такім актыўным?»

— Слухай, Міша, скажы мне, дзе ты прападаў дагэтуль?

— Што гэта, допыт? — пакрыўдзіўся Грачухін. — Ты, часам, не працуеш у паліцыі? А зрэшты, Зіна, павер, мне страшна ўсё гэта абрыдла. Прыстае кожны, як ды дзе... — І тут жа дадаў: — Ну, быў у акружэнні пад Чорным Борам, Уласаў здрадзіў... Ледзьве выратаваўся...



— Тады табе прамая дарога да партызан. А мяне не падбівай... У мяне галава свая... І я хачу яшчэ жыць.

— Эх, калі б я ведаў, дзе партызаны, — уздыхнуў Грачухін.

— І я не ведаю і ведаць не хачу, — заспяшалася Зіна і, узяўшы вышыўку, устала. — Пойдзем. Перапынак канчаецца...

Зіна Партнова і Лёня прыйшлі да дубка з новым заданнем партызанскага атрада. Яны былі ўзброены нямецкімі аўтаматамі.

— Трафеі? — спытала Фруза, абдымаючы Зіну.

— Адгадала, — пацвердзіла разведчыца. — Захапілі ва Уле.

Яна падрабязна расказала аб налёце партызан на Улу, распытала Фрузу пра вынікі ўзрыву вадакачкі, пацікавілася Азолінай.

— А што з ёй стане? Жыве, не сумуе.

— Калі Азолінай будзе пагражаць небяспека, — папярэдзіла Зіна, — камандаванне загадала неадкладна перакінуць яе ў партызанскую зону.

— Пакуль усё спакойна. Камендант вырашыў, што гэта зрабілі госці з Шашан.

— І вельмі добра. Маркіянаў прасіў перадаць, што фашысты не супакояцца. Яны будуць шукаць іншыя шляхі для перасоўвання. Перакінуць, відаць, на шашу. Хто там у цябе назірае за дарогамі?

— У Обалі Аркадзь Барбашоў і Фёдар Слышанкоў, а ў Зуях — браты Езавітавы. Але пакуль на шашы спакойна.

— Як толькі заўважыце ажыўленне, дзейнічайце. Не чакайце.

У той жа дзень Зянькова склікала членаў камітэта і перадала ім сваю размову з сувязнымі атрада. Было вырашана загадзя падрыхтавацца, каб пры выпадку замініраваць шашу і ўзарваць мост праз раку.

Зрабіць гэта было нялёгка. Ноччу незаасфальтаваны ўчастак шашы, які праходзіў каля вёсак, дзе жылі падпольшчыкі, моцна ахоўваўся вартавымі і асвятляўся пражэктарамі. Днём аховы не было, але ў абодва бакі часта хадзілі машыны.

— Калі ж мініраваць? — спытала Фруза.

— Я прапаную днём, — сказаў Езавітаў. Ён па-ранейшаму захапляўся самымі рызыкоўнымі планамі.

— Ну, вось табе!.. А машыны? — запярэчыла Зіна Лузгіна.

— Нічога, Зіна. Днём менш падазрэнняў.

Яўген пазнаёміў членаў камітэта са сваім планам. З ім пагадзіліся.

### 2

Па шашы, абганяючы адзін аднаго, імчаліся чацвёра веласіпедыстаў, апранутых у форму так званай «рускай вызваленчай арміі», створанай акупантамі на часова захопленай тэрыторыі.

Фрэнчы нямецкага крою, рускія галіфэ. На галаве пілоткі без арла, але з кукардай. Усё гэта набыў для хлопцаў обальскі бургамістр Іван Гаўрылавіч Езавітаў.

— Які ж ты, Федзька, прыгожы! — жартаваў, параўняўшыся з ім, Валодзя Езавітаў.

— Ідзі к чорту... — націскаючы на педалі, Слышанкоў вырваўся наперад.

«Добраахвотнікі» ўвесь час казыралі ўсім сустрэчным гітлераўцам, не разбіраючы чыноў.

За паваротам у Федзевай машыне лопнула камера. Таварышы акружылі яго. А Фёдар тым часам спрытна выварочваў камяні, раскопваў ямінку і закладаў міну.

Вынятыя камяні клалі на ранейшае месца, і веласіпедысты ехалі далей.

Праз пяць мінут зноў «лопалася» камера. На гэты раз у Барбашова.

Толькі Аркадзь адклаў у бок камень, як з-за павароту выскачыла легкавая машына. Барбашоў так і прысеў на зямлю. «Добраахвотнікі» аддалі чэсць афіцэрам, што ехалі ў машыне.

Калі машына знікла, Барбашоў хутка замаскіраваў ямінку і сеў на веласіпед.

Зрабіўшы сваю справу, веласіпедысты хуценька зніклі.

Вярнуўшыся да сябе і пераапрануўшыся, яны зноў накіраваліся па лясной дарозе да шашы і з невысокага пагорка сталі назіраць за транспартам. Хутка да іх далучылася Фруза, ёй таксама не сядзелася дома.

— Ну, як? Улоў вялікі?

— Можа, хто ўжо і ўзарваўся, але мы не бачылі... — адказаў Валодзя. — Чакаем...

З-за павароту паказалася трохтонка. Яна выехала якраз на тое месца, дзе Аркадзь Барбашоў ставіў міну. Хлопцы прыціхлі. Прайшло некалькі секунд, пачуўся выбух і машына паляцела ў канаву.

Хлопцы хацелі ўжо адпаўзці далей, як зноў з-за павароту паказалася легкавая машына. Выбух — і легкавая ўзляцела ў паветра. З пасажыраў ніхто не падняўся.

— Здорава! — Яўген Езавітаў аж цмокнуў языком.

У той дзень на мінах узарвалася шэсць машын з салдатамі і боепрыпасамі. Трэба было знікаць, пакуль не паявілася ахова з сабакамі.

Бярковіцкі мост праз Обаль знаходзіўся непадалёку ад вёскі Купліна. Барбашоў яшчэ з вечара разведаў падыходы да яго. Але яны прастрэльваліся гітлераўцамі. Нават ведаючы сістэму агню, цяжка было пранікнуць сюды. Ноччу мост удадатак асвятляўся.

Камітэт вырашыў, што мост мініруе Фруза. Каб адцягнуць увагу аховы, Яўген і Аркадзь падпаляць стог сена.

Цёмнай ноччу Жэня і Аркадзь падпаўзлі па дарожнай канаве да стога, што стаяў на лузе, непадалёк ад рэчкі.

Зялёныя вочы пражэктараў заглядалі ў рэчку, шнырылі па кустах, абмацвалі падыходы. Было ціха: салдаты не чакалі, відаць, ніякіх падзей.

Раптам на лузе, метраў за дзвесце ад моста, загарэўся стог сена. З вартавога памяшкання выбегла некалькі салдат. Яны кінуліся па адхону ўніз.

У той час, калі гітлераўцы тушылі стог сена, Фруза прабралася ў кусты пад мост, замацавала ў пралёце дзве магнітныя міны замаруджанага дзеяння і зноў знікла ў кустах.

Немцы абстралялі, відаць, на ўсякі выпадак, бліжэйшыя кусты і вярнуліся ў вартавое памяшканне.





Цяпер промні пражэктараў трывожна забегалі па зямлі, падоўгу затрымліваліся на кожным выступе. Але Фруза да гэтага часу паспела перабрацца ўжо ў дарожную канаву, дзе яе чакалі таварышы.

На світанні мост рухнуў у Обаль. Рух спыніўся на некалькі дзён. Мабілізаваўшы насельніцтва бліжэйшых вёсак, фашысты аднавілі мост, але Яўген Езавітаў і Аркадзь Барбашоў ноччу падпалілі яго.

3

Зянькова вярнулася ва Ушалы пад раніцу. Не паспела пераступіць парог, як маці кінулася ёй на шыю:

— Дачушка, родная...

— Што здарылася, мама? Што здарылася? Ну, кажы... — устрывожылася Фруза. Яна яшчэ ніколі не бачыла такой расхваляванай маці.

Марфа Аляксандраўна прашаптала скрозь слёзы:

— Забралі Лузгіных...

Фрузе здалося ў гэтую секунду, што сціснулі жалезным абручом сэрца.

«Што рабіць? Пайсці зараз жа ў Масцішча? Але паліцаі могуць зрабіць засаду».

Яна наспех сабралася і ўсё ж асцярожна прабралася лесам у Зуі да Езавітавых. Бургамістр расказаў ёй пра арышт Лузгіных.

— Знайшлі ў іх адзенне добраахвотнікаў, — гэта галоўнае... — падкрэсліваў ён.

Слухаючы Івана Гаўрылавіча, Фруза ўсё выразней уяўляла сабе, што адбылося. Колькі разоў яна прасіла Марыю не звязвацца з добраахвотнікамі, тая не паслухала, — і вось вынік неасцярожнасці.

Сёстры Лузгіны вялі прапаганду сярод моладзі, якая ўступала пад уплывам ашуканства і шантажу фашыстаў у «рускую вызваленчую армію». Марыі ўдалося ўгаварыць чатырох добраахвотнікаў перабегчы да партызан. Адзенне аднаго з іх засталося выпадкова ў хаце Лузгіных.

Праз некалькі дзён фашысты схамянуліся — няма хлопцаў. Пачалі шукаць. Паліцаі даведаліся, што добраахвотнікаў бачылі на вечарынцы ў Масцішчах, адкуль пайшлі да Марыі. Пры вобыску ў Лузгіных паліцаі знайшлі абмундзіраванне.

— Адкуль гэта ў цябе? — дапытваўся Экерт.

— Абмяняла, — адказала, пабялеўшы, Марыя. Яна зразумела, што «засыпалася».

Тыдзень пратрымалі Марыю і яе старэйшую сястру Тацяну ў обальскай турме, але нічога ад іх не дазналіся.

Расстралялі дзяўчат днём на плошчы, каля сховішча гародніны. Салдаты сагналі сюды жыхароў Обалі і навакольных вёсак.

Плошча не месціла ўсіх. Людзі тоўпіліся на бліжэйшых вуліцах, у завулках. Месца кары было абкружана гітлераўцамі. Экерт і яго памочнікі расхаджвалі перад натоўпам, прыслухоўваліся, прыглядаліся.

Развітацца з сёстрамі Лузгінымі прыйшлі і юныя падпольшчыкі. Яны стаялі, апусціўшы галовы. Ім было пакутліва бачыць баявых таварышаў у бядзе і ўсведамляць, што нельга іх выручыць.

Па твару Фрузы цяклі слёзы. Яна не саромелася, не хавала іх, можа, нават не заўважала, што плача.

...Адзенне на Марыі было парвана. На ілбе вялікія сінія плямы. Рукі і ногі акрываўлены. Яна цяжка дыхала, варушачы скусанымі да крыві і апухлымі губамі.

Тацяна ледзьве стаяла. На босых нагах яе чырванеліся раны — сляды допытаў Экерта.

«Родныя мае! Мы адпомсцім за вас...» — клялася Фруза.

Да сясцёр Лузгіных наблізіўся афіцэр.

Ён штосьці паціху сказаў — у натоўпе не расслухалі.

Марыя, адвярнуўшыся, глянула ў натоўп і ўбачыла сваіх сяброў... Раптам твар яе пасвятлеў, сціснуўшы кулакі, яна рванулася наперад.

— Таварышы! — падняла яна руку. — Успомніце, як мы жылі... Знішчайце фашыстаў! Хай пад імі гарыць зямля!.. — Марыя павярнулася да салдат. Губы яе дрыжалі. — Забойцы! Вы адплаціце крывёю. Прыйдзе час!..

Афіцэр падбег да яе, размахнуўся і кастлявым кулаком стукнуў па твары. Пачулася каманда:

— Падрыхтавацца!..

Сёстры абняліся, пацалаваліся. Так і засталіся яны стаяць, моцна абняўшыся.



Марыя толькі крыкнула:

— Страляйце, вылюдкі!.. Мы не баімося смерці... Будзьце пракляты!..

Афіцэр апусціў руку. Двойчы, адзін за адным, пачуліся залпы. Марыя апусцілася на калені і, павярнуўшыся на бок, упала, як падкошаная; побач з ёй апусцілася на дол старэйшая сястра.

Нібы вецер, праляцеў па натоўпе цяжкі ўздых...

Антаніна Антонаўна Лузгіна ўскрыкнула і асунулася на зямлю. Яна не плакала, не стагнала. Толькі працягвала рукі туды, дзе ляжалі яе дзеці, расстраляныя фашыстамі.

## Удар за ўдарам

### 1

Як з маленькіх ручайкоў збіраюцца рэкі, так з невялікіх падпольных груп і партызанскіх атрадаў вырасла ў сорак трэцім годзе ў Полацка-Ушацкай зоне грозная армія народных мсціўцаў. Семнаццаць брыгад і асобных атрадаў пад камандаваннем Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Лабанка ўтрымлівалі ў тыле ворага вялізны раён у пяць тысяч квадратных кіламетраў.

Гэта акрыляла юных падпольшчыкаў Обалі. Дыверсіі не спыняліся, распаўсюджваліся лістоўкі і савецкія газеты. Гестапаўцы, іх агенты і паліцаі дарэмна шукалі сляды партызан і падпольшчыкаў.

Пасля арышту і расстрэлу сясцёр Лузгіных Грачухін больш не сумняваўся, што ў Обалі дзейнічае падпольная арганізацыя. Але як з ёй звязацца. Ён спрабаваў яшчэ раз загаварыць пра гэта з Нінай Азолінай, але тая, відаць, на самай справе нічога не ведала. Мусіць, закахалася па вушы гэта дзяўчына ў лейтэнанта Мюлера, а на ўсё астатняе махнула рукой. Думае недзе толькі пра вышыўкі, вечарынкі ды танцы. Так здавалася Грачухіну.

Пасля першых няўдач ён парашыў наладзіць сувязь з хлопцамі. Перабраў у памяці ўсіх, хто вучыўся разам з ім да вайны, але нікога не мог знайсці.

Аднойчы вечарам Грачухіна выклікаў Экерт.

— Ты яшчэ доўга будзеш вынюхваць? — нездаволена спытаў ён.

— Пачакайце, пан начальнік. Я, здаецца, натрапіў на след, — схлусіў пакуль што Грачухін.

— Ды я не спяшаюся, — палагаднеў Экерт. — Краузе толькі вось турбуе ўвесь час. Патрабуе высветліць, хто ў Обалі памагае партызанам.

— Я стараюся... але... — Ён запнуўся. — З кім ні размаўляю, адмоўчваюцца.

— Можа, ты прагаварыўся дзе, што дэзертыраваў з Чырвонай Арміі?

— Што вы, пан начальнік. Тут іншае — мінулае майго бацькі — перашкаджае.

— Табе не верыць?

— Не вераць, пан начальнік...

Экерт закурыў.

— Вось што, Грачухін, пойдзеш да Нячая. Ён цябе з нечым пазнаёміць. Што рабіць, даведаешся ў яго. Хутка табе павераць. Абавязкова павераць! — сказаў начальнік паліцыі, раптам павесялеўшы.

Дні праз два пасля гэтага па Обалі папаўзлі чуткі: Экерт арыштаваў Грачухіна. Паліцаі ахвотна расказалі, што Міхаіла злавілі нібыта пры спробе падпаліць склад з ільновалакном і забралі ў гестапа, у Гараны.

2

З кожным днём юным падпольшчыкам станавілася цяжэй збірацца разам. Усюды шнырылі агенты гестапа і паліцаі. Каб прадухіліць праваЛ, райком партыі і райком камсамола рэкамендавалі раздзяліць арганізацыю на тры групы: ушальскую, обальскую і масцішчанскую.

Камітэт больш не збіраўся ля маяка. Сустракаліся ці ў хляве, што ля лесу, ці ў каго-небудзь дома.

У пачатку ліпеня ушальская і обальская групы парашылі ўзарваць у адзін і той жа дзень ільнозавод і электрастанцыю, што забяспечвала энергіяй чыгуначную станцыю, вайсковыя часці, цагельню, лесапільню і іншыя аб'екты.

Фруза павінна была асабіста сустрэцца з прадстаўнікамі райкома партыі і райкома камсамола для канчатковага вырашэння гэтага пытання.

Неўзабаве сувязная паведаміла ёй месца і час сустрэчы. Фруза пайшла з Нінай Азолінай.

Маркіянаў і Герман ведалі, для чаго іх запрашаюць, і загадзя падрыхтаваліся. Праз Мікалая Зянькова, Зіну Партнову і Ілью Езавітава, пасланых у обальскі гарнізон, былі папярэдне высветлены сістэма аховы заводаў і парадак атрымання прапускоў, разведаны зручныя шляхі падыходу і адыходу. Пузікаў распрацаваў план аперацый.

Сустрэча была кароткая. Заслухалі Фрузу, абмяняліся думкамі. Дамовіліся, што ільнозавод і электрастанцыю ўзрывае Зіна Лузгіна, лакамабіль цагельні — Ілья Езавітаў, матавоз і агрэгат на тарфяным заводзе — Яўген Езавітаў, а лесапільню — Фёдар Слышанкоў. Дамовіліся аб часе ўзрыву.

Перад тым, як аднесці ў Зуі да Езавітавых магнітныя міны, што перадаў Маркіянаў, Фруза Зянькова некалькі разоў схадзіла сюды з бітонам малака. Патрулі прывыклі да таго, што ў адзін і той жа час, чыста апранутая дзяўчына паяўлялася каля салдацкай кухні з бітонам у руцэ...

Праз тры дні, раніцай, Фруза паклала ў бітон міны, загорнутыя ў цырату, і заліла іх зверху малаком. Да вёскі Зуі яна дайшла ўдала. І не больш як метрах у ста ад дома Езавітавых яе аклікнуў паліцай Міхаіл Трафімаў.

Калісьці Трафімаў вучыўся ў Обальскай школе і таму ведаў мясцовую моладзь. Ведаў ён і Зянькову.

Нізкі ростам, з чырвоным тварам і пасінелым носам, ён заўсёды быў п'яны. Побач з ім ішоў другі паліцай, усё гледзячы сабе пад ногі. Гэта быў яго малодшы брат Сямён, высокі, хударлявы і спакойны.



Дзяўчына ішла, не звяртаючы ўвагі на п'яны вокліч паліцая. «Дайду толькі да бургамістра, — думала яна, — а там — бывайце, прадажныя шкуры».

Паліцай кінуўся ёй наперарэз.

— Сто-о-о-й! Сто-о-о-й, кажу...

Фруза спынілася.

— Што табе трэба, Міхась? — назнарок гучна спытала яна, стараючыся захаваць спакойны выгляд.

— Што ў бітоне?

— Як быццам не бачыш. Малако!

Ён глядзеў п'янымі мутнымі вачыма на бітон і ўжо працягнуў руку.

— Не чапай, чорт касалапы! — Фруза з усяе сілы штурхнула яго ў грудзі, і ён, не ўтрымаўшыся на нагах, паляцеў вобземлю.

— Ах, так! Я табе зараз... — Ён груба вылаяўся.

Паліцай намагаўся ўстаць, але ногі яго не трымалі.

Пачуўшы крык, з крайняга дому выбег нямецкі афіцэр.

— Пан начальнік, дапамажыце! — звярнулася да яго Зянькова.

Гітлеравец абыякава паглядзеў на дзяўчыну.

— Пан афіцэр, я нясу нямецкім салдатам малако на кухню, а яны хочуць адабраць.

Афіцэр падышоў, падняў накрыўку.

— О, млеко! Мільх! Карашо. Нясі, нясі... — Павярнуўшыся да паліцаяў, ён крыкнуў: — Пшол вон!

Фруза, завярнуўшы за вугал, шмыгнула ў сенцы дома бургамістра. Валодзя хутка выліў з бітона малако, а міны схаваў у хляве пад саломай.

Без чвэрці пяць Валодзя Езавітаў і Ніна Азоліна былі на тым месцы, дзе дамовіліся сустрэцца з Лузгіной. Яны чакалі яе ў кустах, каля ільнозавода. Пачуўся гудок. Валодзя глянуў на гадзіннік: роўна пяць. Зараз павінны выйсці рабочыя.

Прайшла мінута, другая. Міма вартавога, спяшаючыся дадому, прабеглі жанчыны з разгорнутымі прапускамі, але Зіны не было.

Яны пачакалі яшчэ крыху, не адводзячы вачэй ад прахадной. Лузгіна не выходзіла.

— Ці не здарылася што-небудзь? — пачынаў хвалявацца Валодзя.

— Нічога, усё будзе добра, — супакойвала яго Ніна.

Валодзя зноў паглядзеў на гадзіннік: дзесяць мінут на шостую. У гэты час удалечыні мільганула знаёмая фігура Зіны.

— Чаго ты затрымалася? Я тут чорт ведае што перадумаў, — нерваваўся Валодзя.

— Ды пачакай ты... Дай апамятацца...

Зіна, шпарка крочучы, расказала, як яна перачакала ў туалеце, пакуль з сушылкі выйшлі ўсе рабочыя, як затым хутка кінулася туды і падклала міну ў капу лёну. Вяртаючыся, наскочыла ў дзвярах на вартаўніка, але той нічога не спытаў, нават не паглядзеў на яе.

— Цішэй, Зінка, — Азоліна цяжка дыхала. — Мне за табой не паспець.

Лузгіна прыцішыла крок, і яны падаліся ўздоўж кустоў, пераглядаючыся і ўсміхаючыся. Валодзя — услед за імі.

Так яны дабеглі да таго месца, дзе іх чакала Фруза.
— Ну, як? — кінулася яна да Зіны.
— Пакуль, Фрузачка, нічога не ведаю. Міну паклала, а далей што...
У гэты момант іх аглушыў магутны выбух. Вогненны шар, прабіўшыся праз воблака дыму, узвіўся ў неба над ільнозаводам.
— Чаму так рана? — здзівілася Зянькова.
Яна не падумала, што ў сушылцы стаяла ў два разы вышэйшая тэмпература, на якую была разлічана міна.
— Вось табе, калі ласка. А яшчэ незадаволена... Ой! Гляньце, як гарыць... — радавалася Зіна.
Полымя ахапіла ільнозавод і электрастанцыю амаль імгненна.

4

Пасёлак Обаль. Мост праз раку. За дваццаць пяць метраў ад маста — лесапільня. Трапіць сюды пабочнаму немагчыма. Немцы абгарадзілі завод высокай агарожай, працягнулі зверху некалькі радоў калючага дроту, пусцілі па ім ток.

Перш чым выканаць заданне, Фёдар Слышанкоў тры разы хадзіў у разведку. З супрацьлеглага левага берага, з Зуеўскіх могілак, добра была відаць уся тэрыторыя завода. Федзя прыходзіў сюды раніцай, выбіраў у траве зручнае месца за адной з магільных агарож і гадзінамі назіраў за жыццём завода, вышукваў найбольш даступны шлях туды.

Федзя заўважыў, што тэрыторыя завода ад ракі абгароджана часткова: тут даволі вялікі ўчастак быў пад пляцоўкай для прыёму лесу са сплаву. На беразе ля самай ракі ляжалі ярусамі тоўстыя бярвенні, адсюль бралі іх на распілоўку.

У штабялях між бярвенняў мог схавацца, лежачы, чалавек. Але як туды залезці?

Прасцей за ўсё было пераплысці раку якраз насупраць неабгароджанага ўчастка і схавацца ў штабелі да зручнага моманту. Фёдар глянуў у бок моста, і твар яго пацямнеў. Там стаялі вартавыя з кулямётамі.

«Выходзіць, таварыш Слышанкоў, заданне нельга выканаць», — разважаў ён. — «Там нельга, тут нельга. Эх, Федзька!.. А табе яшчэ даручылі такую справу. Прызнайся, баішся рызыкаваць?»

Юнак ляжаў у траве між надмагільных помнікаў і крыжоў, злуючыся, што не можа нічога прыдумаць.

Пасля Федзя колькі мінут пазіраў на чараты, што выступалі з ракі, і вочы яго загарэліся вясёлым агнём. «Жартуеш, брат, — ціха сказаў ён, быццам побач знаходзіўся нябачны субяседнік. — Федзька рызыкаваць не баіцца. Пабачыш».

Ён падабраўся да берага, зрэзаў некалькі чарацін, вярнуўся і праз могілкі накіраваўся ў Зуі.

На наступны дзень, лёгка апрануты, Фёдар паклаў міну ў кішэню, прыкалоў яе зверху англійскай шпількай, выйшаў агародамі да ракі. Навокал паблізу нікога не было. Ён залез па шыю ў ваду, а перад гэтым скінуў у раку невялікае бервяно. Прытрымліваючыся за яго рукамі, паплыў пад вадой, лежачы дагары і трымаючы ў роце трубку з чароту, праз якую дыхаў.

Фёдар падплыў туды, дзе каля лесапільні на пляцоўцы ляжалі бярвенні, і вылез з вады. Паўзком дабраўся да складзеных ярусамі бярвенняў і праляжаў там да абедзеннага перапынку.

Калі ўсе пайшлі абедаць, Слышанкоў вылез са схованішча. Нікім незаўважаны, пранік у машыннае аддзяленне і паклаў у рухавік міну.

Фёдар вярнуўся на супрацьлеглы бераг, праплыўшы такім жа чынам уніз, і пайшоў дадому. Да выбуху заставаліся роўна дзве гадзіны.

А пятай гадзіне выбух не адбыўся. «Што за чорт?» — Слышанкоў успамінаў усё, што ён рабіў пасля таго, як вылез са схованішча паміж бярвеннямі.

... Вось ён ідзе да машыннага аддзялення, адчыняе дзверы. Дастае з кішэні міну з узрывальнікам, што ўтоплены ў адтуліну. Збоку — засцерагальнік. Перад тым, як пакласці міну, трэба асцярожна да канца выцягнуць засцерагальнік. Вось...

Фёдар пабляднеў, абхапіў рукамі галаву. «Што я нарабіў?» Ён выразна ўявіў, што ў апошнюю мінуту, спяшаючыся, забыўся выцягнуць да канца засцерагальнік. «Дык вось чаму не ўзарвалася міна».

Юнак бегаў па пакоі з кутка ў куток, як зацкаваны звер, і не знаходзіў сабе месца. Балела галава. «Што я нарабіў?» — шапталі скусаныя да крыві губы.

Некаторы час Федзя сядзеў, як непрытомны, потым кінуўся на ложак. Так праляжаў ніцма ў мокрым адзенні да таго часу, пакуль да яго не прыбег Яўген Езавітаў.

— Правал... — ціхім голасам сказаў Слышанкоў і хацеў штосьці дадаць, але Яўген раззлавана перапыніў яго:
— Хопіць!
Слышанкоў падняўся з ложка і адчуў, што да сэрца прылівае халодная хваля. Ён яшчэ ніколі не бачыў такім свайго сябра: балючы выраз твару, пацямнелыя вочы.
— Жэня, што здарылася?
— І ў мяне таксама... правал, — прашаптаў ён.

5

Яўген павінен быў узарваць на торфазаводзе матавоз і агрэгат, які вырабляў з торфу ізаляцыйныя трубкі для ваенных патрэб. Заданне яму выканаць было лягчэй, чым другім: ён працаваў тут жа, на торфазаводзе.

Як і Слышанкоў, Яўген выбраў для дыверсіі абедзенны перапынак. Яшчэ раніцай ён вырашыў, як падкладаць міны.

Усю раніцу хлопец нерваваўся, мацаў кішэні, дзе захоўваліся партсігары-міны, некалькі разоў падыходзіў да машыніста матавоза Васіля Кузьмічова, якога добра ведаў. Нарэшце высветліў, што той збіраецца пайсці абедаць дадому. Машыніст жыў у рабочым пасёлку тарфянікаў.

Яўген паспеў пабываць і на тарфяным полі, дзе стаяў агрэгат. Тут ён таксама перакінуўся некалькімі словамі з механікам агрэгата, рабаватым Лявонам Трафімавым з вёскі Зуі. Гэты дадому не збіраўся, а рашыў абедаць тут жа, каля агрэгата.

«Прыдзецца абмежавацца матавозам», — засмуціўся Езавітаў.

Але яму не ўдалося ўзарваць і матавоз. Тры разы падыходзіў Яўген да матавоза, але Кузьмічоў увесь час нікуды не адыходзіў адсюль. Ён не пайшоў у той дзень абедаць, распачаўшы дробны рамонт. «Відаць, мае наведванні насцярожылі яго»... — падумаў Яўген.

Незадоўга да заканчэння працы Езавітаў зноў схадзіў на поле да агрэгата, а пасля да матавоза, але Трафімаў і Кузьмічоў ужо здавалі машыны варце. Тут нечага і думаць было пра дыверсію...

Адразу пасля гудка Яўген пабег да Слышанкова.

## 6

Ілья Езавітаў не працаваў на цагельні, дзе па даручэнню камітэта яму трэба было ўзарваць лакамабіль. Трапіць яму сюды цяпер было цяжка — завод строга ахоўваўся.

Выручыла Ніна Азоліна, якая набыла пропуск камендатуры.

Але прышоўшы на завод з мінай замаруджанага дзеяння ў кішэні, юнак ніяк не мог трапіць у памяшканне, дзе знаходзіўся лакамабіль: механік Гарасім Кірылаў неадлучна стаяў на сваім месцы. Ілья быў з ім знаёмы. Кірылаў і да вайны працаваў тут механікам і жыў у Зуях. Гэта быў чалавек, пра якога Іван Гаўрылавіч Езавітаў гаварыў: «Гарасім — ні рыба, ні мяса»...

Езавітаў ведаў, што Кірылаў добраахвотна не згодзіцца памагчы яму ўзарваць лакамабіль, і пайшоў на хітрыкі. Захапіўшы з сабою кансервавую бляшанку, ён увайшоў пасля абедзеннага перапынку ў кацельную і накіраваўся проста да механіка.

— Добры дзень, дзядзька Гарасім! Я з просьбай да вас.

— З якой? — Кірылаў падазрона агледзеў хлопца з ног да галавы, прыпамінаючы, дзе яны нядаўна сустракаліся: «У бургамістра, здаецца. Але, у Івана Гаўрылавіча. Яго пляменнік». — Што табе трэба? — спытаў механік.

— Нічога асаблівага, Гарасім Іванавіч. Крыху салідолу, нечым боты змазаць.

— Дай бляшанку. Вечарам буду ісці дадому, прынясу.

Ілью гэта не задавальняла.

— Дзякуй, дзядзька Гарасім. Толькі навошта турбавацца? Я лепш пачакаю.

— Як хочаш.

Яны стаялі адзін супраць аднаго, занятыя сваімі думкамі. Кірылаў думаў, як бы гэта хутчэй выправадзіць няпрошанага госця, а Ілья, не збіраючыся ісці, думаў пра іншае: як бы выйшаў адсюль хоць на некалькі мінут механік.

Бачачы, што хлопец настойлівы, Кірылаў узяў у Ільі бляшанку і, прабурчаўшы штосьці сам сабе, адышоў да бочкі, што стаяла ў кутку за лакамабілем.

Пакуль механік набіраў салідол, Ілья паспеў пакласці міну пад махавік. Цяпер яму ўжо самому хацелася хутчэй адчапіцца ад механіка, але трэба было набрацца цярплівасці і чакаць.

Кірылаў прынёс поўную бляшанку салідолу.

— Надоўга хопіць, — сказаў ён глухаватым голасам.

— Дзякуй, Гарасім Іванавіч! — Ілья паціснуў яму руку і выйшаў на заводскі двор. Адсюль праз прахадную — на вуліцу.

Хлопец яшчэ не дайшоў да вёскі Зуі, як убачыў злева за ракой чорнае воблака дыму: гарэў ільнозавод. «Малайчына, Зінка!» — пахваліў ён Лузгіну. І тут раптам пачуўся моцны выбух. Ілья павярнуўся ў той бок, дзе знаходзілася цагельня. Яго міна таксама зрабіла сваю справу.



## 7

Дома Ілья застаў Фёдара і Яўгена. Яны сядзелі сумныя і маўклівыя. Можна было здагадацца, што ў іх няўдача.

— А ў цябе?

— Усё ў парадку! — адказаў Ілья і падвёў іх да акна, адкуль добра быў відаць пажар на цагельні .— І ў Зінкі таксама, — дадаў ён.

Маўклівы, змрочны, Слышанкоў не вытрымаў і пачаў расказваць Ілью, як усё здарылася.

— Не, падумай толькі, усё прадугледзеў, а пра засцерагальнік забыўся! Ну, скажы, Ільюша, хіба ж не разява я пасля гэтага?

— Не хвалюйся, Федзька, — падбадзёрваў Ілья. — Бывае... Яўген усхапіўся з крэсла.

— Вось пабачыце. Я сваё зраблю! Кроў з носу, але выканаю!

Ён стаяў перад імі ўсхваляваны, гатовы на ўсё.

Позна вечарам вярнуўся ад каменданта Іван Гаўрылавіч.

— Ну, як, бацька? — спытаў Валодзя.

— Эх, сыны, — сказаў бургамістр. — Лапці пляцеце, а канцы хаваць не ўмееце. — Ён сярдзіта паглядзеў на хлопцаў.

— А што здарылася? — Валодзя пабляднеў.

— Экерт ужо ведае, хто быў на цагельні.

— Я ж хадзіў патаемна, — спрабаваў апраўдацца Ілья.

— Патаемна! Мяне, старога вераб'я, на мякіне не абманеш. Тайна, як сетка: нітка парвецца, уся распаўзецца. Гарасім цябе назваў. Паліцаі збіліся з ног. Шукаюць партызан. Камендант пытаў пра нашу вёску. Ці не хаваюцца ў каго-небудзь партызаны? Я сказаў, што да нас не паказваюцца, баяцца.

— Табе, Ілья, трэба пайсці ў лес, — параіў Валодзя.

— Сувязныя будуць толькі ноччу, — адказаў Ілья.

— Тады ідзі з Федзем у поле. Там жыта звозяць. Будзь пакуль далей ад вачэй.

Раніцай па Ілью прыбег паліцай Нячаеў, але дома нікога не застаў: маці, сястра і цётка Гарпіна, жонка Івана Гаўрылавіча, працавалі ў полі.

— Можа, Ілья таксама там, — падказала Нячаеву суседка Езавітавых.

Нячаеў пайшоў на поле.

Ілья і Фёдар адпачывалі, калі ўдалечыні паказалася фігура паліцая на веласіпедзе, з вінтоўкай за плячыма.

— Эх, Ілья, прапалі мы з табой.

— А можа, ён па мяне?

— Давай не будзем варажыць, — прапанаваў Федзя. — Калі па абаіх, мы тут жа яго кончым, забярэм зброю — і ў лес. А калі па каго-небудзь з нас, то адзін яго загаворыць, а другі тым часам...

Пад'ехаў Нячаеў. Злез з веласіпеда, прывітаўся спачатку, а пасля ўжо звярнуўся да Ільі:

— Цябе выклікае камендант.

— Навошта я яму спатрэбіўся?

— А хто яго ведае, — абыякава адказаў паліцай. — Загадаў тэрмінова.

«Ну і хітрэц! — падумаў Ілья. — Ты, вядома, ведаеш, але не хочаш сказаць. Пачакай, я табе зараз пакажу, як гуляць са мной у хованкі».

— Што ж, раз я яму так патрэбен, то зараз пойдзем. — Ілья зрабіў выгляд, што не здагадваецца, у чым справа.

Міргнуўшы Федзю, ён звярнуўся да паліцая з просьбай:

— Слухай, Нячай. Я, бачыш, у трусах і майцы, босы. Непрыемна неяк у такім выглядзе на прыём да начальства ісці. Дазволь хоць штаны надзець. Я хутка.

Паліцай пастаяў крыху ў нерашучасці, зморшчыўшы кірпаты нос.

— Толькі хутчэй.

Адзенне ляжала метраў за пятнаццаць, у кустах. Туды і накіраваўся Ілья. Федзя папрасіў у Нячаева закурыць. Пакуль той частаваў Слышанкова сігарэтамі, даваў пакурыць, Ілья схапіў адзенне і кінуўся наўцёкі па кустах.

Паліцай пусціўся за ім наўздагон і крычаў з усяе сілы:

— Сто-о-о-й! Вяртайся назад!

Пераплыўшы раку, Ілья павярнуў на Зуі. Нячаеў выскачыў з кустоў і, убачыўшы Езавітава на другім беразе, стрэліў, але не папаў, — той быў далёка.

Ілья, замест таго, каб пайсці ў лес або ў вёску Ушалы да Фрузы Зяньковай, вярнуўся дадому. Гэтая неасцярожнасць магла каштаваць жыцця яму і іншым таварышам. Перад самым прыходам Ілы гестапаўцы, якія шукалі яго, пакінулі вёску. На шчасце, усё абышлося добра.

Дома Ілья пераапрануўся, узяў гранаты, што хаваў у хляве, і, абышоўшы Масцішча, накіраваўся да Фрузы. Ён ведаў, што сёння ноччу павінны быць сувязныя ад партызан. З імі ён і збіраўся пайсці ў лес.

Замест Фрузы Ілью сустрэла Марфа Аляксандраўна і схавала ў восеці, дзе ён і праседзеў увесь дзень.

Вечарам прыйшла Фруза. Яна расказала, як перадала ёй Азоліна, што немцы за ўзрывы вінавацяць толькі аднаго Ілью. Другіх не чапалі.

Апоўначы Ілья пакінуў Ушалы. Ішлі ўтраіх ляснымі дарогамі, абыходзячы вёскі, дзе маглі сустрэцца немцы. Аднойчы былі натрапілі на засаду. Езавітаву прыйшлося пусціць у ход свае гранаты.

На світанні паказаўся Шашанскі бор, за ім Заходняя Дзвіна. Пераправіліся на чаўне на супрацьлеглы бераг і ступілі, нарэшце, на партызанскую зямлю.

Ілью ніхто ні пра што не пытаў. Зіна Партнова перадала яму загад камандавання «выспацца».

Толькі на другі дзень яго выклікалі ў штаб. Тут Ілья ўбачыў начальніка разведкі Спірыдонава. Прысутнічаў і Сіпко. Пасля таго, як камандаванне атрада распытала Ілью пра ўсё, Сіпко сеў з ім побач. Цікавіўся, якая ў яго сям'я, дзе яна, ці не баіцца ён, што могуць расстраляць родных, можа лепш перакінуць іх у партызанскую зону. Яго стомленыя вочы глядзелі цёпла і ласкава.

Ілья чуў ад іншых, што Сіпко — душа партызанскага злучэння. Цяпер ён пераканаўся ў гэтым сам. Антон Уладзіміравіч распытваў пра людзей падпольнай арганізацыі, пра іх справы, патрэбы.

Гутарка зацягнулася да абеду.

— А цяпер, брат, схадзі ў лазню, — сказаў Сіпко на развітанне. — Папарышся... Веніка не шкадуй, у нас іх многа...



**Разгром гарнізона**

1

Ілью залічылі ў разведку. Прынялі пад увагу, што ён добра ведае тутэйшыя мясціны. Але заданняў яму пакуль што не давалі.

Аднойчы вечарам да Ілы падышла Зіна. У руках яна трымала нямецкі аўтамат.

— Ты чаго нос павесіў? Хочаш, пакажу, як разабраць і сабраць гэту трафейную штуку...

— Пакажы.

У атрадзе імя Варашылава не было такой зброі, з якой бы Партнова не ўмела страляць. Асабліва добра налаўчылася яна валодаць нямецкім аўтаматам і трафейнымі пісталетамі многіх сістэм.

З дапамогай Зіны вывучыў трафейную зброю і Ілья.

Праверыўшы Езавітава аднойчы, Спірыдонаў сказаў:

— Цяпер, бадай, можна пасылаць цябе ў разведку. І выпадак ёсць зручны.

Спірыдонаў меў на ўвазе баявы загад, дастаўлены днём з штаба брыгады.

Лес. Узгоркі. Азёры. Бясконцая стужка дарогі, якая губляецца ўдалечыні. А па абодва бакі, у сямі-васьмі кіламетрах ад Обалі, вёскі: Лявонава, Ваўчкі, Клеччына.

У кожнай з іх — гарнізон. Самы вялікі — у Лявонаве. Ён прыкрываў подступы да аўтастрады і чыгункі Полацк — Віцебск, да станцыі Обаль. Былі тут і часці, адведзеныя ў тыл на адпачынак.

Разграміць лявонаўскі гарнізон! — такую задачу паставіла камандаванне брыгады перад партызанамі атрада імя Варашылава. Трэба было папярэдне разведаць сілы ворага, яго агнявую сістэму.

Спірыдонаў выклікаў Зіну Партнову, Ілью Езавітава і Марыю Дзяменцеву.

— Вось што, таварышы. Пераапраніцеся як трэба і пойдзеце ў Лявонава. Разведайце ўсё: колькі салдат, чым узброены, дзе размешчаны, як лепш падысці да казармаў. Зайдзіце да дырэктара школы. Ён вам паможа. Гэта наш чалавек. Пароль: «Гаспадар, пазыч драбок солі».

Ішлі па знаёмых мясцінах. Увесь лес да Заходняй Дзвіны быў партызанскім. У чоўне пераправіліся на другі бераг.

Апоўначы наблізіліся да дарогі, дзе разведчыкам нядаўна ўдалося ўзарваць легкавую машыну і трохтонку з прадуктамі.

Цяпер па ёй імчалі ў абодва бакі машыны з нявыключанымі фарамі. Пераходзіць дарогу — небяспечна. Трэба перачакаць.

Разведчыкі заляглі ў кустах, метраў за пяцьдзесят ад дарогі. Зіна раптоўна схапіла Марыю за руку.

— Зірні направа!

Дзяменцева павярнула галаву і замерла. Яна штурхнула локцем Ілью. Машына фарамі асвятліла групу салдат. Яны вялі на павадках аўчарак.

— А што, калі сабакі пачуюць нас? — спытала Марыя.
— Ціха! — прашаптала Зіна.

У гэты час вялікі сабака спыніўся, павярнуў галаву ў бок кустоў. Спыніўся і салдат, які трымаў яго на павадку.

Гітлеравец пастаяў на месцы, паглядзеў на дарогу, на кусты і павёў сабаку далей.

— Ух... — з палёгкаю ўздыхнулі трое.

Пачакалі, пакуль салдаты знікнуць за паваротам, і хутка перабеглі дарогу.

На світанні яны падышлі да хаты былога дырэктара Лявонаўскай школы. Гаспадара дома не засталі, а жонка не ведала пароль. Аб чым з ёй размаўляць? Разведчыкі схаваліся ў хляве і рашылі пачакаць гаспадара.

Хлеў знаходзіўся за гародам. Праз шчыліны добра была відаць дарога, за дарогай — былая калгасная стайня і жывёлагадоўчая ферма.

— Што тут цяпер? — пацікавілася Зіна, звяртаючыся да Ільі.

— Спытаем у дырэктара школы.

— Мы зараз высветлім самі, — рашуча заявіла Зіна. — Ты, Ілья, пойдзеш з намі?

— Куды?

— На стайню. Мы пройдзем гародамі.

Узяўшы з сабой па адной гранаце, яны, хаваючыся ў кустах, падпаўзлі да стайні, заляглі і пачалі назіраць.





У стайні іржалі коні. Салдаты бегалі з вёдрамі да студні і назад — паілі коней.

Нечакана расчыніліся насцеж вароты, і Марыя ледзь утрымалася, каб не ўскрыкнуць. Са стайні на брычцы, у якой быў запрэжаны шэры рысак, выехаў Экерт.

— Жыве цяпер у нашым доме, падлюга, — прашаптала Марыя.

Пасля таго, як сям'я Дзяменцевых пайшла да партызан, начальнік паліцыі пасяліўся ў іх хаце.

Пазней Зіна Партнова і Марыя Дзяменцева накіраваліся да дырэктара школы, а Ілья яшчэ застаўся назіраць. Дырэктар ужо быў дома. Гэта быў чалавек год пяцідзесяці, у чорнай кашулі.

Зіна назвала пароль. Разгаварыліся. Сяргей Аляксеевіч Букараў,— так звалі дырэктара, — праз надзейных памочнікаў добра ведаў гарнізон.

— У Лявонаве каля трохсот салдат і паліцаяў. На стайні і на ферме больш двухсот коней. Прывялі іх з іншых гарнізонаў. Рыхтуюць, мабыць, супраць вас карную экспедыцыю.

Ён падрабязна расказаў пра сілы гарнізона і яго ўзбраенне.

— Перадайце камандаванню, што лепш за ўсё напасці апоўначы. Салдаты кладуцца рана, а дзесятай гадзіне. Вартавыя расстаўлены такім чынам... — Букараў начарціў схему пастоў і перадаў яе разведчыкам.

Пад раніцу яны былі ўжо ў партызанскім атрадзе.

2

Камісар брыгады імя Леніна прыбыў у атрад імя Варашылава. Гэта было перад тым, як партызаны збіраліся напасці на лявонаўскі гарнізон.

Сіпко склікаў камандзіраў атрада, падрабязна пазнаёміўся з планам аперацыі.

Начальнік штаба паведаміў свой варыянт нападу на гарнізон. Сіпко рабіў паметкі ў блакноце і час-ад-часу нагінаўся над картай, што ляжала тут жа на стале, абводзіў алоўкам пункты, якія ўпамінаў Пузікаў.

Парашылі, што дзве стралковыя роты і рота аўтаматчыкаў позна вечарам нечакана нападуць на казармы праціўніка, адрэжуць яму ўсе шляхі да адступлення і знішчаць. У пачатку аперацыі разведчыкі здымуць вартавых ля канюшні і ля фермы. Спецыяльная група адгоніць коней у партызанскую зону.

Сіпко на першы погляд гэты план здаўся цікавым. Раптоўнасць заўсёды памяншае страты. Але ж добра, калі ўсё так пойдзе. А што, калі немцы хутка апамятаюцца? У іх жа гарматы, кулямёты... Што тады?

Сіпко задумаўся. Можа ёсць і другі варыянт?

Але камандаванню партызанскага атрада імя Варашылава не была вядома адна важная падзея, што адбылася мінулай ноччу. А яна ўнесла б папраўку ў распрацаваны план нападу на Лявонава.

Адбылося ж вось што.

Разведчыкі суседняга атрада падарвалі на шашы легкавую аўтамашыну. Сярод параненых, якіх захапілі ў палон, быў і старшы ад'ютант

генерала — кіраўніка карнай экспедыцыі супраць партызан Полацка-Ушацкай зоны.

Калі палоннага афіцэра даставілі ў штаб брыгады, начальнік брыгаднай разведкі аж у далоні пляснуў:

— Хлопцы... Каго вы мне прывялі?

Ён са здзіўленнем разглядаў нямецкага капітана і пацінскаў плячыма.

— Вось дык дзіва... Трахім, збегай да Сіпко, — папрасіў ён маладога партызана.

Камісар брыгады паспяшаў у штаб.

— Гляньце, Антон Уладзіміравіч, на гэтага фрыца! — звярнуўся да яго начальнік разведкі, плячысты хлопец з паголенай галавой. — Як дзве кроплі вады — камісар Варашылаўскага атрада Маркіянаў.

Сапраўды, з твару немец быў вельмі падобны на Маркіянава.

Па дакументах, якія былі пры палонным, партызаны даведаліся, што ён вязе каменданту лявонаўскага гарнізона маёру Шварцу загад: пачаць экспедыцыю супраць партызанскай брыгады.

Вось тут у Сіпко і ўзнікла думка: «А што калі замест старшага ад'ютанта паслаць з гэтым загадам Маркіянава. Хлопец ён смелы, добра гаворыць па-нямецку. Апрануць яго ў форму капітана Гендрыке... Хай выманіць карнікаў з гарнізона, а мы іх сустрэнем...»

На нарадзе ў штабе атрада Сіпко выказаў сваю думку. Пагадзіліся, што такі варыянт хоць і небяспечны, але больш выгадны партызанам.

— Безумоўна, — гаварыў Маркіянаў, — у загадзе ж няма дакладнага маршруту. Значыць, я магу прапанаваць любы? Зробім засаду. Пры гэтым няма патрэбы браць столькі людзей, колькі мы думалі. Дастаткова роты аўтаматчыкаў, аднаго стралковага ўзвода і аддзялення разведчыкаў.

Дамовіліся, што Маркіянаў скіруе экспедыцыю на Екацярыненскі бальшак. Аб прыбліжэнні праціўніка паведамяць разведчыкі. У трох кіламетрах ад Лявонава, на скрыжаванні дарог, аўтаматчыкі сустрэнуць фашыстаў агнём.

Цяпер жа стралковы ўзвод будзе суправаджаць Маркіянава да ўзлеску, што падступае да Лявонава. Адсюль на матацыкле Маркіянаў накіруецца з двума аўтаматчыкамі да каменданта.

Пасля нарады Маркіянаў паклікаў двух хлопцаў:

— Па-нямецку ведаеце?..

Тыя здзіўлена глядзелі на яго.

— Трохі ведаю, — адказаў затым адзін. — Хальт! Хэндэ хох! Гітлер капут!

Маркіянаў засмяяўся. Смяяліся і партызаны. А другі з іх, старэйшы, паказаў кулак:

— Я буду дзейнічаць, а не размаўляць.

— Добра. Рыхтуйцеся! Паедзем у Лявонава, — сказаў камісар.

Стралковы ўзвод заняў зыходны рубеж.

Маркіянаў сеў у каляску, аўтаматчык прымасціўся на багажнік, і вядучы даў газ.

Пад'ехалі да камендатуры яшчэ засветла, але рух на вуліцы ўжо спыніўся. Надыходзіў час адбою.

Вартавы, угледзеўшы незнаёмага капітана з двума крыжамі і трыма



баявымі медалямі на мундзіры, падаў каманду «смірна!» На ганак выбег маёр Шварц. Убачыўшы афіцэра ў форме эсэсаўца, ён гаркнуў:

— Хайль Гітлер!

— Хайль... — спакойна адказаў Маркіянаў і адрапартаваў:—Гаўптман Гендрыке, старшы ад'ютант генерала фон Разенталя.

Пачуўшы прозвішча генерала, камендант уздрыгнуў: Разенталь праславіўся даўно сваёй лютасцю.

— Прыемна пазнаёміцца, гаўптман. Вельмі рады. Прашу вас.

У кабінеце каменданта Маркіянаў паказаў дакументы і ўручыў загад шэфа. Шварц, прачытаўшы загад, некалькі здзівіўся:

— Сягоння ж выступаць?

— Так точна, гер маёр! Час не церпіць. Трэба хутчэй разграміць гэта асінае гняздо. Генерал незадаволены вамі. Вы заўжды марудзіце... Вось маршрут... — Ён працягнуў старанна начэрчаную ў штабе атрада схему руху калоны.

— Чаму так позна дастаўлены загад? — не разумеў камендант.

— Генерал, відаць, хоча праверыць вашу аператыўнасць...

— О так, гер гаўптман... — спахапіўся маёр.

Спаслаўшыся на позні час і на партызан, Маркіянаў адмовіўся ад вячэры, развітаўся і пакінуў лявонаўскі гарнізон, які тут жа быў падняты на ногі па трывозе.

Аўтаматчыкі заляглі па абодва бакі Екацярыненскага гасцінца. Камандзір роты Пётр Адамчук абышоў усе аддзяленні, ля высокай елкі прыпыніўся.

З прыдарожнай канавы даносіўся прыглушаны голас:

— Ну і дадзім «адольфікам» прыкурыць...

— Хлопцы, нядрэнна было б цяпер сальца з хлебам. Пад грудзьмі смокча...

— Ну і зуда... Горш камара... Замры, гавару!..

Нехта кашлянуў і паблізу зашыпелі:

— Ці нельга цішэй...

«Фёдараў...» — Адамчук пазнаў па голасу старога камандзіра аддзялення.

...Мікалай Езавітаў стаяў у сакрэце на ўзлеску і назіраў за павароткай дарогі. З-за дрэў выглядвалі Зіна Партнова і Марыя Дзяменцева. Па сігналу Мікалая яны павінны былі папярэдзіць камандзіра роты аўтаматчыкаў.

Раптам Мікалай заўважыў, як з-за паваротки метраў так за паўтараста выплылі з цемры сілуэты двух коннікаў. Ён хутчэй адчуў, чым убачыў, што набліжаецца варожая калона.

Юнак падаў сігнал, мільганулі палянай дзве дзявочыя постаці, і хутка па аддзяленнях шэптам перадалася каманда: «Падрыхтавацца!»

Аўтаматчыкі і разведчыкі перапаўзлі з канавы ў прыдарожныя кусты.

Адамчук чакаў, пакуль уся калона не выцягнецца шашой да скрыжавання дарог. Вось два коннікі пад'ехалі да скрыжавання і спыніліся.

«Раяцца. Зараз усё будзе вырашана», — падумаў Адамчук, трымаючы напагатове ракетніцу.

Неўзабаве коннікі рушылі далей. За імі і ўся калона.

Рассякаючы начную цемень, у неба ўзляцела зялёная ракета. Загаварылі дзесяткі аўтаматаў; ад гранат застагнала дарога...

## Гараць пакгаузы

### 1

Апошні раз Валодзя Езавітаў, кіраўнік обальскай групы падпольшчыкаў, гутарыў з Міхаілам Грачухіным у канцы сорак першага года. Міша тады ў ваенным абмундзіраванні, з вінтоўкай за плячыма спяшаў на станцыю.

— Ад'язджаю, Валодзя. На фронт.

— Шчаслівa! Вяртайся з перамогай! — пажадаў яму Езавітаў ад усяго сэрца.

І вось яны зноў сустрэліся. Праз два гады... І зноў паблізу ад станцыі. Валодзя ішоў у пасёлак да сястры Ганны, а Грачухін вяртаўся з Гаранскай турмы. Худы, зарослы барадой, ён ледзь плёўся, кульгаючы і апіраючыся на сукаваты кій.

Пазнаўшы адзін аднаго, яны прывіталіся.

— Выпусцілі? — спытаў Валодзя.

Ён дазнаўся ад бацькі, што Міхаіла арыштавалі, калі той хацеў падпаліць склад з ільном.

— І за што трымалі, сволачы! — Грачухін злосна вылаяўся.

— А падпал? — здзівіўся Езавітаў.

Грачухін памаўчаў, агледзеўся па баках:

— Я іх абвёў. Сведак жа няма. Мала што там набрахаў Волкаў...

— Які Волкаў?

— Ты яго ведаеш. Той, што вучыўся з намі ў адным класе. Мікалай. Ён даўно на мяне меў зуб. З-за дзяўчыны. Але нічога, я з ім цяпер...

Памаўчалі. Потым Грачухін спытаў:

— Закурыць ёсць, Валодзя?

Езавітаў дастаў капшук. Скруцілі цыгаркі.

— Моцна цябе білі?

— А што расказваць... Скажы лепш, чым ты цяпер займаешся?

— Памагаю бацьку па гаспадарцы...

— І гэта трэба. Ну, будзь здароў. Забягу калі-небудзь...

Прайшло колькі дзён, і школьныя сябры сустрэліся зноўку. Пагаварылі, успомнілі аднакласнікаў.

— Дзе яны цяпер? — нібы між іншым, спытаўся Грачухін і сам жа адказаў: — Адны ў арміі, другія ў партызанах...

Езавітаў змоўчаў: чаго гэта ён будзе пускацца ў такія размовы...

— Можа каторыя з іх ужо і героі, — прадаўжаў сваё Грачухін. — Зайздрошчу ім, шчырую праўду кажу... Эх, Валодзька... Каб ты ведаў, які я дурань. Калі мы выходзілі з акружэння пад Чорным Борам, Уласаў прадаў нас... Я тады да партызан хацеў падацца, але зблудзіў у лесе і выйшаў на Езярышча. Ну, і пацягнула, вядома, дамоў. Думаў: «Пабачуся з роднымі і ў лес да партызан пайду». Але вось на завод на гэты падаўся... А між іншым, пра партызан я дарма гаварыў. Не прынялі б мяне.

— Чаму?

— Няма мне веры. І ўсё з-за бацькі...

Езавітаў хацеў ужо запярэчыць, але ўспомніў, што Міхаіла з-за бацькі сапраўды не прынялі ў камсамол. Маркіянаў тады быў сакратар школьнай камсамольскай арганізацыі і галасаваў супраць.



...Праз тыдзень, убачыўшы Езавітава на беразе Обалі, Грачухін паскардзіўся:

— Ведаеш, Валодзя, рукі ажно свярбяць. Проста месца не знаходжу. Хоць бы даць ведаць пра сябе партызанам у Шашанах. Можа б я спатрэбіўся ім. Як-ні-як, я ж ваяваў пад Ленінградам.

Валодзя слухаў і думаў: «Хто яго ведае, можа ён і варты чагонебудзь...» Але адказаў па-другому:

— Узяў бы ды і падаўся ў лес.

Грачухін з сумам у голасе заўважыў:

— Табе, Валодзя, лёгка так гаварыць... Куды? Да каго? Я ж адзін адным. А адной рукой, сам ведаеш, і вузла не завяжаш. Вось каб удваіх... Ды чаго там разважаць! Ты ж мяне ведаеш...

Валодзя вагаўся. З аднаго боку, Грачухін яму падабаўся сваёй настойлівасцю, і ў той жа час яго бянтэжыла, што той залішне гаворыць.

«Мліва, нібы, хапае, а вось мукі не відаць... — думаў ён. — Але ж што ён можа зрабіць адзін, адарваны ад арганізацыі? Хацеў жа вунь падпаліць склад адзін — і схапілі...»

Але ўнутраны голас яму падказваў: «Не спяшайся. Падумай пра ўсё. Прыгледзься, правер».

### 2

Станцыя Обаль — на палавіне шляху паміж Полацкам і Віцебскам. Сярод лесу. Маленькая, непрыкметная — усяго два домікі, схаваныя пад шапкамі стогадовых ліп. Тырчыць яшчэ на пустыры, падобная на каланчу, воданапорная вежа, што цудам уцалела ад бамбёжак.

Адзін домік, у два акны, заняў дзяжурны па станцыі, там жа быў і тэлеграф. У другім размясцілася ўпраўленне обальскага ваеннага каменданта. Праз станцыю кожны дзень праходзілі на фронт дзесяткі воінскіх эшалонаў з жывой сілай, тэхнікай, боепрыпасамі і харчаваннем.

Перш, да вайны, тут быў невялікі вакзал, з залай для чакання і багажным аддзяленнем. Насупраць вакзала было раскідана дзесяткі паўтара хат. Усё гэта змяло бамбёжкай. Захаваўся толькі драўляны пакгауз. Побач са старым збудавалі новы, таксама драўляны, для ільну. Камендант Обалі, які меў сувязь з інтэндантамі, дабіўся таго, што сюды звозілі ільноваланко не толькі з усёй Віцебшчыны, але і з Смаленшчыны.

За кароткі тэрмін у двух пакгаузах назбіралі больш двух тысяч тон ільну. Вось-вось яго павінны былі адвезці ў Вену.

Мікалай Аляксееў, дазнаўшыся пра гэта ад рабочых пакгауза, не мог трываць.

— Як гэта можна, Фруза, спакойна глядзець, калі паравоз падганяе да склада новыя вагоны? Гэта ж усё наша... Гэта ж награбілі яны...

— А што ты прапануеш? — спытала Зянькова.

— Не даць вывезці наша дабро...

— А як?

Аляксееў маўчаў. Фруза ведала яго. Ён не любіў нічога рабіць наспех, не абдумаўшы.

— Добра, Коля. Склічам камітэт, абмяркуем разам. Прыдзі раніцай.

Раніцай ва Ушалах сабраліся Валодзя і Яўген Езавітавы, Фёдар Слышанкоў, Ніна Азоліна, Зіна Лузгіна. Парашылі ўзарваць склады з ільном. Выканаць заданне даручылі Мікалаю Аляксееву і Фёдару Слышанкову. Пасля няўдачы з узрывам лесапільні Федзя вельмі ўзрадаваўся, што яму даручылі адказнае заданне і што ён зможа апраўдаць сябе ў вачах таварышаў.

3

Мінуўшы будку стрэлачніка, Мікалай павёў Фёдара да пераезда.

— Давай адсюль у лес... — прапанаваў Аляксееў. — Зробім лішні круг, затое выйдзем да пакгауза незаўважанымі.

Справа ад чыгункі цьмяна бялела ў цемнаце шаша. Дзесь над ёй успыхнула заранка. Было ціха, толькі ад рэчкі далятаў надакучлівы гуд піларамы: лесапільня працавала круглыя суткі.

Яны ўвайшлі ў ельнік і спыніліся. Пачуўся далёкі шум, раздаўся гудок, і залязскатала жалеза: цягнік узышоў на мост праз Обаль. Хутка ён спыніўся на станцыі.

Па свістках счэпшчыкаў і лязгату буфераў можна было здагадацца, што гэта падганяюць вагоны.

— Зноў лён. Добра, калі сёння пачнуць выгружаць...

— А што ў гэтым добрага?

— «А што?» «А што?» — перадражніў Мікалай. — Усё табе растлумач. Сам паварушы мазгамі. Пакуль маняўровы паравоз падгоніць вагоны да пакгауза і будуць выгружаць лён, мы прабярэмся да склада. Разумееш?

— Ну, пайшлі, — прашаптаў Аляксееў.

Яны выйшлі да станцыі хмызнякамі. Заляглі. Ад пакгаузаў іх аддзяляла толькі агарожа з дошак.

Маняўровы паравоз хутка падкаціў да платформы два таварныя вагоны. З боку станцыі пачуліся галасы людзей. Вартавыя іх не аклікалі, відаць, былі папярэджаны.

— Зараз пачнуць разгружаць... — штурхануў Аляксееў локцем Фёдара.

Прышлося пачакаць, пакуль людзі разышліся па вагонах.

Наўкол падняўся шум, мітусня. Пачалася разгрузка.

Слышанкоў першы апынуўся ля агарожы, падскочыў, ухапіўся рукамі за край дошкі, падцягнуўся і хуткім, моцным рыўком перакінуў спачатку адну, затым другую нагу.

«Можна»... — пачуў Аляксееў з-за агарожы і хуценька пералез праз яе.

На тым баку яны сталі ў цені і некаторы час чакалі. Выбраўшы зручны момант, далучыліся да групы рабочых і спрытна пачалі цягаць цюкі ільну ў склад. Далей ужо не складала ніякай цяжкасці пакінуць сярод цюкоў чатыры міны замаруджанага дзеяння.

У тлуме, мітусні ніхто і не звярнуў на іх увагі. Слышанкоў з Аляксеевым непрыкметна шмыгнулі за пакгауз і рушылі назад тым жа шляхам.

Ужо ля сваёй хаты Аляксееў прапанаваў падняцца на гарышча, на так званы назіральны пункт.



Неўзабаве пачуўся адзін выбух, за ім другі... Абодва пакгаузы ўспыхнулі адначасова.

Завыла сірэна. На пажар збегліся салдаты, але на іх вачах узарвалася трэцяя міна, і яны зніклі. На месца пажару прымчалі машыны з новымі салдатамі. Калі яны кінуліся да пакгауза, — іх сустрэў чацвёрты выбух.

Цёмнае жнівеньскае неба доўга свяцілася зарывам пажару.

## Непапраўная памылка

1

Валодзя Езавітаў парашыў праверыць Грачухіна. Ён папрасіў яго наклеіць на будынку камендатуры лістоўку, якую нібыта выпадкова знайшоў на вуліцы.

Назаўтра лістоўка сапраўды вісела на самым відным месцы, аж пакуль паліцыянты не сарвалі яе.

— Ну як, бачыў? — Грачухін чакаў пахвалы.

— На першы раз нядрэнна, — адказаў Валодзя, думаючы, якое б яшчэ заданне даць Грачухіну. Было ўжо вядома, што Яўгену ўдалося вывесці са строю матавоз і тарфяны экскаватар. Валодзя папрасіў Грачухіна дазнацца, ці адрамантаваны тыя машыны. Міхаіл хутка паведаміў пра гэта Валодзю і спытаў, як бы між іншым:

— А нашто табе гэта?

— Так, для цікавасці.

— Ну што ж, не хочаш гаварыць, не трэба... — сказаў Грачухін з абыякавым выглядам. — Але ж сапраўдныя сябры давяраюць адзін аднаму. Ты ўжо забыўся, як рэкамендаваў мяне ў камсамол... Тады верыў, а цяпер сумнявацца пачынаеш...

— Адкуль ты ўзяў?

— Тады раскажы. Ты маё слова ведаеш.

— Ды чаго ты прыліп? Скажу, калі час прыдзе...

Мінуў тыдзень. Сябры сустрэліся гэты раз у бібліятэцы.

Міхаіл Грачухін узяў кнігу і заспяшаўся. Гартаючы яе, ён нечакана заўважыў перапісанае ад рукі паведамленне Савінфармбюро пра разгром немцаў на Курскай дузе.

«Вось табе і маеш... Рыбка сама лезе ў сетку... Адкуль жа зводка ў Валодзі? — задумаўся Грачухін. — Значыць, ён мае сувязь з партызанамі?..»

Валодзя сапраўды забыўся выняць з кнігі лісток са зводкай. За ім гэта вялося. Аднойчы ля «дубкоў», дзе юныя мсціўцы пакідалі партызанам звесткі і атрымоўвалі заданні, Фруза знайшла кавалачкі паперы. Аказалася, што Валодзя, прачытаўшы заданне, не спаліў паперку, як патрэбна было. Папала яму тады ад Зяньковай, але ўрок, відаць, хутка забыўся.

Грачухін жа аднёс Валодзю кнігу разам з лістком, але зняў з яго сабе копію.

— У другі раз будзь асцярожны, — павучаў ён Езавітава. — Мала да каго ў рукі можа гэта трапіць... З бяды не вылезеш...

Валодзю было няёмка, але ён стараўся быць спакойным. А Грачухін спачувальна спытаў:

— Напэўна, хто-небудзь падкінуў?

Валодзя прамаўчаў.

— Ты ж ведаеш, Валодзя, я лішняга балбатаць не маю прывычкі, — гугніў Грачухін. — Нікому ні слова.

Езавітаў пасля паўзы спытаў:

— Значыць, ні слова?

— Будзь упэўнены.

— Дамовіліся?

— Магіла!

— Хлопцы далі пачытаць.

— Я так і думаў, — абыякава адказаў Грачухін.

Выконваючы дробныя даручэнні Езавітава, Грачухін пакуль што абмяжоўваўся даносамі на асобных маладых падпольшчыкаў. Ён акуратна наведваў бібліятэку, прыглядаўся да чытачоў, збіраў пра кожнага з іх звесткі. А сам, баючыся, трымаўся як бы збоку...

Грачухіну не ўдалося прабрацца ў арганізацыю. Ён нічога не ведаў аб падрыўной рабоце юных мсціўцаў, а толькі здагадваўся. Але яму і гэтага было дастаткова, каб выслужыцца перад паліцыяй і гестапа.

Гітлераўцы, даведаўшыся ад Грачухіна пра падазроныя паводзіны моладзі, чакалі толькі зручнага выпадку, каб нанесці ўдар.

26 жніўня 1943 года ў другой палавіне дня атрады гестапа і паліцыі акружылі адначасова пасёлак Обаль, вёскі Зуі, Масцішча і Ушалы. Маючы прозвішчы і адрасы, фашысты і іх найміты ўрываліся ў хаты, забіралі падпольшчыкаў і ўсіх тых, хто меў да іх дачыненне: бацькоў, братоў, сясцёр, сяброў.

Былі арыштаваны: Уладзімір і Яўген Езавітавы, Мікалай Аляксееў, Фёдар Слышанкоў, Ніна Азоліна, Зіна Лузгіна, Зоя Сафончык, Дзмітры і Марыя Хрыбценка, Марыя Ушакова і другія. Разам з імі былі забраны бацька, маці і дзве меншыя сястры Ніны Азолінай, маці і малодшы брат Зіны Лузгіной, маці Фёдара Слышанкова, Іван Гаўрылавіч Езавітаў з жонкай, дачкой Ганнай і сынам Дзмітрыем і Ефрасіння Іванаўна Яблыкава.

Для маскіроўкі паліцыя арыштавала і Міхаіла Грачухіна.

Не былі арыштаваны толькі два члены камітэта: Аркадзь Барбашоў, пра якога Грачухін нічога не ведаў, і Фруза Зянькова, якая ў гэты час знаходзілася па заданню падпольнага райкома партыі ў Полацку. Ёй трэба было адвезці туды міны і ўзрыўчатку, а адтуль узяць соль.

Грачухін выдумаў яшчэ, што хата Ільі Езавітава, дзе размешчана палявая радыёстанцыя, замініравана. Гітлераўцы адразу ж забралі адтуль радыёстанцыю, а хату спалілі.

## 2

Аркадзь цяжка перажываў, што нічым не можа памагчы таварышам. Вяртаючыся дамоў увечары 27 жніўня з Обалі, ён выпадкова падслухаў гутарку п'яных паліцаяў, братоў Волкавых.

— Ну, Парфір, чакай узнагароды. Узялі ўсіх дачыста. Толькі атаманша на волі.

— Не бядуй, Коля... Заўтра і яе возьмем.



«Значыць, Фрузу не ўзялі... — Аркадзь неяк з палёгкай уздыхнуў. — Але дзе яна цяпер? Як яе папярэдзіць пра небяспеку.?»

Барбашоў стаў асцярожна распытваць і даведаўся, што Фруза паехала ў Полацк па соль. Ён здагадаўся, што соль — гэта для партызан, і парашыў, як бы там ні было, сустрэць Фрузу. Два дні дзяжурыў Аркадзь Барбашоў на шашы, сочачы за транспартам...

Ён не ведаў, з якой цяжкасцю Фруза выбралася ў Полацк. Праехаць туды на машыне было немагчыма: на кожным амаль кроку правяралі пропускі, пасажырскія ж цягнікі не хадзілі зусім. Фруза знайшла выхад: аднесла на раз'езд каменданту курыцу і дзесятак яек. Той выпісаў за гэта пропуск на праезд у машыне.

У Полацку на явачнай кватэры Фрузу ўжо чакалі. Не паспела яна распрануцца, як чыгуначнікі расхапалі міны і тол. У той жа дзень ёй здабылі соль і пасадзілі на спадарожную машыну, што ішла ў Шуміліна.

Толькі на трэці дзень позна ўвечары Аркадзь Барбашоў пазнаў на машыне, што вынырнула з-за павароту шашы, Фрузу і замахаў ёй шапкай. Фруза прыветна кіўнула яму галавой.

«Значыць, нічога не ведае...» — Аркадзь пачаў падаваць рукамі ўмоўныя сігналы: «блізка небяспека»...

За вёскай Кружніна машына спынілася. Зянькова саскочыла, скінуўшы мяшок з соллю з кузава, і падбегла да Барбашова.

— Што здарылася? Гавары... Толькі праўду...

— Усе арыштаваны... Застаўся я і Вера Будневіч... — голас Аркадзя дрыжаў.

— Слухай, кінь палохаць... — не давала веры Зянькова.

— Праўда, усё праўда... Нас, напэўна, выдаў нехта...

— Хто? — Фруза раптам збялела. — Адкуль ты гэта ўзяў?

— Я так думаю, — ціха адказаў Аркадзь і тут жа схапіў яе за руку. — Слухай, пойдзем да партызан. Два дні я цябе тут чакаў.

Фруза амаль не чула яго. Думкі ліхаманкава праносіліся ў яе галаве.

— Чакай, Аркаша. Дай падумаць, хто ж нас мог выдаць?

Аркадзь яшчэ ні разу не бачыў Фрузу такой: твар яе пацямнеў, пагаслі вочы...

— Вось што... Ты ідзі. А я... я не магу. Я першая нясу адказнасць перад камсамолам і партыяй за арышты. Пакуль не даведаюся пра ўсё, нікуды не крануся. Перадай усё, што ведаеш, Сіпко, Маркіянаву і Наташы. Мне трэба прабірацца да Ушалаў. Ноччу буду чакаць сувязнога. Ля маяка...

— Што ты, Фруза... Цябе ж усюды шукаюць. Пойдзем...

— Не трэба, Аркаша, не ўгаворвай. Бывай!..

Зянькова пайшла напрасткі праз балота ва Ушалы. Дабралася кустамі да свайго гарода. Насустрач выбег бацька.

— Уцякай, дачушка... Я чакаў, пільнаваў цябе, папярэдзіць хацеў. Уцякай хутчэй...

Марфа Аляксандраўна прынесла хуценька есці.

— А цяпер вы хутчэй збірайцеся, — падганяла Фруза бацькоў, — пойдзем разам да партызан.

Фруза засталася на гародзе, а бацька з маці пайшлі ў хату па рэчы.

Марудна ішоў час. Бацькоў не было. І раптам стрэлы...

Фруза кінулася ў кусты. Яна бачыла, як выбег з хаты бацька і падаўся на гароды. Марфа Аляксандраўна затрымалася нечага на ганку, потым зноў вярнулася ў хату. Мусіць, забылася нешта. Тут набеглі гітлераўцы і забралі яе.

Фруза з бацькам цэлыя суткі праляжалі ў кустах. Чакалі, што прыдзе і Марфа Аляксандраўна. Назаўтра пад вечар, нікога не дачакаўшыся, яны пайшлі ў партызанскі атрад.

### 3

Арыштаваных адвезлі ў мястэчка Шуміліна. Размясцілі іх у турме, якую акружаў частакол з калючага дроту і будкі з вартавымі.

Бруднае і цеснае памяшканне агульнай камеры асвятляла лямпа, падвешаная да столі. Жоўтыя палосы яе святла падалі на людзей, што ляжалі проста на падлозе.

Валодзя Езавітаў сядзеў, абхапіўшы рукамі калені і задумаўшыся. Ён чакаў, што яго першага выклічуць на допыт.

«Я кіраваў обальскай групай... — думаў ён сам сабе.—Мне больш, чым другім, вядома пра работу арганізацыі. Канешне, гестапаўцы возьмуцца перш-на-перш за мяне. Будуць біць, катаваць... Нічога не скажу!..»

І раптам набегла думка:

«А што, калі нас забралі толькі па падазрэнню? Былі ж у Обалі выпадкі, калі схопяць каго-небудзь па здагадцы, патрымаюць з тыдзень у турме, нічога не даб'юцца і выпусцяць... як было з Грачухіным...»

У самым кутку барака сядзела Марфа Аляксандраўна. Экерт моцна пабіў яе пры арышце, і яна ледзь падымалася на ногі. Зіна Лузгіна і Ніна Азоліна ляжалі побач з ёю.

Ішоў трэці дзень пасля арышту, але нікога яшчэ не выклікалі на допыт. Ад такой загадкавасці рабілася яшчэ цяжэй.

У змрочным бараку панавала маўчанне. Марфа Аляксандраўна хацела падбадзёрыць хлопцаў і дзяўчат:

— Спявайце, саколікі. Спявайце. Лягчэй будзе.

Яўген Езавітаў пачаў у паўголаса сваю любімую песню:

«Уходили комсомольцы
На гражданскую войну...»

Па-рознаму ў душы кожнага адгукнуліся гэтыя словы. Кожны цяпер думаў аб сваім лёсе... Не шчыльнымі радамі ідуць яны на ворага, а пад цяжарам гора і з горкім усведамленнем таго, што не ўсё яшчэ зроблена...

— Адыходзілі і вярталіся... — задумліва сказаў Мікалай Аляксееў. — А мы ці вернемся?

— А гэта як мы будзем трымацца... — адгукнуўся Грачухін, які ляжаў побач. Яго перавялі ў агульную камеру толькі сёння.

— Што-о?.. Трымацца?.. — аж ускіпеў Слышанкоў. — Вельмі проста — маўчаць! Жылы будуць цягнуць — усё адно маўчаць. Ні слова!

— Твая праўда, Федзька! — падтрымаў Яўген. — Ніводнага слова!

Грачухін павярнуўся на другі бок, да сцяны.

— Эх, сябры, — прадаўжаў Аляксееў, — ведаць бы, хто нас выдаў... Я, здаецца, задушыў бы сваімі рукамі таго мярзотніка...



Усе пераглянуліся. Нават Грачухін падняўся на локці і паглядзеў на Аляксеева. Можна было бачыць, як ён пабялеў, праглынуўшы сліну, і сказаў:

— Душа чалавека — цёмная ноч. Дазнайся, як хочаш...

У гэты ж час заскрыпелі дзверы, і з парога крыкнулі:

— Грачухін! Выходзь!

— Вось вам і арыфметыка... Чаму ж яго выклікалі першага? — здзівіўся не толькі Федзя Слышанкоў. Многія хлопцы і дзяўчаты захвалюваліся, паўскоквалі на ногі, загаварылі, перабіваючы адзін аднаго. Пачуліся выкрыкі, што Грачухін здраднік.

Больш за ўсіх хваляваўся Валодзя Езавітаў. Ці можа ён цяпер шчыра заручыцца перад сябрамі, што Грачухін свой чалавек? Нейкі сум закрадваўся да яго ў душу. Валодзя хадзіў па камеры, заклаўшы рукі за спіну.

Звароту Грачухіна чакалі з вялікай нецярплівасцю, нібы яго з'яўленне магло канчаткова вырашыць іх лёс.

Нарэшце, загрымелі засаўкі, і Грачухіна ўпіхнулі ў камеру. Ён спыніўся і стаяў, хістаючыся, бы п'яны. Губы яго ўздрыгвалі, трэсліся рукі, памутнелыя вочы неяк незразумела аглядалі ўсіх у камеры. Нарэшце, хрыплым, не сваім голасам ён выкрыкнуў:

— Хлопцы! Таварышы! Мяне білі... Я ўсё расказаў. Прызнавайцеся...

Колькі секунд была цішыня, у якой чулася толькі дыханне ўсхваляваных грудзей... Але вось першы ўскочыў з месца Яўген.

— Таварыш знайшоўся... Гадзюка!..

Да Грачухіна падскочыў Валодзя. Яны ўпіліся вачыма адзін у аднаго. Твар Грачухіна скрывіўся ад страху...

Валодзя, не могучы стрымацца, размахнуўся і ўдарыў здрадніка па твары:

— Сволач!..

Марфа Аляксандраўна, сагнуўшыся, прабралася да Валодзі і, трымаючы яго за руку, сказала:

— Твая праўда, сынку. Гэта ён, нягоднік... Ён... Ніхто другі не пайшоў бы на гэта... — Павярнуўшыся да Грачухіна, яна плюнула: — Будзь ты пракляты, сабачы вырадак!..

Грачухін, пацёршы далонямі твар, палахліва падаўся ў куток, але да яго кінуўся з кулакамі Слышанкоў:

— Бі яго!.. Бі!.. — пачуліся галасы.

Моцным ударам Фёдар збіў Грачухіна з ног. Хлопцы ў гневе пачалі біць яго, чым папала.

З калідораў, мабыць, назіралі за ўсім праз «вочка», бо раптоўна ўскочылі паліцаі.

— Разыйдзіся!..

Паліцыянтам ледзь удалося вырваць і адцягнуць Грачухіна ад раззлаваных хлопцаў.

У гэты момант з парога крыкнулі:

— Грачухін! Узяць рэчы!.. Уладзіміру Езавітаву падрыхтавацца...

На парозе Грачухін адвярнуўся і, бліснуўшы злосна вачыма, вылаяўся...

— Езавітаў! На выхад!.. — данеслася другі раз з парога.

— Бывай, браток! — Яўген абняў Уладзіміра.

— Бывай, Жэня... Бывайце, сябры...

Адзін за другім паціскалі Валодзю руку падпольшчыкі. «Мы з табой, — гаварылі іх позіркі. — Смялей, браце!»

І Валодзя, крута павярнуўшыся, цвёрда пайшоў на выхад.

4

Ужо развіднела, а Валодзя яшчэ не вяртаўся. Нарэшце, у замку бразнуў ключ. Адчыніліся дзверы, і салдаты ўпіхнулі ў камеру Езавітава. Ён ледзь трымаўся на нагах. Вопратка на ім была парвана, увесь твар акрываўлены.

Сябры кінуліся да яго, узялі пад рукі, памаглі легчы на падлогу. Яўген падаслаў яму свой пінжак.

Усе акружылі Валодзю: не цярпелася даведацца, што было на допыце. Але Валодзя ляжаў, адвярнуўшыся да сцяны, і ціха стагнаў.

— Піць... — неўзабаве папрасіў ён, ледзь варухнуўшы вуснамі.

Ніна Азоліна і Зіна Лузгіна кінуліся да вядра, што стаяла ў кутку. Ніна прынесла шклянку вады, Зіна — мокры ручнік. Валодзя прыўзняўся, прагна прыпаў да кружкі. Марфа Аляксандраўна ўзяла ручнік і абвязала яму галаву.

— Пацярпі, сынок. Скора палягчэе...

Яна ўступіла месца Зіне, якая мокрай насавой хустачкай пачала абмываць скрываўлены твар Валодзі і спачувальна глядзела і глядзела на яго вялікімі вачыма. Валодзя не вытрымаў і ўсміхнуўся.

— Табе лепш? — ціха спытала Зіна.

— Але... — Валодзя адказаў хутчэй аднымі вуснамі, узяў Зіну за руку і прыхінуў яе да шчакі.

Так ён ляжаў з гадзіну, а мо' і больш.

Пасля раптам, ледзь вымаўляючы словы, спытаў ціха-ціха:

— Памятаеш, Зіна, як я заходзіў да цябе ўвечары аж тры разы запар?

— Памятаю.

— А чаго заходзіў, ведаеш?

— Ага. Вучыў мяне, як з мінай абыходзіцца, як рэгуляваць механізм...

— Чаго вы там шэпчацеся? — перабіў іхнюю размову Яўген і падсунуўся бліжэй. Адзін за другім прыблізіліся і другія.

— Што, палегчала? — спытаў Слышанкоў.

— Пра што яны дапытваліся? — цікавіўся Аляксееў, чакаючы, што яго наступнага выклікаюць на допыт.

— Пра ўсё. Хто ў арганізацыі, хто кіраваў, хто прыходзіў з лесу... Так я ім і расказаў!.. Білі шомпаламі... Так мне і трэба... Навошта я даверыўся той гнідзе...

Валодзя прыўзняўся, сеў, абняў Яўгена і ўпёрся яму галавою ў плячо. Пасля, гледзячы на сяброў, сказаў:

— Я, хлопцы, вінаваты. Даверыўся Грачухіну. Але клянуся, яны не выцягнуць з мяне ні слова. — Ён прыклаў да ўспухлых губ далонь. — Арганізацыі ніякай не было... А Грачухін нічога не ведае. Ён можа толькі здагадвацца...

Міналі тыдні. Жыццё падпольшчыкаў не мянялася. Іх выклікалі да следчага, білі, катавалі, але яны ўпарта маўчалі.



Марфа Аляксандраўна з болем у сэрцы глядзела на юнакоў і дзяўчат, калі яны, акрываўленыя, вярталіся з допыту. У першы ж тыдзень пасля арышту яе таксама выклікалі на допыт. Следчы, пагражаючы зброяй, патрабаваў, каб яна назвала тых, хто прыходзіў да Фрузы. Марфа Аляксандраўна паўтарала кожны раз адно і тое:

— Не ведаю... Старая я... Не памятаю...

Парашыўшы, што старая нічога не ведае,— а яна і сапраўды нічога не ведала,— следчы больш не выклікаў яе.

5

Турма ў Шуміліне не скарыла падпольшчыкаў. Іх катавалі, абяцалі ўзнагароды, але ніхто не сказаў ні слова пра арганізацыю.

Тады гестапаўцы перавезлі арыштаваных у Полацк. Там зноў пачаліся начныя допыты, пабоі.

На вочных стаўках следчы стараўся збіць падпольшчыкаў з панталыку, пасварыць між сабой.

Гестапавец даводзіў Валодзю, што яго выдаў Федзя Слышанкоў.

— Хлусіш, падлюга!— Валодзя плюнуў гестапаўцу ў твар.

Яго схапілі, прывязалі да лавы і збілі да непрытомнасці.

Бязлітасна здзекаваліся фашысты і з Нінаы Азолінай, хочучы вырваць у яе прызнанне, што гэта яна ўзарвала вадакачку. Дзяўчыне лілі ў рот газу, выламалі правую руку, але яна нічога не сказала. Тады гестапаўцы пачалі заганяць ёй пад ногці іголкі... І зноў Азоліна нікога не выдала.

Пасля шматдзённага допыту следчы зноў спытаў:

— Можа ты, Азоліна, паразумнела і хочаш сама пра ўсё расказаць?

Ніна з гневам і нянавісцю адказала фашысту:

— Хачу... Гэта я ўзарвала вадакачку!.. Я б вас усіх пазнішчала!.. Усіх, да аднаго...

У камеры многія ўжо спалі, калі фашысты прывалаклі Ніну. Яе паклалі сябры паміж Марфай Аляксандраўнай і Зінай Лузгінай. Азоліна ляжала нічком, уткнуўшыся тварам у далоні, і ціха плакала. Яе акружылі сяброўкі, пачалі суцяшаць. Ніна павярнулася на бок.

— Не хочацца думаць пра смерць... Ой, як не хочацца... І зусім не за сябе баюся... Маму шкада... Маму... — і яна зайшлася ад плачу.

— Спі, дачушка, спі...— абняла яе Марфа Аляксандраўна.

— Ой, як не хочацца!.. — паўтарала Ніна, выціраючы слёзы. Яна патроху пачала супакойвацца. Толькі дыхала часта і сутаргава.

... Іх расстралялі ў Першай Баравусе, пад Полацкам, дзвюма групамі: асобна хлопцаў і дзяўчат.

Пад раніцу пятага кастрычніка сорак трэцяга года з камеры, дзе сядзелі хлопцы, вырвалася на волю:

«Вставай, проклятьем заклеймённый,
Весь мир голодных и рабов...»

Падхапілі і другія камеры. Хутка ўвесь турэмны двор напоўніўся гукамі велічнага гімна.

...Па турэмнаму калідору правялі Валодзю Езавітава, Мікалая Аляксеева, Яўгена Езавітава, Фёдара Слышанкова і Дзмітрыя Хрыбценку.

— Бывайце, дзяўчаты!..— крыкнуў Валодзя, крочачы апошні раз



паўз дзверы камеры, дзе былі яго баявыя сяброўкі.— Трымайцеся! Вернуцца нашы — адпомсцяць...

Калі іх везлі ў адкрытай машыне на Першую Баравуху, падняўся вялікі вецер. Ён гнуў дрэвы, зрываў з галоў шапкі, разрываў угары чорныя дажджавыя хмары...

— Нават неба за нас! Пратэстуе!..— перамагаючы вецер, крыкнуў Яўген Федзю Слышанкову.

Фашысты загадалі юным змагарам стаць на калені перад магілай,



але пяцёра камсамольцаў, моцна абняўшыся, стаялі і з нянавісцю глядзелі ў вочы забойцам.

Прагучалі залпы...

Юныя мсціўцы засталіся да канца верныя сваёй баявой дружбе, змацаванай крывёю, верныя сваёй Радзіме.

Назаўтра на досвітку везлі туды ж, на Першую Баравуху, Ніну Азоліну, Зіну Лузгіну, Машу Хрыбценка і Марфу Аляксандраўну.

Ніна ў апошні час жыцця, перад вачыма смерці, заспявала «Арлёнка».

— Маўчаць!..— зароў эсэсавец, што суправаджаў прыгавораных да расстрэлу. На яго ілбе ўзбухлі вены.— Маўчаць!..— і ён ударыў Ніну па твары. Але песня не абарвалася:

«Орленок, орленок, товарищ крылатый...»

Спынілі машыну. Салдаты білі Ніну прыкладамі, але песня не змаўкала. «Орленок, орленок...» — шапталі вусны.

Перад расстрэлам гітлераўцы завязалі дзяўчатам вочы, але тыя сарвалі павязкі.

— Страляйце! — крыкнула Ніна. — Мы не баімся смерці!..

Гэта былі яе апошнія словы.

## Яшчэ адно заданне

### 1

Восень сорак трэцяга года была дажджлівая і халодная. Партызаны размясціліся ў Глыбачанскім лесе на больш высокіх месцах. Для камісара Сіпко зямлянку выкапалі на ўзгорку пад сасной. Унізе працякаў ручай, вада ў ім была мутна-іржавая, балотная.

Ноччу прайшоў дождж, і наўкола блішчэлі лужыны. Капала з мокрага ад начы голля, патроху распаўзаўся туман, што вісеў над блізкім балотам.

Да зямлянкі камісара брыгады падышлі двое: высокі хлопец і дзяўчына. Каля сасны дзяўчына прыпынілася і, акінуўшы хлопца позіркам з ног да галавы, заявіла:

— У такім выглядзе да камісара нельга.

Яна адламала галіну і пачала энергічна абчышчаць камякі гліны, што прыліплі да вопраткі. Хлопец рабіў тое-ж.

— Усё ў парадку,— нарэшце сказаў ён.— Ну, Фруза, цяпер рушылі...

Сіпко сядзеў за сталом і чытаў газету. Ён прыветна кіўнуў ім галавой:

— Сядайце! Пачакайце крыху. Зараз падыдуць астатнія.

Фруза і Аркадзь Барбашоў уважліва разглядвалі камісара брыгады. Яны бачылі яго ўпершыню, хоць многа ўжо чулі пра яго мужнасць і прастату. І вось сустрэліся...

Неўзабаве падышлі Маркіянаў, Пузікаў, Наташа Герман, Ілья Езавітаў, Зіна Партнова і Марыя Дзяменцева.

Сіпко адклаў газету.

— Тут амаль усе члены камітэта падпольшчыкаў. Што ж, пачнём. Табе, Фруза, першае слова.

Зянькова ўстала, ад хвалявання доўга не магла сабрацца з думкамі, нарэшце коратка сказала:

— Нас выдалі. А хто — не ведаю...

— А ты што скажаш, Барбашоў? — Сіпко падняў угору калматыя бровы.

— Я таксама не ведаю прычыны правалу. Але ясна адно: вінаваты мы самі... Кіраўнікі.

— Ну, ведаеш!.. — аж падскочыла Марыя Дзяменцева. — Замолад ты яшчэ...

— Пачакай, пачакай, Дзяменцева,— пірабіў яе Сіпко.— Сумелі памыліцца, сумейце і паправіць памылку.

— А ў чым мы памыліліся, таварыш камісар? — не здавалася Марыя.

— Бы сама і не ведаеш, — перапыніў яе Барбашоў. — Паспадзяваліся на аднаго Валодзьку...

— Твая праўда, Аркаша, — прызналася Зянькова. — Я ў гэтым вінавата больш за ўсіх. А судзіць другіх не бяруся. Шчыра кажучы, не ведаю, хто выдаў нас і як...

— Што ж ты прапануеш? — спытаў Маркіянаў.

— Што я прапаную? Трэба мо' паслаць у обальскі гарнізон двухтрох членаў камітэта. Хай да канца разбяруцца ва ўсім. Тады зробім і вывады. А цяпер... — яна развяла рукамі і села побач з Барбашовым.

— Слушная прапанова, — сказаў Сіпко.

На тым і парашылі.

2

Быў канец кастрычніка. Нават у яснае надвор'е сонца прыгравала толькі ў поўдзень. Начамі стаялі халады.

Калі пачало цямнець, разведчыкі рушылі ў дарогу. Пераправіўшыся праз Заходнюю Дзвіну, яны схаваліся ў лесе.

Іх было трое: Ілья Езавітаў, Марыя Дзяменцева і Зіна Партнова. Ішлі ўсю ноч, толькі два разы прыпыніліся адпачыць.

Нізка вісела хмурнае неба. Пад нагамі плюхала вада.

Пачало днець. Недалёка ад Масцішча разведчыкі зрабілі прывал.

— Пачакаем тут. Я залезу на дрэва, прыкіну, дзе мы, — сказаў Ілья.

Ён залез на высокую сасну. Вёска была адсюль відаць з канца ў канец. Стаяла цішыня; на гародах корпаліся людзі.

Трэба было камусьці прабрацца ў вёску. Ілья пайшоў бы сам, але ў свой час пра яго пусцілі чуткі, што ён, падстрэлены паліцыяй, утапіўся ў рацэ. Падпольшчыкі пацвярджалі такія чуткі, і мо' таму гітлераўцы не зачапілі яго сям'ю.

Нельга было паказацца ў вёсцы і Марыі Дзяменцевай: яе тут ведаў кожны малы. Аставалася Зіна. Яна не тутэйшая, і бадай ці ведаў яе хто з масцішчанскіх жыхароў.

На ўзлеску сябры рассталіся. Ілья забраў у Зіны аўтамат, гранаты, паправіў на галаве паркалёвую хустку. Здаецца, усё ў парадку.

Умовіліся, што Партнова з вязанкай сучча пойдзе проста да Веры Лузгіной даведацца, што трэба, і вернецца ў лес другой дарогай. У выпадку небяспекі Зіна пабяжыць у лес, дзе ёй сама бліжэй да вёскі. Ілья з Марыяй будуць прыкрываць яе агнём.



— На дарогу не выходзь, — раіла Марыя. — Прабірайся да хаты гародамі.

Сцяжынка вяла ўніз, у вёску. Ілья бачыў, як Зіна то хавалася на хвіліну, то вынырала зноў. Нарэшце, яна мінула поле, выйшла на гароды Лузгіных і знікла з вачэй.

— Здаецца, усё добра... — з палёгкай уздыхнуў Ілья і злез з дрэва, адкуль увесь час сачыў за Зінай.

Ён быў упэўнены, што Зіна выканае заданне. Яна шмат разоў пранікала ў гарнізоны, дабывала розныя звесткі, удзельнічала ў разгроме гарнізона ў Лявонаве, добра валодала зброяй.

Мінула гадзіна, другая, трэцяя, а Зіны не было. Марыя сама хацела ісці ў вёску, але Ілья не дазволіў.

Яны ледзь дачакаліся вечара. Знаёмай сцежкай пракраліся да хаты, што побач з Лузгінымі. Марыя з аўтаматам напагатове засталася ляжаць у гародзе, а Ілья папоўз у сад. Агледзеўся па баках — нікога няма. Падняўся, нырнуў у хлеў, а адтуль праз сенцы — у хату.

Пазнаўшы яго, гаспадыня загаласіла:

— Ільюшка... Родны мой... Няма Зіны... Забралі...

Езавітаў глядзеў на яе і нічога не разумеў.

— Хто забраў? Куды?

— Я і сама не ведаю, як гэта здарылася, — яна выцірала слёзы. — Зіна вярталася ад Веры. Праз сад. Тым часам на двор выбегла суседка... Пазнаўшы Зіну, як закрычыць, каб ёй скула на язык: «Фёдараўна, да цябе госць, унучка Яблыкавай». А тут якраз ішлі паліцаі Волкавы, ты іх ведаеш. Чую, Мікалай пытае ў брата: «Хто гэта, Яблыкава?» — «Ды старая з Зуёў, — адказвае Парфір. — Мы з табой яе дачку бралі, Ірышку, памятаеш?» Мікалай адразу кінуўся праз весніцы ў сад. Парфір за ім. «Стой! Стой!» — закрычалі яны. Зіна спынілася. «Хто такая?» — пытаецца ў яе Волкаў. — «Марыя Казлова», — адказвае Зіна і працягвае дакументы. — «Добра, — адказвае Мікалай, — мы праверым». І яе павезлі на Обаль.

Потым стала вядома, што Партнову прывезлі з Масцішча на цагельны завод. Рабочыя пацвердзілі, што дзяўчына працавала на заводзе і захварэла. Адсюль Зіну пагналі ў Зуі. Бургамістру загадалі сагнаць усіх жыхароў, але ніхто яе не выдаў. Тады Волкавы павялі Зіну ў обальскую паліцыю да Экерта.

На вочнай стаўцы Грачухін з нахабнай усмешкай спытаў у яе:

— А-а... Зіначка Партнова! Даўно ты перамяніла сваё прозвішча?

Ён і выдаў яе.

Але тады пра гэта ніхто не ведаў, не ведала і Фёдараўна. Ілья папрасіў яе схадзіць за Верай Лузгіной, а сам у гэты час прывёў з гароду Марыю Дзяменцеву.

Ад Веры яны дазналіся, што арганізацыю выдаў Грачухін. Вера са слоў сястры Валодзі, якая сядзела разам з падпольшчыкамі ў Шуміліне, расказала пра мужнасць юных мсціўцаў.

Ілья з Марыяй пакінулі вёску.

## На прарыў!

1

Усё часцей цішыню Глыбачанскага лесу парушаў далёкі гул кананады. Ён то цішэў, то зноў мацнеў, нагадваючы раскаты грому.

Партызаны з радасцю і надзеяй слухалі гэты гул, што ішоў з усходу. Ён нёс свабоду беларускай зямлі.

Яшчэ ў жніўні — верасні сорак трэцяга года Савецкая Армія паспяхова правяла смаленскую аперацыю і падышла да Віцебска, Оршы, Рагачова і Гомеля. Лінія фронта наблізілася да раёнаў дзеяння трохсоттысячнай арміі беларускіх партызан.

Страціць Беларусь для фашыстаў азначала адкрыць дарогу ва Усходнюю Прусію і на Варшаву. Таму вораг прымаў усе меры, каб утрымацца, чаго б гэта ні каштавала.

Гітлераўскае камандаванне адчувала, што хутка пачнуцца рашаючыя баі за Беларусь. На гэтым важным кірунку вораг апынуўся паміж молатам і кавадлам і рашыў на выпадак адступлення пракласці сабе дарогу.

Пачалася блакада партызанскіх лясоў.

2

Позняй восенню сорак трэцяга года разведчыкі брыгады імя Леніна, што размяшчалася ў Глыбачанскім лесе, сталі прыносіць трывожныя весткі: з бліжэйшых гарнізонаў сцягваюцца нямецкія часці і размяшчаюцца ў пакінутых насельніцтвам вёсках нейтральнай зоны.

— Новая экспедыцыя? — раздумваў уголас Сіпко, чытаючы чарговае паведамленне разведчыкаў. — Як ты думаеш, Сакмаркін?

Камандзір брыгады, што сядзеў за сталом над картай, насупіўся і задумліва сказаў:

— Усё можа быць. Мы ў іх, што бяльмо на воку...

Было далёка за поўнач, а ў штабной зямлянцы не сціхалі галасы.

— Нёман! Нёман! Я Бярэзіна! Я Бярэзіна! Ты чуеш мяне? Я Бярэзіна! Дай мне дзеда... Дай дзеда. Прыём...

— Я Нёман. Я Нёман. Бярэзіна, слухаеш? Дзед ля апарата. Што трэба? Прыём...

Радыст хуценька перадаў мікрафон Сакмаркіну. Той коратка выказаў камандуючаму партызанскімі злучэннямі Полацка-Ушацкай зоны абстаноўку і план дзеяння брыгады.

Пасля паўзы пачуўся голас:

— Задума фрыцаў няхітрая. Вас хочуць уцягнуць у мяшок. Не давайцеся. На выпадак чаго — адступайце да чыгункі...

Да гутаркі з камандуючым у Сакмаркіна і Сіпко не было цвёрдай упэўненасці, што яны правільна думаюць, мяркуючы даць бой у лагеры. Цяпер усё зразумела. Заставалася адно — дзейнічаць.

У размяшчэнне брыгады з нейтральнай зоны вялі чатыры дарогі. На кожнай з іх былі выстаўлены заслоны. Яны павінны стрымаць праціўніка, выматаць яго ў «малых» баях. У самым лагеры была кругавая абарона, з траншэямі, акопамі, агнявой сістэмай.



На гэты раз у Глыбачанскі лес з'явіліся рэгулярныя вайсковыя часці ворага з артылерыяй і танкамі. Яны намнога пераўзыходзілі сілы партызан.

Прабіраючыся праз лес і завалы, да галоўнай лініі абароны, фашысты нечакана наскочылі на заслоны. Ім прыйшлося заўчасна разгарнуць баявыя парадкі і прыняць бой. Але гэта быў толькі перадавы варожы атрад.

Партызаны, выкарыстоўваючы раптоўнасць і перавагу пазіцый, вялі прыцэльны агонь, і праціўнік, які лез усляпую, нёс вялікія страты.

Пад вечар заімжэў дождж, пайшоў снег. Гітлераўцы адступілі.

На світанні на лагер пасыпаліся снарады дальнабойнай варожай артылерыі. Фашысцкія самалёты бамбілі партызанскія базы. Пасля гэтага праціўнік двума палкамі рушыў уперад, змяў заслоны і падышоў усутык да лагера.

Завязаўся бой...

Цяжка было партызанам. Гітлераўцы насядалі з усіх бакоў. На чацвёрты дзень баёў у лагеры стаў адчувацца недахоп прадуктаў. У партызан заставаўся толькі «НЗ». Яго нельга чапаць: уперадзе баі. Ды і боепрыпасаў было мала.

Тады і выклікаў да сябе Сакмаркін камандзіраў і камісараў атрадаў.

— Трымаемся мы моцна, таварышы, — сказаў ён. — Але трэба сказаць праўду, — твар камандзіра брыгады стаў суровы, — мы слабейшыя за іх... Трэба адыходзіць. Праўду кажу, камісар?

Сіпко маўчаў. Ён разумеў, якая адказнасць кладзецца на яго за лёс людзей.

— Пра людзей трэба падумаць. Нас могуць змяць. Трэба адыходзіць, — нарэшце ціха сказаў ён.

— Адыход пачнем праз тры гадзіны, калі сцямнее, — цвёрда гучаў голас Сакмаркіна. — Забіраць з сабою толькі неабходнае і параненых, вядома. Ад кожнага атрада ў засадзе пакінуць роту. Да рэчкі выходзіць па прасеках...

— А далей? — спытаў камандзір другога атрада.

— Далей правым берагам рушым да чыгункі. Будзем прарывацца да галоўных сіл.

— Толькі не марудзьце, — гаварыў Сіпко, развітваючыся з камандзірамі і камісарамі атрадаў. — У засадзе пакіньце самых надзейных.

3

Немцы не спяшаліся са штурмам. Яны чакалі, што партызаны хутка здадуцца самі, яны не думалі, што брыгада можа вырвацца з мяшка і знікнуць за ноч.

Кожны раз, як толькі фашысты падымаліся ў атаку, партызаны з засад сустракалі іх шквалам агню. Ніхто не мог падумаць, што знялася абарона.

Тым часам камандаванню партызанскай брыгады ўдалося сцягнуць да ракі свае галоўныя сілы. Спачатку ўброд пераправіўся абоз, пасля на плытах, лодках, а то і проста ўплаў пераправіліся на другі бераг

і партызаны. Не робячы прывалу, зմораныя і мокрыя, яны адыходзілі далей у лес, што ля чыгункі.

Праз пэўны час пасля пераправы галоўных сіл на беразе з'явіліся і людзі, пакінутыя ў засадах. Сярод іх былі Фруза Зянькова і Аркадзь Барбашоў.

Партызаны хутка пераправіліся на правы бераг. Але раптам цішыню парушылі аўтаматныя стрэлы. Фашысты, разгадаўшы намер партызан, кінуліся ў пагоню. Ноччу яны вялі стральбу наўздагад.

Аркадзь Барбашоў быў паранены ў нагу і страціў прытомнасць. Таварышы не маглі знайсці яго. Фруза заўважыла, што няма Барбашова, толькі на другім беразе: яна перапраўлялася з другой групай. Яна адшукала двух партызан, што адыходзілі разам з Барбашовым.

— Як вы пасмелі кінуць свайго таварыша? — не сунімалася яна, не ведаючы, што Барбашоў паранены.

Партызаны Майсейка і Міхаіл Зянько нічога не маглі сказаць.

— Мы ішлі разам аж да яру. Глядзім — няма Аркашкі, — клікалі яго, клікалі, як у ваду знік...

— А яр памятаеце?

— Помнім.

— Паплывём на той бераг.

Міхаіл і Майсейка пераглянуліся.

— Для цябе гэта не падыходзіць. Мы самі. На лодцы...

Рака тут была нешырокая. Партызаны хутка пераправіліся і зніклі ў цемры ночы. Фруза чакала, прыхінуўшыся да дрэва.

Прайшло з паўгадзіны. Навокал было ціха. Пасля пачуўся ўсплёск вёслаў. Немцы, відаць, таксама пачулі яго і пачалі абстрэл.

Фруза кінулася з аўтаматам у прыбярэжныя кусты і пусціла ў бок ворага доўгую чаргу.

Тым часам лодка з трыма партызанамі прыстала да берага.

4

Раніца застала брыгаду ў лесе. Партызаны расклалі ноччу агні, абсушыліся, згатавалі чай, адпачылі.

Сакмаркін з Сіпко разумелі, што марудзіць з пераходам праз чыгунку нельга. Карнікі могуць перайсці раку і ўдарыць з тылу. Трэба спяшацца. Але камандзіра і камісара насцярожылі данясенні разведчыкаў: участак узмоцнена ахоўваўся, а паблізу пераезда, дзе меркаваўся прарыў галоўных сіл, курсіраваў браняпоезд.

— Цяжка сказаць, як складуцца абставіны,—папярэдзіў камандзір брыгады. — Галоўнае — рашучасць атрадаў. Трэба кінуць да палатна групы аўтаматчыкаў. Яны адцягнуць увагу аховы і аблегчаць пераход галоўных сіл. Але ж браняпоезд...

— Падарваць пуць, — прапанаваў камандзір першага атрада, які быў падрыўніком.

— Табе і даручаем, — сказаў Сіпко.

— А што тут асаблівага? Толу хопіць... — пачаў ён тут жа развіваць свой план.

— Пачакай крыху, — перабіў яго Сакмаркін. — Хто будзе прарывацца першы? — Ён абвёў позіркам прысутных і спыніўся на Маркіянаве.



— Як варашылаўцы?..

— Як і ўсе. Загадаюць — пойдзем першыя.

— Тады дзейнічайце. Астатнія ідуць за варашылаўцамі. Памятайце: хуткасць і напорыстасць.

Дзень выдаўся шэры. Было холадна, сыра.

Атрады, разбіўшыся на групы і не ўзнімаючы шуму, падыходзілі да чыгункі.

А да яе не так проста было падступіцца. Баючыся партызан, фашысты прымусілі мясцовае насельніцтва знішчыць паабапал чыгункі ўсе кусты і хмызнякі. Лініі і прасекі, што вялі з лесу, былі завалены ўжо аж за дзвесце метраў ад палатна.

Уздоўж пуці няспынна шнырылі патрулі з сабакамі, аглядалі ледзь не кожную шпалу, кожны стык рэек.

Паводле даных разведкі, праціўнік умела арганізаваў абарону раз'езда, праз які павінен быў прарвацца атрад імя Варашылава. З двух бакоў пераезда да ўзгорка цягнуліся траншэі з пляцоўкамі для кулямётаў. За ўзгоркам былі відаць бліндажы мінамётчыкаў.

Для ўдарнай перадавой групы трэба было адабраць самых рашучых, смелых і вопытных. Ад поспеху групы будзе залежыць лёс усёй брыгады.

Так лічылі Маркіянаў і Пузікаў. Яны ведалі ўсіх байцоў, іх слабыя і моцныя бакі. У перадавую групу, якую складалі дваццаць партызан, былі ўключаны пяць чалавек обальскіх падпольшчыкаў. За іх Маркіянаў ручаўся галавой.

Фруза выконвала абавязкі сувязнога камандзіра групы. Як і ўсе, яна была ўзброена аўтаматам і гранатамі...

Канчалася прасека, пачыналася адкрытая мясцовасць. Партызаны не спускалі з яе вачэй.

Раптам Фруза падала сігнал, і ўсе заляглі. Пётр Полацкі, камандзір ударнай групы, лёг за каменем побач з Фрузай. Да пераезда заставалася дзвесце метраў. Але як іх мінуць? Не пабяжыш на віду ў салдата, што тырчыць ля будкі А той курыць спакойна. Значыць, не заўважыў нічога.

Полацкі паклікаў да сябе Ілью Езавітава. Той падпоўз.

— Трэба зняць! — паказаў камандзір у бок вартавога. — Без шуму. Возьмеш з сабой Ягорава. Кінжал ёсць?

— Ёсць.

— Добра. Ідзі ў абход, канавай...

Толькі разведчыкі перабраліся ў канаву, як раздаўся рэзкі гудок. Справа прыбліжаўся цягнік. «А што, калі пад яго шум рынуцца да палатна?» — з'явілася ў камандзіра нечаканая думка, і ён перадаў па ланцугу:

— Падрыхтавацца да прарыву!

Пакуль доўгі вайсковы састаў праходзіў міма, закрыўшы сабою пераезд, уся група паспела падкрасціся да палатна. Полацкі не ведаў, ці ўдалося разведчыкам зняць вартавога, але па ўсяму было відаць, што іх не заўважылі. Камандзір групы чакаў узрыву палатна лявей ад пераезда, каб быў адсечаны шлях браняпоезду.



Раптам злева, у якім паўкіламетры ад пераезда, грымнулі адзін за другім два выбухі.

— Уперад, таварышы!.. — закрычаў Пётр Полацкі.

Ля будкі да партызан далучыліся Ілья Езавітаў і Ягораў.

— Займайце хутчэй траншэі, пакуль не ачухаліся фрыцы.

Гітлераўцаў, што выбягалі з зямлянак, партызаны сустракалі аўтаматным агнём.

Не паспелі абозы Варашылаўскага атрада паказацца ля пераезда, як з браняпоезда ўдарылі гарматы. Снарады клаліся ўсё бліжэй і бліжэй.

Пузікаў загадаў Фрузе бегчы да Шалава:

— Хай цягнуць сюды гармату.

Зянькова кінулася прасекай да завалаў, дзе стаялі артылерысты. Яны выкацілі гармату на чыгуначнае палатно і ўдарылі прамой наводкай. Браняпоезд замоўк.

Некаторыя роты, абыходзячы зону абстрэлу, перапраўляліся проста праз насып.

— Не адставаць! — прыспешвалі камандзіры рот партызан, імкнучыся хутчэй увайсці ў лес, што быў уперадзе.

Так брыгада імя Леніна выйшла на злучэнне з галоўнымі сіламі партызанскага краю.





**Апошні подзвіг Зіны**

I

Экерт пераправіў Зіну Партнову ў Гараны.

Аднапавярховы каменны будынак школы стаяў ля самай дарогі. Тут размяшчаўся акруговы аддзел гестапа, і ля ганка школы дзяжурылі машыны, крытыя брызентам. У іх прывозілі на допыт арыштаваных.

Зіну бясконца вазілі з турмы на допыт да следчага гестапа лейтэнанта Верніке. Гэта быў невысокі, вузкаплечы немец. Размаўляў ён то зусім ціха, то раптам пераходзіў на крыклівую лаянку.

— Хто цябе паслаў у Масцішча? — заўсёды пачынаў ён з гэтага.

— Ніхто.

— Лухта! — пачынаў крычаць ён. — Хто твае таварышы?!

Зіна маўчала.

— Ты ў мяне загаворыш... Падыдзі бліжэй!

Зіна не краталася з месца, глядзела толькі на Верніке злоснымі вачыма. Лейтэнант кіўнуў двум салдатам-здаравякам, і адзін з іх уда-

рыў Зіну па твары. Яна пахіснулася, але не ўпала. Салдаты схапілі яе пад рукі і павалаклі да стала.

— Слухай, Партнова... — следчы гаварыў зусім ціха. — Чаго ты маўчыш, не разумею. Ты ж, я ўпэўнены, не камуністка, не камсамолка...

— Памыляешся, кат... Я — камсамолка... — горда сказала Зіна.

Твар лейтэнанта пабялеў. Ускочыўшы з крэсла, ён размахнуўся і ўдарыў Зіну кулаком у грудзі. Дзяўчына ўпала назад і ўдарылася галавой аб сцяну. Маленькая, худзенькая, яна хутка паднялася і зноў стаяла перад катамі. Па твары ў яе цякла кроў...

— Забраць! — крыкнуў Верніке салдату.

У камеры пуста і цёмна. Зіна ляжыць на падлозе з расплюшчанымі вачыма. Баляць грудзі, шыя, жывот...

«Спаць... спаць...» — былі думкі.

Яна заплюшчыла вочы, і ёй здалося, што яна дома, у Ленінградзе, на Балтыйскай.

Вечар. Да бацькі прышлі сябры. П'юць чай. Бясконца гутараць. Галінка спіць на канапе, а яна, Зіна, зашыўшыся ў куток, слухае і слухае. «Ідзі, дачушка, спаць, яны будуць да раніцы гаварыць», — шэпча ёй маці. — «Зараз, мама...»

— Мама!.. Мамачка!.. — крычыць Зіна, усхапіўшыся, але ніхто не адгукаецца. Яна працягвае рукі туды, дзе павінна стаяць маці, але там толькі сырыя сцены камеры.

Зіна траціць прытомнасць.

Калі апрытомнела, у галаву назойліва палезлі думкі: «Што рабіць? У любы час могуць паклікаць да следчага і мучыць. Ці варта для гэтага жыць. Мо' лепш устаць і ўдарыць галавой аб каменную сцяну?..» Але голас з глыбіні свядомасці пярэчыў: «Памерці так прасцей за ўсё. Цяжэй застацца жыць, змагацца. А колькі ты знішчыла фашыстаў? Мала! Пакуль ты жывеш, бі іх! За Ленінград, за Беларусь, за сяброў, што загінулі ў баях!» «Адпомшчу...» — шаптала яна.

Пад раніцу Зіна задрамала. Але нехта пачаў моцна тармасіць яе. Яна расплюшчыла вочы і зажмурылася: салдат свяціў ёй у твар ліхтарыкам.

— Ты што, аглухла? Уставай?

«Зноў на допыт...»

— Пан гаўптман, — дакладваў перад гэтым следчы начальніку гестапа, — Партнова такая ж фанатычка, як і тыя. Не адказала ні на адно пытанне.

Краузе ўсміхнуўся.

— Яна не хоча адказваць вам, лейтэнант. А мне... Прышліце яе вечарам да мяне.

## 2

Калі ў кабінет Краузе ўвялі Партнову, той здзіўлена ўтаропіўся ў яе вачыма. Не чакаў, мусіць, што ўбачыць дзяўчынку з касіцамі.

«Ну-у... гэта зусім яшчэ дзіця», — зазначыў начальнік гестапа.

— Сядай.



Зіна села. Хуткім позіркам акінула прасторны кабінет, жалезныя краты на вокнах, абабітыя дзверы.

«Адсюль, мусіць, не ўцячэш...» — падумала яна.

Капітан прыжмурыўся, доўга глядзеў на Зіну, бы вывучаючы кожную рысу твару. Зіна не паварухнулася.

На ламанай рускай мове Краузе разыгрываў ролю «добрага дзядзі», шкадаваў, што з дзяўчынкай абыходзіліся груба, што яе білі. Не забываўся пры гэтым упамянуць, што Ленінград узяты немцамі і што ён, Крузе, паможа ёй вярнуцца да бацькоў.

— Ах, як пабялела, як пахуднела фрэйлен... Ёй трэба малако, масла, белы хлеб, шакалад... Фрэйлен любіць шакалад?..

Зіна маўчала.

Краузе не злаваў, не крычаў, не тупаў нагамі, падаваў выгляд, што не заўважае яе ўпартага маўчання.

«Дарэмна, сабака, стараешся... — думала Зіна. — Усё адно нічога не скажу...»

Як бы адгадаўшы яе думкі, Краузе сказаў:

— Так, так... Не хочаш гаварыць?.. Нічога!..

Ён загадаў адвесці яе не ў турму, а ў мэбляваны пакой, што быў у будынку гестапа. Вечарам ёй прынеслі абед з двух страў, белы хлеб, цукеркі.

Назаўтра яе зноў выклікалі да капітана. З падкрэсленай ветлівасцю Краузе спытаў, як Зіна сябе адчувае ў новых умовах.

— Усё гэта дробязі,— сказаў ён.— Адна невялікая паслуга, і ты ідзеш у гэты дом. Скажы, хто твае таварышы? Хто кіраўнікі?

Краузе абапёрся на крэсла і закурыў. Ён не сумняваўся ў поспеху сваёй тактыкі: дзяўчынка павінна загаварыць.

За акном шумеў асенні вецер. Хутка адтуль пачуўся грукат. Па дарозе ішлі фашысцкія танкі. Краузе падышоў да акна і адцягнуў фіранку.

— Глядзі, якія мы моцныя!..— сказаў ён ледзь не ўрачыста.

Потым наблізіўся да Зіны, выняў з кабуры пісталет, пакруціў яго ў руках і паклаў на стол. Зіна зірнула на пісталет і падумала: «Вось бы выпусціць у гада ўсю абойму...» Раптам яна адчула, як у яе перахапіла дыханне: «А што, калі?..»

— Ну-с, фрэйлен...—Краузе вярнуўся да стала і падняў, нібы ўзважваючы, пісталет.— Куля можа паставіць кропку і нашым спрэчкам і твайму жыццю. Ці не так? Табе не шкада жыцця?

Ён зноў паклаў пісталет на стол. Зіна нібы не заўважыла гэтага.

На вуліцы прасігналіла машына і спынілася ля дома. Краузе зрабіў два крокі да акна, і тут здарылася тое, пра што ён ніколі не мог падумаць.

Зіна схапіла са стала пісталет. Стрэл — і Краузе ўпаў. Афіцэр, які адразу ж убег у пакой, быў таксама забіты напавал.

Зіна шмыгнула ў калідор, выбегла на двор. Была халодная раніца, пачыналіся маразы, але Зіне было горача.

Ліпавая алея вяла да самага берага ракі. Дзяўчына шпарка сiганула ў кусты, што раслі побач з алеяй.

Некаторы час за ёй ніхто не бег. Быў пусты і двор. Зіна бегла да рэчкі праз кусты. Каб хаця паспець дабегчы... За ракой лес. Толькі б паспець...

Зіна азірнулася і ўбачыла салдат. Адзін вось зусім блізка. Яна прыпынілася, прыцэлілася. Гітлеравец, ускрыкнуўшы, расцягнуўся на зямлі. Астатнія, злосна крычучы, паскорылі бег. Зіна, не цэлячыся, стрэліла яшчэ колькі разоў. Гэта прымусіла салдат прыпыніцца .

«Чаму яны не страляюць?..»

Зіна не ведала, што ім было загадана ўзяць яе жывой.

Здавалася, ніхто і нішто не можа яе ўратаваць, а яна ўсё бегла і бегла, не трацячы надзеі на ратунак.

Да рэчкі заставалася з паўсотні крокаў, а Зіну пачалі пакідаць сілы. Яна адвярнулася, націснула на курок, але... Кончыліся патроны.

«Усё...» — у яе заняло дыханне, падкасіліся ногі.

Зіну схапілі ў пяці кроках ад рэчкі...

3

З Гаран Партнову перавезлі ў Полацкую турму. Цэлы месяц яна сядзела ў адзіночцы. Пасля пачаліся катаванні і здзекі.

Босую, у падранай сарочцы, яе вадзілі па заснежаных вуліцах горада. На дошчачцы, што павесілі ў яе на грудзях, было напісана: «Бандытка». На спіне вісела другая дошчачка: «Так будзе з усімі, хто шкодзіць немцам».

Нішто не зламала яе волі. Да апошняй хвіліны свайго жыцця Зіна заставалася вернай партызанскай клятве.

Марозным студзеньскім ранкам сорак чацвёртага года Зіну Партнову павезлі ў Малую Баравуху.

Машына спынілася ў лесе. Вакол чуўся сухі трэск галінак, якія ламаліся пад цяжарам снегу.

Зіну паставілі на краі ямы, пад сасной.

Ёй не завязвалі перад смерцю вочы, яна і так не бачыла — фашысты выкалалі іх. Але яна чула ўсё. Чула шолахі зімовага лесу, чула, як прагучэла каманда, як заляскалі затворы вінтовак.

Залп скалануў марознае паветра. Уздрыгнула сасна, некалькі галінак упала з яе на снег. Яны ляглі побач з целам дзяўчыны, якая толькі што ступіла ў бяссмерце.

Пераклад з рускай мовы.



Беларускі паэт Іван Муравейка нарадзіўся ў 1921 годзе ў вёсцы Таль Любанскага раёна. Вучыўся ў інстытуце журналістыкі. У гады Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях з фашысцкімі захопнікамі спачатку радавым, а пасля камандзірам узвода.

З 1948 года працуе ў рэдакцыі Любанскай раённай газеты.

У Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшлі яго зборнікі вершаў «Песня над палямі», «Ручаінкі», «Вось якія мы».

Цяпер паэт падрыхтаваў новы зборнік вершаў для дзяцей. Некаторыя з іх мы друкуем.



**Іван МУРАВЕЙКА**

# ДАЧУШКА І ПАДУШКА



Дружыла маміна дачушка
З пуховай, мяккаю падушкай.

І дружба ў іх была такая:
Куды адна — туды другая.

Дачушка ў ложак пажадае —
Падушка ўжо яе чакае.

Дачушка з ложка — на канапу,
Падушка следам: чапу-чапу...

Дачушка ў цень,
Падушка ў цень,
Ляжаць, абняўшыся, ўвесь дзень.

Так дні ішлі,
Так беглі ночы.
Ды вось што сталася аднойчы.

Не спіць, качаецца дачушка:
Як вузел, муліцца падушка.

Яе ўзбівалі,
Падкідалі,
І нават пуху падсыпалі,
Але падушка не мякчэла,
Наадварот — яшчэ цвярдзела.



**На плошчы імя Леніна ў Мінску расце новы будынак галоўнага вучэбнага корпуса Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. На будоўлі разам з будаўнікамі працуюць і студэнты.** Злева направа — **муляр Яўген Кніга, кіраўнік работ Анатоль Лабанаў і студэнт філалагічнага факультэта Вечаслаў Капціловіч.**

Фота А. Дзітлава.



**«Мы — вясёлыя рабяты, — наша імя акцябраты»...**

Фотаэцюд А. Дзітлава.



І. Стасевіч. «У беларускіх балотах». Гл. нарыс В. Говара «З глыбіні душы», стар. 138).



Ю. Тулін. «Лена». На гэтым палатне ленінградскага мастака адлюстраван не сам расстрэл рабочых Ленскіх прыіскаў, а пахаванне ахвяр жудаснага царскага дэспатызму.

— Пайду, — усклікнула дачушка, —
Палоць капусту і пятрушку.
Больш не хачу дружыць з падушкай!

Дзяўчынка доўга працавала,
Гарод ад зелля ратавала.

А як закончыла работу,
Лягла на мураву ля плоту...

Тут не ўтрымалася падушка
І прыляцела, нібы птушка:

— Ой, што з табой, мая сяброўка!
Будзе балець твая галоўка.

Не варухнулася дачушка,
Яна заснула без падушкі.

## ЛЯСНЫЯ ДАКТАРЫ



У густым бары адна
Занядужала сасна...

— Што цяпер са мною будзе?
Млеюць рукі, ныюць грудзі.
Нехта есць маю кару,
Я засохну, я памру.
Не пражыць мне сто гадоў,
Трэба клікаць дактароў.

І назаўтра на зары
Прыляцелі дактары:

— Вы нас выклікалі ў час —
Караеды точаць вас.

Паляцеў па лесе стук:
Тук-тук-тук! Тук-тук-тук!..

Весялей шуміць сасна,
Зноў здаровая яна:

— Буду жыць я сто гадоў,
Не забуду век дзятлоў,
Знакамітых дактароў!



## ГУСІ



Што за дзіва там такое?
Паглядзіце за сяло:

Луг зялёны за ракою
Быццам снегам замяло.

— Летам снегу не бывае, —
Так малым тлумачыць Рая.—
То — з падушак белы пух
Нехта высыпаў на луг.

Паглядзеў Мікола ў неба:
— Пух — за ветрам паляцеў бы.
То — бялюткае, як пух,
Села воблака на луг.

Не згадзілася Кацюша:
— То — бялізну мамы сушаць.

І каб вырашыць ім спрэчку,
Напрасткі пайшлі да рэчкі.

Што ж убачылі усе:
Дзед Антось гусей пасе.

Рая нават заскакала:
— А я правільна казала,
Што птушыны белы пух
Нехта высыпаў на луг!..

*Дарогамі сямігодкі*

С. КУХАРАЎ

# ПОДСТУПЫ

## Нарыс

### Перад наступленнем

У жніўні споўніцца год, як былі закладзены першыя муры новага горада хімікаў і шахцёраў у Беларусі. Ясным жнівеньскім днём на шырокай, асмужанай празрыстай сінечай паляне, збоч вялікай палескай вёскі Чыжэвічы хлопцы-муляры Іван Гарохаў і Генадзі Аксёнчык змуравалі абеліск і высеклі надпіс: «10-VIII-1958 г. Тут закладзен горад Нова-Старобін». Вакол абеліска першыя навасельцы пасадзілі кветкі...

Яшчэ не прайшло і года, а каля Чыжэвіч, дзе яшчэ і сёння па суседству ў зарослым асакою балотцы, жыруюць качкі і гагочуць гусі, вырас жылы гарадок — больш дзесяці інтэрнатаў. Лёгкія, абліцаваныя белай цэглай дамы цешаць вока сваёй утульнасцю і святлом. Напярэдадні першамайскага свята наваселле справілі многія сем'і шахтабудаўнікоў — яны занялі два дамы. Цяпер, мабыць, заселены і астатнія.

У жылым гарадку ўжо ёсць сталовая, магазін, бібліятэка. На новых, толькі што забрукаваных вуліцах, пад вокнамі дамоў шапочуць клейкімі лісточкамі цыбатыя таполі. Іх пасадзілі самі ж навасельцы ў адзнаку сваёй першай вясны на аблюбаваным месцы.

Збоч беласнежных дамоў-інтэрнатаў, на лужку — груды шчытоў, бэлькі, аконныя пераплёты... Праз які месяц-два тут узнікне пасёлак са зборных шчытавых домікаў. Закладзены падмуркі і двухпавярховых шматкватэрных дамоў.

За Новастаробінскай будоўляй ужо трывала замацоўваецца назва «камбінат ураджаяў». Якім уяўляецца гэты новы беларускі гігант па выпрацоўцы мінеральных угнаенняў і харчовай солі? Ці хутка ён пачне выдаваць прадукцыю?

Непадалёк ад вытворчай пляцоўкі ўзвышаецца мураваны домік. У адной палавіне — рабочая сталовая, буфет і паштовае аддзяленне, а ў другой — УНР-122, якое вядзе забудову вытворчых аб'ектаў. Тут жа ў двух невялікіх пакойчыках размясцілася кіраўніцтва будучага калійнага камбіната.



Дырэктар камбіната Мінай Паўлавіч Белапухаў, рухавы, з пасівелай галавой інжынер, які шмат папрацаваў на буйных хімічных прадпрыемствах краіны, з ахвотай прыехаў у Беларусь. Гэта — знаёмыя яму з маленства мясціны. У дырэктара пад рукамі — карта, чарцяжы, разлікі... Калі паслухаеш гэтага ўмудронага жыццём чалавека, то, здаецца, ужо бачыш перад вачамі прасторныя, светлыя цэхі новага гіганта хімічнай прамысловасці ў Беларусі, зялёныя, залітыя электрычнасцю вуліцы маладога горада.

— Старобінскі калійны руднік — буйнейшае месцанараджэнне ў нашай краіне, — гаворыць Мінай Паўлавіч і пацвярджае свае словы лічбамі. Першая яго чарга, згодна рашэння партыі і ўрада, павінна ўступіць у дзеянне ў 1963 годзе. У год пуску першай чаргі камбіната намечана выпрацаваць 300 тысяч тон харчовай солі.

Камбінат будзе складацца з рудніка, абагачальнай фабрыкі для калійных солей і фабрыкі харчовай солі. На камбінаце будзе працаваць некалькі тысяч рабочых.

Са Слуцка ў Нова-Старобін пракладваецца чыгунка. На карце рэспублікі з'явіцца новая станцыя — Калій, на якую першыя цягнікі прыдуць ужо сёлета. Добрымі асфальтаванымі дарогамі будуць злучаны будаўнічыя пляцоўкі прамысловай базы, жылога гарадка і рудніка.

— Мне іншы раз задаюць пытанне, — памаўчаўшы, прадаўжае свой расказ Мінай Паўлавіч. — А якія запасы старобінскіх каменных руд? Можа і не варта было затрачваць такія велізарныя сродкі?.. На гэтае пытанне — адказ адзін. Геолагі сцвярджаюць, што запасы сыравіны, якія даследаваны, складаюць мільярды тон. Соль залягае трыма пластамі, на рознай глыбіні. Таўшчыня пластоў дасягае некалькі дзесяткаў метраў. Гэта дасць магчымасць весці кар'ерную распрацоўку — пад зямлёй будуць працаваць экскаватары, горнарудныя камбайны і іншыя складаныя механізмы. Даследаванне праведзена пакуль у радыусе 30-ці кіламетраў. Ёсць меркаванні, што месцанараджэнне займае яшчэ большую плошчу.

Гутарка заходзіць пра тое, што камбінат — будоўля адказная, ударная, а таму трэба, каб усе, хто знаходзіцца ў арміі яе будаўнікоў, шчыра, па-ўдарнаму выконвалі свой абавязак, — каб кожны, хто на якім участку працуе, аддаваў бы ўсе свае сілы і здольнасці. Дырэктар камбіната справядліва заўважае:

— Калектыў будаўнікоў — людзі маладыя, энтузіясты, добраахвотнікі, пасланцы камсамола. Яны па-баявому выканаюць заданне партыі. Я ўпэўнен, што гэта будзе так, бо некалі сам быў камсамольцам, удзельнікам першых пяцігодак і ведаю, на якія подзвігі здольны нашы савецкія хлопцы і дзяўчаты.

... Далося ў знакі новастаробінцам сёлетняе прадвесне. Напэўна,



**Лабарантка Рая Кожухава ў замарожвальнай галерэі шахты № 2 вядзе кантрольныя назіранні за тэмпературай.**
Фота А. Дзітлава.

ніхто не толькі з кіраўнікоў, людзей у большасці прыезджых, але і са старажылаў, якія ўжо ўліліся ў малады калектыў новабудоўлі, не ўяўляў сабе ўсіх цяжкасцей, што прыйшлі разам з вясной.

За зіму запасы матэрыялаў на будоўлі падабраліся, і з розных участкаў ляцелі трывожныя весткі:

— Давайце цэмент!

— Чаму затрымліваеце трубы?!

— Кончылася цэгла!

— Трэба сталярка!

Нягледзячы на бездараж, шафёры — гэтыя нястомныя працаўнікі-героі — рабілі рэйс за рэйсам. З раніцы да позняга вечара над разбуджаным наваколлем стаяў зычны гул матораў, чуліся галасы людзей, зліваючыся ў шматгалосы гоман і шум.

Са Слуцка, з перавалачнай базы, на ўдарную новабудоўлю бясконцым патокам ішлі грузы: арматура, цэгла, лес, цэмент, жалеза, цвікі, — усё, што неабходна будаўнікам. Кажуць, што старобінская дарога за ўсю сваю гісторыю не бачыла такога ажыўлення, якое пачалося тут мінулай зімою і напрадвесні.

Кіраўнік будтрэста № 3 Аляксей Сямёнавіч Кісялёў, якога ўсе на будоўлі называюць генеральным падрадчыкам, гаворыць:

— К восені мы павінны сабраць усіх людзей, павыцягваць будаўнікоў з навакольных вёсак. А іх у нас не мала — больш за тысячу чалавек. І будзе яшчэ больш. Сабраць вялікую рабочую сям'ю — наша першачарговая задача, і ад таго, як мы яе вырашым, будзе залежаць наша далейшая работа!..

Аляксей Сямёнавіч — на будоўлі чалавек зусім новы. Не паспеў яшчэ нават, як кажуць, добра агледзецца, але за справу бярэцца з запалам камуніста, якому партыя даверыла самы адказны ўчастак. Ёсць усе падставы меркаваць, што наступленне, якое ўжо разгарнулася, прынясе новастаробінцам заслужаную і жаданую перамогу.

### Капры на Старобіншчыне

15 красавіка — знамянальная дата ў жыцці шахтабудаўнікоў новастаробінскага рудніка. У гэты цёплы красавіцкі дзень хвалявання не пакідала нікога: ні тых, хто з раніцы завіхаўся каля ўжо зманціраванага капра, якіаграмадзінай ляжаў побач са ствалом шахты, ні тых, што наладжвалі тросы, правяралі гатоўнасць пад'ёмнікаў. Не менш за мантажнікаў хваляваліся і кіраўнікі «Шахтаспецбуда», якія з восені мінулага года неслі цяжкую вахту — на будоўлі новага салянога рудніка паміж вёскамі Мяцявічы і Чыжэвічы. Галоўны інжынер Лаўр Васільевіч Парыйскі час-ад-часу пакідаў свой «кабінет» — пакойчык у інтэрнаце, дзе ён працуе і жыве разам з начальнікам забеспячэння — і выбягаў праз гравійку, на пляцоўку, дзе, не адыходзячы, дзяжурылі маладыя інжынеры — начальнік участка Леанід Палякоў і тэхнарук Валянцін Любімаў.

— Што, хутка? — коратка кідаў галоўны інжынер і бегма імчаўся да мантажнікаў, каб паглядзець, як там у іх справы. Потым вяртаўся ў «кабінет», але праз якую гадзіну зноў паяўляўся на пляцоўцы.

Пад'ём шатровага капра, на якім умацоўваюцца ўсе пад'ёмныя механізмы, што забяспечаць работу праходчыкам, — адказная і складаная работа. Мантажнікі, слесары, зваршчыкі ў садружнасці з трактарыстамі, кранаўшчыкамі завіхаліся ля капра больш месяца. Збіралі адразу два капры — металічныя вежы вагою па 70 тон. Адзін — мантажнікі з Мінска на чале з маладым інжынерам Ігарам Семянкевічам, а другі — члены брыгады Анатоля Галавіна з «Шахтаспецбуда». Паміж імі разгарэлася спаборніцтва. Працаваць усім даводзілася ў цяжкіх умовах — на зімовым холадзе, пад дажджом. Часта здараліся сякія-такія затрымкі, бо з наступленнем



цеплыні пляцоўка ператварылася ў суцэльнае месіва. Шмат дасталося зваршчыкам-верхалазам, бо ўсе зварачныя работы выконваліся на вышыні.

Але гэта яшчэ не ўсё. Капры ўжо не новыя. І таму некаторыя бэлькі і перакладзіны трэба было мяняць, спатрэбілася шмат зварачных і слясарна-кавальскіх работ.

Своеасаблівае, нідзе не адзначанае спаборніцтва, якое разгарнулася паміж мантажнікамі з Мінска і «Шахтспецбуда», завяршылася перамогай мінчан. Яны на два дні раней закончылі мантаж і 15 красавіка пачалі пад'ём капра.

Апоўдні, калі запрацавалі пад'ёмнікі і металічная аграмадзіна ледзь прыкметна пачала ўзнімацца ўгору, на пляцоўку збегліся шахтабудаўнікі. Тут былі і мантажнікі-суседзі, і зборшчыкі кампрэсараў, і машыністы з замарожвальнай установкі, і рабочыя механічнай майстэрні... Усім карцела сваімі вачамі пабачыць, як будзе ўзняты першы шахтавы капёр на беларускай зямлі.



У ваколіцах Старобіна з'явіліся першыя надшахтавыя капры-волаты.

Натужна гулі пад'ёмныя машыны, напяліся бліскучыя сталёвыя тросы, уздрыгвала страла крана, але, здавалася, капёр застыў на месцы. Аднак гэта толькі здавалася. На самай справе аграмадзіна павольна, незаўважна для вока рухалася ўгору... Людзі, узняўшы галовы, стаілі дыханне. Было чуваць усяго толькі, як звінелі тросы ды перагаворваліся кароткімі словамі інжынер Семянкевіч з брыгадзірам, які стаяў пры пад'ёмніку.

Нарэшце капёр стаў на ўзровень вышыні стралы пад'ёмнага крана. Шпуля была ўмацавана на канцы стралы, шчыльна злілася з станінай капра. Каб працягваць пад'ём, трэба было перарэзаць трос, што злучае шпулю з станінай.

Чуецца каманда:

— Рэзчык, на вышыню!

Рухавы хлопец у брызентавай куртцы хутка ўскочыў на прыступкі крана і пакрочыў па страле, якая ціха гойдалася. Апынуўшыся побач са шпуляй-блокам, хлопец запаліў гарэлку і разаком павёў па тросе...

— Глядзі ты, які смяльчак! — з натоўпу пачуліся здзіўленыя галасы. — Ну і Эдзік, хоць бы паясам прывязаўся!..

— Яго можа сарваць!..

Не спускаючы вачэй з верхалаза-рэзчыка, які на вялікай вышыні пілаваў тросавае вязьмо, старшыня пабудкома Уладзімір Антонавіч Вініцкі гаварыў:

— Сапраўды, гэта небяспечная работа. Памятаю, мы ставілі капёр у Сталінагорску. Я тады працаваў майстрам. Былі ў мяне хлопцы-навічкі, толькі што вышлі са школы ФЗН. Таксама трэба было абрэзаць трос, каб вызваліць кран. Меркавалі-меркавалі, каму лезці, паспрабавалі нават жэраб цягнуць, але так ніхто і не адважыўся. Прышлося самому лезці... А гэты малайчына!..

Тым часам Эдуард Шыбко заканчваў справу. Страла разам з ім, здрыгануўшыся, загойдалася ў паветры, а на блоку, дымячыся, матляліся канцы абрэзанага троса. Рэзчык спакойна і хутка спускаўся ўніз і на хаду выціраў рукою спацелы твар. Відаць было, што работа на вышыні для хлопца прывычная і ён зусім не лічыць яе незвычайнай ці выключнай.

... Мінулі гадзіны. Магутны, шыракаплечы капёр стаў у бетонныя ямкі, велічна ўзняўся над яшчэ маўклівым, апырсканым першай кволай зелянінай полем. І адразу нібы змянілася наваколле, набыло новы, адметны выгляд.

Загаманіў, заварушыўся натоўп. Крычалі «ўра» і абдымалі адзін другога мантажнікі. Некалькі хлопцаў падскочылі да начальніка ўчастка Леаніда Палякова, падхапілі яго на рукі і пачалі падкідваць над галовамі.

— Давай, брат, не адпірайся. Такая падзея!

— Такая падзея, — збянтэжана паўтараў кіраўнік шахтабудаўнікоў, стараючыся быць сур'ёзным, але гэта яму зусім не ўдавалася. Яго драбнаваты загарэлы твар свяціўся юначай усмешкай і аж ззяў ад шчасця. — Першы капёр на беларускай зямлі!..

Аднекуль з'явіўся ўвішны фотарэпарцёр, пачаў з усіх бакоў фатаграфаваць і капёр, і хлопцаў-імяніннікаў. Інжынеры ажыўлена абмяркоўвалі працэс пад'ёму першага капра.

— За працу, таварышы! — крычаў прараб, які дагэтуль сам стаяў пры адным з пад'ёмнікаў. Але яго ніхто не слухаў. У людзей на тварах свяцілася ўрачыстасць.

Увечары праходзіла чарговая планёрка, на якой абмяркоўваўся план работы на наступны дзень. Гэтая планёрка праходзіла з асаблівым ажыўленнем, якое было выклікана перамогай мантажнікаў.

— Цяпер чарга за вамі, Леанід Фёдаравіч, — пачынаючы планёрку, звярнуўся галоўны інжынер Лаўр Васільевіч Парыйскі да начальніка ўчастка камсамольца Палякова.

Цярэбячы густы аўсяны чуб, той гучна заявіў:

— Праз дзень будзе стаяць і наш!..

— Сур'ёзна? — ускінуў калматыя бровы галоўны інжынер.

— А як жа! — пацвердзіў Палякоў. — Заўтра выпрабаванне, а 17 красавіка будзе стаяць.

— Зробяць, — неслася з усіх бакоў. — Нельга ж бывалым шахтавікам адставаць!..

На планёрцы выявілася, што з падняццем капра работа на ім яшчэ не заканчваецца. Надбудоўваецца яшчэ адзін паверх — вышка, на якой манціруецца абсталяванне для пад'ёму і апускання клеці. На кожны капёр мантажнікі наросцяць яшчэ тон па 15 металу. Работа гэтая адказная. На вышыні будуць працаваць слесары-верхалазы, зваршчыкі...

А пакуль што на заўтрашні дзень — усё падрыхтаваць для пад'ёму другога капра, каб хутчэй забяспечыць фронт работ праходчыкам.

— У вас гатова? — пытаецца галоўны інжынер у механіка ўчастка Фралова, які цяпер дзень пры дні працуе з мантажнікамі брыгады Анатоля Галавіна.



— Трэба яшчэ адна лябёдка «П-18», — гаворыць механік.

— Яе абавязкова трэба сёння падрыхтаваць, — падхапіўся Лёня Палякоў і да галоўнага інжынера: — Лаўр Васільевіч, хлопцы засталіся пасля змены. Сказалі, што не пойдзем, пакуль лябёдку не падрыхтуем!

— А як там у вас справы, Павел Міхайлавіч? — звяртаецца галоўны інжынер да механіка па замарожванню Міхайлава, які маўкліва прытуліўся да падаконніка, бо яму не хапіла зэдліка, каб прысесці.

— Ды, здаецца, усё ідзе як мае быць, — адкашліваецца Міхайлаў. — На першым ствале ў першай дэкадзе мая, як намечана, рубашка будзе!..

— Трэба хутчэй, — заўважае галоўны інжынер. — Ад вас залежыць фронт работы праходчыкаў.

— Разумею.

Замарожванне ствалоў пры прабіўцы новай шахты — складаная работа, якую з гонарам выконвае невялічкі рабочы калектыў замарожвальнай устаноўкі на чале з Паўлам Міхайлавічам. Калі праходчыкі пачалі прабіўку ствалоў, на іх шляху аказаліся плывуны — аж некалькі вялікіх пластоў. Давялося работы спыніць. Упартую барацьбу з падземнымі водамі, якія не даюць магчымасці рабіць праходку, і вядуць замарожвальнікі.

Побач са ствaламі (яны размешчаны непадалёк адзін ад аднаго) устаноўлена станцыя холаду — магутныя кампрэсары, якія падаюць па трубах у глыбіню зямлі раствор аміяку — расол, тэмпература якога — 17—20°. Вакол ствала ўтвараецца ледзяная рубашка, якая перагароджвае дарогу плывунам. Падлічана, што такім чынам будзе замарожана 165 тысяч кубаметраў грунту.

Потым зноў на вахту заступяць праходчыкі. Яны зробяць абкладку конуса ствалоў цюбінгамі — чыгуннымі плітамі, якія сшываюцца свінцом.



**Начальнік участка праходкі першых шахт камсамолец Леанід Палякоў.**

— Гэта велізарная работа, — падкрэслівае галоўны інжынер Лаўр Васільевіч Парыйскі. — Са ствалоў трэба будзе дастаць 250 тысяч тон грунту.

... Нялёгкая праца ў шахтабудаўнікоў. Затое па-свойму цікавая і захапляючая. І той, хто яе ўпадабае, не будзе каяцца.

Недалёка той час, калі запаляцца зоры на шахцёрскіх капрах Старобінскага калійнага. Іх яркае, прамяністае зарава напомніць людзям, якія прыдуць сюды, пра тых, хто не шкадаваў сваіх сіл для набліжэння гэтага дня.

### Веснавыя парасткі

Скончылася змена. Генка ішоў з будаўнічай пляцоўкі напрасткі, па сцежцы, пракладзенай яшчэ ўзімку, калі можна было хадзіць, куды ўздумаеш. Напрадвесні па

гэтай сцежцы нельга было прайсці, бо было вельмі гразка, а цяпер падсохла, і зноў сцежка служыць сваю службу.

Генка крыху затрымаўся ў начальніка ўчастка, бо набраліся сякія-такія справы, і цяпер спяшаўся дадому. Яго сябар Мікола Акуліч, з якім ён кватаруе ў цёткі Жалкоўскай, мусіць, ужо дабраўся. А яму сёння прышлося ісці аднаму. Думаць Генку было пра што. На яго маладыя, яшчэ не загартаваныя плечы ўсклалі немалую нагрузку — прызначылі брыгадзірам будаўнічай брыгады. У Генкі яшчэ невялікі вопыт: ён толькі год таму назад скончыў у Мінску архітэктурна-будаўнічы тэхнікум і некалькі месяцаў працаваў нарміроўшчыкам. Ягоныя таварышы, што прышлі разам на будоўлю ў Нова-Старобін, яшчэ працуюць мулярамі, падсобнікамі. А Генка — брыгадзір. У яго брыгадзе 26 чалавек — маладыя хлопцы і дзяўчаты. Многія з іх уліліся ў рабочы калектыў, як і ён сам, адразу з-за парты.

Генка сам папрасіўся на пляцоўку: вельмі яго цягнула на прастор, на жывую працу, дзе можна самому прыкласці рукі. Няма лепшай асалоды, калі станеш на прасценак ды возьмеш у рукі кельму. Цэгла аж звініць у руках. Так і хочацца крыкнуць дзяўчатам-падавальшчыцам: «Варушыцеся, сакатухі!» Не заўважыш, як на тваіх вачах расце і расце сцяна. А там твой сусед-муляр ужо абагнаў цябе: вышэй узняўся на колькі радоў. Тады ты выціраеш пот з твару, набіраеш поўныя грудзі паветра і загадваеш сабе: «Наперад!»

Неўзабаве Генка заступіў на пасаду брыгадзіра. Гэта ў хуткім часе пасля таго, як у Маскве адбыўся XXI з'езд роднай партыі. Новастаробінцы, як і ўсе працоўныя нашай неабсяжнай краіны, ад усяго сэрца ўхвалілі велічную праграму пабудовы камунізма, прынятую з'ездам.

Камсамолец Генадзі Чабатаронак, параіўшыся са сваімі сябрамі, пайшоў у партыйнае бюро будоўлі і заявіў:

— Наша брыгада жадае працаваць так, як працуюць лепшыя будаўнікі!..

— На што намякаеш? — спытаў парторг Васілёнка.

— Маем жаданне перайсці на гаспадарчы разлік. Будзем змагацца за званне калектыву камуністычнай працы.

Прапанову Генкі і яго сяброў па працы адобрылі кіраўнікі будоўлі. Інжынеры-планавікі Сяўрук і Свярдлоў дапамагалі маладым энтузіястам скласці разлікі, графік-заданне, паклапаціліся, каб ім своечасова дастаўлялі матэрыялы; прараб участка Мікола Капайка дапамог маладому брыгадзіру лепш расставіць сілы.

На першым часе памаглі, падтрымалі, як кажуць, блаславілі ў дарогу, а цяпер не спі ў шапку, варушыся сам, калі хочаш не зганьбіць свой аўтарытэт перад сябрамі, перад вялікім рабочым калектывам.

Генка перабіраў у думках нядаўняе мінулае і не заўважыў, як прайшоў самае гразкае месца — гнілую балацінку. Ён апынуўся на дарозе, што разразае Чыжэвічы на два вялікія канцы-вуліцы. Адсюль да Кулакоў, дзе на водшыбе стаіць хата цёткі Жалкоўскай, рукой падаць. Генка зірнуў направа, дзе за плотам на разгалістай грушы-дзічцы па-гаспадарску клекатаў цыбаты бусел, і цяпер толькі падумаў: «Прышла вясна». Першая вясна, ад якой Генка чакае нечага незвычайнага, вялікага. Генка расхінуў дачасна выцвілы, але яшчэ не стары свой плашч-дажджавік, запіхнуў у кішэню шапку і барджэй пакрочыў па вуліцы, удыхаючы першыя кволыя пахі разамлелага за дзень вішняку. Збоч дарогі, ля прасла, ужо павытыркаліся ружаватыя ўпартыя парасткі, і Генка з любасцю глядзеў на іх, перабіраючы ў думках сваіх таварышаў, з якімі ён надумаў вялікую справу.

Каго ні вазьмі з іх — усе, як на падбор, будаўнікі: і Ваня Дзялендзік, і Паўлюк Пратасеня, і Рыгор Крыж, і Лёня Дубоўскі. Або ўзяць дзяўчат. Яны ў асноўным працуюць на падсобных работах, а калі ім падвучыцца крыху, дык можна будзе ставіць і на кладку, і на тынкоўку. Праўда, у брыгадзе ёсць ужо тынкоўшчыцы — Вольга Белавус, Галя Курыліна. Кожны момант у брыгадзе знойдзецца чалавек, якога можна паставіць на адказны ўчастак. Але ці ўсё зроблена ў брыгадзе для таго, каб заваяваць званне сцяганосцаў новага.

Думкі роем кружацца вакол аднаго: «Чаму ж яшчэ, калі шчыра сказаць, брыгада не атрымала належнага разгарнення? Чым мы вылучаемся сярод іншых? Працуем, перавыконваем нормы — і ўсё. Гэтага мала».

... Ускочыўшы ў хату, Генка адразу ж са сваім пытаннем, якое моцна засела ў галаве і не давала спакою, звярнуўся да Міколы.

— Скажы, братка, — прычэсваючы пасля ўмывання свае непаслухмяныя кучаравыя валасы, гаварыў Генка да сябра, які ўрупіўся ў нейкую кніжку. — Скажы, як ты разумееш жыццё па-камуністычнаму?

— Ат, адкасніся ты, — буркнуў флегматычны Мікола. — Што я табе лектар які ці інструктар райкома... Ты вунь бяры малако ў гладышу, толькі што цётка прынесла, свежанькае, пад'еш ды пойдзем на вуліцу. Чуеш, ля прызбы ўжо дзяўчаты сабраліся...

— Не, Мікола, я сур'ёзна, — Генка крануў за плячо свайго сябра-аднакашніка і задумаўся, сабраўшы кволую маршчынку над пераноссем: — Вось мы, наша брыгада, твая брыгада, заключылі соцумову. Мы стараемся, як бы кожны дзень укласціся ў сваё заданне, перавыконваць нормы. А як кожны глядзіць на сваю працу? Чым жывуць нашы людзі, прышоўшы дахаты?

— Вось дзівак! — ухмыльнуўся Мікола і кінуў кніжку на падаконнік, заклаўшы папяровы лісток між старонак. — Пасля работы кожны сам сабе гаспадар. Маладым пагуляць карціць, а каторыя старэйшыя — у іх свае клопаты...

Паглядзеўшыся ў люстэрка, Мікола з хітрынкай у прыжмураных вачах дадаў:

— Я здагадваюся, куды ты гнеш, браток. Пачынаеш пра камунізм, а скончыш тым, што раствору не хапае, што трэба выручыць па-сяброўску...

— Эх ты, Мікола, Мікола, — пасля хвіліннага роздуму, спахмурнеўшы, ціха прагаварыў Генка. — Не разумееш ты мяне, дружа. Я хацеў з табой параіцца, як з сябрам, з камсамольцам, нарэшце. А ты — сапраўдны скептык!..

— Няхай сабе і скептык, — адказаў Мікола з ноткамі раздражнення і крыўды ў голасе. — Але скажу, што больш ніякіх «парламенцёраў» і «штурхачоў» на растворным вузле не будзе. Нават і ад цябе не прыму, хоць ты мне, Генка, і друг. Усё.

Генка маўчаў, прысеўшы да стала і гледзячы некуды міма Міколы, які цяпер пачаў хадзіць па хаце.

На хударлявым, абветраным Генкавым твары выразна адбілася заклапочанасць. У душы варухнулася пачуццё разгубленасці: яго блізкі таварыш Мікола, з якім разам вучыліся, былі на практыцы, часта па адным канспекце здавалі залікі, і раптам такое гне!..

Маўчаў і Мікола, засяроджана мераючы крокамі хісткія масніцы і кідаючы хітраватыя позіркі на таварыша. Адчуваючы, што маўчанне зацягнецца (Мікола быў хлопец зацяты), Генка першы пайшоў на прымірэнне.

— Гэта праўда, — усміхнуўшыся, сказаў Генка. — З «парламенцёрамі» трэба паконччыць. У растворным патрэбна навесці парадак...

— Навядзеш ты там парадак...— кінуў Мікола, але ўжо без

ранейшай рэзкасці, — калі на два ўчасткі адна бетонамяшалка.

— Справа не толькі ў тым, што адна бетонка, — зноў загаварыў Генка. — Асноўная прычына, як я думаю, тая, што мы не пазбавіліся шмат якіх радзімых плям, якія дасталіся нам у спадчыну ад старога: кожны стараецца як лепей для сябе, забываючы пра калектыў, пра агульную справу, — Генка наморшчыў лоб, нахмурыўся. Яму і самому не падабалася тое, што ён нагаварыў, таму паспешліва закончыў, хоць і адчуваў, што ў нечым мае рацыю: — А наогул, Мікола, нам усім трэба пазбаўляцца ад тых радзімых плямаў, калі хочам ісці першымі ў заўтрашні, светлы дзень!

— Дык што, мы не пойдзем сёння на вуліцу? — ужо зусім пацяплеўшым голасам спытаў у Генкі Мікола.

— Не, чаму ж, пойдзем, — адказаў той.

Але хлопцы на вуліцу пакуль не пайшлі, хоць праз расчыненае акно ўжо даўно клікаў іх чараўнік-гармонік. Яны шчыра гаварылі пра тое, што ўжо можна ў цяперашніх умовах зрабіць у брыгадзе для наладжвання жывой, выхаваўчай работы з людзьмі.

Аказваецца, можна зрабіць многае. Тут і калектыўнае абмеркаванне новых кінафільмаў, і гутаркі на розныя выхаваўчыя тэмы, і маёўкі ў выхадныя дні, і мастацкая самадзейнасць. Хлопцы пагадзіліся на тым, што ўсім трэба вучыцца. Не толькі брыгадзірам, а ўсім рабочым. Магчымасці будуць. Абы было жаданне.

У гэты вечар сябры крыху спазніліся на пагулянку, якія сёлета пакуль з'яўляюцца амаль што адзінай забавай на будоўлі, але не пашкадавалі пра гэта. Яны як бы крышачку пасталелі ў сваіх вачах. Яны адчулі, што нясуць адказнасць не толькі за сябе, але і за тых людзей, з якімі ім трэба ісці поплеч, дзяліць радасць і нягоды.

Так вось зялёныя, яшчэ кволыя парасткі пад жыватворным веснавым сонцам дужэюць, набіраюцца сілы.

### «Бог бетону»

Яму на выгляд гады дваццаць тры, не больш. Танклявы, з драбнаватым загарэлым тварам, на якім гарэзліва ўсміхаюцца разумныя шэрыя вочы; з-пад палінялай, надзетай набакір кепкі выбілася пасма бялявых хвалістых валасоў. Ён не ходзіць, а віхрам носіцца па пляцоўцы ў сваім шэрым, адубелым плашчы і ў кірзавых ботах. Вось толькі што яго бялявая чупрына мільганула на вузле, дзе счапіліся паміж сабою два хлопцы-будаўнікі, аспрэчваючы, каму першаму заняць месца са сваёй машынай ля бетонамяшалкі, а праз колькі хвілін ён апынуўся ўжо ля мантажнікаў, што завіхаюцца на зборцы новага механізаванага растворабетоннага вузла.

Рытмічна грыміць бетонамяшалка, з шумам узнімаецца ўгору і апускаецца на тросе бункер, загружаючы порцыю за порцыяй пясок і цэмент у пашчу машыны, якая замешвае раствор. З шуфлямі завіхаюцца дзяўчаты, падаючы гравій і пясок. Бясшумна церушыцца, нібы мука, пыл, прыпудрываючы ўсё навокал: і людзей, што працуюць тут, і збудаванне з дошак, і машыны, што беспераcтанку падыходзяць сюды.

Машыны ўпрытык становяцца да бункераў, і ў кузавы навальваецца бетон ці раствор. Не паспела нагрузіцца адна, як яшчэ пад'ехала адразу тры самазвалы. З кабін павыскоквалі ўвішныя хлопцы і акружылі брыгадзіра Міколу Акуліча, наперабой загаварылі, што кожнаму трэба хутчэй, у кожнага стаяць без справы людзі.

— Спакойна, таварышы, — гаворыць брыгадзір. — Будзем глядзець, хто раней падаў заяўку.

— Якая там заяўка яшчэ? — папраўляючы шапку-вайскоўку, вынырнуў аднекуль з-пад бетонамяшалкі чарнявы хлопец-пранyра і выпучыў грудзі. — Жывая чарга. Я ўжо тут з раніцы дзяжуру...

— Не трэба тут сядзець з раніцы, — паміж брыгадзірам і чарнявым, як з-пад зямлі, устаў рослы хлопец у шэрым плашчы. — Без «парламенцёраў» абыйдземся. Ёсць заяўкі з кожнай брыгады, і гэта для нас — закон!..

— Ну, кіньце, Сцяпан бацькавіч, — запратэставаў чарнявы. — Вы ж разумееце. Наша брыгада на адказным аб'екце. Вакзал будуем. Зрабіце нам ласку, таварыш Вераб'ёў.

— Ніякай ласкі, — адрэзаў Вераб'ёў. — Хто там па графіку. Пад'язджайце!..

Чарнявы, паскробшы патыліцу, паплёўся да самазвала, што, накрэніўшыся, стаяў збоч. Ідучы, з'едліва бурчэў сам сабе:





**Праходка шахтавых ствалоў пачалася! Першы грунт узнят на паверхню.**

— Падумаеш мне... «бог бетону»...

«Богам бетону» называюць гэтага рухавага, на выгляд зусім маладога бялявага хлопца ў выцвілым плашчы — Сцяпана Вераб'ёва, які працуе майстрам растворабетоннага вузла на вытворчай пляцоўцы. У гэтыя словы будаўнікі ўкладваюць і павагу, і, часам, крыўду да чалавека, які прыстаўлены на такі адказны ўчастак.

На самай справе ў «бога бетону» інжынера Сцяпана Вераб'ёва ўжо ёсць свая біяграфія. З маленства настойлівы і цікаўны вясковы хлапчук, Сцяпан сам пракладваў сабе дарогу ў жыццё. Скончыўшы медыцынскі тэхнікум, ён адчуў, што гэтая спецыяльнасць яму не па душы. Пайшоў у дзесяты клас вячэрняй школы, а потым падаўся ў Днепрапятроўск, у горна-будаўнічы інстытут. Адтуль вярнуўся на радзіму, у Магілёў, інжынерам. Якраз падаспеў Нова-Старобін, і Сцяпан з радасцю адправіўся ў дарогу. Тут хлопец ажаніўся. А гэта немалаважная дэталь для таго, хто прыязджае на новае месца.

Калі галоўны інжынер будоўлі Васіль Рыгоравіч Яромчанка спытаў у Сцяпана Вераб'ёва, ці з ахвотай ён ідзе майстрам на гэты цяжкі ўчастак, то ён з шчырай усмешкай адказаў:

— Якраз мне работа па характару...

Пакуль што на «бога бетону» кожны дзень сыплюцца шышкі. Разгарнуліся вялікія работы на будоўлі, а бетон і раствор, як вядома, — хлеб будаўнікоў. З ранку да вечара не ведае спачыну вузел. Вось толькі што адрамантавалі рухавік, і зноў загрымела бетонамяшалка. Сцяпан запэцканай далонню выцер спацелы твар, трасянуў густымі хвалістымі валасамі, якія ўвесь час спадаюць на шырокі яго лоб і не даюць засяродзіцца, і зноў разгарнуў графік-заданне.

Цяпер заданне на дзень — 100 кубаметраў бетону. А быў час зімой, што не выбіралі і 16 кубаметраў. Ля машын тыя ж людзі, а даваць павінны прадукцыі куды больш. Праўда, яны ўжо не навічкі, а вопытныя майстры бетону. Тыя ж дзяўчаты — нядаўнія школьніцы Тамара Пінчук, Ліда Прышчыц, Валя Густарнік, Святлана Дабравольская хутка авалодвалі спецыяльнасцямі матарыстак і трымаюць вахту не горш, як сталая бетоншчыца Аня Волкава, якая ўжо мае за плячамі васьмігадовы стаж. За паўдня дзяўчаты адправілі 26 машын бетону, каля 40 кубаметраў.

— Колькі дадзім сёння?—пытаецца ў брыгадзіра Сцяпан.

— Кубаметраў 70—80, — адказвае той, нахмурыўшыся. Мікола Акуліч, здаецца, ніколі не ўсміхаецца. На працы бадай што так. Ён лічыць, што начальнік павінен быць вельмі суровым з выгляду. Калі якая з дзяўчат стральне на яго вачамі з-пад нізка павязанай хусцінкі і паспрабуе без дай прычыны засмяяцца, то ад Міколы літасці не чакай. Але гэта, між іншым, не перашкаджае дзяўчатам паважаць свайго брыгадзіра.

— Мала, брат, мала, — хвалюецца «бог бетону». — Трэба падцягнуцца. Мы ж падмеліся даваць па 100 кубоў. А калі падмеліся, то, як кажуць, на блін расплешчамся, а слова стрымаем!..

— Стрымаеш тут, калі іншы раз даводзіцца стаяць праз усякую дробязь, — упікнуў Мікола свайго майстра. — Вось прастаялі гадзіну праз механіка. Сапсаваўся рухавік, а Мірановіч як у зямлю праваліўся... Трэба будзе, каб там начальства зацікавілася, як ён адносіцца да сваіх абавязкаў.

— Варта яго ў «боксе» прапясочыць, — гаворыць «бог бетону» і імчыцца на пляцоўку, дзе пачалі новы аб'ект — падмурак склада для растворабетоннага вузла. Ужо здалёк ён крыкнуў:

— Глядзі ж, Мікола, каб ніводнага «парламенцёра» тут не было!..

Сапраўды, не лёгка на такой будоўлі, як у Нова-Старобіне, быць «богам бетону».

### Як жыццё, дзяўчаты?

У новым горадзе, які яшчэ толькі ўзнімаецца над чыжэвіцкімі палямі і лугамі, шмат моладзі. Камсамольцаў адных каля паўтысячы. Можна смела сказаць, што гэта горад юнацтва, народжаны ўдарнай сямігодкай. Кідаецца ў вочы, што на будоўлі многа дзяўчат. Іх квяцістыя хусцінкі можна сустрэць і на растворных вузлах, і на рыштаваннях камяніц, і ля свежых катлаванаў... Мілыя дзявочыя тварыкі выглядаюць з напята расчыненых вокнаў інтэрнатаў, куды заўтра ўселяцца будаўнікі...

Нядаўна выбраны камсорг будоўлі Валодзя Стральцоў увесь час на рабочых пляцоўках, сярод моладзі. Ён і раней быў сакратаром камсамольскай арганізацыі УНР-122, але тады працаваў майстрам і больш быў на сваім участку. Цяпер у Валодзі вялікі разгон. Будоўля раскінулася на многа кіламетраў, і ўсюды працуюць камсамольцы. Валодзя цяпер, кажуць, вызвалены сакратар, яму ёсць час пабываць усюды, пазнаёміцца з усімі, пабачыць усё сваімі вачамі.

Наведвае новы сакратар і той жа растворабетонны вузел, дзе гаспадараць Сцяпан Вераб'ёў з Міколам Акулічам. Звычайна, як прыходзіць, дык разам з прывітаннем кідае сваё нязменнае:

— Як жыццё, дзяўчаты?

І засмяецца сваёй адметнай, шырокай усмешкай, пройдзецца сюды-туды, высокі, стройны, не вымаючы рук з кішэняў блакітнаватага пыльніка. Ужо ад аднае гэтай валодзевай цёплай, мяккай усмешкі ў многіх дзяўчат іскрацца вочы. І з усіх бакоў нясецца:

— Дзякуй. Жывём!.. Яшчэ як!..

Толькі нешта нічога не адказала на гэты раз сакратару адна з дзяўчат, што стаяла ля дзвярэй. Яна адно толькі кінула жвавы позірк сініх вачанят і схавалася ў будыніне. Можа таму, што яна пры машыне і ёй нельга бавіцца, а можа яшчэ ад нечага не праявіла яна ўдзелу ў агульным ажыўленні, якое выклікаў прыход камсорга.

Каб Валодзя крыху затрымаўся ды пагаварыў з дзяўчатамі больш, адкінуўшы афіцыйнасць, то можа і Света Дабравольская, якая цяпер не ўзрадавалася чарговаму яго прыходу, што-кольвечы расказала б, падзялілася б сваімі думкамі-марамі, якія ёй не даюць спакою. Каб Валодзя апрача сваіх заўсёдных агульных пытанняў, ад якіх мала застаецца следу ў чалавечай душы, параіўся б з камсамольцамі, дазнаўся б, што іх цікавіць, якія ў іх радасці і нягоды, то больш было б карысці тым, для каго ён стараецца.

Тонкая гэта справа — чалавечая душа. І падабраць да яе ключык, адчыніць яе насцеж — гэта і ёсць уменне працаваць з людзьмі. Валодзя Стральцоў — малады камсамольскі работнік, ён толькі што са студэнцкай аўдыторыі, у рабочым асяроддзі як мае быць яшчэ не абцёрся, а дапамогі на месцы не мае. Вось і атрымліваецца, што хлопец мітусіцца, з раніцы да вечара бегае па аб'ектах, а вынікі пакуль не такія ўжо багатыя.

Спаборніцтва паміж маладзёжнымі брыгадамі як належыць не арганізавана. Пасты камсамольскага кантролю дзейнічаюць ад выпадку да выпадку; ёсць факты, калі нават камсамольцы парушаюць працоўную дысцыпліну, дрэнна паводзяць сябе на людзях. Слаба пастаўлена работа па выхаванню навічкоў, якія прыходзяць на сваю ўдарную будоўлю. Асобныя камсамольскія арганізацыі яшчэ ўсё раскачваюцца.

Самае слабае месца ў рабоце новага сакратара — гэта імкненне ўсё рабіць самому, няўменне заахвоціць і згуртаваць вакол сябе



актыў, няўменне запаліць аганёк камсамольскай ініцыятывы.

Моладзь скардзіцца, што на будоўлі не наладжан культурны адпачынак.

— Сумна, — у адзін голас гавораць дзяўчаты. — Нават на танцы трэба ездзіць у Старобін...

Калі разгарнуцца як мае быць, то можна не толькі добрыя танцы наладжваць, але і канцэрты, і лекцыі, і маладзёжныя вечары. Праўда, пакуль што цеснавата — клуб дабудоўваюць яшчэ. Але на вытворчай пляцоўцы і ў жылым гарадку можна знайсці памяшканні, каб арганізаваць і маладзёжны вечар, і рэпетыцыю самадзейных калектываў. На будоўлі ёсць і масавік, ёсць музычныя інструменты . А колькі моладзі, якая жадае ўдзельнічаць у самадзейнасці! Трэба толькі ўключыць усё гэта ў рух, і справа пойдзе.

У Чыжэвічах і Кулаках сёння жыве шмат юнакоў і дзяўчат, якія прышлі з навакольных мясцін — са Старобіншчыны, з-пад Князь-возера, з Чырвонаслабодскага раёна, са Случчыны... Гэта — цвет ударнай камсамольскай будоўлі, учарашнія дзесяцікласнікі. Іх прывяло сюды жаданне быць на пярэднім краі жыцця, уласнымі рукамі тварыць рамантыку, якой так прагне юнае сэрца.

У маладу калектыў будаўнікоў улілася большасць выпускнікоў мясцовых Чыжэвіцкай і Мяцявіцкай школ. На пляцоўках можна сустрэць аднакласнікаў, сяброў, якія цяпер працуюць побач, авалодваюць адной спецыяльнасцю.

Як яны жывуць? Якія ў навічкоў мары пра свой заўтрашні дзень?— усё гэта пытанні, якія павінны складаць штодзённы клопат камсамольскага выхаваўцеля.

Не блага было б, каб Валодзя Стральцоў — малады камсорг будоўлі — ведаў, што тая ж камсамолка Света Дабравольская і яе сяброўка Тамара Пінчук (перадавыя працаўніцы, якіх заўсёды ставяць у прыклад) жывуць адной

думкай — паступіць ва ўніверсітэт, куды яны раней не прайшлі па конкурсу. Сяброўкі абавязкова жадаюць быць настаўнікамі-моваэнаўцамі. Што ж, кожны выбірае сабе сцежку ў жыцці, якая яго вабіць... У Тамары маці настаўніца, выкладае гісторыю, а ў Святланы — бацькі працуюць у мясцовым калгасе «Свабода».

Сяброўкі ўжо авалодалі спецыяльнасцю матарыстак і вылучыліся ў рады перадавікоў. Глядзіш, як гаспадарыць ля бетонамяшалкі Тамара Пінчук і захапляешся яе спрытам і лоўкасцю. У рабочым камбінезоне, у зацярушанай пылам квяцістай хусцінцы, з-пад якой выбіліся светлыя кучаравыя валасы, Тамара выглядае прыгажуняй. Дармо, што яе твар прыпудраны пылам, што яе дзявочыя рукі зашурпацелі ад працы.

Тамара, як і Света, добра зарабляе. На пытанне, ці падабаецца ёй яе спецыяльнасць, Тамара адказвае:

— Ніколі, я не думала, што пайду сюды. Праўда, мы яшчэ ў школе чулі, што будзе тут новы горад, але думалі, што не скора ўсё гэта. А выйшла інакш. І самім прышлося. Праца мне падабаецца. Вядома, каб якія курсы, дык лепш было б...

— А як наконт універсітэта?

— Абавязкова паступлю, — бліснула вачамі дзяўчына і зарумянелася макавым цветам. — Яшчэ год — і паступлю. Не адступлюся ад сваёй мары! Чытаю я шмат. Падручнікі праглядаю, ды, наогул, не забыла таго, што вучыла ў школе...

Тамары толькі споўнілася васемнаццаць год. Можа яна яшчэ перадумае наконт таго, кім ёй быць — настаўнікам ці інжынерам. Тым больш, што ў яе па ўсіх дакладных прадметах — пяцёркі. Важна тое, што такія, як Тамара, — гэта і ёсць нашы маладыя сучаснікі, для якіх характэрнай рысай з'яўляецца прага стаць усебакова развітым, культурным чалавекам. Яны ўжо сёння выхоўваюць у сабе рысы, без якіх не абыйдзешся пры камунізме. І на будоўлі такіх многа.

Думаецца, што Валодзя Стральцоў і яго сябры-актывісты знойдуць той ключ, якім адмыкаюцца маладыя, гарачыя сэрцы. Верыш, што на вялікай ударнай будоўлі хутка закрынічыць, завіруе камсамольскае жыццё.

### Наступленне пачалося

Якраз у той час, як ад незвычайнай у сярэдзіне красавіка цеплыні распукнуліся пупышкі на стройных чыжэвіцкіх грушах-бэрах, раптам завіхрыў халодны, ледзяны вецер, забарабаніў па шыбах дождж, а праз дзень зранку ўсё навокал пакрылася асляпляльна белым пахучым сняжком. Вецер, утаймаваўшыся, крыху прыціх, паказалася з-за бураватых хмар здзіўленае сонца, заскакалі на дарогах рыжыя сонечныя зайчыкі, а снег не здаваўся.

Гэта быў, напэўна, апошні подых зімы, бо зноў пацяплела, насталі ясныя, сонечныя дні, і на Першае мая ў Чэжэвічах і іншых навакольных вёсках зацвілі вішнёвыя сады. Хлопцы і дзяўчаты ехалі на традыцыйную маёўку ў Старобін з мноствам вясенніх кветак у руках.

...Зноў ажылі, загаманілі дарогі. На поўны голас заспявалі маторы. Героямі дня сёння з'яўляюцца шафёры, трактарысты, кранаўшчыкі, бульдазерысты, яны задаюць тон на будоўлі. Яны забяспечваюць фронт работ для будаўнікоў, якія выйшлі на першы рубеж сямігодкі.

Куды ні кінеш позірк, на якой пляцоўцы ні пабываеш, усюды адчуваецца, што настаў час вялікага, імклівага наступлення. На вачах мяняецца пейзаж пад Чыжэвічамі.

За новай шасейкай, якая злучыла стары старобінскі шлях з Нова-Старобінам, узняліся першыя капры новага беларускага рудніка. Бурыльшчыкі буравяць трэці ствол. На поўную магутнасць працуе станцыя холаду. Заканчваецца мантаж магутных паветраных кампрэсараў, пад'ёмных машын, якія будуць патрэбны для праходчыкаў. Зусім нядаўна запрацавала механічная майстэрня. З Сталінагорска прыбыла партыя праходчыкаў, яны перадаюць свой вопыт моладзі, што прышла з навакольных вёсак, па пуцёўках камсамола.

У жылым гарадку закладзены новыя будынкі — камбінат бытавога абслугоўвання, шматкватэрныя жылыя дамы, кацельня. Заканчваецца будаўніцтва клуба, магазіна, бальніцы, лазні і іншых аб'ектаў.

На вытворчай пляцоўцы за вясновыя дні ўзняліся канструкцыі завода жалезабетонных вырабаў; заканчваецца мантаж механізаванага растворнага вузла. Узвышаюцца муры дрэваапрацоўчай фабрыкі, бетоннага склада. Выраслі карпусы заводакіраўніцтва, сталовай, кацельні...

На зялёнай паляне, непадалёк, бетоншчыкі заклалі падмурак вакзала. Хутка наваколле агалосіць першы паравозны гудок. Са Слуцка на новую станцыю Калій пракладзена ўжо чыгунка.

...Прыгожая, у пахучай яблыневай квецені была сёлета вясна ў Чыжэвічах. Першая вясна ў будаўнікоў на новым месцы. Яна запомніцца, як зыходны крок, як пачатак вялікага, ударнага наступлення за здзяйсненне планаў сямігодкі.

Новастаробінцы, ідучы ў рашаючы наступ на штурм рубяжоў сямігоддзя, упэўнена заяўляюць:

— Тваё заданне, родная партыя, выканаем. Пабудуем камбінат ураджаяў датэрмінова!



# СЯМІГОДКУ — ЗА ПЯЦЬ ГОД

У стэпах Украіны і на цалінных землях Казахстана, у Прыбалтыцы і на шырокіх прасторах Расійскай Федэрацыі, у многіх зарубежных краінах можна сустрэць сіласаўбарачныя камбайны з маркай завода «Гомсельмаш». У мінулым годзе з галоўнага канвеера завода сышоў 100-тысячны камбайн. Многія з гэтых цудоўных машын сабраны спрытнымі рукамі членаў камсамольска-маладзёжнай брыгады, якую ўзначальвае малады камуніст, намеснік сакратара камітэта камсамола завода Пётр Селькін. Першай у Гомелі брыгада ўключылася ў спаборніцтва за права называцца калектывам камуністычнай працы. І першай яна ўдастоена гэтага пачэснага і высокага звання.

Ніжэй мы друкуем расказ Пятра Селькіна пра будні і планы сваёй брыгады.

* * *

Нядаўна ў жыцці членаў нашага невялікага калектыву адбылася падзея, якая, можна смела сцвярджаць, запомніцца мне і маім сябрам на ўсё жыццё — нашай брыгадзе першай на заводзе і на Гомельшчыне прысвоілі званне калектыву камуністычнай працы.

Пасля таго, як на пашыраным пасяджэнні камітэта камсамола нашай сціплай працы была дана такая высокая ацэнка, калі Ніна Талкачова, сакратар Чыгуначнага райкома камсамола, уручыла брыгадзе пераходны Чырвоны сцяг раённага камітэта камсамола, мы доўга не разыходзіліся.

Яшчэ і яшчэ раз успаміналі першыя, спачатку нясмелыя, а потым усё больш упэўненыя крокі па шляху да пастаўленай мэты, прыгадвалі поспехі і няўдачы, дзяліліся думкамі на будучае. І ўсе прышлі да аднаго вываду. Яго сфармуляваў член нашай брыгады камуніст Леанід Іваноў:

— Не пашкадуем сваіх сіл для здзяйснення грандыёзных планаў сямігодкі, гістарычных рашэнняў XXI з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

У мяне часта пытаюцца, як мы дамагліся высокага звання, просяць расказаць і «сакрэт поспеху». Скажу прама: ніякіх сакрэтаў няма. Уся справа ў моцнай дружбе, у тым, што ўсе мы вучымся не на словах, а на справе працаваць і жыць па-камуністычнаму.

На другі ж дзень, як мы пачулі па радыё аб выдатным пачыне рабочых дэпо станцыі Масква-сартыровачная, не згаворваючыся паміж сабою, сабраліся ў абедзенны перапынак. Размова зайшла аб тым, што хвалявала ўсіх, — аб пачыне масквічоў. І цяжка цяпер прыпомніць, хто выказаў наша гарачае жаданне — узяць з іх прыклад.

Успаміналіся расказы пра першыя камуністычныя суботнікі, першыя ўдарныя камсамольскія брыгады. Гэта яны, камсамольцы 30-х гадоў, у саракаградусны мароз, стоячы па пояс у ледзяной вадзе ці перамагаючы нясцерпную спякоту ў бязводнай пустыні, будавалі гарады, магутныя заводы, электрастанцыі, збіралі першыя савецкія трактары і аўтамабілі. Як жа цяпер мы павінны працаваць, каб быць іх дастойнымі наследнікамі?

Кожны яшчэ і яшчэ раз успамінаў сваё кароткае працоўнае жыццё, як бы ў думках размаўляў сам з сабой — а ці здолею я?..

І рашэнне было аднадушным — усе дзесяць чалавек, члены брыгады, цвёрда заявілі: будзем спаборнічаць, справай дакажам, што слоў на вецер не кідаем!

Наша рашэнне ахвотна падтрымаў начальнік цэха дэпутат Вярхоўнага Савета СССР Вікенці Раманавіч Нарбутовіч, падтрымалі партыйная і камсамольская арганізацыі.

Неўзабаве былі распрацаваны і аднадушна прыняты новыя сацыялістычныя абавязацельствы. Мы рашылі выконваць зменныя заданні за 7 гадзін, а за восьмую гадзіну — выпускаць звышпланавую прадукцыю; дабіцца поўнай узаемазамяняльнасці адзін аднаго ў брыгадзе. Для гэтай мэты ў першым годзе сямігодкі кожнаму члену брыгады навучыцца выконваць усе тэхналагічныя аперацыі па мантажу і выпрабаванню сіласарэзкі, дабіцца сумяшчэння прафесій і вызваліць двух-трох рабочых на іншыя ўчасткі работы. Акрамя таго, у абавязацельствах запісалі — кожнаму члену брыгады на працягу чатырох-пяці год атрымаць без адрыву ад вытворчасці сярэднюю тэхнічную адукацыю. Мы далі слова ў нерабочы час адпрацаваць кожнаму па 8 гадзін у месяц на будаўніцтве жылога дома для рабочых і служачых цэха. Рашылі таксама дапамагчы групе вучняў падшэфнай школы атрымаць спецыяльнасці слесараў трэцяга разраду. І асобным пунктам запісалі — паводзіны кожнага члена брыгады на вытворчасці і дома павінны быць узорнымі, будзем весці непрымірымую барацьбу з парушальнікамі працоўнай і грамадскай дысцыпліны.

І, нарэшце, сфармулявалі непарушны закон брыгады: **адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. Усе радасці і нягоды дзяліць разам.**

Калі ўсе разышліся, я яшчэ раз уважліва перачытаў кожны пункт соцумовы. Што і казаць — абавязацельствы вялікія, выканаць іх будзе не лёгка!.. Але, як кажуць, узяўся за гуж, не кажы, што не дуж. Хлопцы ў нас у брыгадзе дружныя, настойлівыя — не падвядуць. А што нялёгка будзе — гэта мы ведалі і раней. Ды і ніхто з нас ніколі не думаў шукаць лёгкіх сцежак у жыцці. Наадварот, кожны імкнуўся быць там, дзе цяжэй, дзе самы важны ўчастак.





**Брыгада слесараў-зборшчыкаў на «Гомсельмашы», якой першай прысвоена званне калектыву камуністычнай працы. Брыгадзір — Пётр Сelькін** (трэці справа).

Фота Ф. Раманава (БЕЛТА).

Раней на нашу работу ніхто не звяртаў асаблівай увагі. Працуюць, і добра. А цяпер, калі мы пачалі змагацца за ганаровае званне брыгады камуністычнай працы, мы як бы апынуліся на ўзгорку, у цэнтры ўвагі ўсяго калектыву цэха і нават завода. Часцей пачалі заходзіць на ўчастак і госці з іншых прадпрыемстваў горада.

Сёння можна смела заявіць, што мы сваю першую запаведзь выконваем паспяхова. Дзве, дзве з палавінай, тры і нават больш норм за змену — так працуем мы ўжо цэлае паўгоддзе. Не было яшчэ выпадку, каб хто-небудзь не выйшаў на работу ці спазніўся.

Аднойчы, гэта было ў першыя месяцы спаборніцтва за званне калектыву камуністычнай працы, у цэху з-за адсутнасці электраэнергіі спынілася работа. Рабіць не было чаго — рабочыя, хаця і з вялікай неахвотай, вымушаны былі пайсці дадому. Пачалі складваць інструмент і члены нашай брыгады.

— А чаму б нам не выкарыстаць гэты час для таго, каб навесці парадак на рабочых месцах, — падаў думку Леанід Іваноў.

Яго падтрымалі Аляксандр Каваленка, Іван Ганчароў і другія члены брыгады.

І ўсе засталіся ў цэху. Прайшло гадзіны са дзве, і нібы памаладзеў участак. На што ўжо скупы на пахвалу наш начальнік цэха Вікенці Раманавіч, але і той не ўстрымаўся, каб не сказаць:

— Малайцы, хлопцы!..

Каб апраўдаць непарушны закон брыгады — адзін за ўсіх і ўсе за аднаго, мы пачалі з таго, што рашылі авалодваць сумежнымі прафесіямі. Некаторыя добрыя слесары не ўмелі карыстацца зварачным апаратам. А ў нашай справе без яго ніяк не абысціся. Цяпер амаль усе нашы хлопцы валодаюць не толькі электразваркай, але і іншымі працэсамі. У выніку для іншай работы вызвалілася трое рабочых-зваршчыкаў. Калі раней чатыры чалавекі збіралі па 30 —

40 камбайнаў, то цяпер удвух збіраюць за змену 50—60 машын.

Добра працаваць — гэта яшчэ не ўсё. Вялікую ўвагу мы звяртаем на вучобу. Яно і зразумела — без настойлівай, штодзённай вучобы нельга дабіцца поспеху і ў рабоце. Мы добра памятаем запавет: каб будаваць, трэба ведаць, а каб ведаць, трэба вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца. Вось чаму ўсе з вялікай настойлівасцю цяпер павышаюць свае веды. Марат Шульклепер і я, напрыклад, вучымся на вячэрнім аддзяленні машынабудаўнічага тэхнікума. Леанід Іваноў, Мікалай Нешытой і Аляксандр Канаваленка — у школе рабочай моладзі, Леанід Дзядкоў і Іван Ганчароў — рыхтуюцца да паступлення ў інстытут.

Былі ў нас і такія таварышы, якія па розных прычынах пакінулі вучобу даўно, нідзе не вучыліся. Не так проста пайсці ў шосты клас, калі табе пад трыццаць і апошні раз у школе ты быў гадоў 15 таму назад!.. Але жаданне не адстаць ад таварышаў, імкненне ісці ў адным страі з усімі членамі брыгады прымусіла і іх вучыцца. І тут зноў-такі праявіліся выдатныя якасці нашых хлопцаў, пачуцце ўзаемнай дапамогі.

У Васіля Яжова і Івана Дорахава — усяго пяцікласная адукацыя. Члены брыгады рашылі, не чакаючы новага навучальнага года, дапамагчы сваім таварышам самастойна прайсці праграму шостага класа, з тым, каб восенню адразу паступіць у сёмы клас. Васілю Яжову дапамагае Іван Ганчароў, а Аляксандр Канаваленка — Івану Дорахаву.

Мы выкарыстоўваем і другія формы вучобы, каб павысіць свой тэхнічны і культурны ўзровень. Так, у нас частымі гасцямі з'яўляюцца студэнты Гомельскага педінстытута, якія праводзяць з намі гутаркі аб рэвалюцыйных традыцыях гераічнага рабочага класа нашай краіны. Аб першых ударных камсамольскіх брыгадах расказваюць старыя бальшавікі Гомсельмаша. Цяпер сталі звычайнай з'явай калектыўныя паходы ў тэатры, у кіно. Нярэдка мы збіраемся для таго, каб абмяняцца думкамі аб прачытанай кнізе, прагледжаным кінафільме, а то і проста аб падзеях, якія адбыліся ў нашай краіне і за рубяжом за тыдзень.

У адным з пунктаў нашых абавязацельстваў запісана: навучыць слясарнай справе групу вучняў падшэфнай сярэдняй школы. За гэта з вялікай ахвотай узяўся Уладзімір Лобаў. Мы толькі дзіву даваліся — і адкуль у хлопца такі педагагічны талент! Але жарты жартамі, а дзесяць вучняў хутка атрымаюць спецыяльнасці слесараў-зборшчыкаў.

Яркім святлом азарылі ўсё наша жыццё гістарычныя рашэнні XXI з'езда КПСС. Чытаеш, перачытваеш даклад таварыша М. С. Хрушчова, рэзалюцыю з'езда, выступленні дэлегатаў і перад вачыма паўстаюць велічныя перспектывы, нябачаныя дагэтуль гарызонты. І неяк па-новаму пачынаеш глядзець на сваю працу, на працу сваіх таварышаў.

Мы зрабілі яшчэ вельмі мала. Прысваенне нашай брыгадзе ганаровага звання калектыву камуністычнай працы абавязвае нас працаваць яшчэ лепш, прыкласці ўсе свае сілы, веды і здольнасці, каб быць дастойнымі гэтага звання. Цяпер, калі кожны савецкі чалавек вызначае свае рубяжы ў барацьбе за сямігодку, члены нашай брыгады вырашылі выканаць яе за пяць год. І я не памылюся, калі ад імя ўсіх членаў брыгады скажу: наша слова цвёрдае, мы яго стрымаем. Будзем настойліва вучыцца, працаваць і жыць па-камуністычнаму!

**Завод «Гомсельмаш».**

*Слухачам народных універсітэтаў*

**У. АЛОЎНІКАЎ,**
**кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтва БССР**

# ЯК РАЗУМЕЦЬ СІМФАНІЧНУЮ МУЗЫКУ

Плаўны ўзмах дырыжорскай палачкі — і заспявалі скрыпкі... Паліліся, змяняючы адна адну, задушэўныя мелодыі Сёмай сімфоніі Сяргея Пракоф'ева. Слухаючы гэтую быццам асветленую ўсмешкай юнацтва музыку, міжволі захапляешся яе чароўнасцю і прыгажосцю. Але вось змоўк аркестр, закончыўся канцэрт, а вы яшчэ доўга знаходзіцеся пад радасным уражаннем праслуханага. Цудоўная музыка глыбока запала вам у душу і зрабілася вашым нябачным спадарожнікам.

Мы невыпадкова пачалі гаворку іменна з гэтага музычнага твора. Сёмая сімфонія Пракоф'ева адрасавана нашай савецкай моладзі і раскрывае яе багаты духоўны свет. Колькі разнастайных адценняў настрояў і пачуццяў у гэтым творы. Тут глыбокая пяшчотнасць і тонкі гумар, светлая мара і натхнёны парыў, спакойны роздум і нястрымная весялосць. Таму так лёгка слухаецца і ўспрымаецца гэтая сімфонія, што яе змест падказала кампазітару само жыццё і ён здолеў стварыць праўдзівы музычны вобраз нашага юнацтва. У гэтым вобразе, у гэтай музыцы маладыя слухачы пазнаюць сябе — вось прычына масавага прызнання Сёмай сімфоніі Пракоф'ева.

Але ці азначае гэта, што кожная сімфонія будзе гэтак жа лёгка слухацца і ўспрымацца? Давайце пагутарым пра гэта, каб адначасова адказаць на пытанні чытачоў часопіса «Маладосць», якія цікавяцца сур'ёзнай сімфанічнай музыкай, хочуць навучыцца слухаць і разумець яе.

П ы т а н н е. Ці можна разумець сур'ёзную сімфанічную музыку, не маючы спецыяльнай музычнай адукацыі?

А д к а з. Вядома, можна. Музыка, у тым ліку і сімфанічная, з'яўляецца мастацтвам масавым, дэмакратычным, агульнанародным. Не для вузкага кола слухачоў, а для шырокіх мас, для народа стваралі сваю музыку вялікія кампазітары-класікі. «Калі я пастаянна знаходжу патрэбным гаварыць музычнай мовай, то, вядома, трэба, каб мяне слухалі, і чым шырэйшае і больш спачувальнае кола маіх слухачоў, тым лепш», — гаварыў П. І. Чайкоўскі. Таму памыляюцца тыя маладыя таварышы, якія лічаць, што сур'ёзную сімфанічную музыку могуць слухаць і разумець толькі некаторыя выбраныя людзі, напрыклад, музыканты, якія маюць прафесіянальную музычную адукацыю. «Вось песні мы любім і разумеем, — гавораць звычайна гэтыя таварышы, — а сімфоніі — не для нас. Няхай іх слухаюць тыя, хто разумее».

Такога роду баязлівасць, недавер'е, а часам і лёгкадумная пагарда да сімфанічнай музыкі пазбаўляе чалавека радасці знаёмства з вялікімі творамі музычнага мастацтва, перашкаджае адчуць іх прыгажосць і атрымаць высокую эстэтычную асалоду. Вядома, песня, як і ўсякі іншы музычны твор, у аснову якога пакладзены вершаваны тэкст, больш даступныя да ўспрыняцця і разумення, чым музыка без слоў. Але можна зразумець і музычную мову сімфоніі, толькі для гэтага патрабуецца некаторая падрыхтаванасць. Да свядомага слухання і разумення сур'ёзнай сімфанічнай музыкі трэба «дарасці», таксама як трэба «дарасці» да паглыбленага разумення бессмяротных трагедый Шакспіра або філасофскіх твораў Чарнышэўскага. Гэтага можна дасягнуць і не навучаючыся ў кансерваторыі або ўніверсітэце, а шляхам самаадукацыі. Сістэматычна слухаючы музыку, папаўняючы звесткі аб ёй, праяўляючы да яе цікавасць, аматар музыкі сам знойдзе ключ да разумення сімфанічнай музыкі, сам адчыніць дзверы ў гэтае цудоўнае мастацтва і з асалодаю будзе ім цешыцца.

Пытанне. Як слухаць сімфанічную музыку?

Адказ. Слуханне музыкі — не праца, гэта занятак, які патрабуе часу і ўвагі. Адна справа — наведванне сімфанічнага канцэрта. Там сама абстаноўка абавязвае быць уважлівым і захоўваць цішыню. Ды і то знаходзяцца такія няўрымслівыя слухачы, якія пачынаюць уголас дзяліцца ўражаннямі або проста размаўляюць на пабочныя тэмы. Іншая справа — слуханне музыкі дома: па радыё або з праігрывальніка доўгаіграючых пласцінак.

Сапраўдны аматар музыкі ніколі не будзе слухаць яе «краем вуха», перагаворваючыся або займаючыся адначасова якой-небудзь іншай справай: падрыхтоўкай да заняткаў, чытаннем мастацкай літаратуры і г. д. Ад такога «слухання» карысці мала.

Слухаць сур'ёзную музыку дома трэба ў час адпачынку, у спакойнай абстаноўцы, не адцягваючы пры гэтым увагу іншымі справамі. Уважлівае і ўдумлівае праслухоўванне сімфанічнага твора ад пачатку да канца дапаможа слухачу лепш зразумець сэнс гэтага твора.

Пытанне. Як навучыцца разумець сімфанічную музыку?

Адказ. Зразумець музыку — гэта значыць раскрыць яе змест. У кожным сапраўды рэалістычным творы ёсць поўная ідэя, увасобленая ў мастацкіх вобразах. У адрозненне ад літаратурных вобразаў, дзе асноўным сродкам раскрыцця ідэі з'яўляецца слова, музычныя вобразы могуць быць створаны і незалежна ад слова. У інструментальнай, у прыватнасці, сімфанічнай музыцы змест выяўляецца без слоў, пры дапамозе музычных гукаў. Арганізаваныя асобным чынам у стройную гарманічную сістэму, музычныя гукі набываюць велізарную сілу выразнасці, г. зн. становяцца своеасаблівай «музычнай мовай», і гэтую «мову» можна зразумець, як і мову паэзіі або драмы.

«У музыцы без тэксту музычная мова адмаўляецца ад сваёй саюзніцы — паэзіі славеснай, але не перастае быць паэтычнай мовай, г. зн. выказваннем паэтычных ідэй», — пісаў вядомы рускі музычны крытык і кампазітар А. М. Сяроў. Сапраўды, сімфанічная музыка, валодаючы ўласцівасцю выказваць значныя ідэі і глыбокія думкі без слоў, тым не менш не парывае са словам, са славеснымі паняццямі. Часта змест сімфанічных твораў бывае запазычаны кампазітарам з літаратуры. Ды і не толькі з літаратуры. Выдатныя творы жывапісу, народная творчасць і эпас, гістарычныя падзеі, жыццё і подзвігі асобных людзей натхнялі кампазітараў мінулага і нашых сучаснікаў на стварэнне музыкі з поўным канкрэтным зместам. Такая музыка называецца праграмнай. Аб ёй мы пагаворым пазней, а пакуль аматары сімфанічнай музыкі могуць зрабіць для





**Сімфанічны аркестр Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Дырыжыруе заслужаны артыст рэспублікі Віктар Дуброўскі.**

Фота У. Крука.

сябе вывад, што разуменне музыкі будзе больш поўным, калі яе слухач адукаваны, начытаны, ведае і любіць іншыя галіны мастацтва, народную творчасць, гісторыю. Звесткі ж аб самой музыцы, аб стварэнні і змесце музычных твораў можна ўзяць, слухаючы музычна-адукацыйныя радыёперадачы, наведваючы лекцыі па музыцы і чытаючы аб ёй папулярную літаратуру. Удзел у гуртках музычнай самадзейнасці — таксама адзін з верных шляхоў да разумення музыкі.

Пытанне. Што з'яўляецца зместам сімфанічнай музыкі?

Адказ. Змест сімфанічнай музыкі можа быць самы разнастайны.

Мастацтва адлюстроўвае жыццё, рэальную рэчаіснасць пры дапамозе мастацкіх вобразаў, якія ўспрымаюцца праз пачуцці. Але рэчаіснасць мае розныя бакі. Ні адзін з самых дасканалых відаў мастацтва не здольны паказаць адначасова і з вычарпальнай паўнатой усе бакі і з'явы жыцця. Адным відам мастацтва даступны паказ адных бакоў рэчаіснасці, другім — іншых бакоў. Літаратура, напрыклад, можа даць падрабязнае *апісанне* знешнасці чалавека, але не можа паказаць яго зрокава. Жывапіс, наадварот, здольны вельмі правільна *паказаць* знешнасць чалавека, даць яго псіхалагічную характарыстыку, але не можа надзяліць яго жывой мовай.

Якія ж з бакоў рэчаіснасці раскрывае музычнае мастацтва?

У музыцы знаходзіць сваё адлюстраванне ўнутраны, духоўны свет чалавека, яго пачуцці, настрой, перажыванні. Музыка нараджаецца «з патрэбнасці выказаць сваё пачуццё», — пісаў М. Г. Чарнышэўскі.

«Яна — непасрэдная мова душы... І ў музыцы... можа адлю-

строўвацца ўсё жыццё чалавека...» — пісаў А. М. Сяроў.

Абодва гэтыя выказванні вызначаюць сутнасць музыкі і яе сувязь з жыццём. Адсюль вынікае, што музыка — мастацтва, неабходнае чалавеку, мастацтва змястоўнае. Яе зместам з'яўляецца свет эмоцый і пачуццяў чалавека. Музыка валодае здольнасцю не толькі выражаць розныя пачуцці: журботныя і радасныя, сузіральныя і валявыя, але і паказваць іх у руху, у развіцці, у барацьбе. Усё сказанае адносіцца поўнасцю і да сімфанічнай музыкі. Гэтая галіна музычнай творчасці валодае сапраўды бязмежнымі магчымасцямі для раскрыцця духоўнага свету чалавека: ад асабістых найтанчэйшых і інтымнейшых псіхалагічных перажыванняў да перажыванняў грамадска значных, агульнанародных.

Змест 3-й («Гераічнай»), 5-й і 9-й сімфоній Бетховена глыбока драматычны, ён прасякнуты ідэямі барацьбы супраць прыгнечання і дэспатызму, за перамогу розуму і свабоды.

11-я сімфонія Шастаковіча («1905 год»), удастоеная Ленінскай прэміі, прысвечана рэвалюцыйнаму мінуламу нашага народа. У ёй адлюстраваны непрымірымыя супярэчнасці паміж народам і царскім самадзяржаўем.

Аўтар сімфоніі, як бы ідучы за развіццём падзей першай рускай рэвалюцыі, паслядоўна паказвае настрой народных мас ад насцярожанага чакання, пакут і адчаю, ад глыбокага, непазбыўнага смутку да магутнага выбуху народнага гневу і абурэння. Трагедыйны змест 11-й сімфоніі Шастаковіча не толькі напамінае нам аб злачынствах царызма, але і ў вобразнай, мастацкай форме раскрывае глыбокі сацыяльны змест падзей 1905 года, выклікаючы пачуццё гнеўнага пратэсту супраць крывавых злачынстваў царскага самадзяржаўя.

Змест сімфоній Чайкоўскага носіць лірыка-драматычны характар. Лепшым сваім творам кампазітар лічыў 6-ю сімфонію, названую ім «Патэтычнай». У гэтым выдатным творы Чайкоўскі, як передавы, удумлівы мастак свайго часу, раскрыў глыбокія жыццёвыя супярэчнасці паміж імкненнем чалавека да шчасця і жорсткай рэчаіснасцю, увасобленай у вобразе лёсу — грознай і неадольнай сілы, якая перашкаджае чалавеку дасягнуць жаданай мэты. У вострым драматычным сутыкненні, у напружанай барацьбе з лёсам раскрываюцца цудоўныя духоўныя якасці чалавека. Але сілы аказваюцца няроўнымі, і канфлікт атрымлівае трагічную развязку.

Шырока вядома так званая «незакончаная» сімфонія Шуберта. Па зместу яна — глыбока лірычная. Праўда, і тут адчуваецца драматызм, але гэты драматызм некалькі іншага характару, чым драматызм 5-й сімфоніі Бетховена, 6-й Чайкоўскага або 11-й Шастаковіча. Канфлікт «незакончанай» сімфоніі не закранае глыбокія сацыяльна-грамадскія супярэчнасці, ён носіць асабісты, унутраны характар і к канцу сімфоніі нібыта раствараецца ў светлым лірычным пачуцці.

У шэрагу сімфанічных твораў няма канфлікту. І тым не менш, музыка тут таксама мае свой змест. Ён падпадзены ў плане эпічнага апавядання, у плане карцінным. Да такіх твораў належыць 2-я («Багатырская») сімфонія Барадзіна, якая прысвечана далёкаму гістарычнаму мінуламу рускага народа і стварае вобраз несакрушальнай народнай сілы, а таксама 6-я («Пастаральная») сімфонія Бетховена, у якой услаўляецца еднасць чалавека з прыродай.

Наш чытач, відавочна, ужо зразумеў, што змест сімфанічнай музыкі можа быць драматычным і трагедыйным, узнімацца да глыбокіх філасофскіх абагульненняў. Але існуе і сімфанічная музыка, якую называюць папулярнай, або лёгкай. Гэтая музыка не вырашае складаных жыццёвых праблем, не ўзбуджае глыбокіх пачуццяў і дум, але можа радаваць наш слых прыгажосцю і стройнасцю формы, багаццем мелодый. Такая музыка не патрабуе тлумачэнняў — яна сама сябе тлумачыць — і любіць яе, знаходзіць у ёй задавальненне для аматара музыкі гэтак жа натуральна, як для адукаванага музыканта натуральна любіць сур'ёзную сімфанічную музыку.



**Пытанне.** Што такое праграмная музыка?

**Адказ.** На гэтае пытанне нам дае адказ П. І. Чайкоўскі: «Што такое праграмная музыка? З прычыны таго, што мы з вамі не прызнаем музыкі, якая складалася б з бязмэтнай гульні ў гукі, дык з нашага шырокага пункту погляду ўсякая музыка ёсць праграмная. Але ў канкрэтным сэнсе пад гэтым выразам разумеецца такая сімфанічная або наогул інструментальная музыка, якая ілюструе вядомы публіцы ў праграме сюжэт і носіць назву гэтага сюжэта».

Значыць, праграмная музыка гэта тая, змест якой робіцца загадзя вядомым дзякуючы пададзенай аўтарам праграме. Праграма можа мець форму слоўнага тлумачэння ў прозе або вершах. Прычым, у адных выпадках гэта — больш або менш разгорнутае тлумачэнне, якое раскрывае арыгінальную аўтарскую задуму, у другіх — кароткі пераказ якога-небудзь вядомага літаратурнага, паэтычнага або драматычнага сюжэта, пакладзенага аўтарам у аснову музычнага твора. Заснавальнікамі праграмнага сімфанізма лічыцца французскі кампазітар Гектор Берліёз і венгерскі кампазітар Ферэнц Ліст. Ужо ў першай сваёй сімфоніі — «Фантастычнай» — Берліёз падае падрабязную праграму ў выглядзе сцэнарыя пад назвай «Эпізод з жыцця артыста». Такім жа чынам пераказаў змест сваёй 4-й сімфоніі П. І. Чайкоўскі. У яго ж мы знаходзім і больш кароткія тлумачэнні ў форме вольнага пераказу сюжэтаў, якія ён запазычыў з паэзіі і драмы. Такія праграмы яго сімфанічнай фантазіі «Франчэска да Рыміні» (па Дантэ), праграмнай сімфоніі «Манфрэд» (па Байрану), сімфанічнай паэмы «Бура» (па Шэкспіру).

Часам аўтар дае твору сюжэтна-вобразны, праграмны падзагаловак, які і вызначае яго змест. Трагічны лёс юных закаханых, якія належалі да варожых родаў, настолькі агульнавядомы, што Чайкоўскі, звярнуўшыся да гэтага сюжэта, палічыў лішнім даваць тлумачэнні, а проста назваў сваю ўверцюру - фантазію «Рамеа і Джульета».

Рымскі-Корсакаў пры стварэнні сімфанічнай сюіты «Шэхеразада» спачатку думаў забяспечыць яе праграмай, але пасля адмовіўся ад гэтага, спадзеючыся на ўяўленне і фантазію слухачоў. Загаловак сімфанічнай паэмы «Тамара» Балакірава ўказвае на сувязь музычнага зместу гэтага твора з сюжэтам аднайменнага лермантаўскага верша. У загалоўках сімфанічных твораў можна сустрэць не толькі літаратурныя, але і канкрэтна-гістарычныя, праслаўленыя імёны. Каму з моладзі не вядомы подзвіг юнай партызанкі Зоі Касмадзям'янскай? Яе жыццю і подзвігу прысвяціў сімфонію-легенду савецкі кампазітар Разаронаў і назваў яе «Памяці Зоі Касмадзям'янскай».

Існуюць і іншыя праграмныя падзагалоўкі, якія ўдакладняюць аўтарскую задуму і аблягчаюць слуханне і разуменне музыкі.

«Партызанскай» — назваў малады беларускі кампазітар Глебаў сваю першую сімфонію, якая ўслаўляе незабыўны подзвіг беларускіх партызан у час Вялікай Айчыннай вайны.

Іменна з праграмнай музыкі і павінен пачынаць сваё знаёмства з сімфанічнай музыкай непадрыхтаваны слухач.

**Пытанне.** Якую карысць прыносіць слуханне сімфанічнай музыкі?

**Адказ.** Не трэба глядзець на музыку, як на пусты і бескарысны занятак. Вялікія кампазітары-класікі стваралі свае найвялікшыя творы не для забавы. Яны бачылі ў музыцы магутную сілу, здольную плённа ўздзейнічаць на людзей. «Музыка павінна высякаць агонь з мужнай душы», — гаварыў Бетховен.

Слуханне музыкі прыносіць велізарнае эстэтычнае задавальненне, узбагачае духоўны свет чалавека. Сувязь з любым мастацтвам, у тым ліку і з музыкай, дапаўняе працоўную дзейнасць чалавека, упрыгожвае яго жыццё, робіць яго больш змястоўным і цікавым.

Нельга не пагадзіцца са словамі любімага моладдзю кампазітара-песенніка І. Дунаеўскага: «Вялікія дзеянні чалавечага генія закліканы паляпшаць жыццё, удасканальваць чалавецтва, адкрываць яму шлях у будучыню — прамяністую і цудоўную, як само мастацтва.

... Асалода, якую дае музыка, — не самамэта, а шлях да ўнутранага ўдасканалення ў імя жыцця, у імя яго палепшання».

Справа камуністычнага будаўніцтва патрабуе ад падрастаючага пакалення высокіх мар і моцнага натхнёнага пачуцця. І тое, і другое можна чэрпаць у музыцы — мастацтве ўзвышаных ідэй, высакародных думак і пачуццяў.

# З ГЛЫБІНІ ДУШЫ

Трэба было падрыхтаваць эскізы дыпломных работ.

У майстэрні Іван Стасевіч перабраў усе свае ранейшыя эскізы і спыніўся на двух з часоў Вялікай Айчыннай вайны. Тэмы — вельмі блізкія яму, усё гэта ён перажыў сам.

Ён доўга сядзеў, раздумваючы, успамінаючы.

Вось, як на яве, чуюцца гукі прыглушаных галасоў, цяжкае плюханне балотнай вады. З нейкага няяснага, але настойлівага адчування ўзнікае каляровая гама, узнікае рытм руху.

Ён быў хлапчуком. Ішоў сорак трэці. Страшнае слова — блакада. Лясы і балоты. Партызаны — суровыя і пахмурыя. Часта рабілі пераходы, ішлі, ішлі... Куды? Можа, наперадзе таксама кулямётны агонь, таксама ірвуцца міны, грымяць гарматы. На партызан рушыла рэгулярная гітлераўская армія.

Цяпер нават не верыцца, што гэта магло быць. Здаецца, там, разам з усімі ў лясах і балотах, быў не ён, а нехта іншы — маленькі, схуднелы, стомлены.

Ішлі, ішлі...

Ён павінен расказаць пра тое, як людзі змагаліся, пакутавалі і паміралі. Ён павінен паказаць не толькі трагедыю, але і расказаць аб нязломным духу соцень, тысяч савецкіх людзей.

Ён нават не ведае, у што ўсё гэта выльецца, але адчувае, што гэта будзе з глыбіні душы.

На маленькім кардоне ён хутка накідаў эскіз. Бэзавыя, сінія, светлыя, цёмныя плямы. Гэта — яшчэ не рэальныя вобразы. Толькі ён сам цьмяна ўгадвае намёкі на тое, што павінна набыць жыццё, адчувае рытм, які яго трывожыць.

Даць усяму гэтаму жыццё, каб узрушыць кожнага гледача.

Нехта з сяброў-студэнтаў сказаў над самым вухам:

— Што, Ваня, да фармалізму пацягнула?

Іван Стасевіч усміхнуўся: ён сам яшчэ не можа перавесці ў думку і вобразы тое, што ўяўляецца яму ў гэтым маленькім эскізе. Як жа прымусіць загаварыць гэтыя пакуль няясныя цені! Ён даўно хоча вывесці іх на свет. Яшчэ ў Мінску, калі вучыўся ў мастацкім вучылішчы, падзяліўся ён марамі з мастаком Цвіркам.

— Рана яшчэ, — сказаў настаўнік. — Магчыма, потым прыдзе да цябе...

І вось Маскоўскі мастацкі інстытут імя Сурыкава. Да заканчэння засталося не так ужо многа. І ён хоча даць, нарэшце, сваёй мары рэальнае, самастойнае жыццё.

Гэта будзе дыпломная работа. Так, бадай, з двух эскізаў ён спыніцца на гэтым... Цяпер трэба толькі працаваць — зрабіць вялікі эскіз, каб зацвердзілі яго на дыплом.

Масква жыве, як заўсёды, імклівa, клапатліва... Рускія, узбекі, балгары... Бягуць бясконцыя машыны...

Праплываюць назад старыя і новыя велічныя палацы, выплываюць новыя панарамы, новыя дзівосныя спалучэнні, створаныя рукамі чалавека на ўзгорках і ў далінах старажытнай Масквы.

Іван любіць хадзіць па горадзе. Ідзе, глядзіць на людзей, што спяшаюцца, на старажытныя палацы, на строгія гмахі жылых дамоў...

Жанчына азірнулася, бровы яе ссунуты. У яе — велічны, строгі твар, нешта ў ім такое знаёмае, роднае. Твар трошкі недаўменны. І зноў яна пайшла наперад.

Які цудоўны вобраз! Здаецца, якраз тое, што яму патрэбна. У карціне абавязкова павінен быць такі вобраз. Прасветлены твар, разумны, і недзе ў самых вачах затаілася нянавісць да тых, хто ўкраў юнацтва. Жанчына пераносіць нягоды лягчэй, чым некаторыя мужчыны. І вось узнікае жывы малюнак. Жанчыне цяжка ісці, яна нешта нясе. Нясе дзіця. Гэта — маці. На руках перад сабою яна трымае сына — сын знясілены, схуднелы, можа паранены. У яго заплюшчаныя вочы, ён трызніць... А маці ідзе, крок за крокам адваёўваючы ў балота дарогу. Так, толькі так трэба зрабіць. Гэта будзе адпавядаць праўдзе. Яны ж ішлі разам з дзецьмі і жанчынамі. Ён памятае, у іх брыгадзе былі такія жанчыны — вынослівыя і самаадданыя.

Жанчына, за якой ён ішоў следам, зноў азірнулася, спынілася, недаўменна ссунутыя бровы задавалі пытанне проста ва ўпор. Ён хацеў быў загаварыць з ёю, папрасіць яе пазіраваць, але ў самую апошнюю секунду перадумаў і моўчкі прайшоў міма яе, яшчэ раз кінуўшы імгненны позірк на строгі твар. Які харошы твар! Спакойны, ясны. А ўсё ж ён дарэмна не загаварыў з ёю. Можа вярнуцца? Не, трэба спачатку прыкінуць, паглядзець.

Выплываюць новыя панарамы, новыя дзівосныя спалучэнні палацаў і вежаў.

У карціне абавязкова павінна быць гэтая жанчына. Ён наогул даўно хацеў напісаць такі вобраз.

Ён нешта пісаў, але атрымоўвалася не зусім так, як хацелася. Бывае ж такое: прышоў да цябе вобраз — яшчэ цьмяны, няясны, ты яшчэ дакладна не ведаеш, чаго хочаш, але ты хочаш знайсці, схапіць, адлюстраваць нейкія асобныя рысы, нейкі трапны выраз, нейкі асаблівы, незразумелы яшчэ табе позірк вачэй.

І такая ў гэтым вобразе вабячая сіла, столькі ў ім улады, характа, што ён трывожыць цябе доўгія гады. Ты робіш нешта іншае і, здаецца, забыўся пра гэты вобраз, і раптам сум па ім прыходзіць зноў — ты пачынаеш ліхаманкава шукаць, прыглядацца, міжволі бянтэжыш людзей, як сёння гэтую жанчыну. І гэта да таго часу, пакуль вобраз раптам не стане зусім матэрыяльны, ярка акрэслены, увасобіцца ў карціне...

І ўсё ж часам будзе здавацца, што створанае — не зусім тое, што табе хацелася адлюстраваць, што ты выношваў, пра што марыў, што мучыла і хвалявала цябе доўгія гады.

Нечага ў ім усё ж нестае... Словам, гэта не зусім тое, што ты задумаў.

І зноў цябе трывожыць і вабіць гэты няясны вобраз.

Так, вырашана, у карціне абавязкова павінен быць вобраз такой жанчыны...

Карціна цалкам запаланіла Іва-

на Стасевіча. Усе думкі былі заняты толькі ёю. Ён рабіў на аркушах шматлікія накіды, шукаў вобразы, кампанаваў іх. Усё ўбачанае неадкладна заносілася ў блакнот. У яго ўжо ёсць на прыкмеце некалькі вобразаў, некалькі групкампазіцый. У цэнтры карціны будуць, безумоўна, вось гэтыя трое — два партызаны падтрымліваюць параненага таварыша, які, знясілены, павіс на плячах. Справа — жанчына з дзіцем. Злева — нехта цягне на спіне цяжкі кулямёт, прыгнуўся да самай зямлі. Недзе воддаль чацвёра нясуць яшчэ параненага...

Ідуць па балоце...

Можна было б, вядома, спыніцца і на такім варыянце. Але тут ён не да канца выказаў думку — не паказаў своеасаблівую атмасферу, не перадаў пэўнага настрою.

А калі даць неспакойнае, злавеснае неба — заход сонца?

А недзе ўнізе па балоце ідуць партызаны — сілуэтамі... Правільна. Трэба даць заход сонца — барвовы. Палаюць вёскі, грымяць гарматы. А водсветы вячэрняга сонца іграюць на тварах партызан.

Ён накідаў на кардоне эскіз.

Так, тут нешта знойдзена.

Над размяшчэннем фігур трэба яшчэ падумаць. Барвовае неба будзе падкрэсліваць суровыя, жорсткія абставіны, тое непазбежнае, што навісла над людзьмі.

Вырашана!

Ён папрасіў знаёмых пазіраваць, зрабіў некалькі эцюдаў. Сонца ўрываецца ў балота і з агульнай масы выхоплівае твары, палаючыя нянавісцю вочы, кулямёты, адзенне... Гэтым ён здолее вылучыць патрэбнае, спыніць увагу гледача на нейкіх момантах.

Вось стомлены, змучаны партызан, вогненныя плямы заходзячага сонца на яго твары...

Некалькі дзён ён хадзіў ашаломлены знойдзеным. Ён ужо ўяўляў сабе ў фарбах усю вялікую карціну. Цудоўная ігра святла, ценяў і гэты злавесны, барвовы заход сонца...

І ўсё ж чамусьці не знікала нейкая незразумелая незадаволенасць.

Неяк тут не ўсё, не ўся праўда, і нешта нават, магчыма, фальшывае. Але што?

Ён распрацоўваў знойдзенае рашэнне далей, пісаў эцюды, рабіў на кардоне эскізы. Гэтай упартай, настойлівай работай ён хацеў перамагчы незадаволенасць. Але яна мацнела, расла. Карціна не перадае ўсёй праўды, усёй — да кропелькі... А як яе перадаць?

Мастак нават засмяяўся. Калі б гэта было вядома, дык ці варта быць мастаком? Гэта ж, здаецца, самае цікавае — шукаць. Без гэтага жыццё згубіла б сваю прыгажосць. А вось калі нараджаецца нешта, што складае часцінку тваёй душы... Ці ёсць у свеце больш высокая асалода, больш магутная радасць за гэту? Гэта ж — вялікая радасць пазнання свету. Яна здавён вабіла да сябе людзей, пра яе людзі складалі казкі, легенды, дзеля яе ахвяравалі жыццём!

Ён зноў паглядзеў на свае эскізы, эцюды, уздыхнуў. Якія можна было б зрабіць спалучэнні колераў, якая была б сугучнасць!

Дзіўна, ён гаворыць пра заход сонца, быццам пра нешта даўно мінулае, нібы ён гэтага рабіць не будзе, нібы ён ужо даведаўся, чаму дрэнна, і адкінуў...

Мастак пакінуў работу над карцінай і доўгі час ні да чога не дакранаўся, займаўся нечым іншым. І ўсё ж міжволі думкі яго раз-пораз вярталіся да карціны — ён лавіў сябе на тым, што думае пра яе.

І калі праз некалькі дзён Іван Стасевіч паглядзеў на ўсё зробленае, у яго ўжо была ясная думка. Барвовы заход — дрэнна, таму што занадта эфектна. Святло забівае вобразы. Ёсць толькі агульнае ўражанне — даволі выразнае, але аднабаковае. Тут не ўся праўда — частка яе. Гэты эфектны заход сонца не дае яму магчымасці



спыніць увагу на людзях. А ў карціне ж павінна дзейнічаць маса разнастайных характараў...

Як ні шкада, а ад заходу сонца трэба адмовіцца, трэба шукаць іншае. Але і іншае павінна перадаваць часцінку настрою, які ставарае барвовы заход. Асвятленне не эфектнае, усе характары выяўляюцца выразна.

Ён зрабіў эскіз. Цяпер без заходу сонца. Балота, каржакаватыя дрэўцы, чорная вада. Восень. Ідзе дождж. Над балотам навіс гнілы туман. Тут, на пярэднім плане, людзі на ўвесь рост, твары выразна характарныя, а там, далей, усё губляецца на невысокім узгорку.

Людзі ідуць, ідуць...

Гэта значна лепш. І да таго ж, абставіны нечага злавесная тут перададзены.

Як ён не прышоў да гэтага раней? Само ж балота, вада, восень — ужо даюць патрэбны настрой.

Там было багацце фарбаў, моцнае знешняе ўражанне і няўвага да чалавека. А тут святло прыглушана, затое якія магчымасці для аповесці аб унутраным, душэўным!

— Ужо? — здзівіўся натуршчык. — Вы ж мне сказалі гадзіны дзве.

— Так, так, ужо, — разгублена сказаў Стасевіч. — Дзякую. Бывайце здаровы.

Ён сабраў фарбы, пачаў мыць пэндзалі. Яму падабалася, каб рукі нешта рабілі.

«Усё роўна мяне не пераканаеш», — паўтараў ён сам сабе зноў і зноў. «А чаму ты нават эцюд не дапісаў?» — крычаў нейкі другі, надакучлівы голас. Стасевіч пачаў апраўдвацца: не было настрою, а калі няма настрою — лепш не пішы. «Ну, усё ж прызнайся, паклаўшы руку на сэрца...»

Стасевіч зноў прыгадаў нядаўнюю размову з таварышам.

— Пра партызан? — на твары субяседніка з'явілася шчырае недаўменне.

— А чаму б і не?

— Але пра гэта пісана-перапісана. І новага ты, вядома, тут нічога не выдумаеш.

— Разумееш...

«Усё роўна не пераканаеш», — упарта думаў Стасевіч. Ён ужо ехаў па вялікім каменным мосце. Вось і ціхі Лаўрушынскі завулак. «Што, у галерэю пацягнула?»

Ён доўга хадзіў па музею, прыгадваючы ўсё, што бачыў некалі ў рэпрадукцыях.

Надакучлівы голас замоўк зусім, і тое, што ён тады паўтараў упарта, толькі падсвядома адчуваючы сваю праўду, цяпер набыло строгія, лагічныя меркаванні. Цяпер ён ведаў, чаму іменна пра партызан ён хоча расказаць, чаму выбірае іменна такі момант з іхняга жыцця.

Вялікая эпоха ўсенароднай партызанскай помсты ворагу. Мастакі яшчэ не знайшлі ўсіх слоў, фарбаў, гукаў, якія б усебакова і ярка раскрылі вялікую душу чалавека-мсціўцы, расказалі пра яго гераічнае жыццё, поўнае небяспекі і нягод. І ва ўсіх творах, якія ён памятае, не вырашана нават частка таго, сведкам чаго быў ён сам.

Няхай у яго будзе не новае, але гэта будзе нейкае яго слова, будзе тое, што ён вынасіў.

Яшчэ адно слова аб вялікіх людзях. Так, іменна аб вялікіх... Цяпер яны яму ўяўляюцца ў выглядзе казачных волатаў. І чым далей у мінулае адыходзіць партызанская эпоха, чым больш ён жыве мірным жыццём, тым больш грандыёзным і легендарным бачыць ён той час.

Вось ён стаіць у музеі. Тут асаблівая, урачыстая цішыня. Думкі яго заняты любімай справай. Яшчэ больш востра, успамінаючы мінулае, адчуваеш тут сваё шчасце, шчасце другіх людзей. А газеты ж поўныя трывожных паведамленняў. Бундэсвер, амерыканскія ваенныя базы, манеўры...

І ўсё гэта на змену спакою, усмешкам, асабістым драмам. Адно вялікае чалавечае гора можа высесціць цудоўнае жыццё з яго радасцямі, надзеямі, трывогамі.

Адно велізарнае, злавеснае, чорнае гора...

І людзі будуць напружваць усе свае сілы, усю сваю духоўную энергію. Плачуць маткі, забіты бацькі і браты, палаюць вёскі і гарады і ашалелыя ад страху людзі некуды ўцякаюць.

І хочацца крыкнуць, крыкнуць так, каб быць пачутым: «Людзі! Спыніцеся, што вы робіце!»

Ён раскажа пра вялікую чалавечую трагедыю. Пра гэта будзе гаварыць уся карціна і, перш за ўсё, вобраз маці з дзіцем. Маці нібы будзе звяртацца да гледача, гаварыць пра трагічнае. Так, так, яе — у цэнтр карціны і вылучыць светлым адзеннем. Гэта будзе ідэйны цэнтр. Нешта самабытнае, сваё — уся душа, уся гісторыя беларуса, яго доўгая цярплівасць і нянавісць, яго шчырасць і рашучасць, яго шчодрасць і святая помста.

Іван доўга яшчэ стаяў пасярод залы і думаў. Ён вельмі рэльефна адчуваў пругкі рытм руху фігур. Цяпер у яго дадалося волі ўсё мяняць і ўдасканальваць.

А крэда яго — простае.

Як ад агню, бегчы ад плакатнага, ад позы, ад жэста. Усё павінна быць сцісла, скупа, выразна.

Вось так... Ён зрабіў рукамі рух, нібы хацеў сціснуць шчыльней нейкі вялікі камяк. Потым раптам апамятаўся, азірнуўся, ці няма каго побач.

Сціпла, лаканічна, строга...

Ён ўваходзіць у Сурыкаўскую залу галерэі. Натура — натурай, а павучыцца ў майстроў ніколі не шкодзіць. Ды і час ёсць.

Тут ён падоўгу спыняўся перад кожнай карцінай. Не, так мала карысці, трэба ўзяць эцюднік і пакапіраваць пару тыдняў.

Надвячорак. Ён у інтэрнаце адзін...

Трошкі трывожна на душы, і такое дзіўнае адчуванне — нібы ён стаіць у ціхай паўзмрочнай зале. Ззаду — шчыльная сцяна знойдзенага, ён абапіраецца на яе, а наперадзе — пустэча, невядомасць. Ён нібы працягвае туды рукі, а там тоўпяцца нейкія няясныя цені-вобразы. Цені хаваюцца, яны дражняць яго, танцуюць перад самымі вачыма. Ён намагаецца ўбачыць яшчэ адзін вобраз. Ён углядаецца, напружваючы зрок. І вось хапае нейкі няясны контур...

Трошкі трывожна на душы...

Ужо вечар. Ён думае пра вобраз дзяўчынкі — побач з маці ідзе дзяўчынка. Так, яна сапраўды ўся, нібы здань, бледная, з празрыстым тварам, схуднелая, змардаваная. Яна прыадчыніла рот, закінула галаву, вочы яе хваравіта гараць, ёй цяжка дыхаць, яна напружвае ўсе свае сілы... Балота не любіць слабых. На нагах у яе цяжкія, вялізныя боты.

І ўжо ажыў на паперы яшчэ адзін вобраз. Здаецца, гэта тое, што трэба. Ён усё ж злавіў тое няяснае, што трывожыла яго. Тут яшчэ няма душы — ён не ўдыхнуў яшчэ ў гэты вобраз жыццё. Гэта толькі злоўленае аблічча, цяпер яму трэба даць матэрыяльнае жыццё...

Вобраз дзяўчынкі ў агульным плане — ясны. Яна ідзе побач з маці ў цэнтры карціны.

Дзяўчынка — добрая, а вобраз маці — гэта яшчэ нешта няпэўнае. У ім ёсць толькі агульнае: мужная жанчына.

Можа яе трактаваць у некалькі абагуленым, сімвалічным плане?

— Ды што вы! На гэта ж пойдзе не менш двух год. Вы паглядзіце, колькі ў вас вобразаў, ды яшчэ вы хочаце рабіць усё ў тры чвэрткі натуры. Гэта, я вам скажу, не простая рэч. Вы, відаць, пагарачыліся, не падумаўшы. Вы што-небудзь лягчэйшае ўзялі б...

— У карціне няма ідэйнага цэнтра. Вы паставілі ў цэнтр карціны жанчыну з дзіцем і дзяўчынку, а побач змясцілі гэтага абыякавага старога з павіслымі вусамі. Па-мойму, трэба, каб камандзір ішоў наперадзе групы. Гэта ж лагічна. Камандзір партызанскага атрада вядзе людзей. А ў вас карціна раскідаецца. Гэта мая вам сяброўская парада. Мастак, безумоўна, можа рабіць сваё, але я настойліва рэкамендаваў бы...

— Я хацеў бы звярнуць увагу на актуальнасць тэматыкі. Чаму б вам...

— Вобраз жанчыны, мне здаецца, трэба было б аднесці...

Кожны зыходзіў з свайго вопыту, з сваёй логікі. Вядома, гэты дыпломны эскіз толькі водбліск, толькі цені, і тут можна выслухоўваць парады. Але лепш за ўсё кіравацца сваім чуццём.

Наконт двух год — гэта не так. Можна зрабіць і за адзін.

Паставіць наперадзе камандзіра — нельга. Тут кожны можа быць камандзірам. Гэта валявыя, загартаваныя людзі.

Старога ў цэнтры карціны, крыху абыякавага, з пакорным выразам твару, трэба, бадай, зняць...

Ну, гэта так. Прыватны роздум пасля абмеркавання твайго дыпломнага эскіза.

Наперадзе — шмат работы. Натура, натура, натура... Трэба дапісваць вобразы, знаходзіць тыя асаблівыя, найбольш выразныя моманты, якія могуць глыбока апавядаць пра людзей.

Разам з праяўленнем вобразаў удакладніцца і кампазіцыя, і ўся карціна.

Доўгая і няроўная, але радасная дарога пошукаў, няўдач і знаходак!



Ззаду Падмаскоўе, Сібір, Украіна, Беларусь. Цяжкія чамаданы, напакаваныя эцюдамі, эскізамі, замалёўкамі. Карціне ўсё патрэбна. Толькі яна адусюль возьме патроху самага лепшага, самага адметнага.

Так, усё ёсць, акрамя...

Яго больш за ўсё цягнула да гэтага вобраза, а ў яго і цяпер такое адчуванне, што тут не знойдзена нешта патрэбнае.

Ён дастаў эцюды і доўга, вывучаючы, глядзеў на кожны, імкнучыся злавіць нейкія рыскі, нейкія адценні, глыбокія і схаваныя рухі душы — усё тое, што павінна быць у вобразе і чаго яшчэ няма.

Недаўменна ссунутыя бровы. Выплываюць новыя, дзівосныя спалучэнні... Нейкія рысы жанчыны, якую ён тады выпадкова сустрэў на вуліцах Масквы, павінны быць тут.

«Яна, безумоўна, павінна быць маладзейшай», вырашыў ён. Гэта можа быць і не маці, а проста партызанка, на руках у яе можа быць і не яе дзіця, твар у яе ясны...

Пачакай! Ды ў яго ж, здаецца, ёсць падобная натура. Перад ад'ездам у кансерваторыі быў вечар мастацкіх вышэйшых навучальных устаноў. Яго захапіў твар адной дзяўчыны — студэнткі кансерваторыі. Ён пазнаёміўся з ёю. Твар у яе быў сумны — у яе цяжка хворая маці. Ён папрасіў яе пазіраваць. Яна адказала, што не можа цяпер, таму што... Так, так, ён ясна ўспамінае рысы яе твару. Лепшага, бадай, нічога не знайсці. Ён вельмі падобны на твар той жанчыны. Можа, толькі вельмі маладая? Але вось гэты сумны выраз, такая чалавечая адухоўленасць...

Ён неадкладна пазваніў ёй. Яна была дома. Хворая. У яе нядаўна памерла маці. І, відаць, яна адчувала сябе адзінокай, — сказала, што ён можа прысці, зрабіць эцюд.

Як яна схуднела, асунулася! Толькі вочы свецяцца па-ранейшаму, разумна, сумна; твар такі ж прасветлены, але на ім адзнака пакуты. Многае яна, відаць, перажыла за гэтыя месяцы.

Ён доўга гутарыў з ёю. Яна прасіла яго пасядзець. Ён гаварыў і напружана думаў пра той вобраз. Ніякіх новых рашэнняў не прыходзіла ў галаву. Трэба, відаць, напісаць...

Ён зрабіў эцюд...

Напісаць па гатовых эскізах і эцюдах карціну, усё роўна, што напісаць аповесць па гатовых накідах.

Тут кампануеш і так, і гэтак, і нешта дапрацоўваеш, і нешта паглыбляеш, нешта змяняеш, прыладжваеш, пераладжваеш.

Словам, ідзе тая сканцэнтраваная, неадкладная, усепаглынаючая

работа, калі думаеш толькі аб адным, забываеш нават, які сёння дзень...

У памяці застаецца толькі бясконцая радасць ад таго, што ў жыццё прыходзяць новыя вобразы, твае, кроўныя, выпакутаваныя табою; ад таго, што твая мара набывае, нарэшце, самастойнае жыццё, якое не залежыць ад цябе.

Рэпрадукцыя карціны Івана Стасевіча «У беларускіх балотах» абышла цэнтральныя і рэспубліканскія газеты і часопісы (гл. укладку ў нашым часопісе). Аб карціне цёпла адгукнуліся мастакі, чыё слова ён заўсёды цэніць. Яшчэ на абмеркаванні дыпломных работ нехта, разбіраючы карціну, сказаў, што яна раскрывае трагедыю чалавецтва.

Як правільна зразумелі яго думку! Значыць, яму ўдалося ўвасобіць тое, што яго хвалявала і вабіла. Яшчэ як загаварылі няясныя палахлівыя цені!

Настойлівы рытм фігур.

Пахмуры асенні дзень. Над балотам — густы туман. Бярозка трымае апошні жоўты лісток. Чорная, густая вада, пажоўклая трава, карчы.

Ідзе бясконцае шэсце.

У самым цэнтры карціны — партызан у пілотцы. Гэтая фігура дае зарадку ўсяму палатну. Партызан цягне на плячах насілкі з параненым. Ён вязне ў балоце, увесь падаўся наперад — моцны, уладны, поўны накіпеўшага гневу, незадаволены недасканаласцю чалавечага цела. Гэта чалавек высокага інтэлекту, несакрушальнай энергіі. Іменна ад такіх людзей зыходзіць разумны загад, які набліжае перамогу.

Партызан у пілотцы — не ў пачатку шэсця. Ён недзе ў сярэдзіне яго. І як павінна быць — многа такіх людзей. Якую магутную несакрушальную сілу складаюць яны ўсе разам!

Побач — жанчына з дзецьмі. Яна нясе перад сабою параненага хлопчыка, схуднелага, знясіленага. У яе стомлены, спакутаваны твар. Жанчына гаворыць усяму свету аб вялікай трагедыі чалавека, аб тым, што нельга дапусціць гэтага зноў.

І ўсё ж... Калі ты прыходзіш у Дзяржаўны мастацкі музей БССР, дзе ў адной з залаў вісіць твая карціна, табе пачынае здавацца: ты мала, вельмі мала перадаў з таго, што табе хацелася расказаць людзям. Ты адчуваеш гэта ясна цяпер, калі прайшоў гарачы час творчасці — раней жа цяжка было адысціся, халоднымі і чужымі вачыма глянуць на сваю працу.

Магчыма, у жанчыны, у цэнтры карціны, занадта пакутлівы твар. Ты вагаўся, калі ўзяў гэты эцюд. Але цябе крануў сум той дзяўчыны, і ты пераадолеў свае сумненні. Цяпер час прыглушыў былыя пачуцці, ты глядзіш нібыта чужымі вачыма. Так, гэта — не зусім тое, што ты задумаў. Нечага ў ім яшчэ няма.

І ўсё нявыказанае, усё недагаворанае настойліва кліча і вабіць цябе.

Даць усяму гэтаму жыццё!

**В. ГОВАР.**



**Старшыня Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР П. Броўка гутарыць з удзельнікамі нарады.**

Фота А. Дзітлава.

# КРОЧЫЦЬ З ЖЫЦЦЁМ

## РЭСПУБЛІКАНСКАЯ НАРАДА МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ

З кожным годам пашыраецца літаратурны рух у нашай рэспубліцы. Яшчэ не так даўно літаратурныя аб'яднанні існавалі толькі пры рэдакцыях маладзёжных і абласных газет. Цяпер яны працуюць амаль у кожным раёне, на буйных прадпрыемствах. Шмат дзе створаны літаратурныя гурткі. Звыш тысячы пачынаючых пісьменнікаў — рабочых, калгаснікаў, студэнтаў, вучняў, урачоў, інжынераў — робяць першыя крокі ў літаратуру. Многія з іх, безумоўна, надзелены талентам і з цягам часу зоймуць свае месца ў літаратуры.

Мімаволі прыгадваецца той час, калі ўзнікла пытанне аб выданні першага альманаха маладых «На сонечных сцежках». Тады твораў, вартых увагі, хапіла на невялікую памерамі кніжку. Цяпер альманахі выпускаюцца ў кожнай вобласці. І гэта ў той час, калі ў рэспубліцы выдаюцца чатыры літаратурныя часопісы. Аб тым, як моладзь настойліва штурмуе літаратурны «парнас», гаворыць і той факт, што ў перыяд паміж двума апошнімі з'ездамі ў Саюз пісьменнікаў прынята паўсотні маладых паэтаў, празаікаў, крытыкаў і драматургаў.

Маладыя пісьменнікі, працуючы на прадпрыемствах, ва ўстановах, сваімі творамі могуць аказаць вялікую дапамогу савецкаму народу ў будаўніцтве камуністычнага грамадства. Ім па праву належыць і пачэсная роля прапагандыстаў нашай савецкай літаратуры.

ЦК ЛКСМ Беларусі, Саюз пісьменнікаў БССР і рэдакцыя часопіса «Маладосць» 7—9 мая гэтага года правялі ў Мінску рэспубліканскую нараду маладых празаікаў, паэтаў, нарысістаў і драматургаў. Звыш ста маладых пісьменнікаў прыехалі ў сталіцу дзеля таго, каб параіцца, як лепш павесці сваю работу па выкананню гістарычных рашэнняў XXI з'езда КПСС.

У першы дзень удзельнікі нарады заслухалі даклады Івана Грамовіча «Рашэнні XXI з'езда КПСС і задачы пісьменнікаў Беларусі», Дзмітрыя Палітыкі «Галоўны напрамак літаратуры нашых дзён — выхаванне чалавека камуністычнага грамадства» і Івана Навуменкі «Станоўчы герой ў творах маладых пісьменнікаў».

Ва ўсіх трох дакладах выразна і настойліва прагучала, па сутнасці, адна думка: маладыя пісьменнікі абавязаны больш глыбока адлюстроўваць у сваіх творах тыя карэнныя пераўтварэнні, што адбываюцца цяпер у нашым грамадстве,

аб'явіць паход супраць драбнатэм'я, за стварэнне запамінальных вобразаў нашага сучасніка. Быць заўсёды на пярэднім краі барацьбы савецкага народа за камунізм, ісці ў нагу з жыццём, ствараць творы, вартыя нашых людзей,— вось тая надзённая задача, якая стаіць цяпер перад усёй савецкай літаратурай.



Удзельнікі нарады наведалі прадпрыемствы сталіцы. Маладая паэтэса, студэнтка Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута Клаўдзія Анікеева (злева) гутарыць з работніцай Мінскага мотавелазавода Валянцінай Лях.

Многія пачынаючыя пісьменнікі ідуць па гарачых слядах працоўных подзвігаў моладзі, ствараюць запамінальныя вобразы маладых, няўрымслівых людзей. Рыгор Барадулін, удзельнік барацьбы за цалінную пшаніцу, напісаў нізку высокамастацкіх вершаў. Яго лірычны герой — гэта малады чалавек нашых дзён, смелы, працавіты, узнёслы, бясконца адданы свайму народу. Удача аўтара тлумачыцца не толькі тым, што Рыгор Барадулін паэт таленавіты ад прыроды, але і тым, што ўсё апісанае ён перажыў сам, што яму самому давялося ўбачыць масавы гераізм моладзі на цалінных землях, прымаць удзел у гэтым вялікім руху сучаснасці.

З народных глыбіняў чэрпаюць вобразы для сваіх твораў малады рабочы саўгаса Васіль Макарэвіч, агранам Вадзім Зыблеў, Мікола Кусянкоў і іншыя паэты. Таму іх творы авеяны дыханнем жыцця, чытаюцца з цікавасцю.

Маладыя празаікі Алесь Савіцкі, Мікола Гроднеў, Васіль Быкаў, Уладзімір Шыцік і другія ў сваіх творах імкнуцца адлюстраваць важныя падзеі сучаснасці. Яны стаяць на правільным шляху.

Спрэчкі, якія разгарнуліся на другі дзень, выявілі палітычную сталасць маладых пісьменнікаў, іх гаспадарскі падыход да літаратуры. Гомельскі паэт Мікола Кусянкоў, празаік з Берастовіцкага раёна Павел Мамчыц, нарысіст Міхась Харужык са Смаргоні, крытык Анатоль Клышко з Мінска, Людміла Савасцянчык з Маладзечна і іншыя горача гаварылі аб неабходнасці больш і лепш пісаць пра людзей, якія самааддана працуюць на фабрыках і заводах, у калгасах і саўгасах рэспублікі.

Мы не можам праспаць вялікія справы, якія робіць наш народ. Трэба ствараць такія высокамастацкія творы, каб будучыя пакаленні здолелі адчуць, якую тытанічную барацьбу вёў народ за камунізм. У сувязі з гэтым удзельнікі нарады многа ўвагі прысвяцілі і ўзняццю агульнай культуры маладых пісьменнікаў, павышэнню прафесіянальнага майстэрства. Яны заклікалі сваіх сяброў па пяру да глыбейшага філасофскага асэнсавання фактаў жыцця, да большай акрылёнасці.

Цікавыя і змястоўныя размовы ішлі на трэці дзень работы нарады ў секцыях. Кіраўнікі секцый пісьменнікі Янка Брыль, Мікола Аўрамчык, Тарас Хадкевіч і Кастусь Губарэвіч здолелі арганізаваць павучальную гаворку аб майстэрстве. Да ўдзелу ў рабоце секцый былі запрошаны вопытныя пісьменнікі: Янка Скрыган, Раман Сабаленка, Уладзімір Дубоўка, Анатоль Вялюгін, Алесь Пальчэўскі, Ніл Гілевіч, Сяргей Грахоўскі, Аркадзь Маўзон і іншыя. Яны разгледзелі творы маладых пісьменнікаў, далі ім таварыскія парады па далейшай рабоце. Многія творы былі рэкамендаваны для надрукавання ў часопісах і газетах.

У нарадзе прынялі ўдзел і выступілі перад маладымі пісьменнікамі з прамовамі сакратар ЦК ЛКСМБ Ніна Краснова, старшыня Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Пятрусь Броўка, вядомы рускі паэт Яраслаў Смелякоў, пісьменнік Алесь Якімовіч.

За дні работы нарады маладыя літаратары наведалі буйнейшыя прадпрыемствы і будоўлі сталіцы, дзе былі цёпла сустрэты рабочымі. Пісьменнікі цікавіліся работай і жыццём ударнікаў камуністычнай працы, чыталі ім свае творы.

# Бібліяграфія

## АРЫГІНАЛЬНАСЦЬ ПАЭТА

Анатоль Вялюгін — паэт своеасаблівага светаўспрыймання, светабачання, смелых пошукаў і суровай патрабавальнасці да сябе. Аб гэтым яшчэ раз пасведчыла новая кніга яго паэзіі «На зоры займае» *. Усё тое, чым вылучаліся ранейшыя лепшыя творы паэта, выявілася тут сканцэнтравана і ярка. Неаслабная цікавасць да сучаснасці, грамадска-палітычная завостранасць вершаў, успрыйманне сучаснасці, сучасніка як велічнага, гераічнага, імкненне да перадачы герoікі нашых дзён у рамантызаваных фарбах, незвычайных вобразах і малюнках, захапленне фальклорнай, песенна-народнай традыцыяй, нястомныя пошукі інтанацый, рыфм і іншае,— усё гэта знайшло ў кнізе шырокае адлюстраванне.

Лірычны герой вершаў Анатоля Вялюгіна — наш сучаснік, савецкі чалавек, працаўнік. Ён паўстае ва ўяўленні паэта казачным асілкам, легендарным волатам. Вось ён, гэты асілак — лірычны герой верша «Нядзеля», — «з работы ідучы, нясе, як скарб,... дадому цяжкую стому на плячы». І зямля здалася паэту пад гэтым асілкам маленькай-маленькай, «нібы тугі футбольны мяч». А працаўнік, поўны гордасці за справы сваіх натруджаных рук, заяўляе:

На тыдні кожны дзень —
Нядзеля.
На тыдні — свята кожны дзень.

Так паэт раскрывае праўду нашых дзён. Унутранай патрэбай, асалодай, а не прынукай-ярмом стала праца для савецкага чалавека. Вось чаму, як скарб, нясе ён на плячы сваім няхай і цяжкую стому.

Нашы працоўныя будні — гэта не проза жыцця, а сама паэзія, само свята. З асаблівай выразнасцю трактоўка сучасніка як героя-асілка вывыступае ў песенна-эпічным вершы «Рыбацкае мора»:

Едуць на чоўнах
Плячыстыя людзі,
Сонцу і ветру
Расхрыстаны грудзі.
Глянуць здалёку
На постаці люба:
Быццам іх высеклі
З дужага дуба...
З песняю цягне
Арцель падвалокі.
Спяць
На плячах, як на горах,
Аблокі.

Успрыйманне рэчаіснасці як велічнага, незвычайнага найбольш поўна праявілася ў скразных паэтычных вобразах зборніка — вобразах сонца, мора, дуба. Гэтыя скразныя, любімыя паэтам вобразы нясуць самыя разнастайныя ідэйна-мастацкія функцыі:

Падняў я сонца на галлі
пад посвіст салаўёў,
а нетры цёмныя зямлі
карэннем пераплёў.
Здаецца мне:
калі цяпер
пад бурай зашумлю,
не я трымаюся, павер,
за родную зямлю,
а на карэннях на маіх —
нябачаны цяжар! —
вісіць у кроплях дажджавых
зямлі зялёны шар,—

поруч з рамантычна-сімвалічнай малюнкавасцю вось гэтай «Песні зялёнага дуба» знаходзім мы рэалістычна-пластычны жывапіс ужо цытаваных вышэй радкоў аб нарачанскіх рыбаках:

Глянуць здалёку
На постаці люба:
Быццам іх высеклі
З дужага дуба.

Схільнасць да рамантызаванага вобраза, сімвалічнай малюнкавасці ў А. Вялюгіна пераважае, і гэта выразна відаць на «абыгрыванні» ім вобраза сонца. Яно ў паэта з'яўляецца то сімвалам перамогі сацыялізма над змрочным вараннём і змяіным сыкам рэакцыі («Балада пра сцяганосца»), то ўзнікае, як увасабленне камуністычнага заўтра, якое ўжо сёння сонцам свеціць над намі («Мора і не-

* Анатоль Вялюгін. «На зоры займае». Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1958.

ба»); то «босае, абдаецца ў травах росамі» і да яго вядзе сваё шэсце высокая цалінная пшаніца («Песня пры вогнішчы»); то, нібы ў палац, заходзіць ў вясенні, мокры, светлы ад бяроз лес («Бярозавік»).

Трэба адзначыць, што найбольшага мастацкага эфекту паэт дасягае там, дзе за выраслым да рамантычнага сімвала паэтычным вобразам жыве, бачна канкрэтная карціна, як гэта мы знаходзім у «Песні зялёнага дуба», «Баладзе пра сцяганосца», «Бярозавіку» і інш. У асобных выпадках, як, напрыклад, у вершы «Мора і неба», сімвалічны вобраз-сонца аказваецца па-за якой-небудзь канкрэтнай карцінай і, стаўшы, такім чынам, голым сімвалам, не дае, па сутнасці, мастацкі завершанага выражэння задумы паэта.

Ідэйна-мастацкая канцэпцыя рэчаіснасці як незвычайнага, велічнага, гераічнага вырасла з роздуму паэта аб сучаснасці, з яго ацэнкі спраў і подзвігаў савецкага чалавека. Адсюль жа ўзнікла таксама імкненне паэта раскрываць рэчаіснасць у вобразах яркіх, рамантызаваных, пабудаваных на нечаканасцях, смелых асацыяцыях. У вершах Вялюгіна сустракаюцца такія вобразы: **«сонца звініць — залатая пчала** вісне над кронаю», **«бярозавікам пахнуць пералескі, блакіт і пена** на ружовых пнях», **«вясна шчабеча ў воблаку** юнай ліствы», **«пух** тапаліны... **падае... на матчыну радасць і смех».** Як бачым, паэта цікавіць не столькі задача даць праз паэтычную дэталь аб'ектыўна-канкрэтныя колеры, гукі, пахі, колькі перадача суб'ектыўнага ўспрынящця іх у сувязі з пэўнай падзеяй, настроем. Адсюль **дым** у яго **зялёны, зара — чорная, пні — ружовыя** і інш. Усім гэтым паэт, несумненна, узбагачае вобразна-выяўленчую палітру нашай паэзіі.

Аднак імкненне паэта да рамантызаванага жывапісу ў шкоду іншым паэтычным формам, мабыць, і скоўвае паэта.

Пошукі паэтычнага вобраза ў Вялюгіна цесна звязаны з яго захапленнем фальклорнай традыцыяй. Адсюль спецыфічны, беларускі каларыт рамантычных вобразаў-малюнкаў паэта:

...Нясуць маразы ўначы  
з Ледавітага акіяна  
да браслаўскіх азёр ключы.  
Як жа сівер замкне азёры,  
распране густалісты лес?  
(«Белазорае бабіна лета»)

Асабіста паэтава і традыцыйнае, вобразна-народнае злілося тут у адзіным паэтычным сплаве.

Шэраг вершаў зборніка вытрыманы ў песенна-народным стылі («Песня пры вогнішчы», «Вечар», «На гары Чарнечай» і інш.) Сярод іх вылучаецца верш «Вечар». Народна-песенная мілагучнасць інтанацый, паэтычная наіўнасць зместу, ледзь улоўная ўсмешка, скупасць і выразнасць паэтычных дэталей робяць яго адным з цікавейшых у зборніку.

Выразны адбітак фальклорных традыцый ляжыць і на апублікаванай у зборніку паэме «Бацька Дняпро». Яна задумана паэтам як апафеоз дружбы трох братніх — рускага, украінскага і беларускага — народаў, якая вядзе сваю радаслоўную з іх слаўнага гістарычнага мінулага і якой сёння няма межаў, нібы імклівому, паўнаводнаму бацьку Дняпру.

Нажаль, мастацкі завершанага ўвасаблення задума паэта ў гэтым творы не знайшла. Паэма распадаецца як бы на дзве часткі: «сучасную» — першы, трэці раздзелы і «гістарычную» — другі раздзел. Звязаны паміж сабой яны хіба толькі знешне, тым, што закліканы раскрываць адну і тую ж тэму. Унутранай, арганічнай еднасці няма ў самой «гістарычнай» частцы твора. Яе слабасць — у сюжэце, у яго ілюстратыўнасці. Ён працуе тут не на раскрыццё якога-небудзь характару, а толькі на раскрыццё ідэі. Адсюль механічная чарада падзей у гістарычнай частцы твора, якія ўзнікаюць адна за адной не па законах неабходнасці, а па волі аўтара. Адсутнасць у паэме характараў, абумоўленага паказу лёсу герояў прывяло да просталінейнага выражэння тэмы. І, такім чынам, пры ўсёй сваёй адшліфаванасці, шматлікіх паэтычных знаходках твор застаўся, як кажуць, «недацягнутым».

Дарэчы, сама «сучасная» яго частка ўяўляецца зусім закончаным, самастойным творам. Рамантыка Дняпра, пераклічка плытагонаў трох братніх рэспублік раскрыты тут з сапраўдным эпічным размахам, у цудоўных малюнках і вобразах. Гэта — несумненны актыў паэта.

Асобна хочацца сказаць аб вялікай паэтычнай культуры зборніка. У ім няма ніводнага непаэтычнага твора, усё ахінута глыбінным натхненнем, клопатам аб яркасці, навізне вобраза, выразнасці, празрыстасці радка, багатай рыфме і інш. І гэта — красамоўнае сведчанне сталасці нашай паэзіі, таленавітым прадстаўніком якой з'яўляецца Анатоль Вялюгін.

Усяго семнаццаць вершаў і паэма «Бацька Дняпро» склалі змест нова-



га зборніка паэзіі А. Вялюгіна — творчай справаздачы паэта за апошнія тры-чатыры гады. Калі б праца паэта вымяралася толькі колькаснымі паказчыкамі, наўрад ці задавальнялі б такія яе вынікі. Аднак не гэтым вымяраецца важкасць працы паэта. Яна вызначаецца глыбінёй пранікнення ў жыццё, арыгінальнасцю, паэтычнасцю, майстэрствам адлюстравання жыцця. А гэта ў значнай меры ўсё ёсць у новай кнізе А. Вялюгіна.

**Алег ЛОЙКА.**

## НЕЎМІРУЧЫЯ НАРОДНЫЯ СКАРБЫ

У гісторыі нацыянальных культур народнай песні належыць асобае месца. У ёй—вытокі нацыянальнай музыкі кожнага народа; вялікі яе ўплыў і на мастацкую літаратуру, асабліва паэзію.

Беларускі народ на працягу сваёй шматвяковай гісторыі стварыў багатую і разнастайную песенную спадчыну. Невыказна шматгранны і складаны свет чалавечых пачуццяў заключае ў сабе беларуская лірычная песня. Пяшчотная і задушэўная яе мелодыка.

Багатая абрадавая і календарная паэзія нашага народа з яе вяснянкамі, купальскімі і вясельнымі песнямі. Вылучаюцца ў беларускім фальклоры жніўныя песні: зажыначныя і дажыначныя. З іншых славянскіх народаў яны значна пашыраны толькі ў балгар. Аб багацці беларускай жніўнай песні і блізкасці яе да балгарскай пісаў, між іншым, у свой час балгарскі вучоны А. Букарэшлієў у кнізе «Сярэдне-Радопскія песні».

Нельга не ўспомніць і слоўнай асновы беларускіх танцаў. Да шматлікіх народных танцаў існуюць тэксты, звычайна жартоўнага характару, поўныя незласлівага гумару і бадзёрасці.

З даўніх часоў беларуская народная песня звярнула на сябе ўвагу даследчыкаў-фалькларыстаў і кампазітараў. Першыя нотныя запісы яе адносяцца да пачатку XIX стагоддзя. У 1817 годзе ў Вільні было выдадзена некалькі запісаў беларускіх народных мелодый, зробленых М. Чарноўскай, у 1819—народныя песні, запісаныя І. Шыдлоўскім. У 40-х гадах таго ж стагоддзя новыя публікацыі беларускага меласу зрабіў А. Абрамовіч.

Вядомыя даследчыкі беларускай народнай творчасці П. Шэйн, П. Бяссонаў, З. Радчанка, У. Дабравольскі, І. Насовіч і іншыя цікавіліся ў асноўным тэкстамі песень. З пачатку XX стагоддзя запісамі і гарманізацыяй беларускіх мелодый займаецца ўжо поўнае кола людзей. Сярод іх вядомы польскі фалькларыст М. Федароўскі, аўтар музыкі на словы Янкі Купалы «А хто там ідзе?» Л. Рагоўскі, складальнік трох зборнікаў беларускіх народных песень А. Грыневіч. Крыху пазней у гарманізацыі і запісах беларускіх народных мелодый прынялі ўдзел вядомыя рускія кампазітары С. Танееў, П. Сакольскі, М. Іпалітаў-Іванаў, А. Грачанінаў, кіраўнік першага беларускага народнага хору і кампазітар У. Тэраўскі, і кампазітар К. Галкоўскі.

Выключная заслуга ў збіранні песенных скарбаў нашага народа належыць беларускім кампазітарам М. Чуркіну, Я. Цікоцкаму, А. Багатырову, Р. Пуксту, А. Туранкову і іншым. Першыя публікацыі беларускіх народных песень Р. Р. Шырмай адносяцца да 1929 года.

Нядаўна ўбачыла свет першая кніга, выдадзеная Дзяржаўным выдавецтвам з чатырохтомнага збору запісаў выдатнага даследчыка, збіральніка і папулярызатара беларускай народнай песні Рыгора Рамановіча Шырмы. У томе—тры раздзелы: першы (асноўны)—любоўныя песні, другі—баладныя і бытавыя, трэці—жартоўныя. Кнігу адкрывае шырока вядомая ў народзе «Ці свет, ці світае» («Чырвоная каліна ды ў лесе стаяла»). Непаўторна ўдалым спалучэннем, тонкай гармоніяй зместу і меладычнага выражэння вылучаецца гэта песня. Яе зачын поўны нейкай празрыстасці, чароўнага харастава:

Ці свет, ці світае,  
Ці на зоры займае,  
А мой міленькі, голуб сівенькі  
Коніка сядлае.

У тканіне гэтай песні—кандэнсацыя тыповых народных сродкаў выяўлення. Як проста ў сэрца западае скарга, звернутая да каханага:

Ці ж я не такая,  
Як тая другая, —  
Я харошая, я прыгожая,  
Мая доля ліхая.

А колькі задушэўнай цеплыні ў мелодыі «Зязюленькі». Які журботны і ўзрушальны вобраз маладой жанчыны з яе трапяткім, перапоўненым любоўю сэрцам, з яе паэтычнай мройлівасцю паўстае ў гэтай песні! Жанчына звяртаецца да зязюлі (такі характэрны для народнай песні элемент), просіць яе:

Ой, не кукуй, зязюленька, рана,
Ты не кажы, што ночанька мала...
Я малада ўсю ночаньку не спала:
Міленькага з дарожанькі чакала.

Лаканічна і вобразна выяўлен драматычны момант:

Мой міленькі прыехаў позна,
Параскідаў падушачкі розна.

І адразу ўсё становіцца зразумелым,—умовы жыцця, узаемаадносіны, абражаныя пачуцці,—а сказана пра ўсё гэта толькі некалькімі словамі.

Глыбокі падтэкст, адна-дзве яркія, ёмістыя дэталі—характэрная асаблівасць вельмі многіх народных песень. У меладычна выразнай і яскравай песні «Ляціць сарока» вобраз каханага, чалавека чулага, шчырага, мяккага падаецца словамі:

Свайго мілога
Па ціхай мове
Пазнаю!

Нялёгка знайсці больш яркія фарбы, каб паказаць цяжкае жыццё чалавека мінулага, як гэта зроблена ў наступных чатырох радках.

Расіца—умыванне маё,
Рукаўцо—уціранне маё,
Крапіўка—пасцелька мая,
Слёзкі—вячэрка мая.

Прывядзем яшчэ адзін са шматлікіх прыкладаў сціслаці і змястоўнага падтэксту ў народна-песеннай творчасці. У песні «Ой, пад дубам, дубам» гаворыцца пра трох сясцёр, якія, абярнуўшыся зязюлькамі, прылятаюць з розных мясцін пад дуб. У іх кукаванні—спрадвечная скарга працоўнай жанчыны старога грамадства, дзе яна была нявольніцай, ведала толькі цяжкую працу і горкую крыўду:

Была ж у нас мамачка гаротная.
Яна нас маленькіх гадавала—
Яна нашу долю праклінала,
А як праклінала, так і стала.

Да лепшых узораў беларускай народнай лірычнай песні, бясспрэчна, адносяцца «Ці ўсе лугі пакошаны» («Зелянеюць, зелянеюць лугі-сенажаці») і «Кацілася чорна галка». Апошняя вылучаецца сваёй мажорнай мелодыяй, танцавальным рытмам. Кідаецца ў вочы ў абедзвюх гэтых песнях акцэнтацыя ўвагі на сацыяльных матывах—з'ява не такая ўжо характэрная для лірычнай песні.

Варта ўспомніць і занесеныя далёка за межы Беларусі і нашай краіны спевакамі і музыкантамі ў шматлікіх апрацоўках «Перапёлачку» і «Эх ты, дудка мая!».

Сярод сарака з лішнім жартоўных песень, змешчаных у першым томе,—шырока вядомыя «Цераз сад-вінаград», «Чырында», «Замуж пайсці—гора знаці» і шмат іншых.

У заўвагах, якія ідуць кароткім дадаткам у кнізе, падаецца месца і час запісу, называецца асоба, ад якой запісана песня.

Знаёмішся з кнігай і ў тваім уяўленні лёгка складаецца своеасаблівая карта шляху, па якім прайшоў чалавек з неспакойным, гарачым сэрцам, узвышанай душой, збіраючы пакрысе, па зерню частку народнапесеннага скарбу. Шлях гэты ідзе з-пад Белавежы, з ваколіц Беластока праз Брэстчыну, Гродзеншчыну на паўночны захад Беларусі—у Вілейшчыну, Пастаўшчыну, Браслаўшчыну да цэнтральнай Беларусі. Выданне першай кнігі чатырохтомнага збору нотных запісаў беларускіх народных песень—вельмі значная падзея ў культурным жыцці рэспублікі. Гэтае цудоўнае выданне дапаможа і многім маладым пісьменнікам, асабліва паэтам, адчуць і перажыць яшчэ раз цудадзейную сілу роднага слова, яго невычэрпную вобразнасць, іскрыстасць. Бясспрэчна, што нашы самадзейныя харавыя калектывы папоўняць свой рэпертуар многімі цудоўнымі, незаслужана забытымі песнямі, пра якія ўспомніў Р. Шырма ў сваёй працы. Яна яшчэ больш актывізуе работу па збіранню, вывучэнню і папулярызацыі фальклорнай спадчыны, работу, якая ў апошні час разгортваецца ў нас у рэспубліцы ўсё шырэй і шырэй.

**Арсень ЛІС.**

*У свеце мастацтва*

# СТАРЭЙШЫ ТЭАТР ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Тэатры для дзяцей, ці як іх называюць тэатры юнага гледача, створаны ў нашай краіне пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. За гады Савецкай улады яны адыгралі вялікую ролю ў камуністычным выхаванні моладзі.

Адным з першых калектываў, чый вопыт у многім прадвызначыў прынцыпы, на якіх грунтуецца работа ТЮГаў, з'явіўся Маскоўскі тэатр юнага гледача. Ён працуе ўжо звыш 30 год. За гэты час тэатр у садружнасці з вядомымі і пачынаючымі дзіцячымі пісьменнікамі стварыў дзесяткі цудоўных спектакляў, якія ўвайшлі ў залаты фонд савецкага тэатральнага мастацтва. Вось чаму прыезд гэтага калектыву на гастролі ў Мінск выклікаў цікавасць у нашай тэатральнай грамадскасці, у юных жыхароў сталіцы.

Масквічы прывезлі ў Мінск тры спектаклі. Два з іх—«Іменем рэвалюцыі» і «Аб чым расказвалі чарадзеі»—у мінулым годзе былі паказаны на Усесаюзным фестывалі тэатраў юнага гледача і атрымалі высокую ацэнку і гледачоў, і журы. Надзённасць тэмы, публіцыстычная накіраванасць і добрыя мастацкія вартасці трэцяга спектакля («Месца ў жыцці») з'явіліся прычынай таго, што і гэта работа тэатра аказалася ў гастрольным рэпертуары.

П'есы «Іменем рэвалюцыі» і «Месца ў жыцці» належаць пяру маладога, па сутнасці пачынаючага драматурга—М. Шатрова. Але калі гэтага не ведаць, здаецца, што напісаў іх вопытны, сталы пісьменнік. Добра намаляваныя характары, кампазіцыйная стройнасць, цудоўная мова, умелая распрацоўка сюжэта, а галоўнае — веданне матэрыялу, аб якім піша драматург, — усё гэта дазволіла тэатру стварыць цікавыя, запамінальныя спектаклі.



**Сцэна са спектакля «Іменем рэвалюцыі» па п'есе М. Шатрова. У ролі У. І. Леніна артыст М. Калеснікаў.**
Фота У. Крука.

Спектакль «Іменем рэвалюцыі» вяртае нас да незабыўнага 1918 года. У працэсе дзеяння, і асабліва ў інтэрмедыях, якія з вялікай выдумкай пастаўлены рэжысёрам Б. Г. Галубоўскім і цудоўна аформлены мастаком В. Л. Талалаем, на дзіва дакладна перададзен подых часу, гістарычны каларыт тых гадоў.

У гады найвялікшай небяспекі, калі

маладая савецкая рэспубліка была абкружана колам інтэрвентаў і белых армій, камуністычная партыя і асабіста У. І. Ленін прымаюць надзвычайныя меры па заснаванню першых дзіцячых дамоў, у якіх тысячы беспрытульных дзяцей змаглі б перажыць цяжкі час, вырасці свядомымі, карыснымі членамі новага, сацыялістычнага грамадства. Як вядома, гэта задача была даручана некалькі пазней ВЧК. Аднак ужо ў гэты час органы ВЧК, якімі кіраваў саратнік Леніна Ф. Э. Дзяржынскі, праводзяць вялікую работу па барацьбе з беспрытульнасцю. Іменем рэвалюцыі пралетарыят караў сваіх ворагаў і іменем рэвалюцыі ажыццяўляў мерапрыемствы па выратаванню дзяцей. У гэтай, з'яве праявілася вялікая гуманістычная сутнасць дыктатуры рабочага класа.

Гэтая думка пранізвае ўвесь спектакль масквічоў, з'яўляючыся яго лейтматывам. Яна праяўляецца і ў лёсе дзеючых асоб—хлопчыкаў Васі і Пеці, беспрытульніка Яшкі, які здолеў стаць свядомым барацьбітом, у паводзінах камсамольцаў першых гадоў рэвалюцыі — Барыса, Сцяпана, Тоні, Жэні.

Ацэньваючы спектакль «Іменем рэвалюцыі», нельга не адзначыць яшчэ адну яго вартасць: усім строем і думкамі ён накіраваны ў сучаснасць, бо вучыць нашу моладзь ісці па слядах сваіх бацькоў, быць вернымі тым ідэям, за якія яны аддалі жыццё.

Вялікай творчай удачай з'яўляецца стварэнне артыстам М. Калеснікавым вобраза Уладзіміра Ільіча Леніна. Ленін у выкананні акцёра—надзвычай чалавечны, просты і ў той жа час складаны, шматгранны сцэнічны характар. У апошняй карціне ігра Калеснікава дасягае той цудадзейнай сілы, якая прымушае забываць, што знаходзішся ў тэатры. У пары з таленавітай артысткай Л. Князевай (Пеця) акцёр стварае незабыўную, хвалюючую карціну, якая вельмі ярка раскрывае рысы самага чалавечнага з усіх людзей.

Эмацыянальнаму ўспрыйманню спектакля дапамагае выдатная музыка, напісаная кампазітарам К. Лістовым, у якой гучаць мелодыі часоў грамадзянскай вайны.

Падзеі, аб якіх расказваецца ў другім спектаклі Маскоўскага тэатра юнага гледача «Месца ў жыцці» адбываюцца ў нашы дні. Аднак і ў гэтай пастаноўцы ёсць нешта сугучнае п'есе «Іменем рэвалюцыі». І тут і там тэатр хвалююць пытанні, якія звязаны з жыццём моладзі, з тымі шляхамі, па якіх пойдзе маладое пакаленне. А тая абставіна, што аб гэтых праблемах МТЮГ са сваім драматургам гавораць палымянай мовай мастацтва, робіць яго творы сапраўды публіцыстычнымі, выклікае жаданне думаць, спрачацца, абуджае думку.



**Сцэна са спектакля «Іменем рэвалюцыі». Злева направа: Вася (С. Радчанка), Ф. Э. Дзяржынскі (К. Назараў), Пеця (Л. Князева), Голубеў (П. Гаўрылаў).**

Калі глядзіш п'есу «Месца ў жыцці» ў пастаноўцы МТЮГа, дзе яна ўпершыню ўбачыла свет, міжвольна прыходзіць на памяць дата першай пастаноўкі. Яшчэ чатыры гады назад тэатр вуснамі герояў спектакля загаварыў аб месцы ў жыцці тых, хто толькі што закончыў сярэднюю школу і зараз стаіць перад выбарам шляхоў у жыццё. Сапраўды пільнае вока ў тэатра і аўтара, калі яшчэ ў той час яны здолелі разглядзець тое новае, што толькі пачало прабівацца цераз старыя ўяўленні аб прызначэнні школы, аб шляхах, якімі павінны ісці ў жыццё дзесяцікласнікі. П'еса М. Шатрова крыху падобна да вядомых твораў Розава, прысвечаных юнацтву. Але ўступаючы Розаву ў сродках мастацкай выразнасці, Шатроў, на наш погляд, больш смела і рэзка будуе драматычны канфлікт, што стварае напружанасць дзеяння.

Спектакль масквічоў успрымаецца як цэласны мастацкі твор, у якім асабліва радуе поспех маладых выканаўцаў. Сцэнічнае ўвасабленне драматургічнай задумы, якое ажыццявіў рэжысёр Е. С. Еўдакімаў, вылучаецца прастатой і выразнасцю. Маладыя акцёры—пераважная большасць выканаўцаў. Карыстаючыся вельмі добрым жыццёвым матэрыялам, яны адчуваюць сябе на сцэне надзвычай натуральна і іграюць з добрым маладым запалам, што асабліва прываблівае сімпатыі гледача. Хочацца адзначыць майстэрскую ігру маладых акцёраў Р. Быкава (Ігар), В. Шугаева (Юра), А. Марчанкі (Міша), П. Гарына (Афанасій Мікітавіч) і, безумоўна, лепшай травесці заслужанай артысткі РСФСР Л. Князевай (Ваня Новікаў).

Тэатр прывёз спектакль і для самых маленькіх — казку В. Карастылёва «Аб чым расказвалі чарадзеі». Яна з вялікім густам пастаўлена акцёрамі МТЮГа Р. Быкавым, Е. Васільевым і В. Гарэлавым. Яркая казачная форма ў спалучэнні з невычарпальнай выдумкай і пранікнёнай ігрой акцёраў забяспечыла спектаклю вялікі поспех у самага маленькага гледача.

Калі падводзіш вынікі гастроляў такога цікавага маладзёжнага тэатра, як МТЮГ, мімаволі напрошваюцца параўнанні з мясцовым калектывам. Зразумела, простае параўнанне маскоўскага тэатра з беларускім тэатрам юнага гледача недарэчна. 30 год, якія мае за плячыма МТЮГ, і тры гады творчага шляху мінскага калектыву—лічбы, безумоўна, несуразмерныя. Але хочацца адзначыць агульныя рысы, якія ўласцівы для абодвух творчых калектываў—гэта пошукі сваёй, значнай тэмы, плённая праца з маладымі здольнымі драматургамі, у выніку чаго мы з'явіліся сведкамі нараджэння цікавых спектакляў.

Шлях гэты цяжкі, але верны. Ён абяцае шмат радасці і тэатрам, і гледачам.

**А. КАНТАРОВІЧ.**



# СЛОНІМСКІ НАРОДНЫ

«Мы прагледзелі перадачу «Палкоўнік неспакойнай службы». Перадача нам вельмі спадабалася, асабліва хвалюе і кранае лёс хлопчыка. Жанчыны нават плакалі», — напісала ў Мінскую студыю тэлебачання Еўдакія Мікалаеўна Магілёўская ад імя прыбіральшчыц Галоўпаштамта.

Можна было б прывесці і іншыя пісьмы гледачоў, якія даюць высокую ацэнку спектаклю.

Натуральна, узнікае пытанне: чаму справядліва патрабавальны тэлеглядач так цёпла сустрэў выступленне па тэлебачанню Слонімскага народнага тэатра?

Давайце перанясемся крыху ў глыбіню мінуўшчыны.

Даўно-даўно ў Слоніме існаваў прыгонны тэатр Агінскіх. У ім наладжваліся грандыёзныя відовішчы для заезджых і навакольных магнатаў, накшталт тых, якія вядомы нам па аповесці З. Бядулі «Салавей». Ёсць падставы меркаваць, што вядомы яшчэ па дарэвалюцыйных падручніках канал Агінскага быў пабудаваны прыгоннымі сялянамі графа для наладжвання водных пантамім. Была ў горадзе і Оперная вуліца. На крывавым поце працоўнага люду ладзілі паны свае забавы. Яны зганялі ў тэатры самых прыгожых дзяўчат, самых таленавітых хлопцаў у прыгонны аркестр, драматычную трупу,



**Выступленне Слонімскага народнага тэатра ў Мінскай студыі тэлебачання. Сцэна са спектакля «Палкоўнік неспакойнай службы». Палкоўнік Багатыроў (В. Тарасевіч) і Лёня Стральцоў (Р. Халмагорава).**

Фота А. Дзітлава.

балет. Народ вымушаны быў забаўляць сваіх паноў, весяліць іх гасцей. Толькі дзеля гэтай нізкай мэты скарыстоўваліся прыгоннікамі народныя таленты. Народу ж тэатр не быў даступны. Для яго шырока адчыняліся дзверы царквы, касцёла.

Аднак жа багатая на самабытныя таленты Слонімшчына не аднойчы пасля ўжо адмены прыгоннага права здзіўляла сваім нястрымным імкненнем да святла сапраўднай творчасці. Захавалася афіша, якая паведамляла, што 7 красавіка 1885 года сіламі мясцовых аматараў тэатра будзе паказаны «з дазволу начальства» спектакль «Маёрша».

У драматычным гуртку кардоннай фабрыкі «Альберцін» у змрочныя гады белапольскай «санацыі», нягледзячы на забарону, ставіліся «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы, «У зімовы вечар» Э. Ажэшка, «Апошняе спатканне» У. Галубка. У цяжкіх умовах сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту жыла самабытная творчасць народа.

Па-сапраўднаму творчая энергія слонімцаў праявілася толькі ў гады савецкай улады. Народныя таленты здабылі, нарэшце, умовы для свайго выяўлення і сапраўднага росквіту. У горадзе ўзніклі дзсяткі самадзейных драматычных калектываў. Самыя здольныя іх удзельнікі аб'ядналіся ў гуртку пры раённым Доме культуры. Асабліва актыўна драматычны гурток пачаў працаваць пасля таго, як кіравацъ ім стаў вопытны акцёр М. І. Фрыдман, які шмат гадоў займаўся рэжысурай.

У калектыве, з першых жа яго крокаў, была абвешчана бязлітасная барацьба з дылетанцкімі захапленнямі, абыякавымі адносінамі да занятказў у гуртку. У пакоі, дзе праходзілі рэпетыцыі гуртка, паявіўся вялікі партрэт К. С. Станіслаўскага, а ўнізе яго словы: «Любі мастацтва ў сабе, а не сябе ў мастацтве».

Вядома, што поспех працы тэатральнага калектыву ў многім вызначае рэпертуар. За адзінаццаць год драматычны гурток паставіў шмат спектакляў. Сярод іх — «Вяселле з пасагам» Н. Дзяканава, «Жаніцьба Бялугіна» А. Астроўскага, «Юнацтва бацькоў» Б. Гарбатава, «Любоў Яравая» К. Транёва. «У добры час» В. Розава.

У працы над гэтымі спектаклямі выхоўваліся гурткоўцы, набывалі прафесійныя навыкі і разам з тым прапагандавалі ў народзе лепшыя ўзоры драматычнай літаратуры.

Цікавая дэталь. У адзін з нядзельных вечароў у раённы Дом культуры (а ён побач з царквой) зайшлі пасля вячэрняй службы дзве бабулькі. Ставілася п'еса «Палкоўнік неспакойнай службы». Яны выседзелі ўвесь вечар, па-старэчаму з хусцінкамі ля вачэй рэагуючы на кожны драматычна напружаны эпізод.

«Слонімскіх артыстаў» любяць у горадзе. Нам давялося быць на 16-м спектаклі п'есы А. Прэабражэнскай і М. Барана «Палкоўнік неспакойнай службы», і глядзельная зала заўсёды была поўная. Такім аншлагам маглі б пазайздросціць многія тэатры сталіцы. Вялікую ролю ў поспеху спектакля, безумоўна, адыграла цікавая п'еса маладых аўтараў. І тут нельга не адзначыць смеласць самадзейнага калектыву, які не пабаяўся ўключыць



у рэпертуар «неапрабіраваную» п'есу.

Хто ж яны, гэтыя людзі, што аддалі многія гады бескарыслівому служэнню сцэне, сыгралі ў самых складаных умовах каля 250-ці спектакляў, не кідаючы свой асноўны занятак на прадпрыемстве ці ва ўстанове.

У ліку членаў гуртка мы знойдзем і рабочага, і тэхніка, і пажылога педагога, і студэнтку медыцынскага вучылішча, і хатнюю гаспадыню...

Пазнаёмімся з выканаўцамі роляў толькі аднаго спектакля.

Палкоўнік Багатыроў — Віктар Тарасевіч, выкладчык працоўнага выхавання ў адной з слонімскіх школ. Можна сказаць, што гэта ўжо сталы акцёр, які думае, шукае, не заспакойваецца на дасягнутым ў сваёй творчасці. Яму ўласцівы добры ўнутраны тэмперамент, ён чотка, лагічна і паслядоўна ажыццяўляе пастаўленыя перад ім задачы, натуральна трымаецца ў дачыненні да іншых персанажаў.

Яго дастойнай партнёршай з'яўляецца Жана Данілевіч—інструктар РДК, якая выступае ў ролі жонкі Багатырова Ганны. Абаяльнасць і тактоўнасць паводзін на сцэне — вось вызначальныя рысы яе таленту.

Па-акцёрску прафесійна выконвае ролю хатняй работніцы Сушы супрацоўніца РДК Валянціна Пятроўна Кендра.

У старэйшага самадзейнага акцёра Івана Касьянавіча Андрыеўскага, брыгадзіра з фабрыкі «Альберцін», асноўнае — скрупулёзнасць у рабоце, старанная распрацоўка кожнай дэталі. Аднойчы знойдзенае ім замацоўваецца і няспынна ўдасканальваецца.

Піянерважатая Рыма Халмагорава ў вельмі складанай ролі Лёні Стральцова, выявіла добрае пачуццё меры і шчасліва пазбегла традыцыйных штампаў травесці. Яе ігра — арганічная, шчырая.

Наогул, трэба сказаць, што для ўсіх удзельнікаў драматычнага самадзейнага калектыву Слонімскага РДК уласціва вялікая вера ў абставіны, якія ім прапануюцца, шчырасць, добрасумленнасць. І гэта незалежна ад сцэнічных дадзеных, якімі валодае кожны з выканаўцаў.

Гэта—добры калектыў, які разумее высакароднасць пастаўленай перад ім задачы і выконвае свой абавязак сур'ёзна, творча. Вось чаму сярод першых у рэспубліцы самадзейных калектываў, якім прысвойвалася званне Народных тэатраў, мы без здзіўлення сустрэлі драматычны гурток Слонімскага раённага Дома культуры.

Народны тэатр невялічкага раённага гарадка з поспехам вытрымаў ужо свой першы экзамен—удала выступіў перад шматтысячным гледачом Мінскай студыі тэлебачання.

**В. КАРПІЛАЎ.**



**Калектыў Слонімскага народнага тэатра знаёміцца з п'есай М. Заруднага «Вясёлка». Справа мастацкі кіраўнік калектыву М. І. Фрыдман.**

Фота А. Перахода (БЕЛТА).

# БРАТЫ КАРАВАЕВЫ

Калі ў вас ёсць старэйшы брат, дык вы, напэўна, памятаеце, як у дзяцінстве стараліся пераймаць яго прывычкі, кожнае яго слова. У хлопчыка, пра якога пойдзе гутарка, таксама ёсць старэйшы брат—невысокі і хударлявы з выгляду, але дужы і спрытны. Завуць яго Ігарам. Юнак любіў спорт, прысвячаў яму кожную вольную хвіліну, і яго майстэрства вельмі хутка расло. І, вядома, няма нічога дзіўнага, што чалавек, які ўсяго сябе аддаў спорту, не знайшоў лепшага падарунка для малодшага брата ў дзень нараджэння, чым канькі і клюшка. Гэтая першая сапраўдная клюшка стала гонарам і самай дарагой рэччу не толькі Алега, але і ўсіх яго таварышаў з сямі навакольных вуліц. Вядома ж, колькі сяброў бывае ў пятнаццацігадовага хлапчука... І калі аднойчы адзін хлопчык незнарок паламаў гэтую клюшку, Алег вельмі засумаваў. У Маскву, да старэйшага брата, паляцеў ліст. І хутка Алег паказваў сябрам братаў адказ на ліст, дзе побач з цёплымі словамі быў намаляваны чарцёж і напісаны парады, як адрамантаваць клюшку.

... Ішлі першыя пасляваенныя гады. Працоўныя беларускай сталіцы ўзнімалі з папялішчаў свой горад. Адраджаўся і спорт. У гэты час і прыйшоў у секцыю барацьбы Ігар Караваеў. Ён сур'ёзна вывучаў тэхніку, рыхтуючыся стаць барцом класічнага стылю, уважліва прыглядаўся да вопытнага майстра Мірскага, а потым стараўся паўтараць бачанае. Час, патрачаны на трэніроўкі, ніколі не праходзіць бясследна. Гэта—крок наперад, няхай непрыкметны на першы погляд, але ўсё ж крок. За гады заняткаў крокамі гэтымі можна адмераць вялікую адлегласць.

Ігар узмужнеў і неўзабаве надзеў салдацкую гімнасцёрку, але не забыўся пра спорт. Ён часта прыходзіў у спартыўную залу і падоўгу трэніраваўся. Аднак «класікам», як завуць барцоў класічнага стылю, Ігар не стаў. Яго захапіла вольная барацьба. У гэтым відзе спорту ён і дабіўся выдатных поспехаў. У 1952 годзе імя Ігара Караваева ўпершыню трапіла ў спісы прызёраў чэмпіянату краіны, паявіўся ў яго і першы срэбраны жэтон.

А што ж Алег? У гэты час ён нястрымна захапляўся футболам і быў, як успамінаюць равеснікі, лепшым нападаючым у вулічнай камандзе і ў дзіцячай спартыўнай школе. Летам ён прыехаў у Маскву наведаць брата і нават тут часова «прыпісаўся» да дзіцячай каманды «Энергія», каб удзельнічаць у першынстве горада. Ігар глядзеў на футбол толькі як на дапаможны від спорту, які выпрацоўвае вынослівасць.

Ігар марыў выхаваць з малодшага брата барца. Ужо тады дваццацігадовы майстар спорту, член зборнай каманды краіны па вольнай барацьбе здолеў пагледзець далёка наперад, здолеў убачыць у рухавым, бесклапотным падлетку будучую зорку дывана.

Не кожнаму пачынаючаму спартсмену выпадае трэніравацца разам з вядучымі атлетамі краіны. Алегу проста пашанцавала. Брат браў яго з сабою на трэніроўку ў «Дынама», дзе былі мацнейшыя барцы не толькі Савецкага Саюза, але і іншых краін. Алегу было прыемна бачыць, як па-сяброўску вітаецца з братам за руку славуты Мекакішвілі, як раіцца з ім вопытны, з сівымі скронямі трэнер. І ўсё ж у душы ён яшчэ не быў барцом. Яго вабіла зялёнае поле стадыёна, непаслухмяны футбольны мяч. Ігар нібы прачытаў думкі брата: падышоў і ціхенька падштурхнуў яго да дывана.

— Смялей, смялей!.. Паглядзім, на што ты здольны.





Ігар і Алег Караваевы.
Фота Д. Церахава.

Тады Алег быў яшчэ ні на што не здольны. Гэта адчуў ён сам, убачылі і іншыя. Прыродная жвавасць і спрыт, хлапечы задор—вось і ўвесь яго набытак.

— Нічога, пазаймаешся, толк будзе,—сказаў Ігар.—І не думай, быццам я цябе супакойваю. Абавязкова будзе.

Алег вярнуўся ў Мінск. Зноў яго бачылі на футбольным полі і на рацэ. І толькі прыезд брата зрабіў рэзкі паварот у яго спартыўнай біяграфіі.

Яны разам зайшлі ў невялікую залу, дзе займаліся барцы таварыства «Праца». Ігар пазнаёміў Алега з трэнерам Аборскім.

— Вось, прывёў малодшага,—спакойна сказаў ён.—Няхай трэніруецца. А вярнуся з арміі, не крыўдуйце, забяру яго. Буду трэніраваць сам.

На тым і парашылі. Алег Караваеў застаўся ў секцыі класічнай барацьбы. Аб яго тэхніцы цяпер гавораць проста—цудоўная. Гавораць не толькі савецкія спецыялісты, але і замежныя знаўцы барацьбы. У дні першых сапраўдных трэніровак Алег меў толькі тэарэтычнае ўяўленне аб тэхніцы, а практычнае яе засваенне яшчэ было наперадзе.

Да гэтага часу спрачаюцца аб тым, што важнейшае—талент спартсмена або яго працавітасць. Пра Караваева спрачацца ў гэтым напрамку не варта. Тое, што ён таленавіты ад прыроды—бясспрэчна, тое, што ён валодае выключнай спартыўнай працаздольнасцю—таксама бясспрэчна. Яго талент адкрыў старэйшы брат, асновы тэхнікі даваў яму і ён, і Аборскі, і трэнер зборнай каманды рэспублікі Мірскі, і тыя спартсмены, што аспрэчвалі ў яго перамогу. Працавітасці ён вучыўся ў Ігара. Але працавітасць можа ў поўнай меры праявіцца толькі тады, калі ты любіш абраны від спорту. А вядома, што Алег без асаблівага жадання прыйшоў у секцыю барацьбы. Гэта сапраўды так. Але праз некалькі тыдняў юнака ўжо нельга было адцягнуць ад дывана. Гадзінамі мог ён займацца ў зале, пераймаючы майстроў, шліфуючы розныя элементы барцоўскай тэхнікі.

Надышоў 1953 год. У адзін і той жа дзень у Маскве і ў Мінску выйшлі на дыван браты Караваевы. Ігар праводзіў фінальную стычку на чэмпіянаце СССР, Алег—першую ў жыцці стычку на юнацкім першынстве Мінска. Ігар быў пераможаны і зноў заняў другое месца, атрымаўшы яшчэ адзін срэбраны жэтон. Алег выйшаў пераможцам і прынёс дамоў першы спартыўны трафей—грамату. Рашаючым з'явіўся для Алега апошні паядынак з таленавітым барцом Фішбейнам, цяпер майстрам спорту, у якога было 18 перамог і ні аднаго паражэння. Пад воплескі гледачоў навічок паклаў працівіка на лапаткі. А праз некалькі дзён Алег Караваеў стаў юным чэмпіёнам Беларусі.

Спартсмен звычайна заўсёды хвалюецца перад выступленнем. Навічкі гараць жаданнем перамагчы ветэранаў, тыя ў сваю чаргу рыхтуюцца даказаць, што і ў іх ёсць яшчэ «порах у парахаўніцах». Стычкі вызначаюцца вастрынёю. Яны не толькі правяраюць, хто на што здольны, але з'яўляюцца і школай. Калі ў 1954 годзе Алег даведаўся, што Ігар трэці раз запар заняў другое месца, ён засумаваў. «Зноў другое. Калі ж будзе першае?»—думаў малодшы, ведаючы, што старэйшы таксама незадаволены сваім вынікам. Затое Ігар вельмі ўзрадаваўся, калі Алег заняў пятае месца на чэмпіянаце краіны, дзе той выступаў упершыню. А на наступны год збылася запа-

ветная мара Ігара. На штрыфель яго пінжака суддзя ва ўрачыстай цішыні прымацаваў залаты медаль чэмпіёна краіны. І асабліва радаснай была перамога таму, што спаборніцтвы праходзілі ў родным горадзе, у Мінску. Праз некаторы час — новая радасная падзея ў сям'і Караваевых: Алег заваяваў бронзавы жэтон трэцяга прызёра першынства СССР.

Кажуць, узрост — вораг спартсмена. Кажуць гэта самі спартсмены. З гадамі памнажаецца вопыт, але менш становіцца энергіі, рухавасці. Большасць спартсменаў змагаецца з заўчаснай спартыўнай старасцю, не хоча без бою здаваць заваяваныя пазіцыі. Таксама і Ігар Караваеў. Яму ўжо трыццаць два гады. І ўсё ж на апошніх двух чэмпіянатах Савецкага Саюза ён утрымаўся ў прызавой тройцы, з'яўляецца членам зборнай каманды краіны. З яго вяртаннем у Мінск вольная барацьба ў рэспубліцы зрабіла значны крок наперад. Ігар выступае сам і перадае свой вопыт і веды іншым. І вядома, самы любімы яго вучань — Алег.

Замежны друк называе Алега Караваева «фаварытам № 1». Як зразумець гэта? Відаць, маецца на ўвазе вера ў перамогу гэтага спартсмена на любых спаборніцтвах, у стычках з любым праціўнікам. Апошнія тры гады сведчаць аб правільнасці гэтага сцверджання. Сапраўды, Алегу няма роўных у нашай краіне, няма і за межамі. Тры гады запар ён заваёўвае залатыя медалі чэмпіёнаў, становіцца чэмпіёнам трэціх міжнародных гульняў моладзі і студэнтаў, выйгрывае званне чэмпіёна свету. Аб сусветным першынстве раскажам больш падрабязна.

Будапешт. На востраў Маргіт апускаецца начны змрок. Святло ліхтароў пераліваецца ў густой лістоце векавых дрэў. Звычайна, з цемрай у парк прыходзіць і цішыня. Але сёння шматгалосы гул нясецца са стадыёна і перакатваецца праз Дунай. Больш пяці тысяч гледачоў, што запоўнілі трыбуны стадыёна, з хваляваннем сочаць за напружанымі стычкамі чэмпіянату свету па класічнай барацьбе.

На дыван выходзяць беларус Алег Караваеў і датчанін Андэрсен. Гэта была самая кароткая стычка на спаборніцтвах. На першай жа хвіліне савецкі спартсмен тушыраваў свайго праціўніка.

Наступная сустрэча з балгарскім барцом Дзмітрыем Стойкавым. Зноў суддзя ў знак перамогі падняў руку Караваева. Так было і ў наступных паядынках. Алег нязменна выходзіў пераможцам. Калі скончыліся спаборніцтвы і ён узняўся на п'едэстал пашаны, у яго гонар прагучаў над стадыёнам Гімн Савецкага Саюза. Імя Караваева-малодшага назаўсёды ўпісана ў сусветную гісторыю спорту.

А час ляціць. Зноў прыйшло спартыўнае лета. Набліжаецца другая Спартакіяда народаў СССР. Больш буйнага спаборніцтва наша краіна яшчэ не ведала. Будзе сапраўдны агляд дасягненняў нашага спорту за гады Савецкай улады. Усюды ідзе падрыхтоўка да яе.

Беларускія барцы таксама рыхтуюцца без стомы. Ад іх і патрабуюць шмат, хоць у мінулым годзе яны занялі другое месца на першынстве краіны па класічнай барацьбе і чацвёртае — па вольнай. Горш выступіць яны не маюць права. Гэта разумеюць усе. Чэмпіён свету Алег Караваеў, які атрымаў за пяць год больш 250 перамог і прайграў толькі 9 стычак, не чакае лёгкага поспеху і таму працуе на трэніроўках не менш за іншых. Трэніруецца і яго старэйшы брат Ігар Караваеў — надзея беларускай каманды. За яго спіной барцоўскія дываны Венгрыі, Румыніі, Швецыі, Японіі, Балгарыі, Польшчы, але ён лічыць, што на спартакіядзе праціўнікі будуць мацнейшыя.

Двух беларускіх майстроў барацьбы братоў Ігара і Алега Караваевых у народзе любоўна завуць «маленькімі волатамі» — яны выступаюць у лягчэйшых вагавых катэгорыях. Што ж, маленькія, ды ўдаленькія! Браты не крыўдуюць. Бо вялікае іх майстэрства і ўменне, вялікі лік іх перамогам, і лік гэты яшчэ не закрыты!

**А. МАЙСКІ.**

# *Шахматы*

**пад рэдакцыяй майстра спорту, чэмпіёна БССР А. СУЭЦІНА**

## ЖАНОЧЫ ШАХМАТНЫ ТУРНІР



**Зварыкіна (СССР)** (справа) **і Карф (ЗША) на турніры прэтэндэнтак.**

Гэты год вельмі багаты шахматнымі спаборніцтвамі. Зусім нядаўна віншавалі ў Тбілісі новага чэмпіёна краіны (дарэчы, выхаванца гэтага горада) гросмайстра Ціграна Петрасяна. У верасні — кастрычніку адбудзецца вялікая падзея ў шахматным жыцці — турнір прэтэндэнтаў на званне чэмпіёна свету, пераможца якога атрымае права іграць матч з М. Батвіннікам. У ім будуць прымаць удзел сярод васьмі прэтэндэнтаў на сусветную шахматную карону чатыры савецкія прадстаўнікі — гросмайстры П. Керас, Ц. Петрасян, В. Смыслоў і М. Таль.

Але пакуль што гэтая падзея яшчэ далёкая. Зараз у цэнтры ўвагі шахматнай грамадскасці ўсё яшчэ знаходзіцца жаночы турнір прэтэндэнтак на першынство свету, які адбываўся ў Балгарыі. У ім прымалі ўдзел лепшыя шахматысткі ўсіх краін, якія змагаліся за права іграць з чэмпіёнкаю свету масквічкай Елізаветай Быкавай.

З кожным годам жаночы шахматны рух ва ўсім свеце набывае ўсё больш шырокі размах. І гэта асабліва кідаецца ў вочы, калі ўспомніць зусім параўнаўча недалёкія часы. Яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны жанчыны амаль не прымалі ўдзелу ў шахматных спаборніцтвах. Вылучалася сваёю ігрою чэшская шахматыстка Вера Менчык, якая была пастаяннай удзельніцай буйных і малых... мужчынскіх турніраў. Яна была агульнапрызнанай мацнейшай жанчынай-шахматысткай. Часам гэта ёй выпадала сцвярджаць сваёй ігрою.

Апрача яе было яшчэ 5—6 жанчын, якія ў спакойных хатніх умовах рэгулярна збіраліся, каб пайграць у шахматы. Вера Менчык загінула ў час налёту варожай авіяцыі.

Па ініцыятыве савецкай шахматнай арганізацыі ў 1950 годзе ў Маскве быў праведзены вельмі ўрачыста афіцыйны турнір на першынство свету паміж жанчынамі. У Маскву прыехалі 16 лепшых шахматыстак свету. Барацьба была вельмі напружанай і закончылася паранаўчай перамогаю савецкіх шахматыстак, якія занялі першыя чатыры месцы. Званне чэмпіёна свету атрымала Людміла Рудэнка.

З таго часу прайшло дзевяць год. Многае змянілася ў суадносінах сіл, значна выраслі многія зарубежныя шахматысткі, але званне чэмпіёнкі свету трывала належыць пакуль што жанчынам нашай краіны. Праўда, барацьба за яго паміж савецкімі чэмпіёнкамі вельмі жорсткая. Рудэнка прайграла Быкавай, Быкава — Рубцовай, а тая ў сваю чаргу павінна была аддаць яго зноў Быкавай.

Усе гэтыя шахматысткі належаць да старэйшага пакалення. Цяпер упарта дамагаюцца гэтага звання прэтэндэнты малодшага пакалення.

Паміж удзельніц турніра — прэтэндэнтак гэтага года — пяць прадстаўніц нашай краіны: Барысенка, Вольперт, Зварыкіна, Рубцова і Роатарэ, пасланніцы ЗША, Англіі, Галандыі, Францыі, Балгарыі, Венгрыі, Румыніі, Чэхаславакіі, Югаславіі і г. д.

Асабліва трэба адзначыць шахматыстак Румыніі, якія заваявалі другое месца на 1-ай Сусветнай шахматнай алімпіядзе. З іншых замежных шахматыстак вылучаюцца такія, як Келер-Герман (ГДР), Пагарэвіч (Румынія), Недзелькавіч і Лазаравіч (Югаславія), Прычард (Англія), Грэсэр (ЗША).

Таксама ў вельмі напружанай барацьбе прайшоў турнір прэтэндэнтак і гэтага года. Перамагла мінчанка Кіра Зварыкіна, якая атрымала права іграць матч з чэмпіёнкай свету Елізаветай Быкавай.

⁂

Часопіс «Маладосць» рэгулярна праводзіць для сваіх чытачоў конкурсы рашэнняў задач і эцюдаў.

Па конкурсу задач і эцюдаў, умовы якога былі змешчаны ў №№ 7, 8 і 9 за 1958 год, найбольшага поспеху дамогся студэнт Беларускага інстытута народнай гаспадаркі імя В. В. Куйбышава **Георгі Грэк.** Ён правільна адказаў на ўсе 27 пытанняў і паказаў выдатнае веданне гісторыі шахматаў, іх тэорыі.

Па конкурсу, змешчанаму ў № 3 «Маладосці» за 1959 г., добрыя паказчыкі ў **А. Каліціеўскага** (Гомельская вобласць) і ў **Н. Баса** (г. Петрыкаў).

## ЗМЕСТ



### Дарогамі сямігодкі



### Слухачам народных універсітэтаў



### Бібліяграфія



### У свеце мастацтва



### Спорт



### Шахматы



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «Зрабі сам!»**